*Невельский*”)[226], а на пасаду земскага пісара – ***Васіль Іванавіч Корсак*** (“*Василей Иванович Корсак*”)[227]. У гэты ж дзень быў прызначаны і першы полацкі падкаморы – ***Анікей Корсак*** (“*Оникей Корсак*”)[228]. Уласную пячатку Полацкі земскі суд атрымаў, аднак, толькі ў наступным 1571 г. На адбітках пячаткі Полацкага земскага суда, якія захаваліся на позвах канца XVI ст., чытаецца тэкст: “*PIECZEC POWIATU ZIEMI POLOCKIEY 1571*”[229].

Спрэчным, на нашу думку, застаецца пытанне пра месца пасяджэнняў полацкага земскага суда, які мог працаваць у 1570–1572 г. у Дзісне ці Лепелі. Спецыялістам добра вядомая спрэчка, якая разгарэлася ў 1571 г. паміж полацкім кашталянам, лепельскім старостай Юрыем Зяновічам і дзісенскім старостай Баркулабам Корсакам адносна месца пасяджэнняў Полацкага гродскага суда. Ю.Зяновіч вымушаны быў даслаць да вялікага князя ліст у якім выклаў сутнасць справы “*Отписъ до пана воеводы виленского в речи и кашталяна полоцкого пана Юря Зеновича (старосты чечерского, пропойского и лепельского) о вряд кгродский земли Полоцкое. Абы (кгродский вряд полоцкий) во Лепелю был постановлен…. А ижъ староста дисенский пан Баркулаб Корсак лист от нас одержавши кгрод у Дисне и шляхту земли Полоцкое судити хочеть. Жедаешъ насъ Твоя Милость, абыхмо пану Боркулабу в то ся вступовати не казали, а вси справы враду кгродского земли Полоцкое пану кашталяну у Леплю отправовати постановили*”. З далейшага тэксту становіцца зразумелым, што вялікі князь Жыгімонт Аўгуст жадаў таго ж. Далей ад яго імя ў дакуменце гаворыцца: “*которих листов на суд пр. у Дисне мы собе на память привести не можем …откладаем то до сейму пришлого*” 25.X.1571 г. (Варшава)[230].

Такім чынам, у 1571 г. Дзісна была местам, якое рэальна прэтэндавала на статус адміністрацыйнага цэнтра Полацкай зямлі. Д.Вілімас сцвярджае, аднак, што месцам, дзе адбываліся пасяджэнні Полацкага земскага суда пасля яго ўтварэння, быў Лепель[231].

### *3. Персанальны склад полацкага земскага суда ў другой палове XVI–першай трэці XVII ст.*

Як хутка высветлілася, полацкі падсудак І.Невельскі не меў земельнай уласнасці на тэрыторыі ваяводства[232]. На думку літоўскага даследчыка Д.Вілімаса, Невельскі ўвогуле мог быць на той час беззямельным шляхціцам, ці мог мець зямельную ўласнасць на тэрыторыі, якая была падкантрольная на той час Маскве[233]. Нельга, аднак, выключыць

---

на “*детей боярских князя Семена Белозерского Вадбалского, да на Григорья Перфирьева, ноугородца Бежетцкие пятины*”, гл.: *ПДС.* Т.III. С.189, 259, 280–281, 285, 297–298, 334, 412, 414, 420. Лукаш Гарабурда быў вызвалены з маскоўскай няволі толькі ў вясну 1569 г. Выступіў на Люблінскім сойме 10.VIII.1569 г., гл.: Mienicki R. *Egzulanci połoccy.* S.18, 68–69. Суддзя земскі полацкі. N (намінацыя) 28.VII.1570 г., гл.: *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.76.

226 N 28.VII.1570 г., гл.: *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.267. Арк.311 адв.–312. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.76. “*…перво сего водле уфалы соймовое и статуту меновано Ивана Невельского*”, гл.: *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.266. Арк.419 адв.–420.

227 *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.77.

228 *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.73. Памёр да 18.X.1583 г.

229 *Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie* (далей – *AGAD*). Archiwum Potockich z Radzynia (далей – APR). № 322. Фаліяцыя ў справе на вясну 2002 г. адсутнічала.

230 *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.56. Арк.1–6.

231 Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588).* P.17.

232 Згодна з нормамі II Статута ВКЛ 1566 г. чалавек, які не зямёльнай маёмасці ў дадзеным павеце, або ваяводстве, не меў і права займаць у ім ніякія земскія пасады.

233 Вилимас Д. *Поветовые врядники земских судов ВКЛ (1564–1600). Начало формирования группы шляхетских “юристов”.*// Традыцыі і перспектывы інстытутаў парламентарызму ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў XVI–XVIII ст. Спасылка 13 (у друку). “*Магчыма, что яго маёнткі у той час былі спалены маскоўскай арміяй ці знаходзіліся на акупіраванай маскавіцянамі тэрыторыі*” (з ліста Д.Вілімаса). Гл., таксама: Лаппо И. *Полоцкая ревизия 1552 года.*// Чтения в Императорском обществе истории и древностей Российских при Московском университете. М., 1905. Кн.2 (213). С.142.

магчымасць, што Невельскі на той час меў зямельную маёмасць па-за межамі ваяводства ў іншых паветах княства[234]. У намінацыйным прывілеі ***Івану Кубліцкаму***[235], які быў наступнікам Невельскага на пасадзе, адзначаецца, што Невельскі "*не маючи оселости… подсудком быти не хотел*"[236]. Гэта, безумоўна, можна патлумачыць як імкненне І.Невельскага пасля атрымання пасады атрымаць зямельную маёмасць на Полаччыне. Але гэта ж выказванне можа сведчыць і пра высокую правасвядомасць падсудка, які, магчыма, сам адмовіўся ад пасады.

Пасля смерці земскага пісара Васіля Корсака і зыходу з пасады Невельскага, вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст, у адпаведнасці з нормамі Статута ВКЛ 1566 г. (Радзел IV, арт.1), якія рэгламентавалі парадак прызначэння на вакантныя пасады ў складзе земскага суда[237], прызначыў элекцыйны соймік Полацкага ваяводства. На сойміку, у прысутнасці полацкага кашталяна і лепельскага старосты пана Юрыя Мікалаевіча Зяновіча, а таксама дзісенскага старосты Баркулаба Корсака[238], полацкай шляхтай на вакантныя пасады былі абраны па 4 электы, імёны якіх, змешчаныя ў лісце элекцыі, былі адасланыя манарху праз баярына полацкага, дзісенскага гараднічага Сідара Іванавіча Азерскага[239]. З ліку абраных электаў 12.IV.1571 г. у Варшаве вялікі князь Жыгімонт Аўгуст прызначыў на месца полацкага падсудка ***Івана Кубліцкага*** ("*Иван Кублицкий*"). На месца ж полацкага земскага пісара таксама ў красавіку быў прызначаны ***Фёдар Шавула*** ("*Фёдор Шаула*")[240]. Пра гэтыя прызначэнні полацкая шляхта даведалася з універсала Жыгімонта Аўгуста, які быў выдадзены 26.IV.1571 г.: "*Што есте писали до нас иж тых часов за росказанемъ н(а)шимъ зъехавшися на алекцыю и обравши межи собою на подсудство и на писарство по чотыри шляхтичи у воной земли оселые через городничого дисенского Сидора Озерского под печатми своими на писме и намъ прислали бьючи намъ чолом абыхмо с тых особъ от васъ обраных подсудка и писара вамъ дали. Ино мы хотечи абы водле уфалы соймовое и подле статуту в той земли полоцкой поступок правный былъ тым же обычаемъ яко и у в ыншиx поветехъ панства н(а)шого Великого Князства*

---

[234] Mienicki R. *Egzulanci połoccy*. S.63.

[235] Mienicki R. *Egzulanci połoccy*. S.64.

[236] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.266. Арк.419 адв.–420. Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146.

[237] *Временник Московского Императорского общества Истории и древностей Российских* (далей – *Временник*). М., 1855. Кн.XXIII. С.62–64. Zakrzewski A.B. *Ograniczenie przez sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego monarszego prawa mianowania urzędników sądowych XVII–XVIII w.*// Lietuvos Valstybė XII–XVIII a. Vilnius, 1997. S.173.

[238] Згадваецца на пасадзе: 1564 г., гл.: *Полное собрание русских летописей* (далей – *ПСРЛ*). Т.32. М.: Наука, 1975. С.174. 25.III.1566 г. – прывілей на староства дзісенскае "*да жывата*" (Кнышын), гл.: *Метрыка ВКЛ* 49. Арк.2–2 адв. (пералічваюцца сёлы староства). 19.VII.1570 г. – подпіс, пячатка, гл.: *AGAD*. APR. № 322. † 20.VIII.1576 г.: "*Пан Баркулаб Иванович Корсак, староста дисенский и ротмистр королевский, войт дисенский, рыцер и военник добрый, славный, замок Дисну, замок Вороничи, замок Леплю, замок Чашники – тые вси замки по взятию Полоцком веспол с паном Романом Ходкевичом сами и з своим людом позакладали и места поосажали людми добрыми. А потом року 1576, месеца августа 20 дня в понеделок у вечере, дву годин в ночи, пан Баркулаб переставился на старостве Дисенском в замку Дисенке, а погребено честно тело его у месте Виленском у церкви Святыя Пречистыя Богородицы*", гл.: *ПСРЛ*. Т.32. С.175.

[239] "*За росказаньем нашим каштелян земли Полоцкое, староста лепельский, дзяржавца чичерский и пропойский, пан Юри Миколаевич Зеновича, а староста дисенский Баркулаб Иванович Корсак и вся шляхта, рицерство земли Полоцкое зъехавшы ся на элекцыю обравши межы собою на тое подсудство 4 особ шляхтичов у воной земли оселых через боярына земли Полоцкое Сидора Ивановича Озерского под печатьми своими на писме нам прыслали и писали, бьючы чолом, абыхмо с тых особ оных обраных подсудка им дали*", гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.266. Арк.419 адв.–420.

[240] Вилимас Д. *Поветовые врядники земских судов ВКЛ (1564–1600)…* (у друку). Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146. 15 чэрвеня 1575 г. як "*панъ Федоръ Богданович Шаула писарь земли Полоцкое*" згадваецца ў якасці сведкі і пячатара ў прадажным лісце Дзмітра Скуміна Цішкевіча, гл.: *НГАБ у Горадні*. Ф.525. Воп.1. Спр.1. Арк.11. Таксама згадваецца на пасадзе 12.II.1580 г., гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.212. Арк.15–15 адв.

*Литовского постановено з ласки н(а)шое г(о)с(по)д(а)рское на чолом бите вашо то чинечи межи оными особами от вас на тые врады подаными двух шляхтичов Ивана Кублицкого на подсудство, а Федора Шаулу на писарство обравши на них призволили и, утвержаючи их на тые врады, листы н(а)ши имъ есмо через того ж Сидора послати казали*"[241].

Пасля гэтых прызначэнняў полацкі земскі суд у поўным складзе павінен быў адсудзіць траецкія і міхайлаўскія судовыя рокі ў 1571 г., а таксама трохкрольскія рокі ў 1572 г. Аднак пасля гэтага пражыў полацкі падсудак І.Кубліцкі нядоўга. Як нядаўна высвятліў Васіль Варонін, 7.VII.1574 г. у сваім лісце да Барбары Саламярэцкай, удавы полацкага ваяводы С.Давойны, дзісенскі староста Баркулаб Корсак пісаў: "*...здесе в земли Полоцкой суд земский не засажон с тых прычын, иж подсудка од двух летъ не маемъ, умер, едучы з Варшавы, а безъ г(о)с(по)д(а)ра его м(и)л(о)сти некому подсудъка подать*"[242]. Такім чынам, улічаючы тое, што ліст пісаўся ў 1574 г., полацкі падсудак памёр у 1572 г. Можна выказаць меркаванне, што паездка І.Кубліцкага ў Варшаву была звязана з выкананнем пасольскіх функцый на вальным сойме, пасяджэнні якога адбыліся ад 12 сакавіка да 28 мая 1572 г. Генрык Люлевіч звярнуў нашу ўвагу на іншы ўрывак з названага ліста Б.Корсака, у якім сцвярджаецца, што пасля смерці Жыгімонта Аўгуста ў Полацкім ваяводстве адбыўся элекцыйны з'езд полацкай шляхты, на якім былі выбраны электы на пасаду падсудка, аднак, у свой кароткачасовы побыт у Кракаве Генрык Валезы не зацвердзіў выбар полацкай шляхты. Б.Корсак адзначыў "*ач есмо на коронацею послов выправовали и посылали и алекътовъ есмо написавшы до г(о)с(по)д(а)ра его м(и)л(о)сти были послали, нижли с тых прычын подсудка не подал, иж алекъцей от короля его м(и)л(о)сти не было выдано, яко ж через тыхъ послов н(а)шых его к(о)р(олевская) м(и)л(о)сть рачыл прыслать на подсудство лекъцею, за которою подсудка з нову обирати и на соймъ слати мусим...*"[243].

На жаль, мы не маем у нашым распараджэнні дакументаў, якія сведчаць пра дзейнасць Л.Гарабурды ў якасці полацкага земскага суддзі пасля яго намінацыі ў ліпені 1570 г., таму абставіны, па якіх Л.Гарабурда пакінуў пасаду, застаюцца неяснымі да канца. Ён згаданы без тытула, як кандыдат на выкананне пасольскіх абавязкаў, на сойме 1572 г. у лісце Астафея Валовіча да Мікалая Радзівіла Рудога: "*Połocko. Jeśli wmć pisaniem swym pana kasztelana do tego będziesz raczył napomnić, będzie pan Barkolab pan Łukasz Haraburda, których rad bym aby wmć pisaniem swym napomnieć raczył zwłaszcza pana kasztelana, aby ie z szlachtą uzyli do tego*"[244]. Невядомы нам і намінацыйны прывілей на пасаду яго наступніка і зяця – ***Есіфа Янавіча (Іванавіча) Корсака***. Ён аднак выступае з тытулам земскага суддзі полацкага ўжо на дзяржаўным з'ездзе ВКЛ, які адбыўся у Вільні ў час бескаралеўя ў кастрычніку–лістападзе 1574 г.[245], што сведчыць пра прызначэнне Есіфа Корсака на пасаду

---

[241] *AGAD*. AR. Dz.II. Suplement. Sygnatura czasowa. Nr 14d. S.1–2. На гэты дакумент звярнуў увагу аўтара Д.Вілімас, якому мы выказваем падзяку за супрацоўніцтва.

[242] *AGAD*. APR. Nr 322 (пагінацыя адсутнічае). Аўтар выказвае шчырую падзяку Васілю Вароніну за зварот нашае ўвагі да гэтага ўрыўка з ліста Б.Корсака.

[243] *AGAD*. APR. Nr 322 (пагінацыя адсутнічае).

[244] Lulewicz H. *Sejmiki litewskie przed sejmem 1572 roku. Projekt obsady funkcji poselskich.*// Litwa w epoce Wazów. Prace ofiarowane H.Wisnerowi w siedemdziesiątą rocznicę urodzin. Red. W.Kriegseisen i A.Rachuba. Warszawa, 2006. S.115–127. Lulewicz H. *Gniewów o unię...* S.68–69. Адам Банецкі не ведаў пра намінацыю Л.Гарабурды на судзейства земскае полацкае. Разам з тым адзначыў, што Лукаш Багданавіч Гарабурда склаў тэстамент у 1585 г. У такім выпадку Л.Гарабурда павінен быў адмовіцца ад пасады земскага суддзі на карысць Есіфа Корсака, які быў яго зяцем, гл.: Boniecki A. *Herbarz Polski*. T.VII. S.239–240.

[245] Згадваецца на пасадзе ў X–XI 1574 г., гл.: Уманец Ф.М. *Русско-литовская партия в Польше 1574–1576 г.*// ЖМНП. Ч.CLXXXII. 1875, декабрь. С.257. Lulewicz H. *Gniewów o unię...* S.183. 30.IX.1577–3.X.1578 г.: "*Продажная запись Есифа Яновича Корсака, полоцкого земского судьи и его жены Богумилы земянке Ганне Андреевне Яновне Николаевич Сиревич на им. Дубяны в Бержанской волости*", гл.: *Опись документов Виленского Центрального Архива древних актовых книг.* Выпуск 1. С.45. № 28. ВЦА № 14577 (по каталогу Н.Горбачевского). Актовая книга

полацкага земскага суддзі яшчэ пры жыцці Жыгімонта Аўгуста ці ў час караткачасовага праўлення Генрыка Валезыя. Са сказанага вышэй можна зрабіць выснову, што на пачатак бескаралеўя пасля уцёкаў Генрыка Валезыя полацкі земскі суд не быў цалкам укамплектаваны. Пасаду земскага суддзі ўжо займаў Е.Корсак, пасаду земскага пісара – Ф.Шавула, але пасада падсудка заставалася вакантнай. Нічога не вядома і пра намінацыі на пасаду падсудка полацкага ў прамежку ад 1575 да 1580 г.

Як вядома, звычайныя суды, якія судзілі ад імя вялікага князя, спынялі сваё дзеянне ў час бескаралеўя, а іх функцыі перадаваліся надзвычайным каптуровым судам. На тэрыторыі ВКЛ, па звестках, якія захаваліся, першыя каптуровыя суды былі створаны ўжо ў 1572–1573 г.[246]. Так, у Берасцейскім павеце склад каптуровага суда быў ухвалены ўжо 4.VIII.1572 г.[247] У Наваградскім павеце ў склад першага каптуровага суда, пасяджэнні якога пачаліся 1.VIII.1573 г., увайшлі земскі суддзя, падсудак, земскі пісар, а таксама 4 дэпутаты, якія былі абраныя на павятовым сойміку[248].

Пасля ўцёкаў Генрыка Валезыя ў Францыю, у лістападзе 1574 г. (верагодна 9.XI), Галоўны з'езд ВКЛ у Вільні прыняў дакумент, вядомы як "*Парадак святой справядлівасці*". Дакумент гэты дакладна вызначаў парадак дзейнасці судоў да вяртання Генрыка ці да новай элекцыі[249]. У гэты перыяд судаводства павінна было абапірацца на суды земскія і гродскія, якія павінны былі функцыянаваць у ранейшым складзе і на падставе ранейшых прававых норм. Позвы земскія павінны былі выдавацца "*pod tytułem króla j.m. Henryka pana naszego i pod pieczęcią zwykła koždemu wojewodztwu i powiatu*", а аналагічныя позвы гродскія "*pod tytułem i pieczęcią wojewody albo starosty sądowego*". Земскія рокі было вызначана аднавіць 1 студзеня 1575 г.[250] Аднак, у Полацкім ваяводстве ў гэты час пасада падсудка заставалася вакантнай і земскі суд не мог функцыянаваць. Калі стала зразумела, што Генрык не вернецца з Францыі ў Рэч Паспалітую, полацкая шляхта сабралася на з'езд (соймік) у Беразвечы, дзе выбрала склад каптуровага суда, у які ўвогуле не ўвайшлі земскія судовыя ўраднікі.

У архіўных зборах Менску і Варшавы захаваліся 2 выпісы з пастаноў гэтага суда, які засядаў у Дзісне, ад 2 сакавіка 1575 г.[251] і 2 студзеня 1576 г.[252]. Гэтыя дакументы

---

жмудского земского суда № 3 за 1578–1579 г.. L.51–52. Vilimas D. *LDK pavietų žemės teismų pareigūnai (1566–1588 m.)*. P.20. 5.X.1580 г., гл.: *AGAD*. APR. Nr 322.

[246] 5.I.1573 г.: "*Каптур в повете Пинском*", гл.: Pułaski F. *Opis 815 rękopisów Biblioteki Ordynacyi Krasińskich*. Warszawa: Nakładem Funduszu Świdzińskich. Nr 128. Rkps.2963. K.145. Biblioteka Ordynacyi Krasińskich. Muzeum Konstantego Świdzińskiego. Tomy XXIII–XXIX. "*Универсалъ по щастливой коронацыи Его Королевское милости (со) стороны судов*" ад 28.IV.1574 г., гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.57. Арк.112 адв. Лаппо И. *Земский суд*. С.266. Lulewicz H. *Gniewów o unię…* S.163. Lulewicz H. *Funkcjonowanie sądownictwa szlacheckiego w WKsL…* S.361–367. Konieczna D. *Wpływ sejmiku brzesko-litewskiego…* S.177–187.

[247] Konieczna D. *Wpływ sejmiku brzesko-litewskiego…* S.178.

[248] Радаман А. *Шляхецкія з'езды і соймікі Навагародскага павета…* С.132–136.

[249] *Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego*: w 2 t. Oprac. H.Lulewicz. Warszawa, 2006. T.1. Nr 12/37. S.122–127. Lulewicz H. *Gniewów o unię…* S.182–187.

[250] Lulewicz H. *Gniewów o unię…* S.184.

[251] Выпіс з кніг судовых (каптуровага суда) Полацкага ваяводства ад 2.III.1575 г.: "*1575 miesiaca marca wtoroho dnia na roczkach uchwalennych na zjezdze Berezweckom, w niebytnosty na Dysne jyhomosty Pana Barkołaba Jwanowicza Korsaka, starosty dysenskoho, peredo mnoju, Jaroszom Ostafiewiczom Korsakom, deputatom obranym od PP szlachty, bojar, rycerstwa zemli Połockoje, pred mnoju Stretom Tyszkiewiczom, podstarostym dysenskim, a peredo mnoju Lwom Pietrowiczom Korsakom, sudiejuy hrodskim dysenskim, wyrażonymi na sudy wodle postanowienia Berezweckoho wsy sprawy sudu Hrockomu y zemskomu należaczyje [sudyty] postanowiwszysia…*", гл.: *НГАБ у Менску*. Ф.1734. Воп.1. Спр.45. С.360.

[252] Выпіс з кніг судовых (каптуровага суда) Полацкага ваяводства ад 2.I.1576 г.: "*на рокох уфаленых на з(ъ)езде березвецком передо мною, Ярошом Остафъевичом Корсаком, депутатом, обраным от панов шляхты бояр рыцерства земли Полоцкое; передо мною, Стретом Тишкевичом, подстаростим дисенским, а передо мною, Львом Корсаком, судьею гродским дисенским, высажоными на суды, водле постановенья березвецкого, всии справы суду кгродскому и земскому належачие отсуживать ставши…*", гл.: *AGAD*. APR. № 322.

дазваляюць скласці ўяўленне пра склад і кампетэнцыю першага вядомага нам каптуровага суда Полаччыны. Так, у склад гэтага суда ўвайшлі: дзісенскі староста ***Баркулаб Іванавіч Корсак***, дзісенскі падстароста ***Стрэт Тышкевіч (Цішкевіч)***, дзісенскі гродскі суддзя ***Леў Пятровіч Корсак*** і ***Яраш Астаф'евіч Корсак***, дэпутат, які быў абраны полацкай шляхтай на з'ездзе ў Беразвечы. Разглядаў гэты суд "*вси справы суду кгродскому и земскому належачие*"[253].

Падсудак земскі полацкі не быў прызначаны і пасля прызнання Стэфана Баторыя вялікім князем літоўскім у 1576 г. Паводле дадзеных 66 кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ толькі 16 лютага 1580 г., ужо пасля вызвалення Полацка, менскі падстароста і полацкі земскі пісар ***Фёдар Шавула*** быў прызначаны на вышэйшую пасаду полацкага падсудка[254]. У гэты ж дзень дзяк вялікакняжацкай канцылярыі ***Юры Катавіцкі*** ("*Юрей Котовицкий*") быў прызначаны на пасаду земскага пісара[255] У новым поўным складзе полацкі земскі суд працаваў з 1580 па 1586 г.

Праз некалькі месяцаў пасля прызначэння менавіта земскі пісар Ю.Катавіцкі разам з падкаморыем Анікеем Корсакам прадстаўлялі Полацкае ваяводства на Віленскім дзяржаўным з'ездзе ВКЛ, дзе 7.V.1580 г. вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый выдаў пацвярджальны "*Привилей обывателям воеводства Полоцкого на права и волности их*"[256].

---

253 *AGAD*. APR. № 322. Радаман А. *Полацкі земскі суд…* С.222.

254 *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.66. Арк.44–44 адв. У 212 кнізе Метрыкі ВКЛ падаецца аднак іншая дата – N 17.II.1580 г., гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.212. Арк.15–15 адв. Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavitimasis (1564–1588).* S.146. Дзяржаўна-прававая сістэма ВКЛ прадугледжвала невядомую ў Кароне магчымасць авансавання (прызначэння на вышэйшую пасаду) непасрэдна на элекцыйным сойміку земскага пісара, або падсудка на судзейства земскае, гл: *Статут ВКЛ 1566*. Р.IV, арт.1. *Временник* XXIII. С.64, і земскага пісара на падсудства, гл.:. *Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі*. Мн.: БелСЭ, 1989. Р.IV. Арт.1. С.139, якое зацвярджалася намінацыйным прывілеем вялікага князя. Вядомы шматлікія прыклады авансавання на элекцыйных сойміках земскіх пісараў на падсудства і да ўвядзення ў дзеянне Статута ВКЛ 1588 г., таму дадзеная прававая норма толькі замацоўвала існуючую практыку. Гл. таксама лацінскі тэкст Статута ВКЛ 1566 г., які не забараняў такія авансы: *Pomniki Prawa Litewskiego z XVI wieku. Powstanie trzech redakcyi Statutu. I. Statut Litewski drugiej redakcyi (1566)*. Wydał dr. Franciszek Piekosinski. Kraków, 1900. AU. Rozprawy wydziału hist.-filozof. XXXIX. Archiwum Komisyi Prawniczey=Collectanea ex Archivo Collegii Juridici. T.VII. S.72. Лаппо И. *Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской Унии до смерти Стефана Батория. Опыт исследования политического и общественного строя (1569–1586)*. СПб., 1901. Т.1. С.353. Лаппо И. *Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймик*. Юрьев, 1911. С.501. Zakrzewski A. *Ograniczenie...* S.174.

255 N 16.II.1580 г., гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.66. Арк.45–45 адв.; Спр.212. Арк.15 адв.–16 адв. – намінацыйны прывілей; 16 адв.–17 адв. – ліст да шляхты ваяводства.

256 Пацвярджальны прывілей Полацкай зямлі Стэфана Баторыя 1580 г. быў упершыню надрукаваны з арыгінала ў № 5–6 "*Витебских губернских известий*" за 1858 г. выкладчыкам віцебскай духоўнай семінарыі Ксенафонтам Гаворскім, які адзначыў, што публікуемая грамата Стэфана Баторыя "*списана с подлинника, отосланного издателем оной в Императорское Археологическое общество. Сей подлинник на ветхом пергаменте с большою королевскою печатью и собственноручною подписью короля*". У другой палове XIX ст. гэты дакумент сапраўды захоўваўся ў музеі Рускага археалагічнага таварыства, аднак у 1879 г. Д.Празароўскі зафіксаваў адсутнасць дзяржаўнай пячаткі на дакуменце, гл.: *Описание древних рукописей, хранящихся в музее Императорского Русского Археологического общества*. Сост. Д.Прозоровским. СПб., 1879. № 312. С.254. Зараз пацвярджальны прывілей Полацкай зямлі 1580 г. Стэфана Баторыя захоўваецца ў Архіве Санкт-Пецярбургскага Інстытута гісторыі Расійскай Акадэміі навук, гл.: *Архив СПб ИИ РАН*. Русская секция архива. Коллекция 13. Коллекция Музея Русского Археологического общества. Оп.1. № 312 (в отдельном пакете). На пергаміне, на якім напісаны прывілей, захаваліся подпісы польскага караля і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя і вялікага пісара літоўскага Вацлава Агрыпы, а таксама пазнейшыя надпісы, якія рабіліся на дакуменце ў XVII ст. Пячатка не захавалася, ёсць толькі дзіркі пад шнуры, на якіх яна мацавалася. На адвароце захаваліся паметы XVII ст. рознымі почыркамі: 1) "*Року тисеча шестсот сорок семого мца генвара шестнадцатого дня… постановившися… Ян Еланов…, енерал земский полоцкий, тот привилей его милости пана нашого милостивого… (до книг) земских*

У прывілеі між іншым адзначалася: "*одно што се дотычет справ судовых врадом нашим господарским – гродскому и земскому – належачих, ино яко в тутошнем панстве нашом Великом Князстве Литовском тые справы на тых врадех одправуют се, по тому ж водле статуту прав земских Великого Князства Литовского и в тэй земли воеводства Полоцкого на врадах наших гродском и земском тые справы отдсужываны и одправованы быти мают*"[257] Такім чынам, адзіная папраўка да старадаўняга Полацкага земскага прывілея тычылася дзейнасці полацкіх судоў, створаных у час сістэмнай рэформы дзяржаўнага ладу ВКЛ.

27.VII.1586 г. будучы полацкі кашталян суддзя земскі полацкі ***Есіф Янавіч (Іванавіч) Корсак***[258] першым у ваяводстве атрымаў намінацыю на пасаду полацкага войскага, якой раней у ваяводстве не было[259]. Пры гэтым у намінацыйным прывілеі адзначаецца, што Есіф Корсак склаў абавязкі земскага суддзі. Новы земскі суддзя, аднак, не быў прызначаны. Трэба патлумачыць, што ў герархіі пасадаў, якая была прадугледжана ухвалай Гарадзенскага сойма 1567 г.[260], войскі стаяў вышэй земскага суддзі і прызначэнне на войскаўства было для Есіфа Корсака авансам, таму і натуральным было ў адпаведнасці з законам пакінуць ранейшую пасаду. Аднак, у герархіі пасад, якая была зацверджана Статутам 1588 г.[261], суддзя земскі стаіць ужо вышэй войскага. Таму Есіф Корсак хутка вяртаецца да выканання абавязкаў земскага суддзі, пакінуўшы пасаду войскага, якая зноў становіцца вакантнай[262]. У фондах Цэнтральнага гістарычнага архіва Ўкраіны ў Кіеве

---

*полоцких подал. ... (Габрыэль) Корсак, писар земский полоцкий*". 2) "*Року тысеча шест(с)отъ семдесятого мца июня третего дня тот прывилей королей их млстей панов нашых милостивых на сеймику єлекцыйным іасне велможного его млти пана воіеводы Полоцкого в замку Полоцкомъ презентовыный, а потомъ дня четъвертого того ж мца июня через его млсть пана Іана Кублицкого обывателя воеводства Полоцкого до актыкованя вписан до книгъ земъскихъ Полоцъкихъ поданый есть. Стефан Не(тецкий), писар… земский полоцкий*". Копіі дакумента ў Метрыцы ВКЛ таксама, гл.: *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.66. Арк.59 адв.–64: "*Привилей обывателям воеводства Полоцкого на права и волности их*". *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.212. Арк.71 адв.–77 адв.: "*Лист потверженья права шляхте целой воеводства Полочъкого*". Дакумент неаднаразова друкаваўся ў складзе пацвярджальнага прывілея Жыгімонта ІІІ Вазы 1593 г. па копіях XVII і XVIII ст. (гл. ніжэй). У гэты ж дзень Стэфан Баторый выдаў шляхце Полацкага ваяводства "*лист о именя их до 5 годов*", гл.: *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.66. Арк.64–66. Акрамя гэтага, гл.: Лаппо И. *Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской Унии…* С.179–181. Пичета В. *Польша на путях к колонизации Украины и Белоруссии. Люблинская уния и ее политические последствия.*// Белоруссия и Литва XV–XVI в.: Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. М.: Изд-во АН СССР, 1961. С.551–592. *Исторические записки.* 1940. Т.VII. С.589–590.

257 Пацвярджальны прывілей Полацкай зямлі 15.VI.1593 г. Жыгімонта ІІІ Вазы, які ўтрымлівае тэкст прывілея Стэфана Баторыя. 12.V.1663 г. дакумент быў актыкаваны ў актавай кнізе віцебскага гродскага суда баярынам Полацкага ваяводства Емельянам Федаравічам. 13.V.1763 г. актыкаваны ў актавай кнізе Полацкага гродскага суда баярынам Львом Грышпаноўскім у копіі занесенай 24.VIII.1752 г. у актавую кнігу Віленскай магдэбургіі, гл.: *ИЮМ.* Витебск 1900. Вып.XXVIII. № 42. С.221–233, 224–231. *АВАК.* Т.XIII. С.65–70: Кн. Тр. ВКЛ 5144 за 1752–1753 г. Арк.229. Копія. *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.77. Арк.472 адв.–477: Прывілей [дадзены] панцырным і путным баярам полацкім на вольнасці пэўныя, што ім належаць. 15.VI.1593 г. Публікацыі. *АЗР.* Т.ІІІ. С.18: выпіс з Актавай кнігі за 1580 г. (прыведзены толькі тэкст прывілея за 1547 г.).

258 "*Есиф Корсак в 1597 г. стал минским каштеляном, но через несколько месяцев вернулся в Полоцк уже как местный каштелян*", гл.: Вилимас Д. *Поветовые врядники земских судов ВКЛ (1564–1600). Начало формирования группы шляхетских* "*юристов*". Спасылка 11 (у друку).

259 *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.73. Арк.209 адв.–210; *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.74. Арк.122–122 адв.

260 Максимейко Н. *Сеймы*. Прил. С.176.

261 *Статут ВКЛ 1588 г.* Р.ІІІ. Арт.6. С.116

262 Яшчэ ў двух пазнейшых намінацыйных прывілеях на полацкае войскаўства гаворыцца аб тым, што намінацыя здзейснена ўпершыню, аднак гэта можна патлумачыць памылкай канцылярыі. Так, у намінацыйным прывілеі Андрэю Лавейку ("*Андрей Ловейко*") на пасаду войскага полацкага, які быў выдадзены ў Варшаве 23.III.1590 г., адзначана, што: "В *воеводстве Полоцком до сего часу войского не было*", гл.: *Метрыка ВКЛ.* Воп.1. Спр.77. Арк.72–72 адв. Памёр Андрэй Лавейка да 1.X.1592 г. (вядома з намінацыі наступніка).

захаваўся выпіс з кніг полацкага земскага суда ад 10.I.1592 г., які пацвярджае, што ў гэты час Есіф Корсак выконваў зноў абавязкі земскага суддзі[263]. Толькі 20.VIII.1597 г. Есіф Корсак атрымае чарговы аванс, калі будзе прызначаны ўжо на сенатарскую пасаду – менскага кашталяна[264].

Пасля прызначэння Е.Корсака на сенатарскую пасаду, у адпаведнасці з нормамі Трэцяга Статута ВКЛ[265], быў скліканы элекцыйны соймік. На ім 20.XI.1597 г. былі выбраны 4 электы на стаўшую вакантнай пасаду земскага суддзі. З іх ліку 10 студзеня 1598 г.[266] Жыгімонтам III Вазай быў прызначаны на пасаду выдатны жаўнер, пісар польны літоўскі[267], раней полацкі войскі, ***Фронц (Францішак) Барташэвіч Жук***, гербу "*Слепаўрон*". Аднак, праз нядоўгі час Ф.Жук памёр. Таму ўжо 15 сакавіка 1599 г. на элекцыйным сойміку, які адбыўся пасля яго смерці, быў выбраны электам на пасаду земскага суддзі ***Яраш Астаф'евіч Корсак*** ("*Ярош Астафьевич Корсак*"), які атрымаў намінацыйны прывілей на пасаду 28.IV.1599 г.[268]. Ён, як і падсудак полацкі Ф.Шавула, згадваюцца на сваіх пасадах яшчэ 24 студзеня 1602 г.[269]

Верагодна, на трохкрольскіх земскіх судовых роках ці на грамнічным сойміку 1602 г. у прысутнасці шляхты ваяводства,ураднікаў земскіх і дворных, пакінуў пасаду па сваёй волі з прычыны старасці ("*про зошлость лет*") і саступіў яе "*коледзе своему*" пісару земскаму Ю.Катавіцкаму падсудак Ф.Шавула[270]. Ю.Катавіцкі быў авансаваны на пасаду падсудка на элекцыйным сойміку, які адбыўся 15.V.1602 г., і амаль праз месяц 12.VI.1602 г. атрымаў ад Жыгімонта Вазы намінацыйны прывілей[271]. На тым жа элекцыйным сойміку, на якім Ю.Катавіцкі быў авансаваны з пасады земскага пісара на падсудства, былі абраныя і 4 электы на пасаду земскага пісара, а менавіта[272]: 1) Раман Корсак ("*Роман Васильевич Корсак*"); 2) Аляксандр Тышкевіч (Цішкевіч) ("*Александр Тишкевич*")[273]; 3) Пётр Шчыт ("*Пётр Щыт*") і 4) Фёдар Рэвут ("*Фёдор Реут*")[274]. З іх ліку намінацыю на

---

[263] *ЦДІАК*. Ф.49. Фонд Патоцкіх (1435–1918). Оп.1. Спр.819. Выпіс з кніг земскіх полацкіх ад 10.I.1592 г. Арк.1. Дакумент напісаны на старабеларускай мове лацінскімі літарамі: "*Лета од нароженья Сына Божого [1592], месеца Генвара 10 дня. На рокох судовых земских о святе Трех Кролей, Рымского свята, водлуг Статуту прыпалых и судовне в Полоцку одправованых перед нами, врадниками господарскими земскими Есифом Корсаком, судьею, Фёдаром Шаулою, подсудком, Юрьем Котовицким, писаром, воеводства Полоцкого на року завитом за позвы господарскими земскими полоцкими, водлуг списанья реестру нашого врадового прыпалом, постановившыся очевисто… Доминитра Александровна Гетовтовна Тышкевича Миколаева…*".

[264] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.83. Арк.256–257 адв. Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146.

[265] *Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г*. Р.IV. Арт.1–2. С.138–141.

[266] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.83. Арк.280–280 адв. Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146.

[267] *Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy*. Oprac. H.Lulewicz i A.Rachuba. Kórnik, 1994. № 753.

[268] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.85. № 2. Арк.2–2 адв. Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146.

[269] *ИЮМ*. Вып.XXVIII. № 52. С.262–267.

[270] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.85. Арк.187. Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146.

[271] Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. S.146.

[272] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.85. Арк.187 адв. Vilimas D. *LDK pavietų žemės teismų pareigūnai (1566–1588 m.)*. P.20.

[273] Пасол ад Полацкага ваяводства на вальны сойм 1600 г., гл.: Radaman A., Ferenc M. *Rejestr senatorów i posłów na sejmie walnym warszawskim 9 lutego–21 marca 1600 r.*// Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Prace Historyczne. Z.131. 2004. S.100. Галубовіч В. *Пасольская рэпрэзентацыя ад Полацкага ваяводства на соймах Рэчы Паспалітай у 1588–1668 г.*// Сельское хозяйство – производству: проблемы и перспективы. Сб. науч. тр.: Т.4. Под ред. В.Пестиса. Гродно: ГГАУ, 2006. С.342–347. Гл., таксама с.37–38 часопіса.

[274] Дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1596 г. *BCz*. Rkps 2243. *BN* Mf. № 9176. D.46. K.328.

пасаду земскага пісара атрымаў 12.VI.1602 г. ***Аляксандр Тышкевіч (Цішкевіч)***[275], які згадваецца на пасадзе пісара яшчэ 7.V.1607 г. пад час здзяйснення пасольства на вальны сойм Рэчы Паспалітай[276]. Аднак, 15.VIII.1611 г. зноў выконваючы пасольскую місію ад Полацкага ваяводства на вальны сойм Рэчы Паспалітай А.Тышкевіч (Цішкевіч) згадваецца ў крыніцах ужо як земскі суддзя[277].

Пісар гродскі полацкі ***Даніэль (Даніла) Шчыт-Забельскі***[278] ("*Даниель Щит (Щыт)-Забельский*" ("*Забелуский*"); "*Daniel Sczyt Zabielski*"), які згадваецца на пасадзе полацкага земскага пісара 3.I.1614 г.[279], ужо 3.XI.1617 г. на элекцыйным сойміку, які адбыўся па смерці Ю.Катавіцкага, быў "*згодне*" авансаваны на пасаду падсудка. Прызначэнне на пасаду ён атрымаў 20.XI.1617 г.[280] На тым жа сойміку 3.XI.1617 г. адным з 4 электаў на пасаду земскага пісара быў абраны ***Міхал Тышкевіч (Цішкевіч)*** ("*Михаил Тишкевич*"; "*Michał Tyszkiewicz*"), які, як і Шчыт-Забельскі, атрымаў прызначэнне на пасаду 20.XI.1617 г.[281]. У такім складзе (земскі суддзя – ***Аляксандр Тышкевіч (Цішкевіч)***, падсудак – ***Даніэль Шчыт-Забельскі***, пісар земскі – ***Міхаіл Ігнацi Тышкевіч (Цішкевіч)*** полацкі земскі суд працаваў да 1636 г.

***Высновы.***

Утварэнне земскага і падкаморскага судоў у Полацкім ваяводстве, якое планавалася ў час сістэмнай рэформы дзяржаўнага ладу ВКЛ, стала рэальна магчымым толькі пасля падпісання 20 ліпеня 1570 г. перамір'я з Вялікім княствам Маскоўскім. Ажыццяўленне рэформы сістэмы мясцовых судоў ВКЛ у час кіравання Жыгімонта Аўгуста, якая пачалася ў 1564 г. выданнем Бельскага прывілея, завяршылася толькі 28 ліпеня 1570 г., калі ў апошняй адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінцы ВКЛ – Полацкім ваяводстве былі ўтвораны земскі і падкаморскі суды, а таксама вызначаны персанальны склад гэтых судоў[282].

У перыяд ад 1570 да 1580 г. адбылося толькі некалькі судовых сесій Полацкага земскага суда. Магчыма, што ў поўным складзе (земскі суддзя, падсудак, земскі пісар)

---

[275] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.85. Арк.187 адв. Згадваецца на пасадзе 30.VII.1604 г. Пратэстацыя ад шляхты Полацкага ваяводства "*отцом езуитом*". Унесена ў Метрыку ВКЛ 25.IV.1606 г., гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.88. Арк.263 адв.

[276] Пасол на сойм 1607 г., гл.: *Biblioteka Naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie* (далей – *BN PAU i PAN*). Rkps 360. № 74. K.190–191v. Mf. Biblioteki Narodowej w Warszawie № 7887.

[277] 15.VIII.1611 г., гл.: *BN PAU i PAN w Krakowie*. Rkps 360. K.224. Rkps 365. K.49. Wisner H. *Sejmiki litewskie i kwestia wyznaniowa 1611–1648*.// Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1978. R.XXIII. S.127. Seredyka J. *Posłowie wybrani na sejmy w latach 1611–1623*.// ZN WSP w Opolu. Historia XXX. Opole, 1994. S.116: 1611 г. – пасол полацкі. Памылкова згадваецца на пасадзе ў 1602 г. (трэба чытаць: 20.VI.1642 г.), гл.: *ИЮМ*. Витебск, 1891. Вып.XXII. № 96. С.278. Памёр да 13.IX.1644 г., гл.: Estreicher K. *Bibliografia Polska*. T.XXXI. S.488. Як паведамляе Каспар Нясецкі, Аляксандр Тышкевіч быў доктарам права. Навуковую ступень атрымаў у Сарбоне (Парыж). У маскоўскім палоне пераклаў трагедыі Сенекі на польскую мову, гл.: Niesiecki K. *Herbarz Polski*: w 10 t. Wyd. przez J.N.Bobrowicza. Lipsk, 1842. T.IX. S.183.

[278] Пасол на вальны сойм у 1607 г., гл.: Галубовіч В. *Пасольская рэпрэзентацыя ад Полацкага ваяводства…* С.342–347. Гл., таксама с.37–38 часопіса.

[279] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.91. Арк.235 адв.

[280] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.92. Арк.243–243 адв. Згадваецца на пасадзе яшчэ 20.VIII 1634 г. Памёр да 15.III.1636 г. (вядома з намінацыі наступніка), гл. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.77.

[281] *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.92. № 376. Арк.242 адв.–243. 15.III.1636 г. ён быў авансаваны на пасаду падсудка, гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр. 111. Арк.545 адв.–546. У той жа дзень на пасаду земскага пісара быў прызначаны чашнік полацкі Ян Падбіпята (Падбіпента), гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.111. Арк.547 адв.–548 адв. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.78.

[282] Паралельна з намі гэтую выснову зрабіў у сваёй дысертацыі і наш літоўскі калега Дарыюс Вілімас, гл.: Vilimas D. *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564–1588)*. Daktaro disertacijos santrauka. Humanitariniai mokslai, istorija (05 H). Lietuvos Istorijos Institutas, Vytauto Didžiojo Universitetas, LII Leidykla, 2003. P.21.

Полацкі земскі суд адсудзіў толькі траецкія і міхайлаўскія судовыя рокі ў 1571 г., а таксама трохкрольскія рокі ў 1572 г. Калі пасля ад'езду Генрыка Валезыя ў Францыю ў некаторых паветах ВКЛ земскія суды аднавілі сваю працу ў студзені 1575 г., полацкі земскі суд не функцыянаваў, паколькі ў яго складзе адсутнічаў падсудак. У гэты час полацкая шляхта сабралася на з'езд (соймік) у Беразвечы, дзе выбрала склад каптуровага суда, які засядаў у Дзісне і разглядаў усе справы, якія падлягалі кампетэнцыі гродскага і земскага судоў Полацкага ваяводства. У склад гэтага суда ўвайшлі дзісенскія гродскія судовыя ўраднікі (староста ***Баркулаб Іванавіч Корсак***, падстароста ***Стрэт Тышкевіч (Цішкевіч)***, суддзя гродскі ***Леў Пятровіч Корсак*** і ***Яраш Астаф'евіч Корсак***, дэпутат, які быў абраны полацкай шляхтай на з'ездзе ў Беразвечы. У адрозненне ад каптуровых судоў Навагрудскага і Берасцейскага паветаў (1573–1574 г.), у каптуровы суд Полацкага ваяводства земскія судовыя ўраднікі не ўваходзілі.

Сталая праца земскага суда Полацкага ваяводства была адноўлена толькі пасля вызвалення Полацка (1579 г.), калі 16 лютага 1580 г. полацкі земскі пісар ***Фёдар Шавула*** авансаваў на пасаду падсудка, а на пасаду земскага пісара быў прызначаны ***Юры Катавіцкі***.

Аналіз персанальнага складу Полацкага земскага суда за вывучаемы час даў наступныя высновы: з 6 земскіх пісараў Полацкай зямлі 3[283] з цягам часу былі прызначаны на вышэйшую пасаду – падсудка[284], 1 авансаваны адразу на судзейства земскае, 1 так і не дачакаўся авансу і памёр з тытулам земскага пісара; з 5 падсудкаў 3 былі раней земскімі пісарамі, 2 прызначаліся ўпершыню адразу на гэтую пасаду. 3 падсудкі так і не дачакаліся авансу і памерлі ў час знаходжання на гэтай пасадзе, 1 адмовіўся ад пасады з прычыны старога ўзросту, яшчэ 1 пакінуў пасаду з прычыны адсутнасці зямельнай маёмасці ў ваяводстве; з 5 земскіх суддзяў 1 раней быў полацкім гараднічым, пісарам польным літоўскім і войскім полацкім; 1 – полацкім земскім пісарам. 4 земскіх полацкіх суддзяў так і памерлі з названым тытулам і толькі 1 зрабіў сенатарскую кар'еру; з усіх ураднікаў Полацкага земскага суда вывучаемага перыяду лепшую кар'еру зрабіў земскі суддзя Есіф Іванавіч Корсак, які спачатку атрымаў намінацыю на вышэйшую на той час пасаду полацкага войскага, праз некаторы час, у выніку змяненняў і іерархіі земскіх пасад, вярнуўся да выканання абавязкаў земскага суддзі, а ў 1597 г. атрымаў прызначэнне на пасаду спачатку менскага, а потым і полацкага кашталяна.

*Андрэй Радаман (Менск).*

---

[283] Да іх трэба далучыць пісара земскага полацкага Міхаіла Тышкевіча (Цішкевіча), які 15.III.1636 г. быў прызначаны на пасаду падсудка па † Д.Шчыта Забельскага (Вільня), гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.111. Арк.545 адв.–546. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства...* С.78.

[284] З іх 3 памерлі з гэтым тытулам і 1 – Міхаіл Тышкевіч – быў авансаваны з падсудства на судзейства. N 31.X.1644 г. па † А.Тышкевіча, гл.: *Метрыка ВКЛ*. Воп.1. Спр.114. Арк.640–640 адв. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства...* С.77.

## Паслы Полацкага ваяводства ВКЛ на соймы Рэчы Паспалітай у 1588–1668 г.

Даследаванне прадстаўніцтва асобных адміністрацыйных адзінак ВКЛ на соймах Рэчы Паспалітай яшчэ толькі пачынае разгортвацца ў айчыннай гістарыяграфіі. Польскія даследчыкі, якія шмат зрабілі для вывучэння гісторыя парламентарызма ў Рэчы Паспалітай, не надавалі ўвагі рэгіянальнаму падыходу пры вывучэнні прадстаўніцтва ад ВКЛ. Дадзены артыкул з'яўляецца спробай запаўнення прабелу ў гістарыяграфіі адносна ўдзелу ўскраінных паветаў ВКЛ у палітычным жыцці шляхецкай рэспублікі часоў праўлення каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх з дынастыі Вазаў (1588–1668 г.).

Працэдура абрання і выправы паслоў на соймы Рэчы Паспалітай ад Полацкага ваяводства была юрыдычна ўрэгулявана і адбывалася ў адпаведнасці з нормамі III Статута ВКЛ 1588 г. Згодна з ім (раздзел III, артыкул 3) полацкім паслам вызначаліся "*пенези стравные*" ў памеры ста шасцідзесяці копаў грошаў літоўскіх, а калі "*з допущенья была божьего дорогость збожъя и иное живности*", то сума магла ўзрасці "*водлуг уваженья часу и далекости дороги*"[285]. Зразумела, што напрацягу наступных 80-ці гадоў кошты ўтрымання паслоў раслі, тым не менш, вызначаная сума ў цэлым была дастатковай для побыту ў Варшаве, прынамсі, да сярэдзіны двадцатых гадоў XVII ст.[286] Асобна варта адзначыць, што выкананне пасольскіх функцый было прывабным з матэрыяльнага пункту гледжання, як шанец на пэўнае ўзбагачэнне[287].

Дадзеныя пра паслоў ад Полацкага ваяводства захаваліся, у першую чаргу, у інструкцыях, якія складаліся для прадстаўнікоў лакальнай шляхецкай грамады на перадсоймавых сойміках. Такія звесткі ёсць і ў соймавых дыярыюшах. Пераважна на аснове гэтых крыніц польскімі гісторыкамі былі высветлены імёны полацкіх шляхціцаў, якія выбіраліся ці ўдзельнічалі ў працы соймаў у час праўлення Уладзіслава і Яна Казімера Вазаў. На жаль, пакуль не сістэматызаваны адпаведныя дадзеныя пра полацкіх паслоў за час працяглага кіравання Жыгімонта Вазы.

Полацкія перадсоймавыя соймікі адбываліся ў 1588–1654 г. рэгулярна і вызначалі асобаў з ліку мясцовых абывацеляў для ўдзелу у працы парламента. У час вайны 1654–1667 г. полацкая шляхта таксама выбірала сваіх прадстаўнікоў для працы соймаў. Наяўныя архіўныя і апублікаваныя крыніцы не фіксуюць канфліктныя сітуацыі ў сувязі з абраннем соймавай рэпрэзентацыі ад ваяводства.

Інфармацыя пра паслоў ад Полацкага ваяводства сістэматызавалася намі па перыядах праўлення трох каралёў з дынастыі Вазаў. Спецыяльна не ўлічваліся паслы, якія абіраліся на канвакацыйныя і элекцыйныя соймы.

Найбольш супярэчлівая інфармацыя пра паслоў ад ВКЛ паходзіць з часоў праўлення Жыгімонта Вазы (1588–1632 г.). Абумоўлена гэта вялікай колькасцю соймаў – 37 за 44 гады праўлення. Сістэматызаваныя дадзеныя пра паслоў ад Полацкае ваяводства за гэты час адсутнічаюць. Найменш інфармацыі пра паслоў, абраных на соймы ў канцы XVI ст. Па звестках Уладзімера Падалінскага, вядомы паслы на сойм 1589 г. (***Міхал Сакалінскі*** і ***Васіль Рэвут***), 1596 г. (***Яраш Корсак***), 1597 г. (***Грыгоры Сямашка***)[288]. Перад соймам 1598 г. полацкі соймік абраў пасламі ажно дзвух пратэстантаў: ***Пятра Стаброўскага*** і ***Якуба Сямашку***[289]. У 1600 г. пасламі былі ***Ян Корсак Галубіцкі*** і

---

[285] *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі.* Мн.: БелСЭ, 1989. С.116.

[286] Rachuba A. *Diety poselskie w Wielkim Księstwie Litewskim XVI–XVII wieku na przykładzie sejmiku żmudzkiego.*// Z dziejów kultury prawnej. Studia ofiarowane Profesorowi J.Bardachowi w dziewięćdziesięciolecie urodzin. Warszawa. S.600.

[287] Rachuba A. *Diety poselskie...* S.606.

[288] *Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatis Lituaniae.* Vilnae, 1758. T.1. S.239. *AGAD*, AR. Dz.II. T.3. Sygn. № 348a. *Dyaryusze sejmowe roku 1597.* Kraków, 1907. S.422.

[289] Jarmiński L. *Bez użycia siły. Działalność polityczna protestantów w Rzeczypospolitej w schyłku XVI wieku.* Warszawa, 1992. S.213.

***Аляксандр Цішкевіч***[290]. У XVII ст. пасламі на некалькіх соймах выбіраліся вядомыя на Полаччыне шляхціцы ***Аляксандр Тышкевіч*** у 1607 і 1611 г.[291], ***Ян Корсак Галубіцкі*** ў 1608, 1613 і 1615 г.[292], ***Даніэль Шчыт Забельскі*** 1607, 1623, 1626 (I) і 1629 (II) г.[293] Да выключэнняў агульнадзяржаўнага характару належыць аднесці той цікавы факт, што ў 1611 і 1615 г. полацкім паслом быў сенатар – парнаўскі кашталян, якому аўтаматычна было гарантавана месца ў сенаце[294]. У 1608 г. паслом быў абраны прадстаўнік полацкай галіны князёў Сакалінскіх – каралеўскі сакратар ***Крыштаф Сакалінскі***[295]. Паводле інфармацыі польскага даследчыка Яна Серадыкі, пасламі ад Полацкага ваяводства былі ў 1624 г. – ***Ян Стаброўскі***, у 1627 г. – ***Юзаф Кланоўскі***, у 1626 (II) г. – ***Юзаф Корсак Глыбоцкі***, у 1629 г. – ***Ян Падбіпента***[296]. Невядома з якога сойміка паслом быў у 1625 і 1631 г. ***Юзаф Корсак Глыбоцкі***, полацкі падкаморы, не выключана, што і Полацкага[297].

Некалькі пытанняў узнікае ў сувязі з дзвума асобамі, якія фігуруюць у якасці паслоў у літаратуры. Януш Былінскі ў манаграфіі сойма 1611 г. згадвае полацкім паслом акрамя П.Стаброўскага і А.Тышкевіча яшчэ і ***Астафея Садоўскага***[298]. Верагодна, памылкова, паколькі імя гэтага пасла адсутнічае ў пасольскай інструкцыі[299]. Таямнічай з'яўляецца і асоба полацкага пасла на звычайны сойм 1629 г. – ***Канстанціна Жабскага***, імя і ўрад якога (падсудак віленскі) згадвае ў сваёй манаграфіі Ганна Філіпчак-Коцур[300]. Але такога падсудка ў 1629 г. у Віленскім павеце не было, паколькі з 1625 па 1634 г. пасаду гэтую займаў ***Канстанцін Залескі***[301]. Не выключана, што менавіта ён і быў паслом.

Звесткі пра паслоў ад Полацкага ваяводства ў час праўлення Ўладзіслава Вазы (1633–1648 г.) маюцца ў працах польскіх гісторыкаў С.Холдыс і Я.Дзенгялеўскага[302]. Аднак, інфармацыя пра абраных менавіта на полацкім сойміку паслоў змешчана толькі ў даследаванні С.Холдыс. Паводле яе дадзеных, полацкімі пасламі былі ***Міхал Корсак*** (1633 г.), ***Андрэй Дунін Канінскі*** (1638 г.), ***Ян Казімер Пац*** (першы сойм 1635, 1640 і 1646 г.), ***Юзаф Кланоўскі*** (першы сойм 1637, 1641 і 1646 г.), ***Пётр Казімер Бяганьскі*** (1640 г.), ***Ян Падбіпента*** (1641 г.). Дадаць можна, што ў інструкцыі полацкай шляхты на каранацыйны сойм 1633 г. як пасол згадваецца А.Дунін Канінскі[303]. Аўтар манаграфіі, прысвечанай першаму сойму 1637 г., Р.Каладзей, удакладніў, што ад Полацкага ваяводства выбраныя былі ***Марцыян Гедройць***, віленскі падсудак і ***Ян Казімер Пац***, але яны не прысутнічалі на

---

290 Radaman A., Ferenc M. *Rejestr senatorów i posłów na sejmie walnym warszawskim 9 lutego–21 marca 1600 r.*// Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego. Prace Historyczne. 2004. Z. 131. S.100.

291 *Biblioteka PAU i PAN w Krakowie*. Rkps 360. S.190; Rkps 365. S.49.

292 *Научно-исследовательский архив Института истории РАН в Санкт-Петербурге* (далей – *НИА ИИ РАН в СПб.*). Русская секция архива. Коллекция № 13. Музей Русского Археологического общества. Оп.1. Картон 3. № 300. С.1. Seredyka J. *Posłowie wybrani na sejmy w latach 1611–1623.*// Zeszyty Naukowe WSP w Opolu. Historia XXX. Opole, 1994. S.111, 117.

293 *Biblioteka PAU i PAN w Krakowie*. Rkps.360. S.190. Byliński J. *Dwa sejmy z roku 1613.*// Acta Universitatis Wratislaviensis. Wroclaw, 1984. № 689. Prawo. T.CXVII. S.254. Seredyka J. *Parlamentarzyści drugiej połowy panowania Zygmunta III Wazy*. Opole, 1989. S.88.

294 Rachuba A. *Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763*. Warszawa, 2002. S.126.

295 *НИА ИИ РАН в СПб.* Русская секция архива. Коллекция № 13. Музей Русского Археологического общества. Оп.1. Картон 3. № 300. С.1.

296 Seredyka J. *Parlamentarzyści...* S.79, 85, 87.

297 Seredyka J. *Parlamentarzyści...* S.79.

298 Byliński J. *Sejm z roku 1611*. Wrocław, 1970. S.224.

299 *Biblioteka PAU i PAN w Krakowie*. Rkps 365. S.49.

300 Filipczak-Kocur A. *Sejm zwyczajny z roku 1629*. Wrocław, 1991. S.107.

301 *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek. Spisy*. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.P.Romaniuk, U.Jemialianczyk, A.Macuk. Warszawa, 2004. T.I. S.152.

302 Hołdys S. *Praktyka parlamentarna za panowania Władysława IV Wazy*. Warszawa, Wrocław, 1979. Dzięgielewski J. *Izba poselska w systemie władzy Rzeczypospolitej w czasach Władysława IV*. Warszawa, 1992.

303 *Российская Национальная Библиотека в Санкт-Петербурге*. Отдел рукописей. Автографы Дубровского. № 132. С.13.

нарадах[304]. Калі пагадзіцца са звесткамі Р.Каладзея, дык прыйдзецца прызнаць памылкай тое, што на першым сойме 1637 г. Полацкае ваяводства рэпрэзентаваў Ю.Кланоўскі, як вынікае з працы С.Холдыс. Акрамя пададзеных вышэй, напэўна полацкім паслом на першым сойме 1635 г. быў ***Даніэль Шчыт***, падсудак полацкі; на сойме 1638 г. – ***Ян Падбіпента***, пісар земскі полацкі; магчыма, у 1645 г. – ***Ян Лісоўскі***, падваявода полацкі, а на першым сойме 1635, 1638 і 1642 г. – ***Юзаф Кланоўскі***[305]. Трэба таксама адзначыць, што паводле спісаў, складзеных Р.Каладзеем і Я.Дзенгялеўскім, паслом на першы сойме 1637 г. быў і ***Абрам Зяновіч***, полацкі падстолі, які рэпрэзентаваў нейкі іншы павет[306].

З 15-ці соймаў, якія адбыліся за час праўлення Ўладзіслава Вазы, поўны камплект паслоў вядомы на 6-ці соймах, для астатніх 8-мі дакладнай інфармацыі бракуе. Найбольшую колькасць пасольскіх мандатаў ад Полацкага ваяводства ў гэты час атрымалі Я.К.Пац і Ю.Кланоўскі. Цяжка сказаць пра астатніх, але Ю.Кланоўскі і П.Бяганьскі безумоўна належалі да пракаралеўскай партыі.

Перыпетыі праўлення Яна Казімера Вазы (1649–1668 г.) паўплывалі і на парадак правядзення перадсоймавых соймікаў і абранне павятовых паслоў. Ва ўмовах акупацыі маскоўскім войскам Полацкага ваяводства соймікі збіраліся з 1654 г. там, дзе вызначалі самі шляхцічы, з 1658 г. такім месцам быў Кобрын, а з 1661 г. – Мядзель[307]. Зразумела, што полацкія шляхцічы, якія прынялі маскоўскае падданства, не маглі прэтэндаваць на ўдзел у працы сойміка. З капітальнай працы С.Охман-Станішэўскай і З.Станішэўскага, прысвечанай соймам перыяду праўлення Яна Казімера, вядома пра 299 паслоў ад ВКЛ, а разам з неідэнтыфікаванымі – 303[308]. Паводле дадзеных С.Охман-Станішэўскай і З.Станішэўскага, прадстаўнікамі полацкай шляхты на соймах былі ***N Дзевялтоўскі*** (абіраўся і ўдзельнічаў у двух соймах 1654 г.), ***Ян Корсак***, падчашы полацкі (абіраўся паслом у 1655, 1658, 1661 і 1662 г., аднак, пацверджаны яго ўдзел толькі ў працы сойма 1658 г.), ***Ян Уладзіслаў Корсак***, падкаморы полацкі (быў паслом на сойме 1659 г.), ***Ян Падбіпента***, падсудак полацкі (быў на сойме 1649, 1653., 1654 (II), 1661, 1662, 1665, 1666 (I) і 1667 г.), ***Юстыніян Шчыт Неміровіч*** (прадстаўляў ваяводства ў 1667 і ў якасці ўжо полацкага віцэваяводы – на другім сойме 1668 г.), ***Мікалай Неміровіч Шчыт*** (удзельнічаў у працы сойма 1661 г.), ***Канстанцін Жыгімонт Пац***, надворны харужы ВКЛ (удзельнічаў у другім сойме 1668 г.). Да гэтага пераліку трэба дадаць неідэнтыфікаванага польскімі даследчыкамі полацкага земскага суддзю – удзельніка першага сойма 1654 г., якім з'яўляўся ***Міхал Тышкевіч***[309]. Вельмі верагодна, што паслом ад полацкай шляхты ў 1653 г. мог быць ***Пётр Казімер Бяганьскі***, полацкі падкаморы, парламентарыст яшчэ з часоў Уладзіслава Вазы. На жаль, нельга дакладна сказаць, які павет накіраваў на сойм 1649 г. ***Стэфана Рыпінскага***, гараднічага полацкага, а ў 1649–1650 г. – ***Міхала Невельскага***, полацкага лоўчага, паколькі полацкія шляхціцы маглі прадстаўляць і не свой павет. Так, полацкі стольнік ***Станіслаў Мельхіёр Савіцкі*** быў абраны паслом на мельніцкім сойміку, г.зн., у Кароне Польскай[310]. Аднак, невядома ці займаў С.М.Савіцкі пазначаную пасаду ў 1649 г.[311]

Сярод полацкіх паслоў безумоўным рэкардыстам па колькасці ўдзелаў у працы соймаў з'яўляецца ***Ян Падбіпента***. Зафіксаваныя восем выпадкаў абрання яго прадстаўніком Полацкага ваяводства, а гэта не на шмат менш чым у прадстаўніка ВКЛ і безумоўнага лідара па колькасці разоў выкарыстання (пацверджана 15 выпадкаў)

---

[304] Kołodziej R. *Pierwszy sejm z 1637 roku*. Toruń, 2003. S.270.
[305] Dzięgielewski J. *Izba poselska…* S.169, 171, 175, 179.
[306] Kołodziej R. *Pierwszy sejm z 1637 roku*. S.272. Dzięgielewski J. *Izba poselska…* S.183.
[307] Rachuba A. *Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym…* S.82.
[308] Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. *Sejm Rzeczypospolitej za panowania Jana Kazimierza Wazy. Prawo–doktryna–praktyka*. Wrocław, 2000. T.II. S.383–399.
[309] Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства (другая палова XVI–першая палова XVII ст.)*.// Commetarii polocenses historici. Полацак, 2004. T.I. C.76.
[310] Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. *Sejm Rzeczypospolitej…* S.395.
[311] Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства…* С.78–79.

пасольскіх мандатаў па ўсёй Рэчы Паспалітай – ***Яна Антонія Храпавіцкага***, але апошні прадстаўляў розныя паветы[312].

Пералік прозвішчаў вядомых паслоў ад Полацкага ваяводства даказвае, што шляхта ў час праўлення Яна Казімера традыцыйна арыентавалася на прадстаўнікоў мясцовай эліты і ў першую чаргу – павятовых ураднікаў. З ліку паслоў толькі адзін належаў да магнацкага рода – К.Ж.Пац.

За час праўлення Яна Казімера Вазы было прызначана 20 соймаў (у тым ліку 7 былі сарваныя). Камплект паслоў – па два маецца для 5-ці соймаў, па адным для – 7-мі і ніякіх звестак няма пра полацкіх паслоў на соймы 1649–1650 і 1650 г., першы і другі соймы 1652 і 1664–1665 г., другі сойм 1666 і першы 1668 г. Полацкая шляхта, паводле права, выбірала на соймы два пасла, за выключэннем міжкаралеўяў, але паводле С.Охман-Станішэўскай і З.Станішэўскага, на сойм 1661 г. былі абраны тры пасла, што праўда толькі два – Я.Падбіпента і М.Неміровіч Шчыт – сапраўды ўдзельнічылі ў ім.

Праведзены аналіз дазваляе зрабіць некаторыя заўвагі. Пасольская рэпрэзентацыя ад Полацкага ваяводства ВКЛ на соймах Рэчы Паспалітая фармавалася пераважна з ліку найбольш аўтарытэтных і адукаваных шляхцічаў, і ў значнай ступені складалася з павятовых ураднікаў. У канцы XVI і на пачатку XVII ст. неаднаразова полацкі соймік прадстаўлялі кальвіністы, у тым ліку такі неардынарны палітычны дзеяч як ***Пётр Станброўскі***. Рэдкасцю быў выбар цэнтральных ураднікаў і прадстаўнікоў магнацкіх родаў. Выбраннікаў гэтага памежнага ваяводства ў цэлым нельга лічыць знакамітымі парламентарыстамі, аднак, некаторыя з іх, без сумненняў, добра арыентаваліся ў палітычных справах, пра што сведчыць колькасць выпадкаў выканання пасольскіх функцый.

*Віталь Галубовіч (Горадня).*

---

312 Ochmann-Staniszewska S., Staniszewski Z. *Sejm Rzeczypospolitej...* S.302.

## Князі Гальшанскія ў Кіева-Пячэрскім памянніку.

Тэма гэтага артыкулу – чатыры запісы ў "*Старажытным памянніку Кіева-Пячэрскай лаўры*"[313], якія датычаць княжацкага роду Гальшанскіх. Юзаф Вольф, на манаграфію якога па руска-літоўскіх княжацкіх генеалогіях[314] дагэтуль абапіраюцца ў даведачных выданнях[315], не ўжываў звесткі з гэтай крыніцы, на той час нядаўна толькі апублікаванай. Між тым, у ёй можна знайсці карысныя дадатковыя звесткі, з якіх, наколькі нам вядома, толькі малая доля ўжываецца ў сучаснай літаратуры. У гэтым артыкуле прапануецца базавая сістэматызацыя запісаў аб князях Гальшанскіх у памянніку.

Агульны агляд усіх звестак пра княскія роды ў Кіева-Пячэрскім памянніку рабіў Л.Вайтовіч[316]. Ягоная інтэрпрэтацыя, аднак, мае шэраг недахопаў, магчыма непазбежных пры гэтулькі шырокай пастаноўцы пытання. Па-першае, Л.Вайтовіч імкнуўся ідэнтыфікаваць як мага болей асобаў у памянных запісах, нават у тых месцах, дзе запісы слаба структураваныя. Гэта прыводзіць да вялікай колькасці сумніўных[317], а часам і нават яўна памылковых ідэнтыфікацый: у прыватнасці такое адвольнае атаясамленне дазволіла Л.Вайтовічу лёгка адшукаць у памянніку ***Аляксандра Сямёнавіча Гальшанскага***, які, як мы пабачым далей, увогуле не існаваў. Па-другое, у гэтым даследванні яўна памылкова зразуметы загаловак аднога з запісаў, што ўскладніла далейшую інтэрпрэтацыю (гл.ніжэй). Пры гэтым шэраг важных атаясамленняў Л.Вайтовіч зрабіў бясспрэчна верна, аднак, за кошт названых вышэй недахопаў, асабліва першага, адрозніць у яго працы надзейныя атаясамленні ад ненадзейных (па сутнасці – карысныя факты ад вельмі цьмяных гіпотэзаў), уяўляецца немагчымым без новага аналізу памянніка.

Такі новы аналіз мы і прапануем у гэтым артыкуле. Мы вылучым тыя атаясамленні, якія ясна вынікаюць са структуры і тэксту запісаў, пазбягаючы пры тым урыўкаў, дастаткова ўпэўненая інтэрпрэтацыя якіх немагчымая. Як мы пабачым, нават пры такіх строгіх абмежаваннях памяннік прыносіць нямала цікавых звестак; і звесткі гэтыя можна ўжо прымаць з вялікаю пэўнасцю – яны не менш надзейныя, чым згадка ў летапісе альбо дакуменце.

Перш чым перайсці да нашага прадмету, спынімся на адным выпраўленні да вольфавай генеалогіі князёў Гальшанскіх, якое вынікае з іншых крыніцаў. А менавіта, князь ***Аляксандр Сямёнавіч Гальшанскі*** ўзнікае ў радаводзе праз памылку. Ю.Вольф пазначае існаванне гэтага князя як спрэчнае, уводзячы яго на падставе апісання адзінага дакумента ў 1 і 2 кнігах Метрыкі ВКЛ: у панядзелак перад святам Святой Марыі Магдалены у 1473 г., выпраўляючыся ў пасольства ў Польшчу, Аляксандр Сямёнавіч Гальшанскі запісвае маёнтак Свіраны касцёлу Святога Станіслава[318]. Супадзенне даты і ўсіх дэталяў не пакідае сумненняў, што размова ідзе пра той самы дакумент, які быў пазней уключаны пад № 281 ў "*Кодэкс дыпламатычны катэдры і дыяцэзіі Віленскай*"[319].

---

313 Голубев С. *Древний помянник Киево-Печерской лавры (конца XV и начала XVI ст.).*// Чтения в историческом обществе Нестора Летописца. Киев, 1892. Кн.6. Приложение. С.1–88.

314 Wolff J. *Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku*. Warszawa, 1895. S.94–115.

315 Гл., напрыклад: Насевіч В. *Гальшанскія.*// ВКЛЭ. Мн.: БелЭн, 2005. Т.1. С.491–493. Артыкул амаль цалкам заснаваны на працы Ю.Вольфа.

316 Войтович Л. *Князівські династії Східної Європи (кінець IX–початок XVI ст.): склад, суспільна і політична роль*. Львів, 2000.

317 Напрыклад, Агрыпіну ў запісе "*род княгіні Ульяны Юр'евай*", якую Л.Вайтовіч прапануе лічыць невядомай з іншых крыніцаў дачкою ***Івана Дубровіцкага***, з неменшым, падаецца, поспехам можна атаясаміць з добра вядомай жонкаю ***Івана Альгімонтавіча***. Увогуле, досыць вялікая колькасць іначай невядомых асобаў дададзена Л.Вайтовічам у радавод на падобным недастаткова трывалым грунце.

318 *Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции*. М., 1915. Кн.XXI. Приложение. С.357.

319 *Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej.* Wyd. ks.J:Fijałek, W.Semkowicz. Krakow, 1932. T.1. S.328–330. № 281.

Звярнуўшыся да поўнага тэксту, лёгка пераканацца, што гаворыцца там насамрэч пра Аляксандра ***сына Юрыя Сямёнавіча Гальшанскага***, гэта значыць, пра добра вядомага пазнейшага віленскага кашталяна ***Аляксандра Юр'евіча Гальшанскага***. Так вызначаюць аўтара гэтага дакумента і выдаўцы кодэкса. Заўважым, што яшчэ раней за Ю.Вольфа гэтым запісам Метрыкі ВКЛ гэтак жа падмануўся і Адам Банецкі[320]. Такім чынам, прапанаванае Л.Вайтовічам аднясенне да Аляксандра Сямёнавіча асобных запісаў у памянніку[321] трэба лічыць памылковым, тым больш, што самыя запісы ніяк не вымагаюць такой інтэрпрэтацыі.

Пяройдзем цяпер да Кіева-Пячэрскага памянніка. У гэтым помніку, які пісаўся прыблізна з 1483 па 1526 г., сабраныя спісы імёнаў для царкоўнага памянання. Згрупаваныя імёны звычайна па адным з двух прынцыпаў: гэта альбо дзеячы, якія займалі пэўную царкоўную ці свецкую пасаду (напрыклад, пячэрскія архімандрыты), альбо родзічы пэўнай асобы. Роднасныя повязі паміж людзьмі ў спісах пазначаліся несістэматычна, таму вылучыць патрэбныя звесткі бывае няпроста. Вялікаю ўдачаю для даследчыка генеалогіі князёў Гальшанскіх аказваецца рэдкае імя заснавальніка роду – ***Альгімонта***. З'яўленне ў спісе гэтага імя (самога па сабе альбо ў патроніме) сігналізуе, што ў гэтым месцы пададзены імёны князёў Гальшанскіх.

З пэўнасцю мы звязваем з князямі Гальшанскімі пяць спісаў: пералік "*князёў нашых вялікіх*" (змяшаны спіс князёў кіеўскіх і вялікіх літоўскіх), "*род княгіні Ўлляны Юр'евай*", "*род княгіні Марыі Сямёнавай Траб(скай)*", "*род княгіні Іванавай Ўладзімеравіча, княгіні Васілісы Бельскай*" і "*княгіні і князя Юрыя Дубровіцкага*". Імаверна, да князёў Гальшанскіх адносіцца і "*род княгіні Юр'евай*"[322]. Нас надалей будуць цікавіць галоўным чынам першыя два з названых спісаў.

У першым са спісаў – у пераліку "*князёў нашых вялікіх*" – вылучыць частку, якая адносіцца да князёў Гальшанскіх, досыць проста. Пасля імёнаў князёў з роду Ўладзімера Альгердавіча ў пераліку з'яўляецца ***Альгімонт***, пасля ідзе шэраг знаёмых па Ю.Вольфу імёнаў, пасля ён раптам перарываецца трыма ў рад асобамі, чые імёны ў радаводзе князёў Гальшанскіх невядомыя: Дзмітры, Давыд, Дзмітры. Лагічна лічыць, што ў гэтым месцы пачынаецца пералік нейкай іншай сям'і. Не выключана, што частка далейшага запісу адносіцца зноў да князёў Гальшанскіх, аднак пэўнасці ў нас няма. Мы застаемся пры наступным спісе: "*князя Альгімонта, названага ў святым хросце Міхаіла, а ў інацтве Яўфімія, князя Альгімонтавіча Івана і сына яго, князя Андрэя, князя Сімяона Іванавіча, князя Сімяона і сына яго князя Юрыя і сына яго князя Васіля, князя Івана, князя Данілу, князя Глеба, князя Андрэя, князя Сімяона*"[323].

Запіс аб хрысцільным і інацкім імёнах ***Альгімонта*** даўно заўважаны і ўведзены ва ўжытак[324]. Надзейнасць гэтых звестак патрабуе, вядома, асобнага абмеркавання, якое, аднак, не ўваходзіць у мэты гэтае працы: нас у дадзеным выпадку цікавіць толькі існаванне тых ці іншых асобаў, а таксама роднасныя сувязі паміж імі.

Паспрабуем накласці звесткі са спісу на радаслоўнае дрэва першых пакаленняў роду, прыведзенае ў Ю.Вольфа (не ўлічваючы дачок, бо спіс дае нам толькі мужчынскія імёны). Пытальнікамі пазначаны тыя асобы, у існаванні якіх Ю.Вольф не ўпэўнены. ***Аляксандр Сямёнавіч Гальшанскі*** з радаводу адразу выключаны (гл. тлумачэнне ў пачатку артыкула). Выглядае таксама, што: "*князя Сімяона Іванавіча, князя Сімяона і сына яго князя Юрыя*" трэба разумець як: "*князя Сімяона Іванавіча і сына яго князя Юрыя*"; прынамсі гэтае дапушчэнне ўзгадняе наш спіс з іншымі звесткамі амаль ідэальна.

[320] Bonecki A. *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku*. Warszawa, 1887. S.78. Boniecki A. *Herbarz Polski*. Warszawa, 1904. T.VII. S.301.

[321] № 76 і 138 па нумарацыі Л.Вайтовіча.

[322] Голубев С. *Древний помянник Киево-Печерской лавры*. С.6–7, 14–15, 23–24, 67.

[323] Голубев С. *Древний помянник Киево-Печерской лавры*. С.6–7, 14–15, 23–24, 67.

[324] Насевіч В. *Гальшанскія*. С.491–493. Шабульдо Ф. *Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского*. Киев: Наукова думка, 1987. С.29. Rowell S.C. *Lithuania Ascending: A Pagan Empire within East-Central Europe 1295–1345*. New York: Cambridge University Press, 1994.

Усе неадназначнасці ў пакаленнях мы трактуем на карысць версіі Ю.Вольфа, добра падмацаванай дакументамі. Атрымоўваем наступнае дрэва (вылучаны тыя імёны, што ўзгадняюцца з прыведзеным вышэй памянным спісам):




Адсюль мы бачым, што існаванне “*спрэчнага*” ***Глеба Сямёнавіча Гальшанскага*** можна лічыць надзейным: імя ***Глеб*** прысутнае ў спісе, прычым паміж ***Данілам*** і другім ***Андрэем*** – гэта значыць, менавіта паміж сынамі ***Сямёна Лютага***. Гады яго жыцця застаюцца няяснымі[325]. З адсутнасці ж у памянніку тых ці іншых асобаў важкіх высноў зрабіць, падаецца, нельга. Калі існаванне ***Барыса*** больш чым сумніўнае[326], то ***Аляксандр*** і ***Міхаіл Іванавіч*** добра засведчаныя ў крыніцах.

Пяройдзем цяпер да другога спісу з чатырох, найбольш цікавага, на наш погляд. Гэта змешчаны блізка да пачатку памянніка (і значыцца, запісаны імаверна не нашмат пазней за 1483 г.) “*род княгіні Ўлляны Юр’евай*”. Пачынаецца ён наступным чынам: “*вялікага князя Ўладзімера Кіеўскага, князя Аляксандра, князя Сімяона, памяні Госпадзе забітых князя Міхаіла Аляксандравіча, князя Івана Юр’евіча, князя Івана Альгімонтавіча, князя Сімяона, князя Юрыя, сына яго князя Васілія (князя Сімяона Юр’евіча, княгіню Настасію і сына іх князя Льва), князя Юрыя. [да тэксту ў дужках дададзена спасылка: саскубленыя імёны прыпісаныя пазней на палях]*”.

Далей ідуць жаночыя імёны, пачынаючы з “*кн. Феадоссі*”. Мы не пэўныя ў тым, ці адносяцца яны да роду князёў Гальшанскіх, таму спынімся на ўжо выпісаным. Перш за ўсё, забітыя князі ***Міхаіл Аляксандравіч*** і ***Іван Юр’евіч*** – гэта, бясспрэчна, Міхаіл Алелькавіч і Іван Гальшанскі Дубровіцкі, пакараныя ў 1481 г. смерцю за змову супраць Казімера Ягайлавіча. Першыя тры імя ў спісе, гэтак жа відавочна, – Уладзімер Альгердавіч, ягоны сын Алелька і ягоны старэйшы сын Сямён, брат Міхаіла. Пачынаючы з Івана Альгімонтавіча ідуць Гальшанскія. Найпрасцейшае тлумачэнне ўсяго запісу такое: “*княгіня Ўлляна Юр’ева*” – гэта ***жонка***[327] ***Юрыя Сямёнавіча Гальшанскага***, якую Ю.Вольф ведаў з імя, але не ведаў яе паходжання. Мяркуючы па пачатку яе запісу ў

[325] Гл. адпаведнае месца ў Ю.Вольфа адносна сутнасці праблемы з дацiроўкай.

[326] Летапіс згадвае кіеўскага князя Івана Барысавіча, які загінуў ў 1399 пры Ворскле. Ю.Вольф дапускае, што гэта апіска і мусіў быць Барыс Іванавіч, сын Івана Гальшанскага. Апроч гэтага, падаецца залішне моцнага, дапушчэння Ю.Вольфа, ніякіх няма больш звестак аб прадстаўніку рода такога імя.

[327] Л.Вайтовіч з невядомай прычыны прапанаваў лічыць гэтую княгіню Ўльяну *княжной* Ульянай, дачкой князя Юрыя. Гэта тым болей дзіўна, што цалкам аналагічную формулу “*род княгіні Марыі Сямёнавае Траб(скай)*” ён слушна інтэрпрэтуе як род жонкі (а не дачкі) ***Сямёна Трабскага***. Гэтая памылка ўскладніла далейшую інтэрпрэтацыю запісу. У прыватнасці, здагадку пра сувязь Алелькавічаў з родам Юр’евай жонкі Л.Вайтовіч мімаходзь выказвае, аднак, прадказальна недаацэньвае трываласць гэтай гіпотэзы: у ягонай інтэрпрэтацыі гэта значыла б, што княжна запісала матчын род раней за бацькаў, што было б магчыма, але досыць дзіўна; насамрэч жа княгіня Юліяна запісала ўласны род раней за мужаў, што цалкам лагічна.

памянніку (і з улікам узростаў), яна мусіла быць дачкою Алелькі і сястрою Сямёна і Міхаіла[328].

Такім чынам, князь ***Іван Гальшанскі Дубровіцкі*** быў пляменнікам свайго таварыша па змове. Пацвярджаецца, між іншым, і згадка М.Карамзіна, што ***Іван*** быў з "*праўнукаў Альгерда*"[329]. Гіпотэзу пра паходжанне Ўлляны з Алелькавічаў выказаў раней Марцэлі Антаневіч, не выкарыстоўваючы звестак памянніка, але зыходзячы з аналізу герба ўнука Ўлляны, ***Паўла Гальшанскага***, і з агульных звестак пра адносіны паміж родамі[330].



Гербу ***Паўла Гальшанскага*** ў літаратуры прысвечана немала месца і ён патрабуе падрабязнага адступлення. Прыведзеная тут выява – са "*Stemmata Polonica*" – рукапісу сярэдзіны XVI ст. з бібліятэкі Арсенала ў Парыжы[331]; цалкам аналагічная выяве, якая, паводле Ю.Вольфа, змешчаная на магіле ***Паўла***. Цікава, што на яшчэ адной выяве ў "*Дыяцэзіяльных статутах для Луцкай дыяцэзіі*"[332], гербы "*Кітаўрус*" і "*Пагоня*" змешчаныя ў адваротным парадку. Але паколькі трактоўка "*Кітаўруса*" як герба ўласна князёў Гальшанскіх не выклікае сумневу, то тут трэба бачыць ці памылку гравёра, ці дайшоўшае да кур'ёзу жаданне высунуць найбольш статусны герб як мага мацней наперад.

Паходжанне ***Паўла*** па жаночай лініі добра вядомае: ягоная маці Соф'я была дачкою віленскага ваяводы Алехны Судзімонтавіча і Ядзвігі з Манівідаў гербу "*Ляліва*". Аднак, адсутнасць дастатковых звестак пра геральдыку Судзімонтаў і пра род княгіні Ўлляны прывяла да таго, што ў розны час быў прапанаваны цэлы шэраг прачытанняў герба. Пра тое, што "*Пагоня*" павінна адносіцца менавіта да Ўлляны, пісаў яшчэ Ю.Вольф, не прапануючы пры тым канкрэтнага роду, з якога яна мусіла паходзіць[333].

Версію, паводле якой і "*Кітаўрус*", і "*Пагоня*" ў гэтым гербе адносяцца да Гальшанскіх, а "*Ляліва*" – да Ўлляны, прапаноўваў Юзаф Пузына[334]. Ён, аднак, быў тут уведзены ў зман памылкаю ў "*Нататках*" Яна Замойскага, паводле якіх князь ***Сямён Іванавіч Гальшанскі*** выкарыстаў у Чартарыску ў 1431 г. пячатку з "*Пагоняю*"[335]. Між тым Мар'ян Гумоўскі, звярнуўшыся да арыгінальнага (досыць слабога) адбітку, вызначыў, што на ім насамрэч выяўлены кентаўр з мечам[336], пасля гэтага ўдакладнення не застаецца падставы разглядаць "*Пагоню*" як "*дадатковы*" герб самых Гальшанскіх.

---

[328] Ю.Вольф называў трох дачок Алелькі: 1) Федку, жонку пэўнага Сямёна Юр'евіча; 2) невядомую на імя, жонку малдаўскага гаспадара Стэфана; 3) невядомую на імя, жонку Юрыя Фёдаравіча Пронскага. Валеры Пазднякоў таксама падаў трох дачок, але яго звесткі не цалкам згодныя з працаю Ю.Вольфа, якою ён, гледзячы па бібліяграфіі, непасрэдна не карыстаўся. В.Пазднякоў вызначыў Сямёна Юр'евіча як Патрыкеева, падаў імя жонкі гаспадара Стэфана (Еўдакія), але трэцюю дачку (па-ранейшаму невядомую з імя) назваў жонкаю *Ю.Ф.Гальшанскага* (ініцыялы Ю.Ф. у радаводзе князёў Гальшанскіх – у адрозненне ад Пронскіх – нам невядомыя), гл.: Пазднякоў В. *Алелькавічы*.// ВКЛЭ. Мн.: БелЭн, 2005. Т.1. С.217–219. Імя Улляна не з'яўляецца ні ў Ю.Вольфа, ні ў В.Пазднякова. Нам падаецца, што ў святле дадатковых звестак з памянніку мусім гаварыць насамрэч пра *чатырох* дачок Алелькі.

[329] Карамзин Н.М. *История государства Российского*. Т.6. Гл.4.// http://az.lib.ru/k/karamzin_n_m/text_1060.

[330] Antoniewicz M. *Manifestacja genealogiczna w herbie złożonym biskupa Pawła Olgimunta księcia Holszańskiego*.// Prace naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Częstochowie. Seria: Zeszyty Historyczne. 1997. Z.IV. S.431. Аўтар удзячны доктару М.Антаневічу за магчымасць азнаёміцца з артыкулам.

[331] *Stemmata Polonica. Rękopis nr 1114 Klejnotów Długosza w Bibliotece Arsenału w Paryżu*. Wyd. H.Polaczkówna.// Prace Sekcji Historii Sztuki i Kultury Tow. Naukowego we Lwowie. Lwów, 1929. T.I. S.84.

[332] Насевіч В. *Гальшанскія*. С.491–493.

[333] Wolff J. *Kniaziowie litewsko-ruscy...* S.99.

[334] Puzyna J. *Herb złożony Pawła Holszańskiego, biskupa wileńskiego*.// Miesięcznik Heraldyczny. Warszawa, 1932. R.XI. № 6. S.127–128.

[335] *Jana Zamoyskiego notaty heraldyczno-sfragistyczne*.// Studya, rozprawy i materyały z dziedziny historyi polskiej i prawa polskiego. T.7. 1907. № 95.

[336] Gumowski M. *Pieczęcie książąt litewskich*.// Ateneum Wileńskie, 1930. R.7. Zeszyt 3–4. S.712.

У сваю чаргу, Галена Палячкоўна прапаноўвала аднесці “*Пагоню*” да Судзімонтаў, а “*Трубы*” – да Ўлляны[337]. Галоўным аргументам за такое прачытанне мог бы быць парадак палёў; аднак вядома, што ў геральдыцы ВКЛ правілы складання шматчасткавых гербаў не былі абсалютна строгімі[338]. Г.Палячкоўна, апроч таго, змешвае род Судзімонтаў з Хожава з ранейшым князем Судзімонтам з Эйшышкаў, для чаго, апроч супадзення імя, няма падстаў. “*Пагоню*” прыпісвае Судзімонтам таксама Каспар Нясецкі[339], аднак, матывы для гэтага сцверджання невядомыя, і лёгка ўявіць, што крыніцаю тут паслужыў акурат герб, які мы аналізуем, альбо ўсё тое ж змяшэнне з Судзімонтам з Эйшышкаў[340].

Алег Аднарожанка прапануе бачыць у гербе не генеалагічныя, а герархічныя звесткі[341]. Па ягонай версіі, “*Трубы*” азначаюць Войцаха Радзівіла, папярэдніка ***Паўла*** ў Луцку, а “*Пагоня*” – Яна з Князёў Літоўскіх, які займаў віленскую катэдру ў той час, калі ***Павел*** займаў луцкую. Гэтая версія цікавая тым, што з яе дапамогаю можна было б паспрабаваць вытлумачыць змену парадку палёў пры змене кафедры (хаця А.Аднарожанка на гэтым моманце ніяк не спыняецца); з іншага боку, змены па такой логіцы чакаліся б больш адчувальныя, нават з улікам таго, што Войцах Радзівіл трымаў у свой час і віленскую катэдру таксама. Асноўны ж і, падаецца, непераадольны недахоп гэтай версіі ў тым, што пераканаўчага вытлумачэння не атрымоўвае “*Ляліва*”, якую А.Аднарожанка ўвогуле абыходзіць маўчаннем. Развіць ідэю пра папярэднікаў тут не атрымаецца: перад названымі біскупамі віленскую кафедру займаў Войцах Табар гербу “*Венява*” зменeная[342], а луцкую – Ян Пудэлка[343], які паходзіў з мяшчан[344] і карыстацца старадаўнім шляхецкім гербам не мог[345].

Такім чынам, нават без выкарыстання звестак з памянніка пераканаўчую канкурэнцыю версіі Ю.Вольфа складае толькі версія Г.Палячкоўны. З улікам жа гэтых новых звестак спрэчку можна лічыць вырашанай на карысць Ю.Вольфа: “*Кітаўрус*” адносіцца да Гальшанскіх, “*Пагоня*” – да Алелькавічаў, “*Ляліва*” – да Манівідаў. Што названыя роды карысталіся адпаведнымі гербамі, вядома з пэўнасцю. Прыпісванне “*Трубаў*” Судзімонтам, з якіх Паўлава маці паходзіла па бацькоўскай лініі, патрабуе больш падрабязнага разбору. Такі разбор, як згадана вышэй, ужо здзейсніў М.Антаневіч[346]. Мы ж спынімся каротка толькі на адной досыць шырока вядомай супярэчнасці. Доргі, бацька Паўлава прадзеда Судзімонта, мог быць тоесны Доргію брату Осціка гербу “*Трубы*”, як аб тым піша Ю.Пузына[347]. Уладзіслаў Сэмковіч адмаўляе гэтую тоеснасць з той прычыны, што Судзімонт пячатаўся не “*Трубамі*”, а ўласным знакам[348]. Але ён жа ў іншым месцы той самай працы сведчыць, што сучаснік Судзімонта, староста жамойцкі Галімін Надобавіч, карыстаўся у 1430-х г. дзвюма пячаткамі – з “*гарадзельскім*” гербам

[337] *Stemmata Polonica...* S.84.

[338] Шаланда А. *Складаны герб Яраслава Аляксандра Мальхеравіча Шэмета (1619 г.).*// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2 (13–14). С.65.

[339] Niesiecki K. *Herbarz polski*. Lipsk, 1841. T.VIII. S.560.

[340] Падрабязней пра Судзімонтаў у сувязі з гербам Паўла Гальшанскага, гл.: Antoniewicz M. *Manifestacja genealogiczna...* S.406.

[341] Однороженко О. *Князівська геральдика Волині середини XIV–XVIII ст*. Харків, 2008. С.173–174.

[342] *Stemmata Polonica...* S.83.

[343] Niesiecki K. *Herbarz polski*. Lipsk, 1839. T.1. S.53.

[344] Topolska M. *Społeczeństwo i kultura w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII wieku*. Poznań, Zielona Góra, 2002. S.65.

[345] Скажам болей: “*Ляліваю*” не карыстаўся ўвогуле ніводны з папярэднікаў Паўла на віленскай кафедры, гл.: *Stemmata Polonica...* S.80–83. З папярэднікаў на луцкай – толькі Андрэй Сплаўскі, першы біскуп Луцкі, гл.: Niesiecki K. *Herbarz polski*. Lipsk, 1839. T.1. S.52. Прыпісванне “*Лялівы*” ў гербе Паўла Гальшанскага Сплаўскаму, падаецца, было б празмерна ўжо экстравагантным, тым больш, што па гэтай логіцы пры пераходзе Паўла на новую кафедру, “*Ляліву*” мусіў бы змяніць “*Ястрабец*” Андрэя, першага біскупа Вільні.

[346] Antoniewicz M. *Manifestacja genealogiczna...* S.406.

[347] Puzyna J. *Herb złożony Pawła Holszańskiego...* S.128.

[348] Semkowicz W. *O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413.*// Lituano-slavica Posnaniensia. Studia Historica. Poznań,1989. T.III. S.65.

“*Дубна*” і са старым сваім знакам; таму аргумент ад несупадзення выявы на пячатцы не абсалютны[349].

Вернемся да памяннага запісу. Пэўную цікавасць у ім уяўляе яшчэ згадка пра “*князя Сімяона Юр’евіча, княгіню Настассю і сына іх князя Льва*”[350]. Размова мусіць ісці пра ***Сямёна Юр’евіча Гальшанскага*** (?–1505 г.) і яго жонку Настассю са Збаражскіх. Але Ю.Вольфу была вядома толькі дачка з гэтага шлюбу – ***Тацяна***. Калі мы прымаем гэтую прыпіску як надзейную, то мусім дадаць у адпаведным месцы радаслоўцу і сына. Выглядае аднак, што памянёны ***Леў Сямёнавіч Гальшанскі*** не пераважыў бацьку, бо ў дакументах адносна маёмасных спраў, якіх нямала разабрана ў Ю.Вольфа, ён не з’яўляецца. Гэтая ідэнтыфікацыя ў Л.Вайтовіча праведзена цалкам слушна. Тое, што да спісу не быў дададзены яшчэ адзін сын Улляны – ***Аляксандр Юр’евіч Гальшанскі*** – не павінна нас дзівіць: перад намі праваслаўны памяннік, а ***Аляксандр***, гледзячы па крыніцах, перайшоў у каталіцтва.

Трэці запіс з вызначаных намі датычыць рода “*княгіні Марыі Сямёнавае Траб(скай)*”, г.зн. жонкі князя ***Сямёна Сямёнавіча Гальшанскага Трабскага*** – Марыі (у іншых дакументах Марыны, Марыяны) Дзмітрыеўны з князёў Друцкіх. Чацвёрты – рода Васілісы Бельскай, старэйшай дачкі князя ***Андрэя Іванавіча Гальшанскага***. Абодва запісы, як падаецца, складзены сумбурней за два папярэднія. Яны не супярэчаць звесткам з Ю.Вольфа, але і здабыць з іх штосьці новае мы не змаглі. Пяты запіс, “*княгіні і князя Юрыя Дубровіцкага*”, стаіць нашмат пазней за астатнія, бліжэй ужо да канца памянніка. Ён вельмі кароткі, усяго з шасці імёнаў, а з княжацкім тытулам толькі адное імя – княгіня Ўлляна. Гледзячы па ўсім, гэта – Ўлляна Іванаўна з Яраславічаў, першая жонка князя ***Юрыя Іванавіча Гальшанскага Дубровіцкага***. Памерла яна да 1522 г., бо ў гэтым годзе князь ***Юры Іванавіч*** быў ужо жанаты другі раз. Новых звестак нам запіс, як падаецца, не прыносіць.

На заканчэнне падсумуем тыя дадатковыя (ў адносінах да Ю.Вольфа) звесткі аб радаводзе князёў Гальшанскіх, якія мы вывелі вышэй з запісаў памянніка:

- ***Аляксандр Сямёнавіч Гальшанскі*** не існаваў, а ў радаводах узнік з-за памылкі ў Метрыцы ВКЛ.
- Існаванне князя ***Глеба***, сына ***Сямёна Лютага***, якое ў Ю.Вольфа пазначана як спрэчнае, трэба лічыць надзейным.
- Улляна, жонка князя ***Юрыя Сямёнавіча***, была дачкою Алелькі Ўладзімеравіча. Гэта, у прыватнасці, тлумачыць “*Пагоню*” ў гербе ***Паўла Гальшанскага***.
- У князя ***Сямёна Юр’евіча Гальшанскага***, сына ***Юрыя Сямёнавіча***, імаверна быў сын ***Леў***, які ў такім разе мусіў памерці раней за бацьку.

Мы не выключаем, што пільнейшы разгляд запісаў памянніка можа прынесці і новыя звесткі, але на сённяшні дзень ніякія болей дадаткі да генеалогіі князёў Гальшанскіх на падставе названай крыніцы не падаюцца нам дастаткова абгрунтаванымі. Прыведзеных выпраўленняў, аднак, ужо дастаткова, каб зрабіць яшчэ адную выснову, больш агульнага характару: сёння, па ўвядзенні ў навуковы зварот новых крыніц і па прашэсці больш як стагоддзя з моманту друку тытанічнай працы Ю.Вольфа “*Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku*”, разлічваць безаглядна на апошнюю ўжо нельга.

*Антон Францішак Брыль.*
*(Дублін, Ірландыя).*

---

[349] Semkowicz W. *O litewskich rodach...* S.76–77.

[350] Трэба згадаць, што тыя ж словы дададзены на палях і ў іншым запісе, у прыналежнасці якога мы не цалкам ўпэўнены, гл.: Голубев С. *Древний помянник Киево-Печерской лавры...* С.23. Выглядае ўсё ж, што “*княгіня Юр’ева*”, да якой адносіцца гэты запіс – гэта тая ж Улляна. Прынамсі пачатак спісу (“*князя Аляксандра, княгіню Анастассю, князя Сімеона, княгіню Марыю*”) акурат супадае з імёнамі яе бацькоў і бацькоў яе мужа (што жонак Алелькі і Сямёна Лютага звалі Анастасся і Марыя адпаведна, ведаем з Ю.Вольфа). Не супярэчаць такой атрыбуцыі і далейшыя імёны ў запісе.

## Цудатворны абраз Маці Божай Студэнцкай і гарадзенская шляхта: ідэнтыфікацыя, радаводы, сувязі.

Даследаванні па шляхце Гарадзенскага павета прадстаўлены нешматлікімі працамі[351]. Некаторыя дадзеныя пра яе ўтрымліваюцца ў гербоўніках[352]. Але ў іх яны часта абмяжоўваюцца адным радком, а то і ўвогуле адсутнічаюць. Матэрыялы па шляхецкім родам, якія прадстаўлены ў дадзеным артыкуле, былі падрыхтаваны як каментар для кнігі "*Збор цудаў*"[353], якія здзяйсняліся пры выяве Маці Божай Студэнцкай. Зараз гэты абраз знаходзіцца ў Фарным касцёле ў Горадні. Усе сабраныя тут гісторыі родаў і сем'яў аб'ядноўвае адное – іх прадстаўнікі былі згаданы ў "*Зборы цудаў*". З-за таго, што выданне асобнай кнігі "*Збор цудаў*" зацягнулася і невядома, ці выйдзе яно ўвогуле ў свет[354], мы палічылі, што звесткі па гарадзенскай шляхце павінны быць надрукаваны цяпер.

Зборы цудаў практычна не выкарыстоўваюцца як крыніцы па гісторыі шляхты. Канечне, найбольш інфарматыўнымі ў гэтым плане з'яўляюцца тэстаменты, даравальныя запісы, вяноўныя запісы і іншыя прыватна-прававыя акты[355]. Аднак, гэтыя творы прадстаўляюць даволі цікавыя звесткі пра свет эмоцый і перажыванняў за сябе, сваіх блізкіх падчас захворванняў, пра штодзённае жыццё асобы ў XVII ст. Эмацыйны стан вельмі рэдка адлюстроўваюць прыватна-прававыя акты.

Згаданыя ў "*Зборы цудаў*" асобы рэальна існавалі ў той час, што пацвердзілі іншыя друкаваныя і недрукаваныя крыніцы. Фрагментарная інфармацыя па гарадзенскай шляхце ўтрымліваецца ў шэрагу друкаваных крыніц: спісах дзяржаўных ураднікаў, ураднікаў Віленскага ваяводства, гербоўніках, падымным рэестры па Гарадзенскаму павету за 1690 г., дзённіку віцебскага ваяводы Яна Антонія Храпавіцкага, валочнай памеры і збору дакументаў па Гарадзенскай Эканоміі, інвентары Горадні за 1680 г. і манаграфічнай літаратуры[356]. З недрукаваных крыніц варта вылучыць спіс брацтва Анёла Ахоўніка пры

---

[351] Шаланда А. *Радавод і герб зямян Гарадзенскага павете Пуціўлянаў Свяцкіх ў другой палове XVI–XVIII ст.*// Герольд Litherland. Горадня, 2001. № 1. С.7–26. Шаланда А. *Род Абуховічаў vel Абухоўскіх у Гарадзенскім павеце ў XVI–першай палове XIX ст. і іх герб.*// Проблемы национального сознания польского населения на Беларуси. Материалы междунар. науч. конф., Гродно, 7–9 ноября 2003 г. Барановичи, 2004. С.204–218. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna w XV–XVIII wieku. Stanowy podział nieruchomości*. Supraśl, 2005. Gierowski J. *Kotowicz Hregory.*// PSB. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968–1969. T.14. S.482–483. Wasilewski T. *Isajkowski Dołmat Franciszak.*// PSB. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1962–1964. T.10. S.170. Wasilewski T. *Kierdziej Jan.*// PSB. Warszawa; Wrocław; Kraków, 1966–1967. T.12. S.425–426. Wasilewski T. *Kotowicz Andrzej.*// PSB. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968–1969. T.14. S.480.

[352] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839–1842. T.1–10. Uruski S. *Rodzina. Herbarz szlachty polskiej*. Warszawa, 1904–1931. T.1–15. Kojałowicz W.W. *Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego tak zwany Compendium*. Kraków, 1897. 527 s.

[353] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych Nayswietszey Maryey Panny Studentskiey Kongregacyi Grodzienskiey pod tytułem Annuntiationis*. Wilna, 1686.

[354] Гл., напрыклад: Сліж Н. *"Збор знакамітых цудаў і ласкаў Найсвяцейшай Панны Марыі Студэнцкай" як крыніца па гісторыі Горадні.*// Архіварыус. Мн.: БелНДІДАС, 2009. Вып.7. С.132–181. Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай у Фарным касцёле Горадні.*// ARCHE. Пачатак. Менск, 2010. № 1–2 (88–89). С.66–97.

[355] Сліж Н. *Крыніцы па гісторыі шляхецкай сям'і XVI–XVII ст.*// Герольд Litherland. Горадня, 2001. № 2. С.66–72.

[356] *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek* (далей – *UWKL WW*). Pod.red. A.Rachuby. Warszawa, 2004. T.1. Lulewicz H., Rachuba A. *Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy* (далей – *UCD WKL*). Kórnik, 1994. *Писцовая книга Гродненской Экономии* (далей – *ПКГЭ*). Вильна, 1882. Ч.2. С.173–202, 240–316. Брэгер Г. *Дакументы сведчаць: інвентар каралеўскага горада Горадні паводле камісарскай рэвізіі 1680 г.*// Памяць: Горадня. Мн.: БелЭн, 1999. С.84–95. Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna w XVIII wieku*. Toruń, 2002. *Metryka Litewska. Rejestry podymniego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo Trockie*. Oprac. H.Lulewicz. Warszawa, 2000. Chrapowicki J.A. *Diariusz. Cz.1: 1656–1664*. Oprac. T.Wasilewski. Warszawa, 1978. *Dyariusz wojewody witebskiego Jana Antoniego dwoich imion Chrapowickiego jako przyczynek do dzieów z czasów Jana Kazimierza, Michała Wiszniowieckiego i Jana Sobieskiego, krołów polskich*. Oprac. J.Rusiecki. Warszawa, 1845.

Фары Вітаўта[357], якое было заснавана ў 1560 г.[358] У кнігу брацтва ўпісваліся прадстаўнікі духавенства, шляхецтва і мяшчанства жаночага і мужчынскага полу рознага ўзросту. Запісы вяліся па гадах, першыя з іх былі зроблены ў пачатку XVII ст. Шмат звестак па асобам утрымліваюць гарадзенскія земскія і гродскія кнігі[359]. Выпісы з гарадзенскіх гродскіх і земскіх кніг, а таксама іншыя дакументы па гісторыі Горадні за дадзены перыяд сустракаюцца ў розных зборах Літоўскай Рэспублікі[360]. Але па розных шляхецкіх родах і сем'ях інфармацыя ў нашай працы прадстаўлена не аднастайна, бо гэта залежала ад стану і камплектнасці адшуканых крыніц.

У дадзеным артыкуле прадстаўлены апісанні радаводаў 19 шляхецкіх родаў, якія былі звязаны з Гарадзенскім паветам ВКЛ: князі Агінскія, Аляксандровічы, Буткевічы, Бутлеры, Валовічы, Гнявінскія, Градкоўскія, Длугаборскія, Жэляроўскія, Ісайкоўскія, Карпы, Кердзеі, Манькоўскія, Сапоцькі, Талочкі, Славагорскія, Чарніцкія, Шчасновічы, Шышкі. У асноўным гэта – сярэдняя і дробная павятовая шляхта: Сапоцькі, Талочкі, Шышкі і іншыя. Вылучаюцца сярод іх князі Агінскія, Бутлеры і Валовічы. Польскага паходжання былі Градкоўскія, Длугаборскія, Жэляроўскія, Манькоўскія, Славагорскія, Чарніцкія, якія прыбылі ў Гарадзенскі павет ў першай палове XVII ст.

Пры вывучэнні радаводаў гарадзенскай шляхты высветлілася, што многія з іх звязаны паміж сабой сваяцкімі, шлюбнымі і сяброўскімі адносінамі, добра ведалі адзін аднаго і кантактавалі не адное пакаленне. Яны выступалі сведкамі, апякунамі ці судзіліся паміж сабой. Асобы пры пасадах павінны былі ведаць амаль усю павятовую шляхту, асабліва, калі яны працавалі ў гродскім ці земскім судах, бо яны прысутнічалі пры актыкацыі прыватных дакументаў. Напрыклад, В.Жэляроўскі, у якога знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай Студэнцкай, быў жанаты з Т.Сапоцькаўнай, якая па мацярынскай лініі належала да Длугаборскіх, праз якіх, у сваю чаргу, была звязана з Абухоўскімі, Аленскімі, Маліноўскімі, Храптовічамі. Дзякуючы шлюбу яе муж паляк В.Жэляроўскі ўвайшоў у мясцовае асяроддзе, а яно пасля звярталася за дапамогай да іконы, што знаходзілася ў яго доме.

Іншы паляк (мазаўшанін) М.Чарніцкі[361] часта фігураваў у дакументах Гарадзенскага земскага суда ў якасці апякуна, выканаўцы тэстаментаў, фундатара і яго сям'я таксама была звязана з гісторыяй іконы. Чарніцкія былі звязаны сваяцкімі сувязямі з Славагорскімі і Сапоцькамі, апошнія – яшчэ з Катовічамі, Рукевічамі і Тымінскімі. Апошнія два роды таксама былі звязаны з цудатворнымі абразам. Гісторыя гэтых родаў падаецца ў частцы прысвечанай Сапоцькам.

Акрамя таго, назіраліся сяброўскія адносіны, што адлюстравалася ў інстытуце апекі. У якасці апякуноў для сваіх дзяцей Францішак Гнявінскі абраў Аляксандра Сапоцьку і Яна Казімера Кердзея. Апошні яшчэ апякаваўся дзецьмі Андрэя Казімера

---

[357] *НГАБ у Горадні*. Ф.259. Воп.2. Спр.2.

[358] Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna*... S.314.

[359] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43, 44, 45, 46, 48, 49, 51, 52, 54; Ф.1800. Воп.1. Спр.1; Ф.1870. Воп.1. Спр.1. *Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэту* (Vilnau Universiteto Mokslines Bibliotekos rankraščtų skyrius, далей – *Аддзел рукапісаў БВУ*). Ф.7: Кніга Гарадзенскага земскага суда 1694 г.

[360] *Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Літоўскай Акадэміі Навук* (Lietuvos mosklų akademijos Bibliotekas rankraščtų skyrius, далей – *Аддзел рукапісаў БЛАН*). Ф.40. Спр.1049; Ф.43. Спр.8166, 8168, 8169, 8179, 26588, 26643; Ф.273. Спр.109; Ф.19. Спр.89. *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.3. Спр.2263, 2377; Ф.4. Спр.35955; Ф.5–А6–1512. *Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў* (Lietuvos Vaistybes istoriajos archyvas, *далей – ЛДГА*). Ф.694. Воп.1. Спр.4020; Ф.SA. Спр.11296; Ф.1029. Воп.1. Спр.53, 64, 78, 87–94, 96; Ф.1177. Воп.1. Спр.4520, 4522.

[361] Шаланда А. *Прыватны ліст віленскага цэйкварта Вільгельма Поля ад 6 мая 1641 г. аб водапровадзе і арсенале ў Горадні*.// Гарадзенскі палімпсест. XII–XX ст. Мат-лы Міжнар. навук. канф. Горадня, 7 лістапада 2008 г. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня, Беласток, 2008. С.212, заўвага 6.

Тымінскага[362]. Павятовая шляхта добра ведала сваё асяроддзе. Месцамі для сустрэч былі соймікі, суды, Горадня, маёнткі і інш. Шляхцічы фігуравалі ў прыватных дакументах адзін аднаго ў якасці сведак, прадавалі маёмасць адзін другому, як ураднікі актыкоўвалі дакументы. Такім чынам, крыніцы паказваюць, што ў шляхецкай мясцовай суполцы ўсе ведалі адзін аднаго, былі цесна звязаны рознымі адносінамі.

Варта адзначыць, што гарадзенская шляхта ў XVII ст. у большасці была каталіцкага веравызнання. Аб гэтым сведчаць не толькі "*Збор цудаў*", шанаванне культу Маці Божай Студэнцкай, але і іншыя дакументы: тэстаменты, фундацыйныя запісы. Веравызнанне паўплывала на рэлігійнае жыццё Горадні і наваколля. Шляхта стала падтрымліваць каталіцкія ордэны, засноўваць каталіцкія касцёлы і кляштары, прыносячы такім чынам "*лацінскую*" культуру ў рэгіён.

У дадзеным даследаванні прадстаўлены не ўсе шляхецкія роды, якія жылі на той час ў Гарадзенскім павеце. Не прадстаўлены звесткі па Міцутам, князям Масальскім і інш., бо яны не згаданы ў друкаваным "*Зборы цудаў*", а таму немагчыма дакладна сказаць ці звярталіся яны да абраза, ці прычыніліся да распаўсюджання яго культу. Аднак, сабраныя звесткі дазваляюць казаць пра шляхецкую павятовую суполку аб'янаную сямейна-шлюбнымі дачыненнямі, сяброўствам, знаёмствам, дзе рэлігійная прыналежнасць мела не апошняе значэнне.

**Князі Агінскія і Ісайкоўскія.**

***Агінскія*** – старажытны і вядомы княжацкі род. Яго прадстаўнікі спачатку былі праваслаўнага веравызнання, але пад ўплывам Контррэфармацыі і агульнай рэлігійнай сітуацыі ў краіне сталі каталікамі. Таму накірунак іх фундацый кардынальна змяніўся. Непасрэднае дачыненне да "*Збору цудаў*" Маці Божай Студэнцкай мела ***Алена Яганна Агінская***. Яна фундавала гэтае выданне. Паходзіла Алена з сям'і польнага гетмана ВКЛ, мсціслаўскага і полацкага ваяводы, ваўкавыскага маршалка ***Яна Яцка Стэфана Агінскага*** (?–1684 г.) і ***Ганны Сямашкі***[363]. Бацька быў выхаваны ў праваслаўнай рэлігіі, але пасля стаў каталіком. Ён быў знакаміты вайсковымі подзвігамі, удзельнічаў у выправах супраць ворагаў Айчыны – маскавітаў, шведаў, туркаў, татараў. Ён памёр 25 лютага 1684 г. у Кракаве пасля вяртання з ваеннай экспедыцыі[364]. Гетман вызначыўся таксама і фундацыйнай дзейнасцю. Разам з другой жонкай ***Яганнай Тэадорай з Нарушэвічаў*** ён заснаваў францішканскі кляштар ў сваім маёнтку Лапеніца ў Ваўкавыскім павеце (1679 г.)[365].

Першым мужам Алены быў гарадзенскі харужы ***Станіслаў Ісайкоўскі*** (?–1682 г.). Ён склаў свой тэстамент ў 1682 г., прасіў пахаваць яго ў Індурскім касцёле. У дакуменце былі зроблены запісы на розныя касцёлы Горадні, але езуіцкі не ўзгаданы[366]. С.Ісайкоўскі быў сынам смаленскага кашталяна ***Яна Ісайкоўскага*** (?–1662 г.) і другой жонкі Я.Агінскага. Я.Ісайкоўскі быў пахаваны ў Горадні 25 студзеня 1663 г.[367] Шлюб паміж С.Ісайкоўскім і А.Агінскай быў нетыповы, бо іх бацькі былі жанаты, а па кананічнаму праву іх дзеці лічыліся сваякамі. На такі шлюб патрабаваўся спецыяльны дазвол.

Дзядзька Станіслава ***Францыск Далмат Ісайкоўскі*** (?–1654 г.), сын Яна Дзмітрыевіча і Ганны Целятыцкай, займаў цэлы шэраг пасадаў: віленскі канонік у 1625 г.,

---

362 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.48. Арк.503–506. *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.51. Арк.1107–1108 адв.

363 *UWKL. WW*. S.162. *UCD WKL*. S.225. Uruski S. *Rodzina*. T.6. S.266.

364 Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1841. T.VII. S. 54–55. Rachuba A. *Ogiński Jan Jacek*.// PSB. T.23. Wrocław, Warszawa, Kraków, Gdańsk, 1978. S.613–614.

365 Kolendo-Korczakowa K. *Kościoł franciszkanów konwentualnych P.W.Niepokalanego Poczęcia Najswiętszej Panny Maryi w Lopienicy Wielkiej*.// Kościoły i klasztory rzymsko-katolickie dawnego województwa Nowogródzkiego. Red. M.Kałamajska-Saeed. Kraków, 2003. T.1. S.73–74, 86–88. Паводле рэвізіі Горадні ў 1680 г. валодаў пляцам на вул. Маставая, гл.: Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna*... S.92. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna*. S.174.

366 Мараш Я. *История экспансии католической церкви в Белоруссии в XVIII в*. Мн., 1974. С.120.

367 Chrapowicki J.A. *Diariusz. Cz.1: 1656–1664*. Oprac. T.Wasilewski. Warszawa, 1978. S.383.

каралеўскі сакратар, скарбовы пісар у 1627–1640 г., віленскі кусташ у 1632 г., духоўны рэферэндары ў 1641 г., смаленскі біскуп у 1649 г., гарадзенскі, троцкі, трабскі пробашч. Ён меў падтрымку ад канцлера ВКЛ А.С.Радзівіла[368].

Другім мужам Алены стаў чашнік ВКЛ ***Мікалай Тарло*** (?–1702 г.). Яны мелі трох сыноў: ***Мікалая***, ***Грыгорыя*** і ***Лявона***. Разам з другім мужам Алена прадала маёнтак Кайраны (Віленскае ваяводства), які запісаў ёй першы муж у 1684 г., за 25 000 злотых Яну Шрэтару і яго жонцы Кацярыне Дэскачоўне (1689 г.)[369].

Гісторыя роду князёў Агінскіх даволі багатая[370]. Іх палітычная, рэлігійная і культурная дзейнасць закранала як дзяржаўны, так і павятовы ўзровень. Але ў дадзеным выпадку ўвага звяртаецца намі на сюжэт, звязаны з Гарадзенскім паветам. Лёс А.Агінскай стаў звязаны з гэтай мясцовасцю праз шлюб з С.Ісайкоўскім. Гэта магло паўплываць на яе рашэнне фінансаваць выданне "*Збору цудаў*". Для рэлігійнага жыцця рэгіёна гэта стала значнай падзеяй. Там больш, што з каталіцкіх абразоў, якія меліся ў Горадні, толькі абраз Маці Божай Студэнцкай быў прызнаны цудатворным віленскім біскупам і камісіяй у складзе канцлера віленскай дыяцэзіі Казімера Вайшнаровіча і пробашча гарадзенскага кляштара Святой Брыгіты Станіслава Катоўскага.

***Ян Яцак Стэфан Агінскі***, ?–1684 г.
гетман польны ВКЛ,
мсціслаўскі і полацкі ваявода
х 1. Ганна Сямашка,
2. Яганна Тэадора Нарушэвічоўна

***Ян Ісайкоўскі***, ?–1662 г.
смаленскі кашталян
х Яганна Тэадора Нарушэвічоўна

***Алена Яганна*** х 1. ***Станіслаў Ісайкоўскі***, ?–1682 г. гарадзенскі харужы
2. Мікалай Тарло, ?–1702 г., чашнік ВКЛ

***Мікалай*** ***Грыгоры*** ***Лявон***

**Аляксандровічы.**

***Ян Уладзіслаў Аляксандровіч*** займаў пасаду гарадзенскага маршалка. Ён быў жанаты з ***Хрысцінай з Курчаў***. Яны заснавалі царкву ў гонар Найсвяцейшай Панны ў сваёй маёмасці Стубінец. Фундуш быў запісаны ў тэстаменце Яна Ўладзіслава ў 1644 г., але не быў выплачаны. Памёр ён у Навагарадку 7 лістапада 1644 г., а пахаваны – у гарадзенскім бернардзінскім касцёле[371]. У сям'і Яна Ўладзіслава і Хрысціны нарадзіліся ***Канстанты***, ***Станіслаў***, ***Яўфімія***, ***Апалонія*** і ***Марыяна***. Канстанты падзяліў рухомую маёмасць паміж сёстрамі ў 1664 г.[372]

К.Аляксандровіч займаў шэраг павятовых пасадаў: гарадзенскі маршалак, гарадзенскі земскі пісар, падсудак, а пасля суддзя[373]. Ён пацвердзіў бацькоўскую фундацыю і загадаў жонцы і дзецям ***Стэфану Яўстахію*** і ***Казімеру*** падтрымліваць яе[374]. Яго жонка згадваецца ў "*Зборы цудаў*" (1662 г.)[375]. Ён прызначыў 500 злотых

---

368 *UCD WKL*. S.211. Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.IV. S. 405. Wasilewski T. *Isajkowski Dołmat Franciszak*.// PSB. Wrocław, Warszawa, Kraków, 1962–1964. T.10. S.170.

369 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1 Спр.54 Арк.22–23 адв.

370 Wolff J. *Kniaziowie litewsko-ruscy*... S.288–327.

371 Паўлоўская Г. *Лацінскія пахавальныя інскрыпцыі XVII ст. ў Бернардынскім касцёле Горадні*.// Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI–XVIII ст.). Мат-лы навуковай канферэнцыі, Горадня, 18 лютага 2005 г.// Герольд Litherland. Горадня, 2006. № 17. С.43.

372 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.49, 1118 адв.

373 *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.186, 190. Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna*... S.272.

374 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.1118 адв.

375 *Sumariusz cudow i łask znakomitszych*... S.57.

гарадзенскаму дамініканскаму кляштару на адпраўленне штогадовай імшы за яго душу. Грошы дамініканам выдаваў яго сын – гарадзенскі падкаморы і маршалак ***Стэфан Яўстахі Аляксандровіч*** (1671 г.)[376].

***Станіслаў*** (?–да 1659 г.) быў жанаты з ***Зоф'яй Пачапоўскай***. Але да 1659 г. ён памёр, бо яго жонка ўжо была другі раз замужам за ***Андрэем Талочкам***. А ***Канстанты Аляксандровіч*** судзіўся з імі[377]. З іх дзяцей вядома пра дачку ***Марцыбэлу***, якая выйшла замуж за гарадзенскага земскага суддзю ***Крыштафа Янавіча Міцуту***. Яны разам былі згаданы ў лісце продажу маёмасці ў 1664 г.[378]

Гарадзенскі падкаморы і маршалак ***Стэфан Яўстахі Аляксандровіч*** (?–1700 г.) адыгрываў важную ролю ў палітычным жыцці Гарадзенскага павета[379]. Таксама не абышлі яго і звычайныя судовыя спрэчкі. На яго скардзіўся упіцкі падчашы Андрэй Грушчынскі. Гарадзенскі маршалак змовіўся з гарадзенскім лоўчым Якубам Эйсымонтам, які быў на той час прызнаны банітам, і незаконна набыў у Яна Пшаздзецкага і яго жонкі Ганны Карэцкай фальварак Ласосна. Я.Пшаздзецкі быў хворы на розум, недзеяздольны і не меў права распараджацца маёмасцю. Ён падпісаў дакумент і паставіў пячатку, сам не ведаючы пад якім дакументам. Фальварак належаў А.Грушчынскаму. Я.Эйсымонт набыў у Я.Пшаздзецкага Ласосна, а пасля прадаў яго С.Аляксандровічу. Набыўшы адну частку маёнтка С.Аляксандровіч стаў шкодзіць А.Грушчынскаму праз сваіх падданых на другой частцы, нават напаў на сына Грушчынскага Станіслава. У судзе справа была не вырашана з-за адсутнасці гарадзенскага маршалка, які знаходзіўся на сойме 1693 г. Але С.Аляксандровіч быў уведзены ў валоданне фальваркам у 1694 г. (гл.: Дадатак 1)[380].

Па прывілею Аўгуста II Саса С.Аляксандровіч і яго жонка атрымалі гарадзенскага вайтоўства грунты і вёскі Тарусы, Галавічы, Пышкі, Мёлы з перавозам на рацэ Нёман, якія былі аднятыя ад гарадской юрыдыкі і перададзены да Гарадзенскай Эканоміі неправавым чынам, стаў на рацэ Ласосна, які раней належаў Яну Шульцу, млыны (1699 г.). У дакуменце адзначалася, што спадчынным грунтам Аляксандровіча, што ў фальварку Чэхаўшчына, ад става на рацэ Ласосна на гарадскіх грунтах каля вёскі Тарусы залівала прыналежную тэрыторыю, чым наносіліся шкоды маршалку. Камісія гэта зафіксавала, і млын ад Ласосны Пшаздзечыны быў адняты. А два млыны на рацэ Ласосна Касцікоўскі і Сіканоўскі ў межах грунтоў Галавічоў былі пакінуты пад гарадской юрыдыкай[381].

***Стэфан Яўстахі*** ажаніўся з ***Тэкляй*** з роду ***Кердзеяў***. У іх сям'і нарадзіліся сын ***Ян*** і дочкі ***Канстанцыя***, ***Зоф'я***, ***Алена***, а імя чацвертай дачкі не вядома. Тэкля была пахавана ў бернардынскім касцёле ў Горадні, аб чым сведчыць умураваная ў сцяну шыльда[382]. Абодва былі згаданы ў "*Зборы цудаў*". Стэфану абраз дапамог, калі пад ім закульгавіў конь і ён паламаў нагу. Пасля звароту ён хутка ачуняў (1686 г.)[383]. Выява з гэтым цудам змешчана на сталі (лаве) ў гарадзенскім Фарным касцёле[384].

У другой палове XVII ст. Аляксандровічы былі далёка не апошнім шляхецкім родам у павеце. Пасаду маршалка трымаў ***Ян Уладзіслаў***, а пасля яна перайшла сыну і ўнуку. Тут добра прасочваецца перайманне пасады. Сямейна-шлюбныя дачыненні звязвалі іх з Курчамі, Міцутамі, Пачапоўскімі, Кердзеямі і інш., якія былі прыкладна аднаго з імі маёмаснага ўзроўню. Іх прыхільнасць да каталіцтва адлюстравалася не толькі ў "*Зборы цудаў*", але і фундацыях.

---

[376] *Аддзел рукапісаў БЛАН*. Ф.273. Спр.109.
[377] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.111–114 адв.
[378] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.138.
[379] Piwarski K. *Aleksandrowicz Stefan Eustachy*.// PSB. Kraków, 1935. T.1. S.71.
[380] *Архіў Гарадзенскага Францішканскага касцёла* (далей – *АГФК*). Ф.1. Воп.1. Спр.24, 25.
[381] *Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей* (далей – *ГДГАМ*). КП № 15111/7.
[382] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.II. S.23; Lipsk, 1840. T.V. S.80. Piwarski K. *Aleksandrowicz Stefan Eustachy*. S.71. Амелька С. *Геральдычныя, генеалагічныя і эпіграфічныя крыніцы Беларусі: Горадня (працяг)*.// Герольд Litherland. 2001. № 3–4. С.120–121.
[383] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.75.
[384] Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.96.

*Дадатак 1:*

**Увядзенне ў валоданне маёнткам Ласосна**
**гарадзенскага маршалка Стэфана Аляксандровіча.**
**10 сакавіка 1694 г.**

Дакумент захоўваецца:
*АГФК. Ф.1. Воп. 1. Спр. 26.*
Польская мова. Скароты і прапушчаныя літары пададзены ў круглых дужках, нумарацыя аркушоў – у квадратных. Лацінізмы вылучаны курсівам. Вынасныя літары захаваны.

[арк.1]

Tomasz Władysław Łazowy Woyski [i] Sędzia, Jan Kazimierz Tyminski Skarbnik [i] Pisarz Urzędnicy Grodzcy Powiatu Grodzienskie(g)$^{o}$ czyniemy wiadomo tym naszym podawczym urzędowym listem. Jz w roku teraznieyszym 1694 msca Marca 10[385] stosuiącsię *admentem* Dekretu Grodzkiego Grodzienskie(g)$^{o}$[386] *ex personali* miedzy Wielmoznym J(ego)m(iłoscią) Panem Stephanem Eustachim Alexandrowiczem Marszalkiem Grodzienskim a J(ego)m(iłoscią) Panem Jakubem Eysimontem Łowczym Grodzienskim a na J(ego)m(iłosci) Panu Kolanko$^{w}$skim względem starszenstwa małżęskiego a Pani małzonce J(ey)m(iłosci) *primi voti* Przezdzieckiey Kolankowskiey iako actorce GE (?) *victorie in contumaciamo* trzymane(g)$^{o}$[387] *submissij* wyżmianowane(g)$^{o}$ Pana Eysimonta przybywszy do maiętnosci Łososna przez Jchmm Panow Przezdzieckich małzonkow wiecznoscią wprzod J(ego)m(iłosci) Panu Eysimontowi przedaney y przyznaney y na Wielmozne(g)$^{o}$ J(ego)m(iłosc) Pana Marszałka Grodzie[n]skiego prawem słusznym wlaney z dwiema Jenerałami Bazylim Kuleszewskim y Samuelem Jerzym Łuckiewiczem y pięcią strony szłachty PP Jana y Pawła Pyrskich Jerze(g)$^{o}$ y Piotra Dymskich y P(ana) Marcina Kulbackie(g)$^{o}$ pomienioną maiętnosc Łososnę w Powiece Grodzienskim lezącą według zapisow przedaznych y wlekowych y *progressu* prawne(g)$^{o}$ *cum attinensys* Wielmoznemu J(ego)m(iłosci) Panu Marszalkowi Grodzienskiemu *in realem* podalismy *possessionem nemine contradicente* y spisanie budynkow na osobliwym regestrze wyrazili. Pisan w Łososnie. Roku msca y dnia *ut supra*.

Thomasz Władysław Łazowy Woyski y Sedzia Grodzky Grodz(ie)n(sk)y
Jan Kazimierz Tyminski Skarbnik [i] Pisarz Grodzki Grodzienski
Samuel Jerzy Łuckiewicz Generał JKM Powiatu Grodzienskigo
Bazyli Kuleszewski Generał JKM Powiatu Grodzienskigo

[арк.1 адв.]

Podanie urzędowę Łososny W(ielmoznem)u J(ego) P(an)u Eustachiemu Alexandrowiczowi Marszalkowi Grodzienskiemu.

1694 Mca Marca 10

Zjeżdzali dla podania w posessyą tey maiętnosci W Jchm PP. Thomasz Łazowy Woyski y Sedzia, Jan K(azi)mierz Tyminski Skarbnik y Pisarz urzędnicy Grodzcy Powiatu Grodzienskiego z stroną szlachty.

***Ян Уладзіслаў***,
?–1644 г., гарадзенскі маршалак
х Крысціна Курч,
?–да 1666 г.

| ***Канстанты*** | ***Станіслаў*** | ***Яўфімія*** | ***Апалонія*** | ***Марыяна*** |
|---|---|---|---|---|
| ?–да 1671 г. | ?–да 1659 г. | | | |

[385] Дата падкрэслена.
[386] Выказванне падкрэслена.
[387] Апошнія літары выпраўлены.

гарадзенскі маршалак, гарадзенскі земскі суддзя x NN — x Зоф'я Пачапоўская

***Стэфан Яўстахі*** ?–1700 г. гарадзенскі падкаморы, маршалак x Тэкля Кердзееўна

***Казімер***

***Марцыбэла*** x Крыштаф Янавіч Міцута, гарадзенскі земскі суддзя

***Ян*** ***Канстанцыя*** ***Зоф'я*** ***Алена*** ***NN***

**Буткевічы.**

У дакументах сустракаецца два варыянта напісання прозвішча: ***Будкевіч*** і ***Буткевіч***. ***Крыштаф Буткевіч*** склаў тэстамент 16 студзеня 1662 г., а праз тры гады ён быў актыкаваны ў Гарадзенскім земскім судзе. К.Буткевіч напісаў дакумент ўжо ў сталым узросце. Як каталік прасіў пахаваць яго ў Францішканскім касцёле ў Горадні. Яго тры сыны: ***Мікалай***, ***Абрам*** і ***Юры*** сталі спадчыннікамі Горніцы і Каменкі (Гарадзенскі павет). Адзначалася, што дачка ***Крысціна*** (?– да 1662 г.) атрымала пасаг, калі выходзіла замуж за ***Якуба Занеўскага***. Таму бацькоўскія абавязкі адносна яе былі выкананы. У якасці сведкаў у дакуменце выступілі: гарадзенскі земскі суддзя Канстанты Аляксандровіч, Марцін Чарніцкі і гарадзенскі земскі пісар Тамаш Валовіч[388].

У дзённіку Я.А.Храпавіцкага згадваецца ***Юры Буткевіч*** на пасадзе падпіска ў 1662 г.[389] Ён быў жанаты з ***Агнэсай Казінскай***. Яны прадалі Горніцу Яну Казімеру Кердзею і яго жонцы Ганне Дароце Грыбоўскай (1671 г.)[390]. Агнэса ў 1664 г. захварэла на ліхаманку. Юры зрабіў паломніцтва за яе здароўе да абраза Маці Божай Студэнцкай і аддаў яму воту, што спрыяла хуткаму выздараўленню жонкі[391].

Асноўная крыніца па гісторыі гэтай сям'і – гэта тэстамент ***Крыштафа Буткевіча***. Ён дае магчымасць уявіць склад сям'і і яе становішча ў грамадстве. Буткевічы не вызначыліся пасадамі ці вялікай маёмасцю. Толькі Юры згадваецца яе падпісак. Іх шлюбныя стратэгіі адпавядалі іх сацыяльнаму статусу.

***Крыштаф***, ?–1665 г.

***Мікалай*** ***Адам*** ***Юры*** x Агнэса Казінская ***Крысціна*** x Якуб Занеўскі

**Бутлеры.**

У XVII ст. ***Бутлеры*** аселі ў Гарадзенскім павеце. Каралеўскі падкаморы ***Вільгельм Готард Бутлер*** (1598–12.10.1661 г.) быў сынам ***Тэадора Бутлера*** і ***Дароты Стрэйторст***. Ён атрымаў Гарадзенскае староства ў 1661 г.[392] Памёр у Новым Двары 12 кастрычніка 1661 г. Яго цела было выстаўлена ў гарадзенскім бернардзінскім касцёле, а пахавана 19 снежня[393]. Яго жонкай была ***Канстанцыя Вадынская***[394]. На лаве ёсць выява

[388] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.655–655 адв.
[389] Chrapowicki J.A. *Diariusz...* S.366.
[390] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.48. Арк.369–371 адв.
[391] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.17.
[392] Czapliński W. *Butler Gotard Wilhelm.*// PSB. Kraków, 1937. T.3. S.150–151.
[393] Chrapowicki J.A. *Diariusz...* S.311, 312, 320.
[394] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.II. S.366.

цуда вылячэння Канстанцыі[395]. Яе сястра ***Аляксандра Вадынская*** была абатысай кляштара Святой Брыгіты ў Горадні (1663–1682 г.). Вадынскія былі звязаны сваяцкімі сувязямі з фундатарамі брыгіцкага кляштара Весялоўскімі. К.Бутлерава апякавалася манашкамі кляштара. У перыяд вайны 1654–1667 г. яна іх вывезла ў Гданьск, ратуючы ад небяспекі[396].

Пасля смерці мужа ***Канстанцыя*** шмат часу праводзіла ў Горадні, дапамагаючы хворым і кляштару. К.Вадынская дала грошы на цэрымонію ўрачыстага ўнясення ў касцёл абраза Маці Божай Студэнцкай, якая адбылася 3 жніўня 1664 г. Калі яна хварэла на ліхаманку ў 1662 г., то дзякую звароту да гэтага цудатворнага абраза вылечылася. З таго часу Канстанцыя давала розныя дары на кангрэгацкі алтар[397].

Некаторыя звесткі пра жыццё Канстанцыі ўтрымліваюцца ў дзённіку Я.А.Храпавіцкага. Ён адзначыў, што вёў перапіску з сужэнцамі Бутлерамі, часта іх наведваў. Канстанцыя была ў рэчышчы палітычных падзеяў і была добра знаёма з тагачаснай палітычнай элітай ВКЛ. Вельмі негатыўна выказаўся Я.А.Храпавіцкі аб лекары Канстанцыі Бутлеравай, бо з-за яго лекаў стан здароўя яго жонкі значна пагоршыўся (1668 г.)[398].

Бутлерава набыла два пляцы на Кургане ў Люцыі Краснеўскай, удавы па Яну Зеляпугу, а таксама ў гарадзенскага бурмістра Войцаха Пятроўскага (1675 г.)[399]. У Горадні на вуліцы Азёрскай К.Бутлерава мела два забудаваныя пляцы, адзін з якіх знаходзіўся побач з брыгіцкімі пляцамі (1680 г.)[400]. Паводле падымнага рэестру 1690 г. сям'я Бутлераў мела фальварак з юрыдыкай у Горадні[401].

Канстанцыя была пахавана ў гарадзенскім брыгіцкім касцёле[402]. Пасля смерці маці яе сыны ***Ян*** і ***Аляксандр*** сплачвалі яе пазыкі. Колькасць дзяцей Канстанцыі і Вільгельма падаецца ў літаратуры па-living рознаму. Уладзіслаў Чаплінскі налічвае толькі трох сыноў: ***Яна*** (?–1700 г.), ***Марка*** (?–1690 г.) і ***Тэадора***[403].

Больш поўная інфармацыя ўтрымліваецца ў гербоўніку С.Урускага. Паводле яго звестак, у Бутлераў было пяць дзяцей. Дачка ***Кацярына*** выйшла замуж першы раз за ***Эрнэста Гротуса***, а другі – за інфлянскага ваяводу ***Фрыдэрыка Фалькераба***. Прэнскі староста, драгічынскі падкаморы і староста ***Марк*** быў жанаты з ***Барбарай Слупецкай***. ***Тэадор*** стаў варшаўскім канонікам. Драгічынскі староста, каралеўскі палкоўнік ***Ян*** узяў у жонкі ***Багумілу Гарайскую***. Толькі растоцкі і прэнскі староста ***Аляксандр*** пакінуў пасля сябе сына ***Антонія Марка***, які нарадзіўся ў шлюбе з ***Канстанцыяй Красоўскай***[404].

Прысутнасць сям'і Бутлераў значна паўплывала на палітычнае жыццё Горадні і павятовай шляхты. Яны займалі высокі сацыяльны статус, кантактавалі з дзяржаўнымі дзеячамі ВКЛ і Польшчы. Мецэнацтвам займалася Канстанцыя. Яна падтрымлівала брыгітак і езуітаў у Горадні. Акрамя таго Канстанцыя набыла маёмасць у горадзе, бо асноўны час праводзіла тут.




[395] Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.94–95.
[396] *Borkowska M. Miscellanea Brygitańskie: Grodno…* S.148–149.
[397] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.11, 55.
[398] Chrapowicki J.A. *Diariusz…* S.259–266, 270, 278, 281, 285, 288, 369, 385–387, 437. *Dyariusz wojewody witebskiego Jana Antoniego Chrapowickiego…* S.2, 15, 26, 30–32, 46, 183, 210.
[399] *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.294–295, 297.
[400] Брэгер Г. *Дакументы сведчаць…* С.91.
[401] *Metryka Litewska. Rejestry…* S.94.
[402] Jodkowski J. *Grodno*. Wilno, 1923. S.97.
[403] Czapliński W. *Butler Gotard Wilhelm*. S.150–151.
[404] Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1902. T.2. S.95–96.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ***Марк***, ?–1690 г.<br>прэнскі староста<br>х Барбара<br>Слупецкая | ***Тэадор***<br>варшаўскі<br>канонік | ***Ян***, ?–1700 г.<br>драгічынскі<br>староста<br>х Багуміла<br>Гарайская | ***Аляксандр***<br>растоцкі<br>староста<br>х Канстанцыя<br>Красоўская | ***Кацярына***<br>х 1. Эрнэст Гротус<br>2. Фрыдэрык<br>Фалькераб,<br>інфлянцкі<br>ваявода<br>***Антоні Марк***<br>бранскі староста |

**Валовічы.**

Прадстаўнікі роду Валовічаў адыгралі важную ў ролю ў сацыяльным, палітычным, эканамічным, культурным і рэлігійным жыцці Гарадзеншчыны. Самыя ранейшыя згадкі аб іх адносяцца да XV ст. ***Грынька Валовіч*** атрымаў ад вялікага князя літоўскага 4 чалавекі ў Скраблічыках, 6 чалавек у Гарадзенскай валасці, пустыя землі Мангалава і Талемкава. Атрымаў ён іх прыкладна з 1451 па 1470 г. Ён быў уключаны ў спіс асобаў, якія атрымалі наданні ад гаспадара, але ў большасці выпадкаў пазначаны індыкт і дакладную дату часам высветліць немагчыма. 4 чалавекі Г.Валовічу былі дадзены ў перыяд канцлерства Міхаіла Кежгайлавіча[405]. Адначасова ў гэты час апошні быў яшчэ смаленскім наместнікам (1451–1457 г.)[406]. Таму гэтае наданне можна датаваць гэтым перыядам.

У судовай справе паміж гарадзенскім плябанам касцёла Ўнебаўзяцця Маці Божай у Горадні (Фара Вітаўта) Мацеем і перавальскім наместнікам ***Грынькам Ходкавічам*** з-за дзвух падданых, было ўзгадана пра наданне 6 людзей дзеду апошняга – Г.Валовічу (1503 г.). Падданыя былі прысуджаны касцёлу[407].

***Грынька Ходкавіч*** зрабіў фундацыйны запіс у Евангеллі на карысць царквы Святых Барыса і Глеба (1480 г.). Але дзеці пасля смерці бацькі не выдавалі прызначаныя муку, солад і інш. Таму мітрапаліт Макарый вымушаны быў нагадаць нашчадкам выканаць загад бацькі (1492 г.). Пасля смерці Богуша Багавіцінавіча дзеці Г.Валовіча захапілі кціарства над манастыром і царквой Святых Барыса і Глеба і нанеслі ім вялікія шкоды. У 1546 г. яны былі вызвалены ад іх апекі[408].

Яго сыны ***Багдан***, ***Іван***, ***Лукаш***, ***Марк***, ***Грыгоры***, ***Міхаіл***, ***Павел Грынькавічы Валовічы*** па волі свайго бацькі Грынька Ходкавіча надалі фундацыю царкве Святога Спаса ў іх маёнтку Баля і адзначылі, што кожныя тры гады на Прачысценскую царкву ў Горадні будуць даваць дзесяціну з маёнтка Русота (1526 г.)[409]. Бальская царква падтрымлівалася Валовічамі прыкладна да сярэдзіны XVII ст. пакуль жонка ***Яўстахія Валовіча*** не спустошыла яе. Гэтая царква ўвесь час згадвалася ў тэстаментах гарадзенскага канюшага ***Багдана Валовіча*** (1551 г.), маршалка ВКЛ ***Івана Валовіча*** (1580 г.) і іншых. Ёй былі вылучаны грошы на заснаванне шпіталя ў 1551 г.[410]

Г.Ходкавіч быў жанаты двойчы. Імя першай жонкі не выяўлена. У першым шлюбе нарадзіліся ***Багдан*** (?–1539 г.), ***Іван***, ***Лукаш***, ***Марк***, ***Грыгоры***, ***Міхаіл***, ***Павел*** і сёстры. Дзеці ў дакументах пісаліся як ***Грынькавічы***. Другі раз ён ажаніўся з ***Надзеяй Васілеўнай***. У другім шлюбе нарадзілася дзве дачкі. Надзея скардзілася на пасынкаў, што яны забралі ўсе рухомыя рэчы і нічога не даюць на ўтрыманне яе дачок (1513 г.). Браты адказалі, што падзел маёмасці адбыўся і дзяўчыны атрымалі рухомыя рэчы. На гэта далі свой дакумент.

---

405 *Lietuvos Metrika*. Vilnius, 1998. Kn.3 (1440–1498). P.28, 40.

406 *UCD WKL*. S.51. *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie XIV–XVIII wiek*. Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk. Warszawa, 2003. T.IV. S.50.

407 *ЛДГА*. Ф.694. Воп.1. Спр.3269. Арк.1, 2.

408 *НГАБ у Горадні*. Ф.128. Воп.1. Спр.1. Арк.1. *Археографический сборник документов относящихся к истории Северо-западной Руси* (далей – *АСЗР*). Вильна, 1870. Т.9. С.413, 424–426.

409 *АВАК*. Акты Гродненского гродского суда. Вильна, 1874. Т.7. С.6–10.

410 *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.131–135.

Аднак, па скарзе мачахі было прысуджана братам сплачваць 70 копаў літоўскіх грошаў на ўтрыманне сясцёр, пакуль яны не выйдуць замуж, а пасля даць ім пасаг[411].

Удава Г.Ходкавіча фігуравала і ў іншых дакументах. Жыгімонт Аўгуст на падставе скаргі гарадзенскага архімандрыта Іоны забараніў удаве Грынкі Валовіча і каралеўскаму дваранін Мікалаю Якубавічу Кунцэвічу чыніць крыўды манастыру: забіраць зямлю, вырубаць гаі і дубровы (1546 г.)[412].

Род ***Грынькі Ходкавіча*** быў даволі разгалінаваны. На сённяшні дзень ён маладаследаваны, таму варта прывесці кароткія звесткі па яго сынам. Але галіна, якая нас цікавіць, пайшла па ***Івану*** і па ёй намі сабрана найбольш інфармацыі. Багдану Грынькавічу пацвердзілі трыманне пасады гарадзенскага канюшага пажыццёва (1509 г.). Ён атрымаў пяць пустых зямель у сяле Путрошын (Гарадзенскі павет) (1508 г.). Яго жонкай была ***Таміла***, дачка Міцуты і Марыны. Яе маці і брат Пётр запісалі Багдану двор на Русоце з прыналежнымі тэрыторыямі да 1509 г.[413] Багдан быў прызначаны Бонай Сфорцай гарадзенскім спраўцай, згадваўся на пасадзе ў 1538 г.[414] У яго быў сын ***Астафей***, які стаў пісарам ВКЛ, медніцкім дзяржаўцай, гараднічым гарадзенскім[415].

***Лукаш*** займаў пасаду гарадзенскага ключніка[416]. Вядома пра яго сына ***Андрэя***, які нарадзіўся ў шлюбе з удавой Юрыя Катовіча. У першым шлюбе ў яе былі сыны Багдан, Януш, Васіль і Павел. Апошняму Андрэй разам з жонкай Аўдоццяй Іванаўнай Кунцэўнай падараваў Новы двор на рацэ Ожа (Гожа), які атрымаў ад бацькі (1555 г.)[417]. Свой маёнтак Русота Андрэй заставіў Андрэю Няпрэцкаму (1556 г.)[418].

***Марк*** згадваецца як перстунскі дзяржаўца (1541 г.)[419], пры адсутнасці суддзяў вёў судовыя справы ў гарадзенскім земскім судзе (1557 г.)[420]. Яго сын ***Юры*** выступаў у ролі сведкі ў 1558 г. і быў адзначаны як карэнтагаўскі староста[421]. Другі сын ***Сямён Валовіч*** трымаў манастыр Святых Барыса і Глеба ў Горадні прыкладна з 1560 г. па 1568 г. У 1568 г. па прывілею Жыгімонта Аўгуста манастыр з усімі ўладаннямі (сяло Чашчычы, царква і маёмасць ў ёй) перададзены гарадзенскаму падкамораму Паўлу Юр'евічу Катовічу. Ён трымаў манастыр да 1580 г. А пасля яго там зноў уладарыў С.Валовіч. Ён быў жывы яшчэ ў 1578 г. У яго была дарослая дачка ***Марына***, якая выйшла замуж за Грыгорыя Эйсымонта[422]. Трэці сын ***Грыгоры*** быў жанаты з Ганнай Багданаўнай Агінскай. Яна падаравала іх сыну ***Ярашу (Гераніму)*** пазыку, якую ёй быў вінен ***Фёдар Валовіч*** (1579 г.)[423]. Сын пасля згадваецца як гарадзенскі земскі падсудак (1593 г.)[424].

***Міхаіл*** фігураваў у дакументах як каралеўскі дваранін (1547, 1555 г.). Ён ажаніўся на дачцэ Васіля Варатынца. Аб шлюбе яны змовіліся яшчэ да смерці яе бацькі. Замуж выдала дачку маці Мар'я. З-за таго, што ў іх болей не было дзяцей, Міхаіл атрымаў дазвол трымаць па цесцю людзей у Пераломскім і Ожскім паветах, пустыя землі Буцеўшчына і Мацеўшчына (Гарадзенскі павет). Жонка Васіля Варатынца пакідалася на "*ўдоўім*

---

[411] *РИБ*. Литовская метрика. Т.1. Петербург, 1903. Т.20. С.810–811.
[412] *НГАБ у Горадні*. Ф.128. Воп.1. Спр.3. Арк. 27. *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.120–121.
[413] *Lietuvos Metrika*. Vilnius, 1997. Kn.4 (1522–1530). P.260, 275, 320–321, 331.
[414] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890. Т.17. С.29, 96.
[415] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.70, 77.
[416] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890. Т.17. С.55–58.
[417] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.60, 64, 75–77. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna*. S.66.
[418] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.190–191.
[419] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890. Т.17. С.280.
[420] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.251–258.
[421] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.294.
[422] *НГАБ у Горадні*. Ф.128. Воп.1. Спр.3. Арк.26–27. *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.7. Арк.247–248. *АСЗР*. Вильна, 1870. Т.9. С.428–429. *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.125–126. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna*. S.65–66.
[423] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.7. Арк.455–456 адв.
[424] *ЛДГА*.Ф.694. Воп.1. Спр.4617. Арк.5.

*стальцы*". З дакументаў вядома пра іх сына ***Барыса***, на якога скардзіўся поп царквы Святога Спаса ў Балі Барыс за пабоі і рабаванне рэчаў (1555 г.)[425].

Троцкі канюшы ***Іван*** фігураваў у дакументах як ***Грынькавіч*** (1540 г.) і як Валовіч (1538 г.)[426]. Ён быў жанаты з ***Філіляй Паўлаўнай***. На яе скардзіўся жамойцкі біскуп Венцлаў з-за нападу на яго маёнтак Баля (Гарадзенскі павет), які належаў да Фары Вітаўта, і вываз адтуль рэчаў. Пры вывучэнні абставінаў атрымалася, што Філія прыехала з віжом ў двор і наезду не было. Аднак, шкоды І.Грынькавіч павінен быў выплаціць (1540 г.)[427].

Вядома, што ў іх быў сын ***Іван*** (?–1582 г.). Ён займаў шэраг пасадаў: маршалак ВКЛ, гарадзенскі маршалак[428]. І.Валовіч разам разам з Іванам Карпам і Іванам Трызнай сустракаў маскоўскіх паслоў у Горадні ў 1567 г.[429] Ён быў жанаты двойчы. Першай яго жонкай была ***Марына***, дачка гарадзенскага падкаморыя Івана Фёдаравіча Мялешкі і Тамілы Сапоцькаўны. Перад тым як выдаць замуж Марыну за Івана Валовіча яе бацька падараваў будучаму зяцю 1/3 частку маёнтка Кузніца, а палову заставіў у 500 копах літоўскіх грошаў. За ўнесены пасаг І.Валовіч запісаў на маёнтку Кузніца ёй 1000 копаў літоўскіх грошаў, а на маёнтку Баля яшчэ 250 копаў. У сваім тэстаменце яе маці Таміла сваё вена 600 копаў, якое запісаў ёй муж на маёнтку Горніца, падаравала дочкам Настассі, Кацярыне і Марыне, кожнай па 200 копаў. Марына за добрае стаўленне мужа да сябе запісала яму грошы на Кузніцы, Балі і Горніцы (1558 г.)[430]. У іх нарадзіўся сын ***Яраш*** (?–1643 г.).

Другі раз І.Валовіч ажаніўся з ***Ганнай Копцеўнай***. Ён запісаў ёй вена спачатку на маёнтку Мялешкаўскім, а пасля перапісаў на Балі (1571 г.). У гэтым жа годзе І.Валовіч падараваў жонцы рухомыя рэчы[431]. Свой тэстамент яна склала ў 1607 г.[432] Сыны ***Яўстахі*** (1572–1630 г.), ***Павел*** (?–1630 г.), ***Андрэй*** (?–каля 1614 г.) нарадзіліся ў другім шлюбе.

Усе сыны гарадзенскага маршалка змянілі веравызнанне і сталі каталікамі[433]. Яны зрабілі вельмі добрую палітычную кар'еру. ***Андрэй***, ***Яўстахі*** і ***Яраш*** былі на службе ў Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі[434]. Андрэй звязаў лёс з Жамойцкім староствам, быў там падстаростай (1595–1609 г.), земскім суддзёй (1611 г.)[435]. Яўстахі зрабіў кар'еру як каталіцкі дзеяч, дасягнуўшы пасады віленскага біскупа, на якой вылучыўся дбаннем аб развіцці каталіцтва[436]. ***Павел*** (?–1630 г.) займаў пасады гарадзенскага гараднічага, падкаморыя (1600 г.) і старосты (1615 г.), дворнага падскарбія (1619 г.)[437]. Ён быў у складзе пасольства ў Рым да Папы ў 1598 г.[438]

***Яраш Валовіч*** вызначыўся актыўнай грамадскай, палітычнай і рэлігійнай дзейнасцю: суправаджаў Жыгімонта III Вазу ў Швецыю, выдаткоўваў грошы на патрэбы

---

[425] *Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском, с присовокуплением грамот и привилей на входы в пущи и на земли* (далей – *РППЗ*). Вильна, 1867. С.181–182. *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.51, 72.

[426] *Lietuvos Metrika*. Vilnius, 1995. Kn.6 (1528–1547) P.150. *Lietuvos Metrika*. Vilnius, 2003. Kn.10 (1540–1541). P.57–58.

[427] *ЛДГА*. Ф.694. Воп.1. Спр.3269. Арк.5, 6. *Lietuvos Metrika*. Kn.10. P.57–58.

[428] *UCD WKL*. S.250.

[429] Орловский Е. *Гродненская старина*. Гродна, 1910. Ч.1. С.75.

[430] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.352–353.

[431] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.6. Арк.721–733.

[432] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.135.

[433] Kuty D. *Etapy budowania pobernardyńskiego kościoła w Grodnie*.// Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI–XVIII w. Red. J.Lileyko. Lublin, 2000. S.399. Przyałgowski W. *Żywoty biskupów wileńskich*. Petersburg, 1860. T.2. S.47.

[434] Kempa T. *Urzędnicy i klienci Mikołaja Krzysztofa Radziwiłła Sierotki*.// Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia historica. Poznań, 2003. T.9. S.198.

[435] *UCD WKL*. S.250.

[436] Przyałgowski W. *Żywoty biskupów*… T.2. S.72–94.

[437] *UCD WKL*. S.250.

[438] *AGAD*. Dz.V. Sygn.17957.

Айчыны, засноўваў касцёлы і, нават, пабудаваў мост праз Нёман[439]. Яго кар'ера таксама была яскравая: надворны падскарбі (1600 г.), паюрскі цівун (1600 г.), падскарбі ВКЛ (1606 г.), падканцлер ВКЛ (1618 г.), жамойцкі староста (1619 г.)[440]. Ён быў жанаты з каталічкай ***Гальшкай Гаслаўскай*** (?–1635 г.). У іх нарадзілася двое дзяцей. Сын ***Станіслаў*** памёр у маладым узросце, а дачка ***Тэкля*** выйшла замуж за сына Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, маршалка ВКЛ Аляксандра Людвіка (1594–1654 г.)[441].

***Яраш Валовіч*** займаўся фундатарскай дзейнасцю. Ён пабудаваў у сваім маёнтку Залессе касцёл і зрабіў яго цэнтрам парафіі. Па просьбе сваёй жонкі Гальшкі Гаслаўскай і дачкі Тэклі, са згоды брата віленскага біскупа ***Яўстахія Валовіча*** і дазволу Жыгімонта III Вазы ён перанёс свой фундуш Залескай плябаніі гарадзенскім бернардзінкам маёнтак Залессе з 24 падданымі для ўтрымання свецкага ксяндза ці ксяндза-манаха (1618 г.). Апошні павінен быў адпраўляць імшы за фундатараў па два разы ў тыдзень, а за парафіян – кожны тыдзень і па святам. Бернардынкі павінны былі прымаць без пасагу да сябе ў кляштар тых паненак, якіх ім парэкамендуюць фундатары[442].

Фундацыйны запіс Прачысценскай царкве ў Горадні быў зроблены Я.Валовічам 3 кастрычніка 1626 г. Прычынай для напісання дакумента стала пахаванне ў царкве яго маці Марыны Мялешкаўны ў прытворы, перад парогам каля вялікіх царкоўных варот. Ён падараваў пляцы з пабудовамі, дзе жыло 16 мяшчанаў, але пасля эпідэміі 4 ці 5 з іх памерла. Яны знаходзіліся за царквой Святога Крыжа (Чэснахрэсцкая) над Нёманам на Падоле ў Горадні. На гравюры Тамаша Макоўскага добра бачна як шчыльна забудованы пляцы перад царквой. Раней яны былі падараваны бернардынам дзедам Я.Валовіча па мацярынскай лініі гарадзенскім падкаморыям Іванам Мялешкай. Але ім нельга было трымаць нерухомасць, таму Я.Валовіч выкупіў пляцы. Як каталік жамойцкі староста доўга вагаўся ці запісваць гэтыя пляцы Прачысценскай царкве. Пакуль царква была праваслаўная Я.Валовіч не хацеў рабіць фундацыйны запіс але, калі яна стала уніяцкай, то гэта змяніла яго стаўленне, бо унія падпарадкоўвалася Рыму. Умовай фундацыі стала абедня ці літургія штотыдзень за ўспамін душы М.Мялешкаўны (1626 г.)[443].

Менавіта Валовічы валодалі цудатворным абразам Маці Божай Студэнцкай, які зараз знаходзіцца ў гарадзенскім касцёле Святога Францыска Ксаверыя (Фарным). Аб гэтым сведчыць надпіс на адваротным баку, які быў выкрыты Ўладзімерам Кіслым пад час рэстаўрацыі абраза на пачатку жніўня 2005 г. На адваротным боку на лацінскай мове напісана: "*Imago Wollowiczana Padva (Paula?) M. Studiosa*" – "*Абраз Валовіча Падуанскага студэнта*". Першыя два словы захаваліся вельмі добра і дакладна чытаюцца. Яны змешчаны на адным радку. На другім – наступныя два словы, але не ўсе літары добра бачны. Прыведзены варыянт прачытання "*Падуанскага студэнта*" з'яўляецца прыкладным. Без дакладнай экспертызы надпіс цяжка расчытаць і правесці датаванне. Гэты даволі рэдкі выпадак, калі фіксуецца ўладальнік. Але надпіс не дазваляе дакладна высветліць, хто з гэтага роду валодаў іконай, і хто з іх мог яе прывезці з Рыму.

Яшчэ адная лінія Валовічаў пайшла па ***Паўлу***. Ён быў жанаты з ***Канстанцыяй Хадкевічаўнай***, дачкой віленскага кашталяна Геранімa Хадкевіча і Ганны Шэметаўны[444]. У іх нарадзіўся сын ***Яўстахі Казімер***. Ён займаў пасады падстолія (1656 г.) і стольніка (1658 г.) ВКЛ[445]. Я.Валовіч атрымаў у спадчыну ад жамойцкага старосты ***Яраша Валовіча***

---

439 Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1842. T.9. S.416–417.
440 *UCD WKL*. S.250.
441 Сліж Н. *Сямейнае і штодзённае жыццё Гальшкі Гаслаўскай*.// Леў Сапега (1557–1633 г.) і яго час. Зб. навук. артыкулаў. Горадня, 2007. С.270–277.
442 *ЛДГА*. Ф.694. Воп.1. Спр.3985. Арк.13 адв. Pabin A. *Grodno*.// Klasztory bernardzińskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria Zebrzydowska, 1985. S.509–510.
443 *НГАБ у Горадні*. Ф.1475. Воп.1. Спр.2. Арк.72–73. *АВАК*. Акты Гродненского гродского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.52–54. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna*. S.118.
444 Glinka J. *Ród Klausucia w wiekach XIII–XVI. Ze studiów nad kształtowaniem się i różnicowaniem bojarstwa litewskiego*.// Studia Źródłoznawcze. 1960. T.5. S.36.
445 *UCD WKL*. S.250.

камяніцу каля Рынку ў Горадні (1640 г.). Гэтую маёмасць набыў у яго канцлер ВКЛ Альбрэхт Станіслаў Радзівіл (1655 г.)[446]. Свой тэстамент ***Яўстахі*** склаў у вайсковым абозе пад Вільняй 20 кастрычніка 1658 г., а памёр ён у лістападзе ці снежні гэтага года[447]. Як каталік ён прасіў жонку ***Барбару Сапяжанку***, каб яна пахавала яго цела ў Валавічоўскай капліцы пры катэдральным касцёле ў Вільні, якая была фундавана яго дзядзькам віленскім біскупам Яўстахіям Валовічам. А таксама яна павінна была штогод выплачваць грошы касцёлам у Вільні і Горадні. Жонка прызначалася асноўнай апякункай дзецям і маёмасці. Дапамагаць жонцы ў апякунскай справе Я.Валовіч папрасіў караля Рэчы Паспалітай Яна Казімера, віленскага ваяводу і гетмана ВКЛ Паўла Сапегу (?–1665 г.), жамойцкага старосту Юрыя Глябовіча (?–1669 г.), канцлера ВКЛ Крыштафа Паца (?–1684 г.), падканцлера ВКЛ Аляксандра Нарушэвіча (?–1668 г.), польнага пісара ВКЛ Аляксандра Гілярыя Палубенскага (?–1679 г.). У дакуменце згаданы дзеці: ***Ян Павел*** (15.09.1649–?), ***Аляксандр Геранім*** (04.06.1653–?), ***Ганна*** і ***Тэкля***. У спадчыну дзецям засталіся маёнткі ў Гарадзенскім павеце: Паўловічы, Баля, Галынка; камяніцы ў Вільні, пляцы ў Горадні[448].

Барбара Сапяжанка (?–да 1676 г.), калі хварэла на ліхаманку, звярнулася да цудатворнага абраза Маці Божай Студэнцкай у Горадні ў 1662 г.[449] Пад час хваробы яна магла знаходзіцца ў любым з маёнткаў каля Горадні, таму ў такім выпадку яе зварот да Маці Божай Студэнцкай зразумелы. Але верагодней за ўсё месцам яе сталага пражывання была Баля. У дзённіку Я.А.Храпавіцкага адзначана, што яго жонка Ганна Выляжынская наведала яе ў гэтым маёнтку (30.10.1661 і 16.11.1662 г.)[450]. У гэтым жа годзе яе капелан францішканін Максім Рабенскі звярнуўся за дапамогай да абраза Маці Божай Ружанастоцкай[451]. Барбара выплаціла пазыку 6000 злотых Аляксандру Білевічу, жамойцкаму стольніку і яго жонцы Ўршулі Кульмінскай (1668 г.)[452].

Лёс дзяцей Паўла і Барбары склаўся наступным чынам. Пра ***Яна Паўла*** выяўлена толькі дата нараджэння. ***Аляксандр Геранім*** ажаніўся з дачкой падскарбія ВКЛ Гераніма Крышпіна Кіршэнштэйна (?–1681 г.) ***Барбарай***[453]. Дочкі выйшлі замуж: ***Ганна*** – за Яна Валер'яна Кунцэвіча, а ***Тэкля*** (?–1691 г.) – за жамойцкага старосту Пятра Міхала Паца (?–1696 г.). Толькі ў Ганны былі дзеці. Яна нарадзіла двух дачок: Барбару, пазней – жонку пільвіцкага старосты Стэфана Курча, і Кацярыну, пазней – жонку берасцейскага ваяводзіча і лідскага маршалка Францішка Масевіча[454]. ***Аляксандр***, ***Ганна*** і ***Тэкля*** падзялілі паміж сабой бацькоўскую спадчыну. Тэкля сваю частку падаравала мужу (1682 г.)[455]. Як узорная жонка, якой уласціва мудрасць, цнатлівасць, выхаванасць і набожнасць, яна была прадстаўлена ў панегірыку Міхала Менголіна[456].

Кіеўскім мітрапалітам Цыпрыянам Жахоўскім была пададзена скарга на спадкаемцаў Б.Валовічавай: платэльскага старосту ***Аляксандра Валовіча***, Валер'яна Кунцэвіча і ***Тэклю Валовічаўну*** (1677 г.). Барбара пасля смерці мужа зліквідавала праваслаўную царкву ў маёнтку Баля (Гарадзенскі павет). Яна забрала ікону Прачыстай Багародзіцы і ўсю царкоўную маёмасць. Гэтая царква падтрымлівалася Валовічамі з XVI ст. Яны давалі фундацыйныя запісы на царкву і шпіталь пры ёй. Самы стары дакумент, які

---

446 Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna...* S.93, 202.
447 *UCD WKL*. S.189. Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1842. T.9. S.419.
448 НГАБ у Менску. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.180–198.
449 *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.62. Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.87.
450 Chrapowicki J.A. *Diariusz...* S.314, 370.
451 *Cudowny Obraz Bogorodzicy w Różanymstoku*. Wilno, 1857. S.58.
452 *ЛДГА*. Ф.SA 7. Арк.1318–1321адв.
453 Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1910. T.7. S.112.
454 Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1911. T.8. S.200. Wolff J. *Pacowie: Materiały historyczno-genealogiczne*. Petersburg, 1885. S.203–209.
455 *ЛДГА*. Ф.1177. Воп.1. Спр.2636, 4529.
456 Męgolin M. *Kres strzał Wołłowiczowskich Zięmią y Niebem ograniczony; przy szczęsliwym na Starostwo Żmudzkie IW Imsci P. Piotra Michała Paca*. Wilna, 1685.

адзначаецца ў скарзе, датуецца 1551 г. Па рашэнню суда ліквідацыя царквы прызнана неправавым дзеяннем, а нашчадкі павінны былі вярнуць маёмасць царкве[457].

Валовічы былі адным з важных і ўплывовых шляхецкіх родаў Гарадзенскага павета ВКЛ. З пачатку XVI ст. яго прадстаўнікі ўплывалі на сацыяльнае, палітычнае, рэлігійнае жыццё рэгіёна. Яны змянілі веравызнанне для таго, каб не страціць свае сацыяльныя пазіцыі. Змаглі выкарыстаць знаёмствы з уплывовымі людзьмі ВКЛ для свайго кар'ернага росту.




**Гнявінскія.**

***Гнявінскія*** вядомы ў Гарадзенскім павеце ўжо ў XVI ст. Гарадзенскі земскі каморнік ***Андрэй Мацеевіч Гнявінскі*** і яго жонка Зоф'я Паўлаўна Тураўна набылі ў блонскага і валькеніцкага старосты Каспара Кладзінскага і яго жонкі Ганны Іванаўны Масальскай двор Русінаўшчына маёнтка Ласосна (1584 г.). У гэтым жа годзе А.Гнявінскі прадаў жонцы воўпенскага войта Настассі Галенчызне дзве часткі пляца на вуліцы Віленскай у Горадні[458].

Гнявінскія валодалі маёнткам Ласосна. ***Казімер Гнявінскі*** (?–да 1609 г.) скупіў там зямлю ў татараў прыкладна ў канцы XVI ці ў пачатку XVII ст. Ён выдаткаваў на гэта 266

---

[457] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.131–137.
[458] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.9. Арк.974–984, 990–992.

копаў і 6 грошаў. У рэестры пералічана 15 дакументаў, названы імёны і прозвішчы татараў і сумы, за якія былі куплены землі (гл. Дадатак 2). Іх апісанне і межы не зафіксаваны ў рэестры. На падставе імёнаў і прозвішчаў можна сцвярджаць, што папярэднімі ўладальнікамі ўласнасці былі татары. На дадзенай тэрыторыі іх пражывала значная колькасць. Дакумент згадвае каля 28 сямей[459].

Казімер Гнявінскі меў пяць сыноў ***Яна***, ***Валер'яна*** (?–да 1616 г.), ***Мікалая Казімера***, ***Нікадэма*** і ***Канстантыя***. Яны падзялілі Ласосна Дзярэжын, Струбкі, Каменкі, землі купленыя ў татар у 1608 г. Перамер частак правёў Даганоўскі. Дакументы па гісторыі роду захоўваліся ў той час у старэйшага брата ***Яна***[460]. ***Валер'ян*** быў дэпутатам на Галоўны Трыбунал ВКЛ ў 1612 г. ад Гарадзенскага павета[461]. Нашчадкаў пакінулі ***Ян*** і ***Мікалай Казімер***.

***Мікалай Казімер*** быў жанаты з ***Ядзвігай Талачкоўнай***. Як сужэнцы яны згадваюцца ў справе за 1640 г. У ёй адзначалася падпісанне пагаднення паміж імі і ўдавой па Андрэю Талочку Лідзіяй Красоўскай з-за "*галавы*" яе мужа. Але Лідзія падала пратэстацыю, дзе не пацвердзіла ўгоду і адзначыла, што М.К.Гнявінскі хацеў стаць апякунам яе дзяцей, мінуючы стрыяў Талочкаў[462].

***Ян*** быў жанаты з ***Канстанцыяй з Алізаровічаў***. У іх сям'і нарадзіліся ***Яўстахі***, ***Феліцыян*** і ***Зоф'я*** (?–пл.1750 г.)[463]. У ***Яўстахія*** было тры дачкі. ***Аляксандра***, выйшла замуж за вількамірскага падчашага Аляксандра Ягняткоўскага, ***Марыяна*** – за ашмянскага крайчага Стэфана Тальваша Сцяцкевіча, ***Ефрасіння*** – за Казімера Міхала Карэву. Пасля бацькі ім застаўся маёнтак Ласосна. Сваю частку ***Ефрасіння*** передала ***Аляксандры*** і яе мужу (1694 г.). Пасля ***Аляксандра*** і ***Марыяна*** разам з сужэнцамі прадалі маёнтак кухмістру ВКЛ Крыштафу Камароўскаму (1697–1699 г.). Гэтае ўладанне ён прадаў гарадзенскім францішканам у 1704 г. за 7000 тынфаў. Такім чынам дакументы, якія мелі дачыненне да маёмасці, патрапілі ў архіў кляштара[464].

***Феліцыян*** быў жанаты з ***Марыянай Сцярпейкоўнай***. Ён пазычыў у яе 7600 злотых пад маёнткі Ласосна Бернартовічы і Вышмяны (Троцкае ваяводства). Пасля смерці мужа яна выйшла замуж другі раз за Станіслава Манькоўскага (аб Манькоўскіх гл. далей). 7600 злотых яна запісала пажарыйскім айцам камендулам (Ковенскі павет). Запіс быў пацверджаны ў Галоўным Трыбунале ВКЛ у 1694 г. Але пры гэтым Ласосна Бернартовічы былі застаўлены ёю за 1500 злотых гарадзенскім францішканам. Марыяна памерла не выкупіўшы маёмасць, што справакавала судовы працэс паміж камендуламі і францішканамі. Першыя хацелі выплаціць пазыку, а другія не хацелі яе браць. Па судоваму рашэнню францішканы атрымалі палову Ласосна Бернартовічы (1718 г.). Яны выплацілі айцам камендулам яшчэ 2050 злотых і маёнтак цалкам перайшоў да іх (1719 г.)[465].

***Зоф'я*** выйшла замуж за Юрыя Антонія Сяркуцеўскага (?–пл.1730 г.). На яе мужа і ***Міхала Гнявінскага*** скардзіліся гарадзенскія францішканы за пабіцце парабка і выгнанне манаха з Гнявіншчыны ў 1730 г.[466] ***Зоф'я*** склала тэстамент 26 чэрвеня 1744 г. У ім было выказанна жаданне аб пахаванні яе ў склепе францішканскага касцёла. На гэта прызначалася 500 злотых на Гнявіншчыне ці Дзярэжыне. Але пасля складання тэстаменту ***Зоф'я*** яшчэ працягвала жыць. Лідскі скарбнік Аляксандр Савіч пазычыў у яе 200 злотых у 1747 г. Гэтыя грошы яна пасля падаравала францішканскаму кляштару (1749 г.). Яе дочкі ***Ганна*** і ***Юстына*** (?–да 1711 г.) выйшлі замуж за Марціна Тамашэўскага і Андрэя

[459] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.30.
[460] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.31.
[461] *Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1582–1696): Spis*. Warszawa, 2007. S.146.
[462] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.39. Арк.80–80 адв.
[463] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.44.
[464] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.31, 33, 34, 45. *ГДГАМ*. КП № 9220.
[465] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.45, 63.
[466] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.64.

Раманоўскага (?–да 1711 г.) адпаведна. У 1750 г. ***Зоф'я*** згадваецца як Снарская[467]. Лінія ***Яна Гнявінскага*** згасла ў XVIII ст.

Другая галіна пайшла па ***Мікалаю Казімеру***. Ён ажаніўся да 1639 г., заставіў сваёй жонцы Ханьковічы Каменку ў гэтым жа годзе. У яго сям'і нарадзіліся сыны ***Францішак*** (?–1680 г.), ***Тамаш*** і ***Стэфан***[468]. У радаводзе за XVIII ст. згадваюцца яшчэ ***Феліцыян***, ***Аляксандр*** і ***Юры***, але ў іншых дакументах аб іх звесткі не выяўлены[469]. Пра ***Тамаша*** вядома, што ён пазычыў грошы у Мацея Снарскага, апошні перадаў пазыку Юрыю Снарскаму, а той гарадзенскім францішканам[470].

Прадаўжальнікам галіны стаў сын ***Францішак***, які ажаніўся з ***Зоф'яй Сіцыцкевічоўнай***. Як сужэнцы яны фігуруюць ужо ў 1658 г.[471] Зоф'я першы раз была замужам за Францішкам Альшэўскім. У 1659 г. ***Францішак*** даў ёй права на пажыццёвае пражыванне ў Ласосна Дзярэжын за добрае да яго стаўленне ў шлюбе (гл. Дадатак 3). Але, пражываючы на маёмасці, яна павінна была выдаткоўваць грошы на навучанне сына. У сям'і было на той час толькі адное дзіця[472]. Дакумент быў актыкаваны ў гарадзенскім земскім судзе 3 кастрычніка 1659 г.[473]

***Францішак*** моцна захварэў у 1663 г. і знаходзіўся ў сваім маёнтку. Зоф'я вельмі перажывала за яго стан здароўя і паехала ў Горадню шукаць лекі. Там ёй падказалі звярнуцца да цудатворнага абраза. Яна так і зрабіла. А калі вярнулася да хаты, то яе муж быў ужо здаровы[474]. Ф.Гнявінскі прысутнічаў на элекцыйным сойме Яна III Сабескага ад Гарадзенскага павета[475]. Ён згадваецца сярод асобаў, якія падпісалі адтэрміноўку па выплатам на ўтрыманне войска ў каптуровым судзе ў 1674 г.[476]

Ф.Гнявінскі склаў тэстамент 18 мая 1679 г., а актыкаваны ён быў 12 студзеня 1680 г. Ён прасіў пахаваць яго ў Францішканскім касцёле ў Горадні. У ім знаходзілася сямейная крыпта і Гнявінскія апекаваліся касцёлам і кляштарам у XVII–XVIII ст. Аднак, дакумент не ўтрымлівае ніякай згадкі пра абраз Маці Божай Студэнцкай, а таксама няма запісу грошай на абраз ці на імшу ў езуіцкім касцёле. Жонцы пацвярджалася пажыццёвае пражыванне на Ласосна Дзярэжын. Дзеці ***Андрэй***, ***Ян*** і ***Тэкля*** былі непаўналетнія на той час. Таму былі прызначаны апякуны: гарадзенскі маршалак Ян Казімер Кердзей на Радзівонавічах, мсціслаўскі мечнік Крыштаф Міцута, смаленскі скарбнік і гарадзенскі гродскі пісар Аляксандр Сапоцька. Пра свайго брата ***Тамаша***, ён адзначыў, што ад яго няма ніякіх звестак. Іх спадчына па бацьку была падзелена з братам ***Стэфанам***. Тэстамент падпісалі сведкі аршанскі стольнік і гарадзенскі падстароста Ян Катовіч, брат ***Стэфан Гнявінскі*** і Юры Буткевіч[477].

Тэстамент згадвае з дзяцей толькі ***Андрэя***, ***Яна*** і ***Тэклю***. У радаводзе фігуруюць толькі ***Банавентура***, ***Андрэй***, ***Міхал***[478]. У іншых крыніцах дадатковая інфармацыя ёсць толькі пра ***Андрэя*** і ***Міхала***. Верагодна ***Банавентура*** і ***Ян*** памерлі маладымі, не пакінуўшы нашчадкаў. Таксама не вядома за каго выйшла замуж ***Тэкля***, ці дасягнула яна паўналецця. ***Міхал*** не пакінуў нашчадкаў. Сваю частку Гнявіншчыны ён прадаў (1746 г.). У сталым узросце прысвяціў сваё жыццё Богу і жыў пры Францішканскім кляштары. 60 злотых, якія быў вінен яму Аляксандр Савіч (1747 г.), ён запісаў кляштару ў 1749 г.[479] ***Андрэй*** ажаніўся з Элеанорай Апачанкай. У іх пазычыў 50 злотых гарадзенскі жыд Міхал

---

467 *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.44, 48, 50, 52.
468 *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.31.
469 *ГДГАМ*. КП № 9220.
470 *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.52.
471 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.58 адв.–59.
472 *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.32.
473 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.141–142.
474 *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.66.
475 Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.4. S.154.
476 *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.201–203.
477 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.51. Арк.1107–1108 адв.
478 *ГДГАМ*. КП № 9220.
479 *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.39, 41, 48.

Гіршэвіч (1702 г.)[480]. У іх быў сын ***Казімер***. У апошняга нарадзіліся сын ***Станіслаў*** і дачка ***Канстанцыя***[481]. З 1756 г. ***Станіслаў Гнявінскі*** судзіўся з гарадзенскімі францішканамі. Судовы працэс зацягнуўся надоўга. С.Гнявінскі і лукаўскі лоўчы Ян Ясінскі былі выкліканы ў суд гарадзенскімі францішканамі з-за іх дрэннага трымання Ласосна Дзярэжын ці Гнявіншчыны (1781 г.)[482].

Гнявінскія былі сярэдняй павятовай шляхтай. Свае валоданні яны пашырылі ў XVI–пачатку XVII ст. Прадстаўнікі гэтага роду не займалі нейкія высокія пасады ў Гарадзенскім павеце. Будучы каталікамі падтрымлівалі францішканскі касцёл у Горадні, але гэта пасля не пашкодзіла нашчадкам судзіцца з кляштарам. У палітычным жыцці ўдзельнічаў Ф.Гнявінскі, ступень актыўнасці ўдзелу адпавядала яго статусу.

## ***Дадатак 2.***

**Рэестр дакументаў купленай у татараў у маёнтку Ласосна зямлі.**
**23 кастрычніка 1616 г.**

Дакумент захоўваецца:
*АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.30.
Польская мова. Вынасныя літары захаваны. Страчаныя ці прапушчаныя літары былі аднаўлены па сэнсу і пададзены ў квадратных дужках. Скароты пададзены ў круглых дужках.

[арк.1]

Regestr spraw po niebos[z]czyku Panu Oycu naszem[u] pozostałych spolnie mnie Janu i pa$^{nu}$ Mikołaiu Gniewinskym służących na kupla gruntow u tatar Łososińskich przez niebos[z]czyka Ojca nasze(g)$^{o}$ które za spolnem zezwolienem nas obu przy mnie jako starszem Bracie Janie Gniewinskym zostaly do schowania, ktorych spraw gdy by te(g)$^{o}$ potrzeba okazywała ku prawu s tym y ktorey sprawe bronione bydz nie maią Panu Bratu same(g)$^{o}$ y potomkow ie(g)$^{o}$, ktorych to spraw oryginałow samych przyznanych y extractow na to służących tak spisanie.

Naprzod.

1. Kupla od Dziakiery Kansubowicza y zony y synow ie(g)$^{o}$ za kop 10.
2. Kupla od Murtazy Bohuszewicza y zony ie(g)$^{o}$ za kop 10.
3. Kupla od Janusza Jonkiewicza Abrahima Szpakowicza y Kulzimana Jackowicza y zon ych za kop 20.
4. Kupla od Kulzimana Arazowicza y zony ie(g)$^{o}$ za kop 10.
5. Kupla od Kudaibierdy Dancewicza, Murtazy Bohuszewicza, Jolamana Kanhiewicza y Araza Azbieroszeiewicza y zon ych za kop 20.
6. Kupla od Abrahima Szpakowicza, Adrachmana Osmanowicza y zon ich za kop 30.
7. Kupla od Smihika a Jusupa Abrahimowiczow y zon ych za kop 10.
8. Kupla od Kulzimana Dawlieszewicza, Alteimana Kanhiewicza, Oraza Azbierdzewicza y zon ych za kop 10.
9. Kupla od Kulzimana Jackowicza y Siest[r]owicza Murtazy Bohuszewicza y zon ych za kop 40.
10. Kupla od Murtazy Achemiecieiewicza, Boyramgody Sułiemanowicza a Mustafy Nurumowicza y zony ych za kop 10.
11. Kupla od Smihika Abrahimowicza y zony ie(g)$^{o}$ za kop 30.
12. Kupla od Kurmasza Chorzuna, Baldyrzewicza dzietiey Atamanowich Achmiecia Baryramszymowicza, Alecha Orazowicza Szachmanieta Bazarowicza, Murtazy Bazarowicza, Czerewy Pietrowicza, Murtazy Nurumowicza, Bazara Achmetowicza, Smihika Mulhumanowicza Bohdarzewicza zon y dzietiey ych za kop 40.

[480] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.35.
[481] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.58.
[482] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.45, 56–58, 60.

[арк.1 адв.]

13. Kupla od Murtazy Bohuszewicza y zony ie(g)^o za kop 10.
14. Kupla od Abrahima Kulzimanowicza y zony ie(g)^o za kop 10.
15. Kupla od Czerewa Pietrowicza a Murtazy Nurumowicza za kop 6/30.

Do te(g)^o tez y przywiliey Kro(la) Je[g]^o M(iłosci) na Strubke y Kamienke spolne mnie y dziatkom niebos[z]czyka Pana Waleriana Brata nasz(g)^o należący przy mnie ostawa.
Który to regestr s podpisem ręki mey y pieczęcią y s podpisem ręki Je(g)^o M(iłosci) Pana. Dan rodzinie me(y) pa^nu Mikołaiu Kazimierzu Gniewinskie(mu). Pisan w Lososnie d(nia) 23 *octobra*, roku 1616.

### *Дадатак 3.*

**Запіс Францішка Гнявінскага сваёй жонцы Зоф'і Сцяцкевічоўне на пажыццёвае пражыванне ў маёнтку Ласосна Дзярэжын. 1659 г.**

Дакумент захоўваецца:
*АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.32.
Старабеларуская і польская мовы. Страчаныя ці прапушчаныя літары былі адноўлены па сэнсу і пададзены ў квадратных дужках. Скароты пададзены ў круглых дужках.

[арк.1]

Выпис с книгъ справ земских Повету Городенъско(г)о. Лета отъ нароженя Сына Боже(г)о тысеча шестсотъ петдесят девятого м(есе)ца октебра трете(г)о дня.

На рокохъ судовых земских водле порадку Статутово(г)о о Светомъ Михале святе рымъском прыпалыхъ и судовне у Городне отправованых. Перед нами Ваврынцомъ Стефаномъ Рукевичомъ дворониномъ Е(г)о Кор(олевское) М(и)л(о)ст(и) а од ихъ м(и)л(ос)теи Панов обывателев Повету Городенъско(г)о. На местцу Е(г)о М(и)л(о)сть Пана Адама Буховецкого суди земско(г)о Городенъско(г)о засажоным судею Констаантиномъ Алекъсандровичомъ подсудкомъ Станиславомъ Сопоткомъ писаромъ врадниками судовыми земскими Повету Городенъско(г)о. Постановившысе очевисто у суду Е(г)о Милость Пан Франтишек Кгневинскии листь доброволныи водлугъ права справленых запис свои на речъ меновите уписану Панеи малъжонце своеи Еи М(и)л(о)сть Панеи Зофии Стецковичовне бывшои Франтишковои Олшевскои а теперешнеи Франтишъковои Кгневинскои даных належных устъне и очевисто созналь потребучы абы былъ актыкован и до книгъ земских городенских принятъ и уписан. Которую мы врад огледевшы и съ такого выслухавшы велели листом е(г)о уписать. Якожъ уписўючи у книги слова до слова такъ се в собе мает. Ja Franciszek Mikołaiewicz Gniewinski ziemianin Je(g)^o Kro(lewskiej)[483] M(iło)sci Powiatu Grodzienskie(g)^o, zeznawam tym moim listem dobrowolnym wyznanym zapisem komy by o tym wiedziec należało, iż co ja w stan swięty małżęski poiąwszy Panią Zofią Steckiewiczowne bywszą Franciszkową Olszewską, ktora mieszkaiąc

[арк.1 адв.]

w stane swiętym małżęskim, ze mną uczciwie we wszelakim posłuszenstwie, za co ia nagrodzaiąc miłey małżące, na maiętnosci moiey oyczystey macierzystey y przy kupli nazwaney Łososney Dereżynie w Powiecie Grodzienskim leżącey, y co bysmy na potym nabyli, takim sposobem iesliby na mie Pan Bog Wszechmogący wprzod smierc dopuscic raczył tedy na tey pomienioney maiętnosci moiey do żywotnie mieszkanie miley małżące moiey zapisuię ze wszelakiemi przynależnosciami do tey maiętnosci iakom ia sam trzymał y używał s poddanemi y

[483] Імя і прозвішча падкрэслены.

z rzeczami ruchomymi po mnie pozostałemi, owo zgoła ze wszytkim na wszytko, z ktorey maiętnosci, sprowentow sobie należących nikomu wyliczac się nie powinna będzie jednak s tym dokładem iesli Pan Bog potomka nasze(g)ᵒ z nią miłą małżąką moią spłozona(g)ᵒ zdrową zachowac raczy, y beż iesliby za wola Bożą pomocą, y więcey z soba spłodzili tedy s tych prowentow na oczędostwa y na wszelakie nauki uczsiwe nakładac ma y powinna będzie. I na tom ten moy list dobrowolny zapis s pieczęcią y s podpisem ręki moiej, a dla zmocnienia tego zapisu mego uprosilem o podpis rąk y o przyłożenie pieczęci Jch M(iło)sci nizey na podpisach rąk imiony mianowanych. Pisan w Łososnie. Roku tysiąc siescsett pięcdziesiąt dziewiątym miesąca *februaryi* czwartego dnia[484]. У того листу запису печате*и* притыс*н*еных чотыры и по*д*пи*с* рукъ тыми словы. Franciszek Gniewinski ręką swą, ustne proszony pieczętarz do te(g)ᵒ listu od osoby w tym liscie wzwyszmianowaney Adam Makarowicz, ustne y oczywisto
[2] proszony pieczętarz od osoby w tym liscie mianowaney Rafał Baranowicz ręką swą, ustne proszony pieczętarz do te(g)ᵒ listu w tym liscie wzwyszmianowaney Kazimierz Knyczkowski własną ręką. Которы*х* то*т* листъ запи*с* по очеви*с*томъ созна*н*ю Е(г)*о* Милость Пана Фра*н*тиш*к*а Кгневи*н*ско(г)*о* до книг зе*м*ских городе*н*ских е*ст* уписа*н.* С которы*х* ли*ст* выпи*с* по*д* нашыми врадовыми печа*т*ми Е*и* М(и)л(о)*с*ть Пане*и* Зофи*и* Сте*ц*ковичо*в*не Фра*н*тиш*к*ово*и* Кгневи*н*ско*и* есть выда*н.* Писа*н* у Горо*д*не.
Станисла*в* Сопо*т*ко писаръ.

[арк.2 адв.]

В не*и*бы*т*ность Пана По*д*пис*к*а скорыгова*л* с книгами Короза.




[484] Дата падкрэслена.




**Градкоўскія.**

***Градкоўскія*** паходзілі з Польшчы, дзе былі вядомы яшчэ ў XV ст. ***Дадзібог*** (?–1698 г.) першы, хто стаў жыць у Гарадзенскім павеце ў другой палове XVII ст.[485] Ён займаў пасады віленскага скарбніка, гарадзенскага стольніка, віцэ-эканома Гарадзенскай Эканоміі, быў абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ (1687 г.)[486]. У Горадні Д.Градкоўскі валодаў пляцам на вуліцы Бернардынскай, пра які было адзначана, што ён пусты (1680 г.)[487]. Другі пляц, на падставе інфармацыі з інвентару 1680 г., знаходзіўся на па праваму баку вуліцы Рэзніцкая і прылягаў да пляцу брыгітак. Ён быў набыты у Прылуцкіх (1637 г.)[488].

***Дадзібог*** ажаніўся з ***Марыянай Масальскай*** (?–1708 г.). Яна была самая малодшая ў сям'і Яна Масальскага (?–1662 г.) і Евы Быхаўцаўны. Дзве старэйшыя сёстры былі замужам адна за троцкім падчашым Мікалаем Лімантам, другая – за слонімскім земскім суддзёй Стэфанам Бруханскім. З-за таго, што ў іх не было братоў, спадчына бацькі – Масаляны, камяніца ў Вільні, пляц у Горадні, пляц у Троках, Векінішкі у Троцкім ваяводстве і рухомыя рэчы – была падзелена паміж імі. Масальскія былі ўжо на той час каталікамі, таму Ян прасіў пахаваць сябе ў Эйсымонтаўскім касцёле пры цудатворным абразе ў капліцы, дзе павінны былі зрабіць сямейны склеп. Драўляную капліцу, што была на падворку ў Масалянах, павінны былі перанесці да Эйсымонтаўскага касцёла. На касцёл прызначалася 3000 злотых, а кожная дачка з зяцем выплачвалі з гэтай сумы па 1000. За гэта ксяндзы абавязаны былі маліцца за яго душу і душу жонкі Евы Быхаўцаўны, за яго нашчадкаў[489].

Пасля смерці бацькі дочкі выконвалі абавязак па выплаце грошай Эйсымонтаўскаму касцёлу. Пробашч Лукаш Ян Длугаборскі нагадаў Граткоўскім, што яны павінны былі выдаваць 60 злотых і 4 бочкі ячменнага соладу гарадзенскай меры штогод[490].

Як выглядала частка Масалянаў, якую атрымалі Градкоўскія, можна меркаваць па інвентару, які быў складзены пры перадачы яго ў скарб у 1689 г. (гл. Дадатак 5). У двары знаходзіўся дом. Унутры яго былі печы з комінамі, аздобленыя кафляй, драўляныя лавы, пасудная шафа, шафа і сталы. Вокны былі шкляныя, апраўленыя ў дрэва ці волава. Дзверы – на завесах з зашчэпкамі ці кручкамі. На тэрыторыі маёнтка былі бровар з саладоўняй, кухня, пякарня, сырнік, вазоўня, стайня з вазоўняй, новы вялікі свіран, малы свіран, гумно з токам, абора з 4 хлявамі, млын і карчма, якая здавалася ў арэнду. Да маёнтка адносіліся вёскі Масаляны і Пескі. У двары было 16 коней, 10 валоў, 10 гусей і 10 курэй. Пры двары былі палі, на якіх было засеяна 50 бочак жыта гарадзенскай меры, азімай пшаніцы – 1, яравой пшаніцы – 1,5, ярыны – 4, ячменя – 20, аўса – 25, гароха – 1[491].

У сям'і ***Дадзібога*** і ***Марыяны*** нарадзіліся сыны ***Стэфан*** (?–да 1698 г.) і ***Антоні***, а таксама дочкі ***Гальшка***, ***Клара*** і ***Ганна***. ***Стэфан*** часта фігураваў у дакументах, а Антоні – толькі ў справе з Юрыем Вацдалінам Мнішахам (?–1693 г.) і яго жонкай Ганнай Хадкевічаўнай (1686 г.)[492]. У тэстаменце свайго бацькі ён не згадваецца. Верагодна, памёр у маладым узросце.

---

[485] Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1908. T.5. S.12–13.
[486] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.83.
[487] *ПКГЭ*. Вильна, 1882. Ч.2. С.186.
[488] *НГАБ у Горадні*. Ф.1475. Воп.1. Спр.3. Арк.50 адв.
[489] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.53.
[490] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.78.
[491] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.85.
[492] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.66. Арк.11–14.

***Стэфан*** займаў пасаду каралеўскага сакратара і двараніна. Цуд пра яго вылячэнне змешчаны на лаве ў капліцы Маці Божай Студэнцкай[493]. З подпісу пад выявай вядома, што ў яго захварэла рука, і не мог ёй нават варушыць. За дапамогай ***Стэфан*** звярнуўся да цудатворнага абраза і вылечыўся. Гэта адбылося ў 1686–1690-я г.

Каралеўскі сакратар фігураваў у некаторых судовых справах. Выпіс з гарадзенскага гродскага суда за 28 красавіка 1686 г. зафіксаваў яго скаргу на жонку гарадзенскага харужага Алену з Агінскіх Ісайкоўскую (фундатарку выдання збору цудаў). У ёй паведамлялася, што яе слугі 11 студзеня 1686 г. збілі каля Горадні яго шляхцічаў Станіслава Быхаўца і Стэфана Кабылінскага. Гэта было адзначана гарадзенскім возным пры іх аглядзе[494]. Таксама С.Граткоўскі судзіўся з гарадзенскім скарбнікам і гродскім пісарам Янам Казімерам Тымінскім і яго жонкай Яганнай Рукевічаўнай і яе братамі Ігнаціем, Канстанцінам, Казімерам, Міхалам і Якубам з-за нанясення шкодаў на 20 копаў літоўскіх грошаў і пагрозы на здароўе[495].

Лёс дачок склаўся наступным чынам. ***Гальшка*** выйшла замуж за Давыда Францкевіча Радзімінскага. Сужэнцы атрымалі пасаг у памеры 15000 злотых у 1673 г. У сувязі з чым яны абяцалі не прэтэндаваць на бацькоўскую маёмасць[496]. Толькі ў гэтым квіце пра атрыманне пасагу згадваецца яго сума.

Сын навагарадскага мечніка Крыштафа Камінскага і Ізабелы ў роду Пукштаў Самуэль Леапольд, смаленскі мечнік[497], стаў мужам ***Клары***. Яны атрымалі ад бацькоў ***Клары*** пасаг у 1684 г. У гэтым жа годзе ён пазычыў у яе 24000 злотых. Ён заставіў маёнткі Вольна і Гарадзішча, якія знаходзіліся ў Навагарадскім ваяводстве (1684 г.)[498]. Напэўна на вяселле Клары Яраш Аляксандр Ваўжэцкі павінен быў перадаць дзве фляшкі у якасці вясельнага падарунка ад канцлера ВКЛ Крыштафа Паца (1677 г.)[499]. Але ў дакуменце імя дачкі не названа (гл. Дадатак 4). У сувязі з тым, што ***Гальшка*** была ўжо замужам, а наступны квіт быў напісаны ад ***Клары*** і яе мужа, то яе вяселле магло быць у 1677 г.

***Ганна*** стала жонкай жамойцкага падкаморыя і троцкага старосты Міхала Адама Станкевіча. Яны засведчылі, што атрымалі пасаг у грошах і рухомых рэчах ад бацькоў Д.Градкоўскага і Марыяны Масалькай (18 жніўня 1687 г.). Дакумент быў актыкаваны 15 лістапада ў гарадзенскія гродскія кнігі[500].

Д.Градкоўскі правёў 70–80-х г. XVII ст. у гродскіх, земскіх, трыбунальскіх судах. Ён судзіўся з падчашым ВКЛ Крыштафам Патоцкім і яго жонкай Елізаветай Раецкай. ***Дадзібог*** заставіў ім Крыштафовічы ці Татаршчыну (Гарадзенскі павет), а яны пад час трымання спустошылі маёмасць. Па рашэнню суда Патоцкія павінны былі аплаціць страты (1674 г.)[501].

Віленскі скарбнік распачаў справу супраць ашмянскага маршалка Мікалая Ўладзіслава Пшаздзецкага (валодаў Сарговішкамі ў Ашмянскім павеце) і Мікалая Ўладзіслава Чапінскага. Яна разглядалася ў гарадзенскім гродскім судзе ў 1677 г. Яны і іх падданыя абвінавачваліся ў тым, што пабілі ў пушчы трох падданых рамеснікаў, згвалтавалі Марыну Філіпаўну Такарчыкову, спалілі дзве сціргы сена, рабілі “*пахвалкі*” на здароўе Д.Градкоўскага. Шляхцічы не з’явіліся ў суд. За непадпарадкаванне ўладам яны былі пакараны на баніцыю па артыкулу 40 раздзела XI III Статута ВКЛ 1588 г. А іх падданыя Ян Качкоўскі, Пётр Ангаруковіч, Юзаф Паўлоўскі і Стэфан Дзмішэўскі былі асуджаны на смерць. За шкоды М.Пшаздзецкі і М.Чаплінскі павінны былі выплаціць 1835 злотых. Грошы былі запісаны на іх маёмасці. Ліст аб іх баніцыі быў вывешаны ў шэрагу

493 Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.81–83.
494 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.64.
495 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.102.
496 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.66.
497 Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1919. T.6. S.176.
498 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.81, 103.
499 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.75.
500 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.65.
501 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.63.

месцаў у Горадні: на варотах Зарынкавых, на варотах Фарнага касцёла, на езуіцкім касцёле, на варотах бернардынскіх могілак[502].

Справа з М.Чаплінскім разглядалася яшчэ ў Трыбунале ВКЛ, куды ён быў выкліканы Янам Казімерам (1676 г.). Пасля справа зноў вярнулася ў гарадзенскі гродскі суд. Позва была перададзена гарадзенскім енералам Мікалаем Стаўцкім ў камяніцы на вуліцы Замкавай у Лейбы Калмановіча (8 студзеня 1677 г.). У дакументах не агаворваюцца дэталі справы, але напэўна гэта была ўжо іншая судовая справа, бо была прысуджана баніцыя Д.Градкоўскаму і яго жонцы (1677 г.). Копіі баніцыйнага ліста былі прымацаваны на варотах Фарнага і езуіцкага касцёлаў, а таксама бернардынскіх могілак каля моста[503].

У лютым 1674 г. каптуровы гарадзенскі суд разлядзеў справу Д.Градкоўскага і ашмянскага падстолія Міхала Валовіча. Яна была пачата яшчэ ў 1669 г. і тычылася невяртання 4120 злотых. Яны былі запісаныя на маёмасці Злобаўшчына ў Гарадзенскім павеце. М.Валовіч не з'явіўся ў суд. Яго прызналі вінаватым і прысудзілі выгнанне з краіны, а Д.Градкоўскаму ён павінен быў выплаціць грошы[504].

Д.Градкоўскі падаў скаргу ў гарадзенскі гродскі суд ад імя свайго ўрадніка маёнтка Вайцахоўшчына Крыштафа Эйсыманта, войта Якуба Татарскага і цесляра Юзафа Валюка на нейкага Перхальскага, паручніка казацкай харугвы лоўчага ВКЛ Служкі (1672 г.). Перхальскі ўзначальваў харугву, якая 26 мая 1672 г. стала на начлег у Вайцаховічах. Жаўнеры збілі падданых і пабралі іх рэчы. Быў выкліканы возны, які зрабіў агляд. Падобная скарга была зноў складзена ад імя падданых з Вайцахоўшчыны – войта Якуба Татарскага і цесляра Юзафа Валюка, Бенедыкта Скваркі і іншых на ротмістра Паўлеўскага і паручніка Акуловіча венгерскай харугвы троцкага ваяводы Марціна Агінскага. 2 жніўня 1675 г. харугва спынілася на ноч у Вайцахоўшчыне. Пад час яе побыту былі нанесены крыўды падданым[505].

Чарговая скарга Д.Градкоўскага была ў гарадзенскі гродскі суд ад яго ўрадніка маёнтка Вайцахоўшчына Яна Клімоўскага на Пятра Градкоўскага і Крысціну Шчавінскую (1672 г.). Яны павінны былі выплаціць чынш з 1665 г. 170 злотых з 32 валокаў у вёсцы Замойсце і з паловы валокі ў вёсцы Мікалайчыкі, але да таго часу так і не сплацілі грошы[506]. Акрамя гэтага, нурскі лоўчы Ігнацi Недзялкоўскі і яго жонка Агата Букрабянка былі абвінавачаны Д.Градкоўскім у вывадзе падданых з Вайцахоўшчыны ў 1675 г. да сябе ў Парэчча. Гэта было пацверджана возным[507].

Доўгія судовыя спрэчкі ішлі ў Д.Градкоўскага з нашчадкамі канюшага ВКЛ і віленскага каштеляна Яна Казімера Хадкевіча (?–1660 г.). Яго спадчына перайшла дочкам Тэрэзе, якая выйшла замуж за рэферэндара ЯКМ Яна Дабрагоста Красінскага, і Ганне, жонцы валынскага ваяводы Юрыя Вандаліна Мнішака (?–1693 г.). Д.Градкоўскі падаў скаргу ад свайго ўрадніка маёнтка Вайцахоўшчына Станіслава Талочкі на Я.Красінскага і яго жонку (1672 г.) за перавоз з Вайцахоўшчыны 8 падданых з сем'ямі ў Вялікую Бераставіцу, дзе іх і знайшоў возны[508].

Д.Градкоўскі трымаў Вайцахоўшчыну па застаўному праву ад Я.К.Хадкевіча. Аднак, пад час яе трымання ён увесь час канфліктаваў з суседзямі і нашчадкамі Я.К.Хадкевіча. Справа нават дайшла да баніцыі сям'і Градкоўскіх. Паводле рашэння гарадзенскага гродскага суда (1687 г.), Галоўнага Трыбуналу ВКЛ (1691 г.) сям'я Градкоўскіх (***Дадзібог***, яго жонка ***Марыяна*** і сын ***Стэфан***) былі асуджаны на баніцыю. Аднак, Ян III Сабескі вызваліў іх ад гэтага пакарання[509].

---

502 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.69.
503 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.73.
504 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.68.
505 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.66. Арк.1–2, 9–10.
506 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.66. Арк.5.
507 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.66. Арк.7–8.
508 *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.66. Арк.3–4.
509 *ГДГАМ*. КП № 8577.

Даволі забаўная судовая справа адбылася ў Д.Граткоўскага з падданымі Квасоўскага ключа з вёсак Калпакі, Агароднікі, Дарашэвічы, Пагараны (1682 г.). Калі віленскі скарбнік ехаў у Вайцахоўшчыну, то на яго возе была скрынка з грошамі. У яе адарвалася дно, і з яе высыпалася на дарогу 247 бітых талераў. Заўважыў ён гэта толькі, калі прыехаў дахаты. Па гарачых слядах ён адправіў падданых сабіраць згубленыя грошы. З усёй сумы яны знайшлі толькі 24. Д.Граткоўскі вырашыў, што толькі жыхары гэтых вёсак маглі іх узяць. Але на думку суддзяў ён не прадставіў слушных доказаў. Было вырашана, што ад вёсак павінны былі вылучыць па 3 мужчыны, якія павінны былі прынесці прысягу, што не бралі грошаў[510].

Д.Градкоўскі судзіўся з жыдом Еўфраімам Майжашэвічам, які арандаваў Даўспуды і Янаўку, што належалі канцлеру ВКЛ Крыштафу Пацу. Ён не выплаціў падаткі ў скарб у памеры 1000 злотых (1677 г.)[511].

З квіта гарадзенскага енерала Самуэля Луцкевіча за 13 кастрычніка 1691 г. вядома, што ў справе Д.Граткоўскага і Марыяны Масальскай з Якубам і Юрыем Ўладзіславам Эйсымантамі, Габрыэлем Мушаніным Эйсымантам і яго жонкай апошнія атрымалі баніцыю. Копіі баніцыйных лістоў былі прымацаваны да дзвярэй фарнага касцёла, езуіцкага, замкавай брамы. Абставіны справы не былі прадстаўлены ў дакуменце[512].

Скаргі падавалі і на Д.Градкоўскага. Ізабан Балбашэвіч татарын з Балбашава ў Наваградскім ваяводстве вызнаў, што Д.Градкоўскі бяспраўна забраў у яго каня з рыштункам і рэчамі ў Горадні, а пасля ўсё вярнуў (1677 г.)[513].

Уладзіслаў Адахоўскі і яго жонка Ганна Хлусевічоўна скардзіліся на яго шляхцічаў Яна Нятупскага і Казімера Амбражэвіча (1683, 1688 г.). 23 кастрычніка 1682 г. яны наслалі з Масалянаў грамаду на маёмасць Рудава, калі не было ў маёнтку Адахоўскіх, якія паехалі на набажэнства ў Ражанку. У двары была толькі гаспадыня, шляхцянка Крысціна Аніхімоўская. Ключы ў яе адабралі, казалі падаць есці і піць. Цівуна Цімоха Дзічку моцна збілі абухамі і шаблямі, пагражалі здароўю Адахоўскага[514]. Справа аб “*пахвалках*” на яго здароўе Караля Гумоўскага і пагрозах забіць разглядалася ў 1683–1685 г. Пад зарукай 10000 копаў літоўскіх грошаў Д.Градкоўскаму забаранялася пагражаць Гумоўскаму. Але ў выніку Трыбунал ВКЛ прысудзіў выплаціць віленскаму скарбніку 54330 злотых Гумоўскім[515].

Жыхары мястэчка Масты (Гарадзенскі павет) скардзіліся на адміністратараў Гарадзенскай Эканоміі і мастоўскага ключа – на бацьку і сына – гарадзенскага стольніка Д.Градкоўскага і каралеўскага сакратара С.Градкоўскага за незаконны збор падаткаў, якімі ім былі нанесены значныя шкоды (1691 г.)[516].

Захаваўся чарнавік тэстаменту ***Дадзібога Градкоўскага*** (гл. Дадатак 6). Найбольш дакументаў, якія да нас дайшлі – гэта ўжо складзеныя тэстаменты: арыгіналы ці выпісы з актавых кніг. У дадзеным выпадку вынайдзены дакумент – гэта аснова для тэстаменту. Яна не ўтрымлівае часткі пра разважанне пра смерць, даручэнне душы Богу. Тут прыведзены толькі неабходныя распараджэнні маёмаснага плана: ахвяраванні касцёлам, месца пахавання, пацвярджэнне папярэдніх запісаў жонцы, распараджэнне аб спадчыне і выплаце пазыкаў сыну. Усяго – 10 пунктаў. Адсутнічае дата і плануемыя сведкі. Дакумент мог быць складзены прыкладна ў сярэдзіне 1690-х г.

Змест дакумента даволі цікавы. Д.Градкоўскі жадаў сціплага пахавання, без катафалку, але вельмі хацеў, каб імшу за яго душу служылі амаль ва ўсіх гарадзенскіх храмах: бернардынскім, кармяліцкім, дамініканскім, францішканскім, брыгіцкім, бернардынак, Фары Вітаўта, нават у Сабornай Прачысценскай царкве. На гэта

[510] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.84.
[511] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.74.
[512] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.88. Арк.1.
[513] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.76.
[514] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.79.
[515] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.80.
[516] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.87.

прызначалася 180 злотых. У выпадку адсутнасці грошай дазвалялася прадаць ці заставіць два двары ў Горадні. Адзін быў на вуліцы Бернардынскай. Жонцы быў пацверджаны запіс на 18000 злотых на Масалянах і Вайцахоўшчыне. Асноўным спадчыннікам пакідаўся сын ***Стэфан***. Ён павінен быў выплаціць усе бацькоўскія пазыкі: вярнуць Масаляны, які былі забраны ў скарб, аддаць 7000 злотых К.Карпу і дачцэ ***Клары***. Таксама ***Стэфан*** быў абавязаны забраць грошы ў тых, хто быў яму вінен, скончыць справу па Крыштафову. Яго доўг, як сына, быў у шанаванні маці. У выпадку дрэннага стаўлення Марыяна Масальская мела права атрымаць усё ад сына па рэестру. Пра дачок не было згадкі. Яны на той час ужо атрымалі выправу, адпаведна на бацькоўскую маёмасць прэтэндаваць не маглі[517].

З пратэстацыі ўдавы М.Масальскай, вядома, што яе муж быў забіты Станіславам Эйсымантам і яго памочнікамі. 8 верасня 1698 г. яго збілі кіямі, калі ён ездзіў да арандатара, а 17 верасня ён памёр ад ранаў[518].

Пасля смерці мужа і сына Марыяна займалася выплатай іх пазыкаў. Яна абавязалася прыёру гарадзенскіх дамініканаў Аляксею Рукевічу выплаціць доўг мужа 1000 злотых, сваю пазыку 250 і сына ў 1701 г. на свята Святога Марціна. У выпадку немагчымасці аддаць грошы на гэтыя сумы яна павінна была аддаць збожжа з маёмасці Гарадніца[519].

Градкоўскія пакінулі пра сябе значны след у гісторыі Гарадзенскага павета. Сям'я была каталіцкага веравызнання, што паказвае зварот ***Стэфана*** да абраза Маці Божай Студэнцкай, а таксама ахвяраванні ***Дадзібога*** на касцёлы і царквы для служэння імшы. ***Дадзібог*** вызначыўся шматлікімі канфліктамі. Яго жыццё было багатым на судовыя працэсы ў 70–90-х г. У асноўным яны тычыліся маёмасных спраў і пазыкаў, што было распаўсюджанай з'явай у той час. Яны прынеслі істотныя грашовыя страты для сям'і. Спрэчкі маглі стаць прычынай забойства ***Дадзібога***. Дзякуючы судовым справам мы ведаем, што сваеасаблівымі дошкамі для абвестак у Горадні былі дзверы фарнага і езуіцкага касцёлаў, брамы – замкавая і бернардынскіх могілак.

Шлюб з Марыянай Масальскай прынёс сваяцтва са старажытным родам і нерухомую маёмасць (Масаляны) у сям'ю. Усе тры дачкі Д.Градкоўскага былі выдадзены замуж за шляхту прыкладна такога ж узроўню. Сын ***Антоні*** памёр маладым, а ***Стэфан*** – прыблізна ў адзін час з бацькам.

## ***Дадатак 4.***

**Абавязальніцтва Яраша Аляксандра Ваўжэцкага перадаць ад канцлера ВКЛ Крыштафа Паца дзве фляшкі у якасці вясельнага падарунка дачцэ гарадзенскага стольніка Дадзібога Градкоўскага.**
**1677 г.**

Дакумент захоўваецца:
*ЛДГА. Ф.1029. Воп.1. Спр.75.*

[арк.1]

Ja Jarosz Alexander s Krzetuszewa Wawrzecki[520] ziemianin JKMsci w roznych woiewodztwach y powiatach osiadłości swe maiący czynie wiadomo tym moim listem dobrowolnym zapisem. Iż co do ręku moich dane były flasze srebrne złociste warte złotych trzysta od Jasnie Wielmożnego Jmci Pana Krzysztofa Paca Kanclerza Wielkiego W$^{o}$X$^{o}$Ltt$^{o}$ na prezent wesela corki Jmci Pana Dadziboga Grodkowskiego Stolnika Grodzieńskiego, ktorych tych flasz iż mi nie przyszło dotąd Jmci oddac tedy mam te obedwie flasze Jmci Panu Grodkowskiemu Stolniku Grodzieńskiemu

[517] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.89.
[518] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.88. Арк 2.
[519] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.96.
[520] Яраш Аляксандр Ваўжэцкі займаў пасады браслаўскага земскага пісара (1674 г.) і суддзі (1690 г.), гл.: Niesecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1841. T.9. S.251.

oddac w roku terazneyszym 1677 w dzień Swiętego Michała Swięta rzymskiego według nowego kalendarza na mieyscu pewnym przy xięgach Grodzkich Grodzieńskich niczym tego terminy nie pochybiaiąc a jezeli bym Ja Wawrzecki przepominawszy tego listu zapisu mego tych flasz na tym terminie nie oddał tedy przy samey originalney waznosci rzeczy mam zapłacic troyakie zaręki, z szkodami nakładami na gołe rzeczone słowa mianuianemi, a jako o nie oddanie na terminie tych flasz tak o troyakie zaręki y szkody daię wolność siebe przwad (?) y zakazem zakazywac słownym lub na pismie. Terminem by naykrotszym y niestatutowym do wszelakiego sądu y prawa to iest Ziemskiego, Grodzkiego, Głowniego Trybunalskiego y do sądu JKmci za Dwornego Assesorskiego, Seymowego, Relacyinego także do sądu marszalkowskiego Koronnego y W$^{o}$X$^{o}$Ltt$^{o}$, y *Ad Prima Instansich* JKMci

[арк.1 адв.]

Panow Marszalkow *itru są gentis officy* urzędow a pod czas *intewegnum* y do sądow Kapturowych w ktory chcąc powiat termin y woiewodztwo, a ja przed kozdy sąd y urząd będąc w pozwanym lub zakazanym nie zażywając sam przez się ani przez żadną osobę zadnych dilacyi prawem pospolitym postanowionych y rozumem ludskim wynaydzionych, nie biorąc na plenipotenta na kopią z pozwu z zakazu y s tego zapisu na manumenta ani na zastępę nie zastaniaiąc się rezydencją przy boku JKMci usługą pospolitey poselską seymową y usługą pospolitey wojenną chorobą obłozną swoią y posłanca onego, także usługą prywatną senatorską a ni żadnemi obronami prawnemi a przotowiu nieprawnemi, ale za razem u tego sądu do ktorego będę zapozwany lub zakazany stanąca (?) stanowszy roku pozwy zakazu nie burząc tę obiedwie flaszy za rażem oddać, y za nie oddaniem na termine troiakie zaręki nie schodząc z sądu zapłacic mam szkody nakłady na grodzie y kożdy sąd y urząd przed ktory ja pozwany lub zakazany był ta w stanie iako y w niestaniu moim ma na mnie samym osobey mey y wszelkich maiętnosciach moich, leżących, ruchomych sumach pieniężnych, gdziekolwiek y u kogokolwiek będących skażac y mocną oprawę udziałach y pod wszytkie pozwy w prawie pospolitym, w Statutach, constitutach y artykułach marszałkowskich, Koronnych y W$^{o}$X$^{o}$Ltt$^{o}$ opisane y pod proces w sądach marszałkowskich W$^{o}$X$^{o}$Ltt$^{o}$ na przeszłym Seymie Warszawskim o też flasze pod datą w tym procesie marszałkowskim *suie incontumaciam suie ex personali comparitione* wypadły podlegac mam y jakowy na potym za nie dosyc przeze mnie temu zapisowi uczynieniem z ktorego kolwiek sądu dekret wypaść miał sprzeciwiac się nie mam.

[арк.2]

A ja sądu y żadnego urzędu o zły wskaz a strony o zły przewod prawa turbowac y przywac nie będą mogł. Pod zapłaceniem wyszmianowaney zaręke y nagrodzeniem szkod. Y na to daię ten moy list z pieczęcią y z podpisem ręki mey y pod pieczęciami przy podpisach rąk ode mnie ustnie y oczewisto uproszonych imionami nizey na podpisach rąk wyrażonych. Pisan w Grodnie roku 1677 msca Junij 16 dnia.
Jarosz Alexander s Krzetuszewa Wawrzecki.
Ustnie proszony pieczętarz Jarosz woyski wendenski sędzia WXL
Proszony o podpis a nie oczewisto od osob wyrazonie werzednie tego listu Maxymilian Jelec miecznik Wołkowyski.

[арк.2 адв.]

List odemnie Jarosza Wawrzeckiego dany Jeg$^{o}$ Msci Panu Dadzibogu Grodkowskiemu Stolniku Grodzienskiemu na to iż co do ręku moich dane beły flasze srebrne złociste od Jasnie Wielmożnego Jeg$^{o}$ Msci Pana Canclerza Wielkiego W$^{o}$X$^{o}$Ltt$^{o}$ na prezent wesela corki Jeg$^{o}$ Msci, ktore tę flasza iż nic nie przyszło dotąd oddac tedy mam że Jeg$^{o}$ Msci oddac w roku teraznieyszym 1677 w dzien Swiętego Michała Swięta rzymskiego według nowego kalendarza na mieyscu pewnym przy księgach grodzkich Grodzienskich niczym tego terminu nie pochylaiąc pod zarękami y obowiązkami szerzey we sredzinie tego listu zapisu do nego opisanym.

## *Дадатак 5.*

**Урывак з інвентара маёнтка Масаляны пры передачы яго ў скарб.**
**1689 г.**

Дакумент захоўваецца:
*ЛДГА. Ф.1029. Воп.1. Спр.85.*

[арк.1]

…Dwor y budowanie tego dworu Masalan wszedłszy w podworze po prawey ręce rum wielki z gankiem tarcicami moszczonym do sieni drzwi na zawiasach z zaszczepką y proboiem, po prawey ręce wszedłszy w sieni izba stołowa do ney drzwi na zawiasach u trzech okien tylko okienice na zawiasach a cztyry okna deskami pozabiiane. Piec biały poliwany z kominem wywiedzionym, ławy w tey izbie połomane kredens balasami toczonymi spierzony, idąc od tey izby izdebka druga bokowa. Drzwi do ney na zawiasach z zaszczepką y proboiem. Piec z kafel prostych szarych z kominkem okien szklanych w drzewie dwa, z tey izdebki sionki z komorką drzwi dwoie na zawiasach z tych sionek pokoik drzwi do niego snicerskiey roboty na zawiasach okno iedne w ołow oprawne drugie w drzewo. Stoł stolarskiey roboty. Piec z kafel zielonych, przy tym pokoiku alkierz okien w nim trzy w drzewo oprawnych, szafka zielona z zawiaskami na wierchu tego alkierza salka. W tey salce okien trzy szklanych w drzewo oprawnych y ram cztyry z izby stołowey.

[арк.1 адв.]

Z tego alkierza y pokoiku pokoy duży do niego drzwi snicerskiey roboty na zawiasach z zamkiem wnętrznym okna trzy szklane w ołow y drzewo po połowie oprawne. Okienic na zawiasach trzy z ławami z stołem iednym y z zedłem iednym. Piec z kafel zielonych y kominem wywiedzionym, drzwi z tego pokoiu do sieni na zawiasach z kruczkiem do zaszczepienia tego pokoiu. W sieniach okien szklanych potłuczonych dwa na gurze tego budynku pokoiki dwa bez drzwi y okien, nad gankiem salka także bez okien, drzwi do nich na zawiasach. Ten rum gontam staro kryty. Od tego rumu idąc po prawey ręce browar z słodownią y komorką ten browar nakrycia potrzebuie do niego wrota z dranic. Idąc od browaru dom kuchenny, wszedłszy w sieni kuchenne drzwi na biegunkach. Izba biała z komorą okienek niewielkich trzy szklanych w drzewo oprawnych. Naprzeciwko piekarnia z komorką drzwi wszakie na biegunkach, przy piekarni syrnik drzwi do niego z zaszczepką proboiem na biegunkach dranicami kryty. Idąc daley wozownia z wrotami dranicami słomą kryta, przy tey wozowni stanica y wozownia budowana nowa z wrotami dranicznemi z zasuwkami drewnianymi dranicami kryte, za tą wozownią szpichlerz duzy nowy drzwi do niego na zawiasach z zaszczepką proboiem y kłodką. Ten szpichlerz połowa dranicami a druga połowa słomą kryta. Od szpichlerza idąc po prawey ręce do gumna szpichlerzyk niewielki z proboiami y kłodką wien na łańcuszku. Przy tym szpichlerzyku gumno do składania zboża z tokiem z zaszczepką y kłodką. Wrot granicznych dwie idąc z gumna do obory po lewey ręce gumno do młocenia y składania zboża. Wrot w nim troie iednie z zaszczepkami y kłodką. Przy gumnie szpichlerzyk niewielki stary o dwu piętrze drzwi na zawiasach z wnętrznym zamkiem y zaszczepką. Za tym gumnem obora na bydło w niey chlewow cztyry naprawy y nakrycia potrzebuią. Młyn ze wszytkim żelazem pode dworem porządny na stawie. Do tego dworu należąca karczma przy wsi Masalanach za wszytkim to iest z kotlem y naczyniem browarnym iako szerzey w kontraktu iest opisano. Z ktorey zyd arędarz płaci arędy 160 zł polskich. Aze szpichlerz wielki w gurze mianowany JM Przesławskiego iest inferowany tedy ten szpichlerz extipuie...

## *Дадатак 6.*

**Пункты тэстамента Дадзібога Граткоўскага.**
**Без даты.**

Дакумент захоўваецца:
*ЛДГА. Ф.1029. Воп.1. Спр.89.*

[арк.1]

Copia.
Punkty ktore maią byc do testamentu inserowane odemnie Dadziboga Grodkowskiego Stolnika Grodzienskiego sporządzone.

1. Aby Małzonka moia z Synem P(ane)m Sekretarzem zmozszysię zaraz po zeysciu dusze moiey z ciała do Kosciołow Bernardynskiego, Karmelitanskiego, Dominikanskiego, Franciszkanskiego w Grodnie po zł trzydziestu do kozdego na tryiezmy oddali do Fary do Panienskich obudwu Kosciołow y Cerkwi Soborney w Grodnie na msze y na dzwonienie po zł pietnastu dali co uczyni zł 180.
2. Ciało moie aby w sklepie Ichm Panien Brygidek w Grodnie złozone y pochowane[521] było nie sprawując ani wystawując katafalku tylko aby xięży y mszy S. iako więcey byc moze odprawioną.
3. Poniewasz na to gotowey summy nimasz tedy dwor ktory z dwoch w Grodnie będących zastawili iezeli prędko przedac nie mozna to zastawiona złotych dwoch tysiącach z ktorey symmy jeden tysiąc złotych na msza S. tak na tryiezmy iako przy locowaniu ciała mego obrocic. A drugi tysiąc zł dac do ręk Wielebney Jeym Pannie Xieni Panien Brygidek aby na kozny tydzień iedna msza S. odprawiona byc mogła.
4. Co się tknie maiętnosci moich Masalan y Woyciechowszczyzny na tych wszyskich Małzonka moia ma odemnie zapisanych osimnascie tysiąc złotych. Te zapisy testamentem utwiedzic y przy wolney dyspozyciey ta summa ma zostawac.
5. A ze maiętnosc Masalany teraz w dierzeniu skarbu nadwornego JKM maiętnosc Syn moy P(a)n Stephan Grodkowski Dworzanin y Pokoiowy Sekretarz JKM staranie uczynic ma poniewasz iest obietnica ze ma byc wrocona ta maiętnosc zeby mogła do ręki y dzierzenia naszego przyic ktora po okberowaniu (?) od skarbu wiecznoscią temusz synowi memu P(an)u Sekretarzowi nalezec będzie po długim zyciu naszym.
6. Ma się tez Syn moy oto starac aby Jeymci Pani Matki Swey ni w czym nie uraził ktora declaraie y summy po uczynioney legaciey za dusze moią y swoią temuz Synowi zostawią declaruią długem zyciu swoim tylko aby ią szanował.
7. Długi wszyskie iakie kolwiek y komu kolwiek słusznie winne bys się pokaza te wszyskie Syn moy znosic ma na to dwory obodwa w Grodnie wolno mu sprzedac tylko by długi zniesione y Ichm(iłos)cow Panow credytorowie uspokoieni byli. Temuz Synowi y długi na oekonomiey zostaiące nalezec maią y onemu wolno będzie od[z]yskowac a długi zpłacic. Niema tez Syn moy nic usurpowac sobie poniewaz niemało summe na swoią potrzebę zabrał. Ktore iezeliby Małzonki mey a Matki swey nie szanował tedy podług reiestru aby oddał naznaczam.

[арк.1 адв.]

8. Na Krzysztophowie nieodebraney summy zostac tysiąc złotych polskich te summe Syn moy aby uczyniwszy staranie odzyskał a Oycom Dominikanam oddał.
9. Azemsię zadłuzuł Je(g)omsci P(an)u Krzysztophowi Karpiowi y Pani Małżonce onego a Corce mey siedem tysięcy złotych ktore w nim s tem był na Massaliany aby tedy ante omnia miedzy inszemi oddana była pilno proszę poniewaz Massaliany za dług przez Syna mego Pana Sekretarza na oekonomiey zaciągnioney zaiacianą.
10. Długi mnie y Małżonce moiey winny te wszystkie Syn moy jeżeliby mnie samemu nieprzyszło od[z]yskac y odebrac wolen y mocen będzie.

Dadzibog Grodkowski Stolnik Grodzienski.

[521] Закрэслена "*stawione*".

***Дадзібог***, ?–1698 г., віленскі скарбнік
гарадзенскі стольнік x Марыяна Масальская, ?–1708 г.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ***Стэфан*** ?–да 1698 г. каралеўскі сакратар | ***Антоні*** | ***Гальшка*** x Давід Францкевіч Радзімінскі | ***Клара*** x 1. Самуэль Леапольд Камінскі 2. Крыштаф Карп | ***Ганна*** x Міхал Адам Станкевіч |

**Длугаборскія.**

Паводле К.Нясецкага ***Длугаборскія*** паходзілі з Мазовіі з Польшчы[522]. У дакументах Гарадзенскага павета фігуруюць ужо ў 20-х г. XVII ст. ***Мацею Длугаборскаму*** (?–да 1655 г.) быў вінен 630 копаў літоўскіх грошаў гарадзенскі падкаморы Кандрат Мялешка. Пасля яго смерці пазыку аддаў выканаўца тэстаменту Аляксандр Бухавецкі (1626 г.)[523].

М.Длугаборскі быў жанаты з мясцовай шляхцянкай ***Ганнай Барталамееўнай Талачкоўнай*** (?–1658 г.). Род Талочкаў быў вельмі разгалінаваным і не вызначаўся заможнацю. У другой палове XVI–пачатку XVII ст. яго прадстаўнікі мелі дробныя ўладанні ў Талочках пад Жыдомляй[524]. Тамсама меў землі М.Длугаборскі[525]. Шлюб адбыўся да 1619 г. У гэты год яны разам падпісалі арэндную дамову з маці ***Ганны*** на маёнтак Корчык. Сама арэнда была заключана з 1620 па 1622 г. Але ў 1628 г. Длугаборскія яшчэ трымалі маёнтак і не аддалі грошы за арэнду. Гэта прымусіла маці падаць ў суд на зяця і дачку. Па рашэнню суда яны павінны былі яго вярнуць[526].

***Ганна Барталамееўна*** памянялася сядзібамі ў Эйсымонтах з дачкой ***Марыянай*** і зяцем Геліяшам Янавічам Талочкай (1649 г.). З Крыштафам Талочкай, а таксама з Адамам Максімавічам Канстанціновічам і яго жонкай Крысцінай Янаўнай Талачкоўнай, Міхалам Крыштафавічам Абухоўскім і яго жонкай Малгарэтай Адамаўнай Канстанцінавічоўнай яна абмянялася ніўкамі (1648 г.)[527]. ***Ганна Барталамееўна***, Васіль Эльяшевіч Талочка, Андрэй Амбражэвіч Канстанціновіч, Шыман Андрэевіч Канстанціновіч і яго жонка Марына Паўлаўна Камінская разам прадалі свае ўладанні ў Талочках Траскаўшчыне Мікалаю Казімеру Смагарэўскаму і яго жонцы Ганне Кульвінскай (1650 г.)[528].

Геліяш Талочка і яго жонка ***Марына Длугаборская*** прадалі сядзібу Станіславу Чамерку і яго жонцы Паланеі Валянцінаўне Талачкоўне за 10 копаў літоўскіх грошаў (1648 г.)[529].

Жонка і дачка ***Агата*** былі запісаны ў кнігу брацтва Анёла Ахоўніка ў 1629 г.[530] Пасля смерці мужа ў сям'і ўзніклі фінансавыя праблемы і ***Ганна*** разам з сынам ***Янам*** прадала некаторую маёмасць Кандрату Сямёнавічу Аленскаму і яго жонцы Петранэлі (1655 г.)[531]. ***Ганна*** склала тэстамент ў 1657 г. У дакуменце адзначыла, што хворая і ва ўзросце. 100 злотых было прызначана касцёлу, дзе пахаваюць яе. Сын ***Ян*** павінен быў паклапаціцца аб пахаванні па каталіцкаму абраду. Лёс іх дзяцей склаўся наступным чынам. ***Агата*** выйшла замуж за Яна Маркавіча Сапоцьку, ***Праксэда*** – за Крыштафа Аленскага, ***Аршуля*** – жонка Марціна Храптовіча, ***Зузана*** – за Антона Абухоўскага, ***Ефрасіння*** – за Марціна Каспаравіча Маліноўскага, а сын ***Ян Міхал*** стаў манахам езуіцкага кляштара ў Горадні. Дзеці валодалі Корчыкам і Траскаўшчынай у Гарадзенскім павеце. Пасля таго як ***Ян Міхаіл*** стаў манахам, ён адмовіўся ад маёмасці на карысць

[522] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.3. S.339.
[523] *ЛДГА*. Ф.598. Воп.1. Спр.1450. Арк.8.
[524] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.7. Арк.132 адв.–134; Спр.11. Арк.27–32 адв.
[525] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.37. Арк.1080.
[526] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.33. Арк.209–211 адв.
[527] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.40. Арк.5–7 адв., 23 адв.–24.
[528] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.42. Арк.19–20 адв.
[529] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.40. Арк.331 адв.–332.
[530] *НГАБ у Горадні*. Ф.259. Воп.2. Спр.2. Арк.3 адв., 9.
[531] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.661–664.

сясцёр. Я.Длугаборскі пацвердзіў продаж Сакалоўшчыны Васілю Праніцкаму, бо маці памерла не паспеўшы гэта зрабіць (1675 г.). Ён падараваў ***Ефрасінні*** і ***Праксэдзе*** грошы, якія запісала яму маці. Сёстры разам з сужэнцамі прадалі частку зямлі пад назвай Катабушак, якая ўваходзілі ў склад маёнтка Корчак, Марціну Ляшчынскаму і яго жонцы Зузанне Засунскай (1675 г.)[532]. Яны ж падзялілі маёмасць пасля іх брата ў 1691 г.[533] Марцін Маліноўскі згаданы як уладальнік вёскі Корчык у падымным рэестры 1690 г.[534]

***Агата Длугаборская*** нарадзіла дачку ***Тэклю***, якая стала жонкай Войцаха Жэляроўскага[535]. Калі ***Агата*** захварэла на ліхаманку, то ахвяравалася да абраза Маці Божай Студэнцкай (1664 г.). Яе сястра ***Ефрасіння*** пры смяротнай хваробе яе сыноў звярнулася да абраза Маці Божай Студэнцкай у 1664 г. Раней у 1662 г. яе муж, калі пабачыў свайго сына хворым, то папрасіў абраз аб здароўі для яго[536]. У сям'і Яна і ***Агаты*** выхоўвалася сястра мужа Кацярына. Яны выдалі яе замуж за Казімера Валянцінавіча Талочку. Разам з мужам яна засведчыла пра атрыманне пасагу (1641 г.)[537].

Вядома, што ў 1662–1680 г. пробашчам Эйсмонтаўскага касцёла[538] быў ***Ян Длугаборскі***, які атрымаў ад Яна Масальскага фундацыйны запіс на 3000 злотых на Масалянах (Гарадзенскі павет). Гэта было зафіксавана ў тэстаменце Я.Масальскага (1662 г.), дзе адзначалася пра цудатворны абраз, а таксама пра наяўнасць там крыпты[539]. Аб гэтым касцёле і наяўнасці там сямейных крыптаў мясцовай шляхты згадваецца ў тэстаментах Міхала Якубовіча і Самуэля Грыгоравіча Цыдзіка за 1685 г.[540]

---

[532] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.43–51 адв.; Спр.49. Арк.238–241 адв., 279–280 адв, 285–287 адв.

[533] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.54. Арк.464 адв.–465.

[534] *Metryka Litewska. Rejestry...* S.102.

[535] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.43–51 адв.; Спр.46. Арк.547–550 адв.

[536] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.19, 61, 65.

[537] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.37. Арк.781–781 адв.

[538] У касцёле ў Вялікіх Эйсмонтах знаходзіўся цудатворны абраз. Паводле візітацыі за 1820 г. вядома, што драўляны касцёл быў заснаваны па фундацыі Ганны Паўлаўны Эйсымонтаўны ў 1660 г. Пасля яго зруйнавання новы драўляны касцёл з'явіўся пры спрыянні каноніка гарадзенскага дэканату, эйсмонтаўскага пробашча і калятара Андрэя Эйсымонта і гарадзенскага харужага Міхала Эйсымонта (1748 г.). Пры візітацыі было пададзена апісанне менавіта гэтага касцёла. На той час сярод абразоў там знаходзіліся два абразы: Звеставання Панны Марыі, маляваны на дрэве, і Найсвяцейшай Панны Ружанцовай, маляваны на палатне, гл.: *ЛДГА*. Ф.694. Воп.1. Спр.4020. Арк.97, 100. Мураваны касцёл быў пабудаваны з ініцыятывы ксяндза Сезянеўскага ў 1849 г. Цудатворны абраз упершыню згадваецца ксяндзом Гульэльмам Гумпенбергам. Яго знайшла ў пачатку XVII ст. Ганна Эйсымонтаўна. Гэта была выява Найсвяцейшай Панны, маленькая па памерам і выглядала як сыгнет, выбіты на камяні і апраўлены ў золата. Дзяўчынка зрабіла сабе невялікі алтар і там кожны дзень малілася, а пасля – і ўся яе сям'я. Калі яе выдавалі замуж, то бацькі адмовіліся аддаць ёй гэты абразок. Гэты факт настолькі ўзрушыў Ганну, што яна захварэла: не ела і не піла тры тыдні. Бацькі аддалі абраз, і яна адразу паправілася. З таго часу Ганна насіла яго на шыі. Аднойчы нейкі заможны шляхціч, пабачыўшы абраз, захацеў яго набыць і прапанаваў ёй дарагую сукенку, а калі яна адмовілася, то прапанаваў мужу дараваць за абраз яго пазыку 1200 злотых. Ганна вельмі пакрыўдзілася на мужа і нават захварэла з-за гэтага. Пасля ў яе было бачанне Панны Марыі, якая гневалася за спробу прадаць яе за сукенку і грошы. Ганна папрасіла ў яе прабачэння за сябе і мужа. Тая ёй даравала, але падала жалобную сукенку, сказаўшы, што хутка яна яе апране. Сапраўды, не прайшло і года як памёр муж (1655 г.). Пасля з гэтым абразам былі звязаныя і іншыя цуды. 10 чэрвеня 1658 г. Я.А.Храпавіцкі наведаў Эйсымонтаву і адзначыў, што ў яе ёсць цудатворны абразок. Гэтая гісторыя не запісана ў парафіяльных актах. За цудатворны абраз там лічыцца маляваны абраз Панны Марыі, які аздоблены сярэбранай сукенкай. На пачатку XX ст. там яшчэ была кніга цудаў, якія пачаў запісваць ксёндз А.Эйсымонт з 1738 г. Запісы вяліся да пачатку XIX ст., гл.: Gumppenberg G. *Atlas Marianus*. Monachii, 1672. P.269–271. Fridrich A. *Historye cudownych obrazów...* S.143–146. Chrapowicki J.A. *Diariusz...* S.163. Выява пазнейшага абраза была надрукавана ў кнізе: Beklewski A. *Róża niebieska pełna darów przy wprowadzeniu dwojga bractw różańcowych Jezusa i Marii do kościoła eysymantowskiego przesadzona*. Supraśl, 1740. Nowakowski W. *O cudownych obrazach...* S.160–161.

[539] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.53, 78.

[540] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.54.

***Мацей Длугаборскі***, прыбыўшы ў Гарадзенскі павет, даволі ўдала інкарпараваўся ў мясцовую шляхту праз шлюб з шляхцянкай з роду Талочкаў. Але ён не змог тут зрабіць удалую кар'еру. Яго сын ***Ян*** быў апошнім прадстаўніком мужчынская полу, але яго выбар стаць манахам не дазволіў працягнуць род Длугаборскіх. На ім гэтая галіна згасла.




**Жэляроўскія.**

***Войцах Жэляроўскі*** (?–1664 г.) шляхціч Бельскага і Гарадзенскага паветаў меў непасрэднае дачыненне да абраза Маці Божай Студэнцкай. Паводле легенды і яго тэстаменту абраз патрапіў да яго ад дамініканіна Куклінскага. Перад смерцю абраз быў перададзены ў езуіцкі касцёл (28 сакавіка 1664 г.). Многія цуды адбыліся ў прысутнасці ***Войцаха Жэляроўскага***. А сам ён таксама адчуў на сябе ласку Маці Божай. Пры яе спрыянні В.Жэляроўскі і 21 шляхціч змаглі збегчы з гарадзенскага замку і пазбегнуць смерці ў маскоўскім палоне (1655 г.). Аб гэтым ёсць выява на лаве[541]. Ён быў таксама сведкам пакарання паручніка Кільманава за блюзнерскія выказванні ў бок абраза (1663 г.)[542].

В.Жэляроўскі быў двойчы жанаты. Імя першай жонкі невядома, а другая – ***Тэкля Сапацькоўна***, дачка Яна Сапоцькі і Агаты Длугаборскай (шлюб заключаны ў 1661 г.). Яна ўнесла ў яго дом пасаг у памеры 600 злотых. За гэта ёй было запісана вена 1000 злотых (1662 г.). В.Жэляроўскі меў ад першага шлюбу дваіх дзяцей ***Андрэя*** і ***Ганну***. Пасля яго смерці дзеці засталіся жыць з мачахай у Кульбаках. Акрамя дзяцей у сям'і была выхаванка Ганна Балатніцкая. У тэстаменце В.Жэляроўскі прасіў, каб яго пахавалі ў езуіцкім касцёле (1664 г.). Ён валодаў невялікай маёмасцю і размеркаваў усе свае рухомыя рэчы, нават талеркі[543]. Яго жонка выйшла другі раз замуж за Яна Баркоўскага[544].

Тэстамент В.Жэляроўскага падала жонка Тэкля Сапацькоўна для актыкацыі ў гарадзенскі гродскі суд 10 красавіка 1664 г., а 17 кастрычніка 1664 г. ён быў перанесены ў гарадзенскі земскі суд. Памёр аўтар тэстамента ў перыяд паміж 28 сакавіка і 10 красавіка. Амаль у самым пачатку дакумента змяшчаецца інфармацыя пра абраз Маці Божай:

"*W ymie Oyca y Syna y Ducha Swiete$^{o}$. Amen. Ja Woyciech Zelarowski uz nawiedzony będąc od Pana Boga uż czas niemały na ciele chorobą na rozumie iednak y zmysle będąc zdrowy y przy dobrym baczeniu. A czuiąc sie byc błiszszym smierci anizeli zywota uboga moią maiętnosc tak rozporzęzony ostatnią wolą moię takowa chce miec. Naprzod maiąc w domu swoim wielki kleynot do Boga to iest obraz Cudowny Panny Przenaswiętszey Bogorodzice Maryey ktorymi za wielki upominek dał y wiecznymi czasy darował xiądz Kuklinski Zakonu Dominikanskiego daię ten obraz Panny Przenaswiętszey y wiecznymi czasy daruię do koscioła Jch Msciom Przewielebnych Oycow Jezuitow Rezydencyey Grodzienskiey do Congregacyi y Bractwa Panny Przenaswiętszey ze wszytkiemi wotami y tabliczkami srebrnemi aby tam jako naywiększą chcią te*

[541] Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.84–85.
[542] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.7, 8, 22, 54, 62, 71, 77.
[543] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.543–550 адв.
[544] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.51. Арк.949–950.

*Panną Przenaswiętszą wychwalano przy tym chorągiew kitayczaną y obrazow co ckolwiek mam to wszytko do Congregaciey zapisuię*”[545].

В.Жэляроўскі адносіўся да прыезджай шляхты, які не меў уласнасці, а арандаваў Кульбакі. Ён пайшоў выпрабаваным шляхам для ўключэння ў мясцовую суполку – ажаніўся з мясцовай шляхцянкай. Але яго статус у грамадстве значна павысіўся дзякуючы таму, што ў яго быў цудатворны абраз Маці Божай да якога звярталіся жыхары Гарадзенскага павета. Лёс яго нашчадкаў у гэтым рэгіёне невядомы.




**Карпы.**

Бельскі падкаморы ***Юзаф Карп*** першы раз ажаніўся з Гальшкай Сапежанкай (1618–да 1675 г.). Яна была дачкой менскага ваяводы Мікалая Сапегі (каля 1581–1644 г.) і Ядзвігі Ганны Вайнянкі (?–1642 г.)[546]. Ю.Карп меў пляц на вуліцы Азёрная ў Горадні, які набыў у гарадзенскага мяшчаніна Барталамея Цярлея (1680 г.). Гальшка мела пляц на вуліцы Маставой[547]. Сужэнцы разам далі фундацыйны запіс касцёлу ў Бераставіцы Драўлянай (1663 г.)[548].

У 1663 г. Гальшка судзілася з-за пазыкі з нейкім заможным магнатам у Скарбовым Трыбунале ВКЛ. Не маючы магчымасці выйграць справу яна звярнулася да абраза Маці Божай Студэнцкай і суд прыняў рашэнне на яе карысць[549]. Гальшка таксама звярталася за дапамогай да цудатворнага абраза Маці Божай Ружанастоцкай. У 1660 г. Ефрасіння Тышкевічовая параіла ёй ахвяраваць да абраза хворага сына ***Антонія***, якому было тры гады, але тая адмовілася і сын памёр. Праз год, калі хварэў на гарачку старэйшы сын ***Хрызастом*** (11 год), то Гальшка ахвяравала яго Маці Божай. У 1663 г., калі старэйшы сын захварэў на болькі, яна зноў жа паехала ў Ружанасток[550].

Іх сын ***Крыштаф Карп*** згадваецца ў ліку асобаў, якія ўваходзілі ў склад гарадзенскай харугвы ў 1698 г.[551] Ён быў жанаты з дачкой гарадзенскага стольніка Дадзібога Градкоўскага і Марыяны Масальскай Ганнай[552]. У іх нарадзілася дачка ***Альжбета***, якая стала жонкай мсціслаўскага кашталяна Самуэля Лазовага, і сын ***Францішак***, які прыняў манаскі сан у езуіцкім ордэне[553]. У ***Хрызастома*** было два сыны ***Ян*** і ***Францішак***. С.Урускі згадвае і ***Антонія Станіслава***, але нічога пра яго лёс не піша. Чацвёрты сын ***Тэадор Лявон*** (?–пасля 1710 г.) уладарыў на Бераставіцы Драўлянай, быў абраны паслом ад Бельскай зямлі ў 1674 г., займаў пасаду падляшскага падстолія. Бераставіцай Мураванай валодаў ***Крыштаф*** (?–пасля 1699 г.)[554]. ***Тэадор Лявон*** і ***Крыштаф*** прадалі свае ўчасткі ў Горадні падскарбію ВКЛ Бенядыкту Паўлу Сапегу (1691 г.)[555].

---

[545] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.543 адв. Урывак з тэстаменту падаецца на мове арыгіналу.
[546] *Urzędnicy podlascy XIV–XVIII wieku…* S.170. Nagielski M. *Sapieha Mikołaj…* S.124–127.
[547] Брэгер Г. *Дакументы…* С.87, 90. Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna…* S.128. *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.65–66. Дакумент выяўлены Юрыем Гардзеевым.
[548] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.11–15 адв.
[549] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.73.
[550] *Cudowny Obraz Bogorodzicy w Różanymstoku…* S.39–41, 63.
[551] *Acta stanow Wielkiego Księstwa Litewskiego na pospolite ruszenie 21.02.1698*. Wilna, 1699.
[552] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.63–94, 96.
[553] Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1909. T.6. S.218.
[554] Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1909. T.6. S.218. *Metryka Litewska. Rejestry…* S.88.
[555] Гардзееў Ю. *Магдэбургская Горадня*. Горадня–Вроцлаў, 2008. С.170.

Другой жонкай ***Юзафа Карпа*** была ***Ганна Карвіцкая*** (?–1687 г.). Першым яе мужам быў падчашы ВКЛ Крыштаф Патоцкі (?–1675 г.). Пасля смерці бацькі і мачахі ***Крыштаф*** быў выканаўцам іх апошняй волі, займаўся іх пахаваннямі. Ён быў прызначаны апякунам ***Антонія Станіслава*** і ***Канстанцыі***. ***Юзаф*** памёр у 1687 г., мачаха была паралізавана на той час, таму ўвесь клопат лёг на плечы ***Крыштафа.*** Па жаданню бацькі і мачахі былі выдаткаваны грошы на імшу. Пахавалі іх у лютым 1688 г. Апякаваннем сястры ***Канстанцыі Крыштаф*** займаўся з 1687 па 1695 г. У гэтым годзе ён выдаў яе замуж, арганізаваў вяселле і даў пасаг. Брат ***Антоні Станіслаў*** знаходзіўся ў яго апецы ў 1687–1697 г. Грошы ішлі як на яго ўтрыманне, так і на выхаванне і адукацыю[556].

Судовыя спрэчкі не абышлі і гэтую сям'ю. Ваўкавыскі падчашы ***Казімер Карп*** падаў скаргу на радунскага старосту Пятра Рудаміну Дусяцкага і яго жонку Кацярыну Халецкую, падляшскага старосту ***Тэадора Лявона Карпа*** і яго жонку Канстанцыю Рудаміну за гвалтоўны наезд на маёнтак Рэпля ў 1695 г. (1696 г.)[557].

Карпы мелі дачыненне не толькі да Гарадзенскага павета, бо пасады яны займалі на Падляшшы. Аднак, іх асноўная маёмасць знаходзілася на Гарадзеншчыне. Яго прадстаўнікі былі каталіцкага веравызнання і падтрымлівалі касцёл.




**Катовічы.**

***Катовічы*** вядомыя ў Гарадзенскім павеце з XVI ст. У той час яны былі праваслаўнага веравызнання[558]. У зборы цудаў памылкова згаданы ***Ян Катовіч*** замест ***Андрэя***. ***Андрэй Францішак*** (?–1682 г.) займаў шэраг пасадаў: віленскі кашталян, пісар ВКЛ, гарадзенскі староста. Да абраза ён звярнуўся з падаграй, ад якой яго паралізавала[559]. Я.А.Храпавіцкі ў сваім дзённіку згадаў пра яго хваробу. 20 жніўня 1669 г. ён занатаваў, што пісар ВКЛ захварэў на паралюш у дарозе на Саколку. Пры гэтым, у яго нават адняло мову і пісара прывезлі у Горадню. А 23 жніўня А.Катовіч ужо пачаў хадзіць і размаўляць. 30 жніўня яго наведалі Тышкевіч і Зяновіч, і адзначылі, што рукой і нагой ён яшчэ не мог нармальна рухаць. Я.А.Храпавіцкі добра ведаў А.Катовіча, вёў з ім перапіску[560]. "*Збор цудаў*" зафіксаваў зварот пісара ВКЛ да Маці Божай 28 верасня 1669 г., амаль праз месяц, верагодна, што апісаная Я.А.Храпавіцкім цяжкая хвароба прымусіла яго звярнуцца да абраза. Аднак, захворванні ў дзвух выпадках адрозніваюцца па назве: паралюш і падагра. Але прыступы падагры могуць прывесці да нерухомасці цела, таму гаворка ў двух выпадках ідзе пра адное і тое ж захворванне.

А.Катовіч меў камяніцу на вуліцы Маставой, якая была недалёка ад езуіцкага касцёла[561]. У 1669 г. А.Катовіч быў паслом на гарадзенскі сойм, а ў 1671 г. займаўся

---

556 *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.7. Кніга гарадзенскага земскага суда 1694 г. Арк.413–426.
557 *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.7. Кніга гарадзенскага земскага суда 1694 г. Арк.427–429.
558 Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna*... S.65–66.
559 *Sumariusz cudow i łask znakomitszych*... S.29. Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай*... С.71.
560 *Dyariusz wojewody witebskiego Jana Antoniego Chrapowickiego*… S.1, 12, 149–151. Chrapowicki J.A. *Diariusz*… S.345, 350, 352, 367, 388, 525, 528, 529.
561 Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna*... S.188.

адбудовай віленскага замку і выпраўленнем ручва рэчкі Вілія[562]. Супраць яго выступілі гарадзенцы на чале з мяшчанінам Мікалаевічам, нават пагражалі забіць (1670 г.)[563]. А.Катовіч і яго жонка ***Барбара Цэцылія*** далі фундацыйны запіс кармелітам босым у Горадні. А іх сын ***Ян Францішак*** падараваў ім мураваны пляц на вуліцы Маставой (1705 г.)[564].

***Ян Францішак Катовіч*** быў гарадзенскім старостай (1682 г.) і віленскім дзераўнічым (1699 г.)[565]. Я.Катовіч ажаніўся з дачкой стольніка ВКЛ Яна Генрыха фон Альтэн Бокума (?–1686 г.) Тэрэзай у 1685 г.[566] За пасаг ён запісаў ёй 40000 злотых на маёнтку Свяцк (Гарадзенскі павет) і 40000 пазычыў. Тэрэза за добрае да яе стаўленне падаравала ўсе грошы мужу (1694 г.)[567]. Іх дачка ***Канстанцыя Барбара*** выйшла замуж за сваяка – лоўчага ВКЛ і гарадзенскага харужага ***Грыгорыя Юзафа Катовіча*** (?–1724 г.)[568]. Сястра ***Яна Францішка Людвіка Тэрэза*** (1661–1714 г.) стала манашкай ордэна візітак у Варшаве. Яна вылучалася вялікай набожнасцю і пасля смерці шанавалася жыхарамі гэтага горада. Яе не любіла маці, таму яна з дзяцінства вымушана была жыць па-за межамі дома[569].

У параўнанні з XVI ст. Катовічы дасягнулі большага сацыяльнага, матэрыяльнага і палітычнага ўзроўню. ***Андрэй*** займаў пасады не толькі мясцовага, але і дзяржаўнага ўзроўню. Значны ўплыў на Горадню і наваколле быў зроблены праз сямейную фундацыю кармеліцкага касцёла і кляштара.




**Кердзеі.**

У “*Зборы цудаў*” з ***Кердзеяў*** згадваецца ***Тэкля***, дачка гарадзенскага маршалка і троцкага кашталяна ***Яна Казімера Кердзея*** (?–1685 г.) і Дароты Грыбоўскай. Яна ахвяравала цудатворнаму абразу Маці Божай Студэнцкай воту ў выглядзе сэрца (1686 г.). ***Тэкля*** выйшла замуж за гарадзенскага падкаморыя і маршалка Стэфана Яўстахія Аляксандровіча (?–1700 г.). Яна пахавана ў гарадзенскім бернардынскім касцёле, аб чым сведчыць пахавальная шыльда, якая захавалася да сёння[570].

***Ян Казімер*** паходзіў з сям’і гарадзенскага падсудка і падстолія, расіенскага старосты і троцкага кашталяна ***Яўстахія Кердзея*** (?–02.05.1661 г.) і Зоф’і Храпавіцкай (?–

---

[562] Wasilewski T. *Kotowicz Andrzej*.// PSB. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968–1969. T.XIV. S.480.
[563] *Гродно. Исторический очерк*. Мн., 1960. С.20–21.
[564] *Аддзел рукапісаў БЛАН*. Ф.43. Спр.8168, 8169, 8179. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna...* S.180–185.
[565] *UWKL. WW*. T.1. S.100, 112, 676.
[566] *UCD WKL*. S.190.
[567] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.7. Арк.328–330.
[568] Gierowski J. *Kotowicz Hregory*.// PSB. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968–1969. T.XIV. S.482–483.
[569] Świątecka M. *Kotowiczówna Ludwika Teresa*.// PSB. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968–1969. T.XIV. S.487.
[570] Амелька С. *Геральдычныя, генеалагічныя і эпіграфічныя крыніцы Беларусі: Горадня (працяг)*.// Герольд Litherland. 2001. № 3–4. С.120–121. Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.2. S.23; Lipsk, 1840. T.5. S.80. Piwarski K. *Aleksandrowicz Stefan Eustachy*.// PSB. Kraków, 1935. T.I. S.71.

1656 г.). Бацька пасля смерці брата, ашмянскага земскага суддзі ***Яна Кердзея***, разам з другім братам гарадзенскім земскім пісарам ***Уладзіславам Кердзеем*** судзіліся з жонкай памерлага брата Ганнай Саковічаўнай. Яна на той час ужо была замужам за ашмянскім земскім суддзёй Ярашам Воланам. У 1644 г. справа дайшла да Трыбунала ВКЛ. Яе першы муж запісаў на Мерачы ў Ашмянскім павеце 6000 злотых і пажыццёвае там пражыванне, а таксама палову вёскі Бікяны. На судзе яны пагадзіліся і ёй была выплачана 6000 злотых, 1000 копаў, якія былі на фальварку Габрыяловічы з вёскі Бікяны, яшчэ 4000 злотых[571].

***Ян Казімер*** першы раз ажаніўся з Ізабэлай Калычоўнай, удавой па Андрэю Казімеру Тымінскаму. Ён быў апякунам яе дзяцей і судзіўся з Марцінам Чарніцкім з-за Русоты (1665 г.)[572]. Я.Кердзей запісаў другой жонцы за добрае да сябе стаўленне рухомыя рэчы і пакінуў яе на пажыццёвае пражыванне ў сваіх маёнтках (1685 г.)[573]. У ***Тэклі*** было два браты: ***Фларыян Станіслаў***, які загінуў пад Журавам у 1674 г., і гарадзенскі харужы, філіпаўскі і перавальскі староста ***Ўладзіслаў Антоні***, які быў жанаты з Кацярынай Рудамінай Дусяцкай; а таксама тры сястры: ***Зоф'я Клара***, якая была замужам за Станіславам Шэметам, а пасля – за кухмістрам ВКЛ Крыштафам Камароўскім (?–1708 г.), ***Прудэнцыя*** – за Станіславам Ромэрам і ***Петранэля*** – манашка гарадзенскага кляштара бернардынак. ***Тэкля*** разам з ***Зоф'яй Кларай*** і са сваімі сужэнцамі былі апякунамі сына ***Ўладзіслава Антонія***, ***Юзафа*** і яго маёмасці (1694 г.)[574].

Кердзеі былі сваякамі Я.А.Храпавіцкага, ён з імі падтрымліваў адносіны і вёў перапіску. Іх радавод змешчаны ў дадатках да выдання яго дзённіка[575].




**Манькоўскія.**

У "*Зборы цудаў*" згадана "*пані* ***Манькоўская***", але без імя. Пра яе шляхецкая паходжанне сведчыць зварот. Жанчына хварэла на пухліны і вылечылася дзякуючы цудатворнаму абразу (1661 г.). Дакладна ідэнтыфікаваць асобу не атрымалася. А пра Манькоўскіх у дакументах змешчана наступная інфармацыя.

***Манькоўскія*** паходзілі з Кракаўскага ваяводства. Каралеўскі дваранін ***Якуб Манькоўскі*** валодаў Мікіціным. У яго былі сыны: ***Фларыян***, ***Ян***, ***Якуб***, ***Юры***, ***Мацей***. Мікіцін перайшоў па спадчыне ***Яну*** і ***Якубу***[576]. Апошні пераехаў у Гарадзенскі павет. Ён

[571] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.38. Арк.317–318 адв.
[572] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.48. Арк.503–506.
[573] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.272. Спр.1280.
[574] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.7. Арк.31, 252–256. Wasilewski T. *Kierdziej Jan.*// PSB. Warszawa; Wrocław; Kraków, 1966–1967. T.XII. S.425–426.
[575] *Chrapowicki J.A. Diariusz…* S.126, 130, 131, 138, 222, 292, 310, 312, 372, 395, 554–555.
[576] Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1913. T.10. S.198.

склаў тэстамент у 1669 г., а актыкаваны ён быў у 1671 г. Тэстатар пажадаў, каб яго цела пахавалі ў касцёле ў Ходараве. Мясцовасць знаходзілася недалёка ад яго ўладання Трырэчча. 15 злотых прызначалася гарадзенскім бернардынам на імшу за яго душу. Яго жонкай была Гальшка Кубалянка, з якой меў дзяцей: ***Станіслава***, ***Пятра***, ***Ганну*** (?–да 1671 г.), ***Тэрэзу*** і ***Зоф'ю***. Сыны атрымалі маёнткі Мікіцін (Польшча) і Трырэчча (Гарадзенскі павет). Дочкам было вылучана па 300 злотых на пасаг. Старэйшая дачка ***Ганна*** выйшла замуж за Станкевіча і нарадзіла дачку Петранэлю. З-за таго, што не ўсе дзеці былі паўналетнімі, то апякунамі былі прызначаны гарадзенскі стольнік Пётр Храптовіч, Дадзібог Талочка, Юзаф Баранецкі і сын Станіслаў[577].

Старэшы сын быў адзначаны як ўладальнік Трырэчча ў падымным рэестры (1690 г.)[578]. ***Тэрэза*** згадваецца як жонка Яна Якубавіча Талочкі ў 1685 г.[579] ***Станіслаў*** ажаніўся з Марыянай Сцярпейкоўнай, якая стала ўдавой па Феліцыяну Гнявінскаму[580].

У першай палове XVII ст. ў Гарадзенскім павеце пражываў ***Марцін Манькоўскі***. Ён ажаніўся з Зоф'яй Геранімаўнай Талачкоўнай (?–1635 г.). Першы раз яна была замужам за Андрэем Снарскім. У іх нарадзіліся ***Венцлаў***, ***Ян*** і ***Раіна***. У другім шлюбе Зоф'я нарадзіла яшчэ чацверых дзяцей: ***Аляксандра***, ***Андрэя***, ***Ганну***, ***Гальшку***[581]. У дакументах захаваліся звесткі пра ***Аляксандра Манькоўскага***. Ён быў жанаты з Кацярынай Марыянаўнай Фаванеўнай. Яны разам узялі пазыку ў Казімера Мачынскага і яго жонкі Барбары (1675 г.)[582].

Больш інфармацыі вядома па сям'і ***Якуба Манькоўскага***. Пераехаўшы ў ВКЛ ён не парываў сувязі з Польшчай і застаўся там спадчыннікам. Але ў Гарадзенскім павеце ВКЛ Маньскоўскія ўвайшлі ў мясцовую грамаду праз шлюбныя стратэгіі і валоданне маёмасцю.




**Сапоцькі (I) і Рукевічы.**

***Сапоцькі*** вядомы ў Гарадзенскім павеце з XVI ст. У гэты перыяд яны былі праваслаўнага веравызнання. Гэта быў даволі разгалінаваны род. Напрыклад, вядома пра гарадзенскага канюшага (1539 г.), жараслаўскага і квасоўскага дзяржаўцу (1540 г.) ***Андрэя Сяцковіча Сапоцьку***. Ён валодаў маёнткам Ласосна (Гарадзенскі павет). У яго былі сыны: ***Іван***, ***Шыман*** і ***Васіль***[583].

У сваім тэстаменце гарадзенскі шляхціч ***Іван Андрэевіч Сапоцька*** (?–1578 г.) прасіў сваю жонку Настассю Багуфалаўну Дарашкевічоўну[584] пахаваць яго цела ў

[577] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.48. Арк.268–269 адв.
[578] *Metryka Litewska. Rejestry…* S.93.
[579] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.52. Арк.252.
[580] *АГФК*. Ф.1. Воп.1. Спр.63.
[581] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.34. Арк.566–568.
[582] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.49. Арк.236–237 адв.
[583] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890. Т.17. С.3, 13, 140.
[584] Настасся была дачкой Багуфала Васілевіча Дарашкевіча. Акрамя яе ў сям'і былі сыны Андрэй, Міхаіл, Іван і Суліян. Суліян быў жанаты з дачкой Афанаса Васілевіча Масальскага Марынай. За пасаг 150 копаў літоўскіх грошаў ёй было запісана вена 300 копаў на маёнтку Ласосна ў 1571 г. Ён падараваў свайму брату Міхаілу валоку зямлі ў маёнтку Ласосна (1578 г.). Іван памёр да 1579 г., яго браты Суліян і Міхаіл судзіліся з яго жонкай Аўдоццяй з-за яго маёмасці. Сям'я была праваслаўнай. Аб гэтым сведчыць просьба яе дзядзькі Хваліміра Пракопа Дарашкевіча пахаваць яго ў царкве Святога Чэснага Крыжа на Падоле (1564 г.), гл.: *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.6. Арк.171–175; Спр.7. Арк.69, 243–244, 403–415 адв. *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1890. Т.17. С.438. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna…* S.53–56.

Прачысценскай царкве (6 чэрвеня 1578 г.). Але ў дакуменце нічога не адзначана пра ахвяраванні на царкву. Можна толькі меркаваць, што яго жонка за пахаванне вылучыла для царквы пэўную суму. У ***Івана*** і Настассі было чацвёра дзяцей: сын ***Марк*** і дочкі ***Кацярына***, ***Марына*** і ***Палонія***[585]. ***Марк*** ажаніўся з Барбарай Дзевялтоўскай[586].

***Шыман*** займаў пасаду гарадзенскага падкаморыя да 1578 г., а пасля перадаў яе Андрэю Гнявінскаму. Ён набыў частку маёнтка Свяцк у Боркі Валовіча і яго жонкі Раіны Вуглікаўны (1578 г.)[587]. ***Васіль*** ажаніўся з Марынай Скіпароўнай. Аб іх шлюбе была папярэдняя дамова з яе бацькам Андрэем Скіпарам. Пасля яго смерці яе апякун Грыгоры Маркавіч Валовіч выдаў яе замуж. За пасаг у памеры 100 копаў літоўскіх грошаў В.Сапоцька запісаў ёй вена на 1/3 частку Ласосна, а на 2/3 пазычыў грошы. Яе браты Грыгоры і Аўгуштын Скіпары не адразу выплацілі пасаг сястры, яны абавязаліся аддаць частку пасагу 50 копаў літоўскіх грошаў (1556 г.)[588]. ***Васіль Сапоцька*** скардзіўся на свайго брата ***Івана*** за няроўны падзел айчыстага маёнтка Ласосна (1571 г.)[589].

Верагодна ў іх была яшчэ сястра ***Настасся***, якая стала другой жонкай смаленскага ваяводы Васіля Тышкевіча (?–1571 г.) і нарадзіла яму двух дзяцей сына Астафея і дачку Аляксандру[590].

Калі ў XVI ст. Сапоцькі былі праваслаўнымі, то ў XVII ст. прадстаўнікі гэта роду былі ўжо каталікамі. У “*Зборы цудаў*” згадваецца гарадзенскі земскі пісар (1655 г.), а пасля падсудак (1659 г.) ***Станіслаў Сапоцька*** (?–1663 г.)[591], які захварэў на паралюш у 1662 г. Пасля звароту да абраза Маці Божай Студэнцкай хвароба адпусціла[592]. Але ў дадзеным выпадку можна казаць пра часовае палягчэнне здароўя С.Сапоцькі, бо ў сакавіку 1663 г. ён быў пахаваны ў Кузніцы (зараз Падляшскае ваяводства, Польшча)[593]. Пасля смерці бацькі сыны ***Аляксандр*** і ***Юзаф*** падзялілі маёнтак Ласосна, а іх маці атрымала сваю частку як удава[594].

Гарадзенскі земскі падсудак ***Станіслаў Сапоцька*** быў жанаты з Канстанцыяй Канстанцінаўнай Рабееўнай Гнайніцкай (?–1675 г.). Яна паходзіла з сям’і Канстанціна Рабея Гнайніцкага (?–да 1642 г.) і Настассі Вольскай. У яе былі брат Ян і сястра Ева. Яе дзед Мікалай перайшоў з праваслаўя ў каталіцызм, ён зрабіў фундацыйныя запісы Прачысценскай (1634 г.) і Каложскай (1643 г.) цэрквам[595]. Яна захварэла на паралюш і звярнулася за дапамогай да Маці Божай Ружанастоцкай (7 мая 1673 г.)[596].

Пасля смерці мужа Канстанцыя вяла справы разам з сынамі (1664 г.). Троцкі ваявода Мікалай Стэфан Пац (?–1684 г.) пазычыў у іх 5000 злотых пад маёмасць Астроўна ў Віцебскім ваяводстве[597]. Канстанцыя склала свой тэстамент 25 мая 1675 г., а актыкаваны ён быў 16 верасня 1675 г. У гэты перыяд яна памерла. Шляхцянка прасіла пахаваць яе ў гарадзенскім бернардынскім касцёле ў Сапоцькаўскім склепе, дзе ужо быў пахаваны яе муж ***Станіслаў***. Яна хацела, каб пахаванне было сціплае. Цела павінны былі пакласці ў труну пафарбаваную ў чорны колер ці абабітую чорным сукном і на простым возе на адным кані адвезці да касцёла. Прызначалася 100 злотых на пахаванне, 50 – на імшу, 50 – на бернардынскі касцёл. Грошы трэба было ўзяць з 2000 злотых, якія запісаў ёй муж на маёнтку Ласосна. Сын ***Аляксандр*** павінен быў замовіць імшу за яе душу і яе мужа на

---

585 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.7. Арк.67–70.
586 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.3. Арк.223–225 адв.
587 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.7. Арк.126 адв.–129, 292 адв.–294.
588 *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. Т.21. С.170, 176, 179.
589 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.6. Арк.265–268.
590 *АВАК*. Акты Слонимского земского суда. Вильна, 1895. Т.22. С.388–392, 418–425.
591 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44; Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1841. T.8. S.462.
592 *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.24.
593 *Chrapowicki J.A. Diariusz…* S.389.
594 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.693–696 адв.
595 *НГАБ у Горадні*. Ф.128. Воп.1. Спр.12; Ф.1475. Воп.1. Спр.2. Арк.76–77. Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna…* S.59–63.
596 *Cudowny Obraz Bogorodzicy w Różanymstoku…* S.93.
597 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.477–477 адв.

працягу тыдня пасля пахавання. У яе тэстаменце згадваюцца два сыны: смаленскі скарбнік, гарадзенскі земскі падсудак і гродскі пісар ***Аляксандр*** і ***Юзаф***. Старэйшаму сыну была пакінутая ўся маёмасць і права ёй распараджацца, а другі сын быў выдалены ад спадчыны з-за няпраўнага, нявенчанага шлюбу з "*нявольніцай і блудніцай*", чым зрабіў ганьбу ёй як маці і ўсяму роду Сапоцькаў. Ён мог атрымаць сваю палову маёмасці толькі пасля адмаўлення ад такога шлюбу. Яе рашэнне для таго часу было заканамерным, бо ўжо з прыняццем III Статута 1588 г. нявенчаны шлюб у шляхецкім асяроддзі забараняўся, а дзеці народжаныя ў ім называліся бенкартамі і заставаліся без спадчыны. Акрамя гэтага ўсталяваныя шляхецкія традыцыі і звычаі ў эпоху барока негатыўна трактавалі такія шлюбныя дачыненні[598]. Акрамя сыноў згадваюцца ў дакуменце ўнукі і ўнучкі: Канстанцыя Нерашынская і Яганна Рукевіч – дочкі ***Юстыны***, ***Станіслаў*** сын ***Аляксандра***, які гадаваўся пры бабцы, ***Крысціна*** і ***Марцін*** – верагодна дзеці ***Юзафа*** ад першага шлюбу[599].

***Аляксандр Сапоцька*** першы раз ажаніўся з Тэадорай Вышынскай (?–1664 г.). Яна першы раз была замужам за Дабрагостам Боўфалам, нарадзіла яму сыноў Жыгімонта і Валер'яна. У другім шлюбе з А.Сапоцькай у яе нарадзіўся сын ***Станіслаў***. Пад час напісання тэстаменту 25 лютага 1664 г. яна была цяжарная другім дзіцём. Асноўным апякунам для ўсіх дзяцей быў прызначаны муж, бо родны брат першага мужа Ян Боўфал адмовіўся ад апекі. Дакумент быў актыкаваны 16 сакавіка 1664 г. Яна магла памерці цяжарнай ці пад час родаў. У Супрасльскім памянніку згадваюцца два немаўляці ***Юзафат*** і ***Мікалай***. Вегародна адзін з іх ці абодва былі яе дзецьмі. Праз год ***Аляксандр*** ужо быў жанаты з Юстынай Рутковіч. Яна ўнесла ў яго дом пасаг на суму 7000 злотых і рухомых рэчаў на 1000 злотых. Ён заставіў ёй Ласосна за 15000 злотых (1665 г.)[600]. У 1669 г. Зоф'я Шэмет згадваецца як трэцяя жонка, у якой ён пазычыў 6000 злотых на тры гады пад маёнткі Гладкаўшчына, Ласосна ў Гарадзенскім павеце і Астроўна ў Аршанскім павеце[601]. Чацвёртай яго жонкай была Марыяна Чарніцкая. Яна была сястрой жонкі яго сына[602]. А.Сапоцька памёр да 1679 г. і быў пахаваны ў гарадзенскім кармяліцкім касцёле[603].

***Станіслаў*** сын ***Аляксандра*** займаў пасады смаленскага скарбніка і гарадзенскага чашніка, валодаў маёнткамі Ласосна і Калачкоў у Кузніцкай парафіі. Ён судзіўся з парнаўскім падкаморыем і сваім дзядзькам ***Юзафам Сапоцькай***, які на той час быў жанаты з Марыянай Малахоўскай (1691 г.). Жонкай ***Станіслава*** была Кацярына Чарніцкая, дачка М.Чарніцкага[604].

Сястра ***Аляксандра*** і ***Юзафа Юстына Сапацькоўна*** моцна хварэла з дзяцінства, з надзеяй на вылячэнне яна зрабіла воту да абраза Маці Божай Студэнцкай і хутка вылечылася (17 чэрвеня 1662 г.)[605]. Першы раз ***Юстына*** была замужам за рэчыцкім падчашым Стэфанам Нерашынскім (?–1656 г.). Другім яе мужам стаў гарадзенскі гродскі суддзя і парнаўскі падкаморы ***Ваўрынец Станіслаў Рукевіч*** (?–да 1675 г.)[606]. Яны абмяняліся давальнымі запісамі (1664 г.). Гарадзенскі гродскі суддзя ўпісаўся ў брацтва

---

598 Bardach J. *Świecki charakter zwyczajowego prawa małżeńskiego ludności ruskiej Wielkiego księstwa Litewskiego (XV–XVII wieku).*// Czasopismo Prawo-Historyczne. 1963. T.XV. Z.I. S.85–148. Сліж Н. *Фарміраванне структуры шляхецкай сям'і ў заканадаўстве ВКЛ у XVI ст.*// Шляхі развіцця інтэлекту і творчасці маладых: Мат-лы Рэсп. навук.-практ. канф. "*Работа з адоранай студэнцкай і вучнёўскай моладдзю: стан, формы і метады, перспектывы развіцця*". Горадня, 2001. С.224–228.

599 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.49. Арк.304–307 адв.

600 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.523–528 адв., 693–696 адв.

601 *НГАБ у Менску*. Ф.1870. Воп.1. Спр.1. Арк.129–130 адв.

602 Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna…* S.312.

603 *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.3. Спр.2377.

604 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.52. Арк.373–374 адв.; Спр.54. Арк.51–52 адв. *Metryka Litewska. Rejestry…* S.106.

605 *Sumariusz cudow i łask…* S.65.

606 Uruski S. *Rodzina*. Warszawa, 1931. T.15. S.306. Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.2. S.190.

Анёла Ахоўніка ў 1653 г.[607] У 1663 г. ён ехаў па пільнай справе і пры імклівай едзе выпаў з каляскі і паламаў руку. Адразу звярнуўся да абраза Маці Божай Студэнцкай і адчуў загойванне ў руцэ[608]. Выява з цудоўным вылячэннем ёсць на лаве[609]. Першай яго жонкай была Кацярына Закоўская (1653 г.)[610]. Гарадзенскі гродскі суддзя пазычыў у езуітаў у 1664 г. 3000 злотых, а ў 1674 г. – 2000[611].

У Горадні В.Рукевіч валодаў паловай пляца на вуліцы Маставой з 1667 г., а ў 1673 г. другую палову набыў у райчыні Люцыі Зеляпузінай[612]. ***Ваўрынец Караль Сапоцька***, зямянін Ковенскага павета, прадаў В.Рукевічу і ***Аляксандру Сапоцьку*** за 1000 злотых мураваную карчму на рынку, якую набыў у жыда Мендэля Занкевіча, і Зеляпужанскі пляц. Ён знаходзіўся ў тыле дома Яна Зеляпугі, выходзіў адным бокам на вуліцу, якая ішла ад Саборнай царквы, а другім бокам на вуліцу ад Рынка да Царкоўнай вуліцы, а другім бокам каля пляца жыда Лапаноса (1672 г.). У тым жа годзе А.Сапоцька прадаў В.Рукевічу сваю частку[613].

Ю.Сапоцькаўна нарадзіла ў першым шлюбе дачку ***Канстанцыю***, а ў другім – дачку ***Яганну***[614] і сыноў ***Ігнація***, ***Канстантыя***, ***Казімера***, ***Міхала*** і ***Якуба***[615]. ***Канстанты*** ці ***Казімер*** стаў манахам гарадзенскага дамініканскага кляштара і прыняў імя ***Аляксей***, пасля ён стаў прыёрам. Кляштар выкупіў палову маёмасці Галавачы (Гарадзенскі павет) у яго бацькі (у дакуменце ён названы банітам). У 1682 г. ***Аляксей*** разам з падданымі першы раз разрабаваў царкву ў Галавачах. А другі раз пры нападзе ён выкарыстоўваў гармату, а сам быў узброены пісталетамі. Напад быў на другую частку маёмасці, якая на той час належала яго братам. Быў падстрэлены ўраднік, пашкоджана маёмасць. ***Аляксей*** сам узяўшы за валасы ўдарыў аб зямлю брата ***Міхала***. Возны засведчыў пра вырваны клок валасоў. Брат ***Якуб*** быў на той час хворы і ляжаў на ложку. ***Аляксей*** стрэліў нам ім, чым выклікаў рэцыдыў хваробы. Скаргу падаў ***Ігнацi Рукевіч***[616].

Канстанцыя Нерашынская была тры разы замужам: за Андрэем Эйсымонтам, аршанскім стольнікам, гарадзенскім падстаростай Янам Катовічам, бельскім падкаморым Габрыэлем Каранецкім. Разам з першым мужам учыніла змову і атрымала маёмасць Мількаўшчына ў Гарадзенскім павеце. Яна перашкаджала ўвайсці ў валоданне яго спадкаемцам Якубу, Каралю і Марыне Канстанцінавічам Эйсымонтам, з-за чаго яны з ёй судзіліся (1694 г.)[617]. Разам з другім мужам пазычыла ў Казімера Дзевялтоўскага 150 злотых у 1672 г.[618]

***Яганна Рукевічаўна*** стала жонкай земскага пісара і гарадзенскага скарбніка, браслаўскага чашніка Яна Казімера Андрэевіча Тымінскага. Ён быў сынам Андрэя Казімера Тымінскага і Ізабэлы Калычоўны (?–1665 г.). Яны разам заставілі маёмасць Русота за 2000 злотых Філону Кандыбе і яго жонцы Ганне Адамаўне Талачкоўне (1654 г.)[619]. Пасля смерці мужа Ізабэла выйшла замуж другі раз за Яна Казімера Кердзея. Ён быў апякунам яе дзяцей і судзіўся з Марцінам Чарніцкім з-за Русоты (1665 г.)[620].

---

[607] *НГАБ у Горадні*. Ф.259. Воп.2. Спр.2. Арк.16 адв.
[608] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.68–69.
[609] Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.89.
[610] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.645 адв.
[611] Блинова Т. *Иезуиты в Беларуси*. Мн.: Беларусь, 1990. С.49.
[612] *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.256–257. Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna...* S.140.
[613] *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.230–231 адв., 257 адв.–258.
[614] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.237–240 адв.; Спр.49. Арк.305 адв.
[615] *ЛДГА*. Ф.1029. Воп.1. Спр.102.
[616] *АСЗР*. Вильна, 1867. Т.3. С.192–194.
[617] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.7. Кніга гарадзенскага земскага суда. Арк.429–430.
[618] *ЛДГА*. Ф.694. Воп.1. Спр.4620. Арк.31–32 адв.
[619] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.677–679.
[620] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.48. Арк.503–506.

Бацька ***Яганны Рукевіч*** прызначыў ёй пасаг у памеры 3000 злотых, якія былі запісаныя на маёнтку Галавачы. Грошы былі атрыманы ад маці пасля шлюбу[621]. Я.Тымінскі меў пляцы ў Горадні на вуліцы Бернардынскай і на Падоле, на вулачцы "*Ад бернардынаў на курган*" (1680 г.)[622]. Ён быў згаданы ў спісе гарадзенскай харугвы 1698 г.[623].

***Яганна*** ўпісалася ў склад брацтва Анёла Ахоўніка (1688 г.)[624]. Яна доўгі час не магла зацяжарыць і толькі пасля звароту да Маці Божай у касцёле на Лукішках у Вільні змагла нарадзіць (1688 г.)[625]. У дакументах фігуруе іх сын ***Юзаф Тымінскі***. У дзяцінстве ён моцна захварэў і быў ужо аднесены да памерлых. Яго маці звярнулася да абраза і ён ачуняў. Цуд з яго вяртаннем да жывых змешчаны на лаве[626]. Ён адбыўся пасля выдання "*Збору цудаў*", прыкладна ў другой палове 80–90-х г. XVII ст. ***Юзаф Тымінскі*** займаў пасаду гарадзенскага скарбніка. Ян Судольскі, пробашч Фары Вітаўта, судзіўся з ім і яго жонкай Крысцінай з роду Барановічаў з-за маёнтка Русота (1728–1729 г.)[627]. Гарадзенскі скарбнік быў пахаваны ў гарадзенскім бернардынскім касцёле ў склепе пры алтары Святой Барбары 10 траўня 1734 г. Яго жонка Крысціна была пахавана там жа 10 ліпеня 1736 г. Яна ахвяравала касцёлу за сябе і мужа 1000 злотых[628].

Род ***Станіслава Сапоцькі*** быў упісаны ў Супрасльскі памяннік (1647 г.): ***Аляксандр***, ***Марк***, ***Станіслаў***, ***Канстанцыя***, ***Елізавета***, ***Павел***, ***Юстына***, ***Анастасся***, немаўляты ***Юзафат*** і ***Мікалай***[629]. На жаль, яны запісаны без дакладнай даты смерці. Пералік гэтых імёнаў не дазваляе дакладна ідэнтыфікаваць усіх. З пералічаных імёнаў вядомы толькі ***Аляксандр***, ***Станіслаў***, ***Канстанцыя*** і ***Юстына***. На той час Супрасльскі Благавешчанскі манастыр быў уніяцкім. З-за таго, што Сапоцькі былі раней праваслаўнымі, а пасля сталі каталікамі, гэтае месца ім вельмі пасавала.

У XVII ст. род Сапоцькаў дасягае ўзроўню павятовай эліты. Яго прадстаўнікі займаюць пасады падсудка, гродскага пісара і інш. Адпаведна са статусам вызначаюцца і іх шлюбныя стратэгіі. Фіксуюцца сваяцкія сувязі з Гнайніцкімі, Чарніцкімі, Рукевічамі, Катовічамі і інш. Але гісторыя роду Сапоцькаў не без плямаў. ***Юзаф*** меў неадпаведны статусу шлюб, што было скандальна для ўсяго роду. Канстанцыя Нерашынская змовілася з мужам А.Эйсымонтам супраць яго сваякоў. Але факты гэтыя вылучаюць Сапоцькаў сярод іншай павятовай шляхты і робяць іх цікавымі для вывучэння.

***Радавод Сапоцькаў (І).***




---

[621] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.51. Арк.582–583 адв.
[622] Брэгер Г. *Дакументы сведчаць...* С.87–88, 92.
[623] *Acta stanow Wielkiego Księstwa Litewskiego na pospolite ruszenie 21.02.1698*. Wilna, 1699.
[624] *НГАБ у Горадні*. Ф.259. Воп.2. Спр.2. Арк.27 адв.
[625] *Fontana mistyczna z obrazu N.P.Marii od roku 1684 cudownymi łaskami w kościele Wileńskim Łukiszskim śś.Apostołow Filipa i Jakuba*. Wilna, 1737. S.261–262.
[626] Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.70–71.
[627] *НГАБ у Горадні*. Ф.128. Воп.1. Спр.4. Арк.9–15.
[628] *Аддзел рукапісаў БЛАН*. Ф.40. Спр.1049.
[629] *Аддзел рукапісаў БЛАН*. Ф.19. Спр.89.




***Радавод Рукевічаў.***

***Ваўрынец Станіслаў Рукевіч***,
?–1675 г., гарадзенскі
гродскі суддзя
х Юстына Сапоцькаўна




**Сапоцькі (ІІ).**

У зборы цудаў згадваецца “*пані Крыштафовая Сапацьковая*”. На нашу думку, тут можа ісці гаворка пра жонку гарадзенскага земскага судзіча ***Крыштафа Янавіча Сапоцькі*** Ефрасінню Рабееўну. У кнізе апісана дакаранне Ефрасінні і яе дачкі за тое, што яны, калі паехалі паглядзець цудатворны абраз, павярнулі да хаты. Іх пераканаў знаёмы, што гэта дарэмныя намаганні. А ноччу яны пабачылі сон, у якім іх дакаралі за гэта[630].

***Крыштаф*** паходзіў з сям’і гарадзенскага земскага суддзі ***Яна Сапоцькі*** і Крысціны Валавічоўны (?–1653 г.). Яго маці Крысціна Валавічоўна склала тэстамент у 1652 г. Яна прасіла дачку ***Ганну*** і яе мужа Я.Свяцкага пахаваць яе ў гарадзенскім дамініканскім касцёле. Розныя долі яе спадчыны атрымалі сыны ***Крыштаф***, ***Казімер*** і ***Пётр***, ***Ганна*** за дапамогу пры хваробе. Разам былі згаданы памерлы на той час родны брат Крысціны мсціслаўскі падсудак Стэфан Валовіч, другі брат Уладзіслаў Валовіч і сястра Багдана. Пасля смерці маці сыны ўвайшлі ў валоданне маёмасці маці. ***Пётр*** быў жанаты з Тэадорай Эсымонтаўнай[631]. ***Крыштаф*** за ўнесены пасаг запісаў Ефрасінні вена на сваіх маёнтках (1655 г.)[632].

***Ганна*** выйшла замуж за Януша Васілевіча Пуціўляніна Свяцкага, які валодаў часткай Свяцка Пуціўлянскага. Вядома, што ў іх быў сын Крыштаф Міхал[633]. ***Ганна*** памерла ў адзін год са сваёй маці (1653 г.). У тэстаменце яна прасіла пахаваць яе ў гарадзенскім дамініканскім касцёле. На пахаванне прызначаліся 250 злотых і бернардынскаму касцёлу на імшу – 250 злотых. Яна ўнесла ў дом мужа пасаг. Мела ў сваім распараджэнні 6000 злотых, з якіх палова прызначалася мужу, а палова – дачцэ Ізабэле, якая на той час была непаўналетняй[634].

Род Сапоцькаў (ІІ) быў даволі разгалінаваным. Канешне, яны знаходзіліся ў сваяцкіх адносінах са згаданымі вышэй Сапоцькамі (І), але ступень іх сваяцтва патрабуе больш глыбокага даследавання. Сапоцькі гэтай галіны (ІІ) мелі шлюбныя дачыненні з мясцовай шляхтай свайго ўзроўню.

---

630 *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.79–81.
631 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.25–28, 378–378 адв.
632 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.591–593 адв.
633 Шаланда А. *Радавод і герб зямян Гарадзенскага павете Пуціўлянаў Свяцкіх ў другой палове XVI–XVIIIст.*// Герольд Litherland. Горадня, 2001. № 1. С.14–16.
634 *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.15–17.

***Радавод Сапоцькаў (II)***.




**Славагорскія.**

***Славагорскія*** пераехалі ў Гарадзенскі павет з Кароны Польскай. Падляшскі падстолі ***Ян Славагорскі*** (?–да 1658 г.) быў жанаты з ***Марыянай Шчанскай***. Яна ў 1661 г. захварэла на "*незвычайную*" пухліну, але пасля звароту да абраза Маці Божай Студэнцкай пухліна зышла[635].

Гарадзенскі падкаморыч Матыяш Сцыпіён дэль Кампа папрасіў Я.Славагорскага апякавацца касцёлам у Новым Двары і запісаў яму навечна храм і дзве прыналежачыя да яго валокі (1645 г.). Касцёл пабудаваў яго бацька Юры Сцыпіён дэль Кампа, але з моманту пабудовы ён прыйшоў у заняпад[636].

Пасля смерці мужа Марыяна разам з сынамі: падляшскім скарбнікам ***Якубам Казімерам*** (?–1706 г.) і падляшскім падстоліям ***Станіславам*** (?–1700 г.) прадала камяніцу ў Горадні на вуліцы Азёрскай Марціну Чарніцкаму і яго жонцы ***Барбары Славагорскай***[637] (1668 г.), здала ў арэнду Кудраўку Кацярыне Заянчынскай (1658 г.)[638]. Старэйшы сын валодаў вёскай Кудраўкі і фальваркам Бобра ў Навадворскай парафіі Гарадзенскага павета (1690 г.)[639].

Пра Славагорскіх было знойдзена не шмат звестак. Яны мелі ўласнасць ў Горадні і ў павеце. Іх нельга аднесці да беднай шляхты. Пасады займалі на Падляшшы. Належалі да каталіцкай суполкі, што паказвае не толькі зварот да Маці Божай Студэнцкай, але і апека касцёлам у Новым Двары.




**Талочкі.**

***Талочкі*** вядомы ў Гарадзенскім павеце з XVI ст. Род даволі разгалінаваны. Прадстаўнікі Талочкаў валодалі Талочкамі пад Жыдомляй. Маёмасць была падзелена сярод розных ўладальнікаў[640]. У дадзеным выпадку атрымалася высветліць некаторыя факты з гісторыі сям'і ***Крыштафа Талочкі***. Пра яго вядома з імя па бацьку сына ***Андрэя*** (?–1682 г.). У ***Крыштафа*** быў яшчэ адзін сын ***Казімер***, які займаў пасаду ваўкавыскага падстолія[641].

---

[635] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych…* S.26.
[636] *Аддзел рукапісаў БЛАН*. Ф.43. Спр.8166.
[637] Верагодна Барбара была дачкой Яна і Марыяны, але ў дакументах гэта не адзначана.
[638] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.45. Арк.8; Спр.46. Арк.626. *Urzędnicy podlascy XIV–XVIII wieku…* S.191.
[639] *Metryka Litewska. Rejestry…* S.114.
[640] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.11. Арк.27–32 адв.
[641] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.52. Арк.110–114 адв.

***Андрэй Талочка*** займаў пасаду гарадзенскага чашніка[642]. Таксама ён часта фігураваў ў гарадзенскіх земскіх кнігах. А.Талочка быў прызначаны мернікам Гарадзенскага павета ў 1650 г.[643] У 1662 г. А.Талочка захварэў на ліхаманку. Хвароба доўжылася 20 тыдняў. Але, як толькі ён паабяцаў воты абразу Маці Божай Студэнкай, то адразу ачуняў[644].

А.Талочка быў двойчы жанаты: першая жонка – ***Зоф'я Пачапоўская***, удава па Станіславу Аляксандровічу, а другая – ***Людвіка Тышкевічоўна***. За добрыя адносіны ў шлюбе гарадзенскі чашнік запісаў першай жонцы 5000 злотых на сваім маёнтку Талочкі (1668 г.). У яго быў сын ***Уладзіслаў Антоні***. Каталіцкае веравызнанне ***Андрэя*** пацвярджае яго жаданне быць пахаваным у склепе Адэльскага касцёла, дзе ўжо знаходзілася цела першай жонкі. Склеп фундаваў ***Дадзібог Талочка***[645].

Асноўная інфармацыя па гэтай сям'і прадстаўлена ў тэстаменце А.Талочкі, які быў актыкаваны ў гарадзенскія земскія кнігі (1682 г.). Гэта самая змястоўная крыніца, якая найбольш поўна прадстаўляе біяграфічныя дадзеныя: колькасць шлюбаў, дзецей, сваякоў, склад маёмасці. Але гэтых звестак недастаткова, каб прасачыць тэндэнцыі ў родзе. Можна адзначыць, што ***Андрэй*** займаў пасады павятовага ўзроўню, таксама як і яго брат ***Казімер***.




**Чарніцкія.**

***Чарніцкія*** паходзілі з Мазовіі і некаторыя з іх выехалі ў ВКЛ[646]. Казімер Ян Вайшнаровіч (?–1677 г.), канцлер віленскай дыецэзіі, эйсымонтаўскі пробашч, каралеўскі сакратар, рэгент вялікай канцылярыі (1676 г.), рэлігійны пісьменнік і дзеяч быў знаёмы з Чарніцкімі і іх паходжаннем, бо быў аўтарам казання на смерць Агнешкі Чарніцкай, дзе прывёў іх радавод[647].

У спрэчцы з-за пляцоў у Горадні харужага ВКЛ (1746–1766 г.) Яна Красіцкага з гарадзенскім магістратам згадваецца ***Якуб Чарніцкі***, які набыў пляцы ў візскага кашталяна Войцаха Ілоўскага 26 верасня 1629 г. Гэты пляц знаходзіўся на вуліцы, якая ішла ад Рынку да Прачысценскай царквы, побач з пляцам Ельскіх. Пасля смерці бацькі пляцы падзялілі сыны ***Марцін*** і ***Аляксандр Антоні***, але ***Марцін*** прадаў у 1679 г. свае 3 пляцы на Падзамчышчы пісару ВКЛ Казімеру Пухальскаму (?–1692 г.)[648].

Я.Чарніцкі судзіўся з братамі Талочкамі Юрыем, Міхалам, Пятром і Андрэем Войцахавічамі ў 1637 г. Яны забілі яго баярына і пакралі рэчы. У гэтым жа годзе ён выдаў ім угодлівы ліст, бо браты заплацілі галаўшчыну і кампенсавалі страты[649]. ***Якуб Чарніцкі***

---

[642] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1842. T.9. S.81. *Urzędnicy Wielkiego księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek*. Pod red. A.Rachuby. Opr. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk, A.Haratym. Przy współpr. A.Macuka i J.Aniszczanki. Warszawa, 2009. S.246.
[643] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.44. Арк.114 адв.
[644] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.56–57.
[645] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.48. Арк.89 адв.–90 адв.; Спр.52. Арк.110–114 адв.; Ф.1870. Воп.1. Спр.1. Арк.283–283 адв.
[646] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.3. S.247.
[647] Woysznarowicz K. *Marmur na ktorym budynek iasny wysoce urodzony JMP Iagneszki Czernickiey Komorowey*. Wilna, 1645.
[648] *НГАБ у Горадні*. Ф.1475. Воп.1. Спр.4. Арк.98 авд. *ПКГЭ*. Вильна, 1882. Ч.2. С.252–253. *UWKL. WW*. T.1. S. 639. *UCD WKL*. S.106.
[649] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.36. Арк.547–547 адв.

быў жанаты з ***Гальшкай Калычоўнай***. У іх сям'і нарадзіліся ***Аляксандр***, ***Марцін***, ***Фелікс*** і ***Казімер*** і ***Крысціна***. ***Фелікс*** і ***Казімер*** загінулі на вайне[650]. Пра ***Казімера*** вядома, што ён запісаўся ў кнігу брацтва Анёла Ахоўніка ў 1646 г.[651]

***Крысціна*** была першы раз была замужам за Габрыэлем Боўфалам, а другі – за Крыштафам Левальтам Язерскім. З другім мужам жыццё не склалася. Ён прымушаў яе падпісваць пазыковыя запісы, яна ўцякала ад яго да роднага брата ***Аляксандра***. У перыяд вайсковых дзеянняў ***Крысціна*** панесла страты ад маскоўскіх войскаў (1660 г.), аб чым захавалася яе скарга (1662 г.)[652].

Асноўнымі спадкаемцамі па бацьку сталі ***Марцін*** і ***Аляксандр***. ***Марцін*** атрымаў Русоту разам з вёскай Путрышкі пры падзеле бацькоўскай маёмасці са старэйшым братам віленскім падстоліем ***Аляксандрам Чарніцкім***, якому адышлі Тужэвічы і фальварак Адкіншчына, Чарніцы ў Польшчы падзялілі на дзве часткі (1655 г.). Іх бацька ***Якуб Чарніцкі*** запісаў іх маці ***Гальшцы Калычоўне*** вена на гэтых маёнтках на суму 1500 злотых і пражыванне ў іх. Яна адмовілася ад гэтага і пагадзілася на фальварак Адкіншчына[653]. Пасля смерці маці гэтая маёмасць перайшла ***Аляксандру***, а ён заставіў яе Андрэю Міхалу Маладзіле за 4000 злотых (1666 г.). Раней віленскі падстолі аддаў у заставу Тужэвічы за 10000 злотых Кірыяку Мікалаевічу Сервятору (1654 г.)[654].

***Аляксандр*** ажаніўся з ***Альжбетай Ямніцкай***. У іх нарадзіліся сыны ***Ян*** і ***Францішак***, дочкі ***Ганна*** і ***Канстанцыя***[655]. А.Чарніцкі быў аўтарам твору, прысвечанага Маці Божай. Віленскі біскуп Мікалай Слупскі даў дазвол на яго друк 1 сакавіка 1670 г. Кніга напісана ў ваяўнічым духу. Аўтар быў пабornікам каталіцызму і вельмі негатыўна ставіўся да пратэстантаў. Нават прывёў выпадак, калі пратэстант Пашкоўскі быў пакараны Маці Божай за тое, што пад час адступлення ад маскоўскіх войскаў у перыяд вайны 1654–1667 г. засумняваўся ў яе моцы і абароне. Пашкоўскі запытаў: "*Дзе была ваша Панна Марыя і Святы Казімер пад Полацкам, чаму не зрабілі цуд?*". Яму адказаў толькі ашмянскі маршалак Ян Зяновіч, што: "*Каталікі давяраюцца Богу ў складаных сітуацыях*". Пасля гэтага на роўным месцу Пашкоўскі зваліўся з каня, зламаў шыю і праз тры дні памёр. А.Чарніцкі сцвярджаў, што менавіта боская дапамога спрыяла, што ў рэшце вораг быў разбіты. Шмат увагі ў яго творы было надзелена цудатворнаму абразу Маці Божай Шкаплернай, але зусім не згадваецца абраз Маці Божай Студэнцкай[656].

***Марцін Чарніцкі*** быў гарадзенскім падчашым у 1674 г.[657] Аб ім згадаў Войцах Віюк Каяловіч пры апісанні падзей казацка-сялянскай вайны ў 1649 г.[658] Пан Чарніцкі адзначаны як уладальнік пляца на вуліцы, якая ішла з Падола (1680 г.)[659].

М.Чарніцкі меў шэраг судовых працэсаў. Ён быў выкліканы ў суд за наезд у 1668 г. на маёнтак уніяцкага архімандрыта Мітрафана Друцкага Сакалінскага (1669)[660]. Гарадзенскі падчашы судзіўся з гарадзенскім лоўчым і гарадзенскім гродскім суддзёй Янам Казімерам Газубай. У 1677 г. справа патрапіла ў Галоўны Трыбунал ВКЛ, куды М.Чарніцкі не з'явіўся. Яму прысудзілі 5350 злотых на Тузавянах (Тузаўляны) і іншых уладаннях у Гарадзенскім павеце. Рашэнне было пацверджана каралеўскім прывілеем (1678 г.). У 1678 г. гарадзенскі падчашы падпісаў згоду з Я.Газубай аб грунтах у маёнтку Тузавянах[661].

---

[650] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.386–394 адв.
[651] *НГАБ у Горадні*. Ф.259. Воп.2. Спр.2. Арк.9.
[652] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.5–А6–1512.
[653] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.386–394 адв.
[654] *ЛДГА*. Ф.СА. Спр.6. Арк.1290–1293 адв., 1298–1299 адв.
[655] Boniecki A. *Herbarz Polski*. Warszawa, 1901. T.3. S.367.
[656] Czernicki A. *Porta Seu Asylum*. Vilnae, 1670.
[657] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1839. T.3. S.247.
[658] Kojalavičus Vijūkas A. *Lietuvos istorijos įvairenybės*. Sudarė D.Juolys. Vilnius, 2003. 1 dalis. P.176.
[659] Брэгер Г. *Дакументы сведчаць…* С.89.
[660] *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.339–340.
[661] *ГДГАМ*. КП № 9216/108. *НГАБ у Горадні*. Ф.128. Воп.1. Спр.3. Арк.17.

М.Чарніцкі згадваецца сярод іншых асобаў як выканаўца апошняй волі ў тэстаменце плябана Якуба Янчэўскага (1659 г.) і В.Жэляроўскага (1664 г.)[662]. Ён жа разам з жонкай ***Барбарай Славагорскай*** падараваў пляц на вуліцы Азёрская езуіцкаму кляштару ў Горадні ў асобе старшага айца гарадзенскіх езуітаў Гераніма Дзевялтоўскага (1662 г.). Віцэ-рэктар гарадзенскага езуіцкага калегіюма Сільвестр Дражэцкі пацвердзіў атрыманне ад іх 3000 злотых польскіх, запісаных на маёнтку Тужэвічы Я.Чарніцкім і яго жонкай (1665 г.)[663]. ***Марцін*** у войску падхапіў моравае паветра і быў цудоўным чынам пазбаўлены ад хваробы (1663 г.)[664].

У сям'і М.Чарніцкага і Б.Славагорскай нарадзілася дзве дачкі: ***Кацярына*** і ***Марыяна***. Апошняя выйшла за смаленскага скарбніка, гарадзенскага чашніка Станіслава Сапоцьку (?–пасля 1714 г.), унука гарадзенскага падсудка Станіслава Сапоцькі. ***Марыяна*** і яе першы муж далі фундацыйныя запісы гарадзенскім кармялітам (1679 г.)[665]. Сёстры падзялілі паміж сабой бацькоўскую спадчыну, разам прадалі Русоты дэкрэтоваму пісару, гарадзенскаму войскаму Казімеру Юліяну Пухальскаму ў 1683 г.[666]

Другі шлюб ***Марыяны*** быў з пінскім, дэрпскім і гарадзенскім скарбнікам, потым гарадзенскім чашнікам Станіславам Казімерам Гадачэўскім (?–каля 1704 г.)[667]. У перыяд другога шлюбу ***Марыяна Чарніцкая*** смяротна захварэла. Яна звярнулася да абраза Маці Божай Студэнцкай і адразу вылечылася (1686 г.). З удзячнасці падаравала абразу сярэбраную шыльду[668].

Паводле падымнага рэестра за 1690 г. С.К.Гадачэўскі валодаў Тузаўлянамі (Тураўлянамі) і Путрышкамі ў Гарадзенскай парафіі[669]. Ён служыў у харугве Яна Масальскага ад Гарадзенскага павета[670]. С.К.Гадачэўскі разам з жонкай заставіў Тэадору Казімеру Талочку Путрышкі і Тураўляны за 4000 злотых. Апошні, будучы цяжка хворым на каўтун і адчуваючы сябе вельмі дрэнна, запісаў грошы гарадзенскім кармялітам, прасіў пахаваць у яго цела касцёле і маліцца за душы бацькоў. Пасля смерці мужа (прыкладна ў 1710 г.) ***Марыяна*** выйшла замуж трэці раз за гарадзенскага падстолія Аляксандра Казімера Левальта Язерскага[671]. Яе сын ад другога шлюбу ***Казімер*** (?–1732 г.) вылучыў з маёнтка Русоты тры возера на карысць гарадзенскіх кармялітаў (1724 г.)[672]. Ён прымаў удзел у палітычным жыцці Гарадзенскага павета ў пачатку XVIII ст.[673]

***Казімер Гадачэўскі*** быў жанаты з Крысцінай Бакевічаўнай з сям'і гарадзенскага гродскага суддзі. Яе братамі былі Міхал і Стэфан. ***Казімер*** і Крысціна не мелі дзяцей, таму пляц у Горадні, які знаходзіўся каля манастыра базыліянак, ён запісаў стрыечнай сястры ***Канстанцыі Гадачэўскай***, а жонцы – Тузаўляны і Русоту. У тэстаменце К.Гадачэўскі прасіў жонку пахаваць яго цела ў гарадзенскім бернардынскім касцёле. На пахаванне прызначалася 100 бітых талераў. На імшу ў розных храмах Горадні былі запісаны наступныя сумы: Фарнаму касцёлу – 30 злотых, дамініканам – 50, кармялітам – 50, францішканам – 30, базыліянам на Каложы – 100, баніфратарам – 100, бернардынкам – 100, базыліянкам – 100[674].

Чарніцкія, як іншаземцы, змаглі ўвайсці ў кола мясцовай шляхты і нават уплываць на сацыяльнае, рэлігійнае і культурнае жыццё суполкі. Яны мелі ўладанні ў Горадні і

---

[662] *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.4 адв.–5 адв.; Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.543–546 адв.
[663] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.626–626 адв., 636 адв.
[664] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.62. Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай...* С.92–93.
[665] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.3. Спр.2377. Арк.21, 23 адв.
[666] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.52. Арк.373–374 адв., 408–413.
[667] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.52. Арк.373–374 адв., 408–413.
[668] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych...* S.72.
[669] *Metryka Litewska. Rejestry...* S.98.
[670] *Acta stanow Wielkiego Księstwa Litewskiego na pospolite ruszenie 21.02.1698*. Wilna, 1699.
[671] *НГАБ у Менску*. Ф.1711. Воп.1. Спр.4. Арк.627–629.
[672] Мараш Я. *История экспансии католической церкви…* С.120.
[673] *АВАК*. Акты Гродненского гродского суда. Вильна, 1874. Т.7. С.183, 188, 194, 242, 278.
[674] *НГАБ у Горадні*. Ф.1475. Воп.1. Спр.4. Арк.102–108.

павеце, што дазволіла сынам займасць пасады. Прыхільнасць да каталіцкага веравызнання Чарніцкіх адбілася ў друку кнігі, фундацыйных запісах, падтрымцы культу Маці Божай Студэнцкай. Шлюбныя дачыненні яны мелі з Боўфаламі, Язерскімі, Сапоцькамі, Славагорскімі, Ямніцкімі і інш., што таксама спрыяла ўзмацненню іх сацыяльнага статусу ў шляхецкім асяроддзі.

***Радавол Чарніцкіх у Польшчы, ад якіх гарадзенскія Чарніцкія мелі паходжанне.***




***Радавод гарадзенскіх Чарніцкіх.***



**Шышкі.**

Першыя звесткі пра старажытны род ***Шышкаў*** паходзяць з XVI ст. Яго прадстаўнікі пражывалі ў той час у Гарадзенскім павеце[675]. Па гісторыі гэтага роду былі адшуканы фрагментарныя звесткі. У "*Зборы цудаў*" апісана вылячэнне ***Станіслава Шышкі*** і яго жонкі ***Настассі Нядкоўскай***. Яны абодва захварэлі на ліхаманку (1655 г.). Толькі зварот да цудатворнага абраза выратаваў іх ад смерці[676].

***Станіслаў Шышка*** судзіўся з гарадзенскім падсудкам Крыштафам Талочкай, а пасля яго смерці – з яго жонкай Магдаленай Каспараўнай Рудамінаўнай Дусяцкай. Справа датычыла грошай, пазычаных падсудкам у бацькі ***Станіслава*** – ***Ўласа Шышкі*** (1637, 1640 г.)[677]. Ён згадваецца ў кнігах гарадзенскага земскага суда ў справах з ***Янам Васілевічам Шышкай*** і яго жонкай Раінай Бартнаўшчанкай (1665 г.), ***Канстанцінам Шышкай*** (1665 г.) і па Заблудаўскай царкве за 1666–1667 г. у якасці ўмацаванага канюшага ВКЛ Багуслава Радзівіла (1620–1669 г.)[678].

***Базыль Шышка*** і яго жонка ***Ева Більрайноўна*** не мелі дзяцей. Яны прасілі Якуба Пятніцкага і яго жонку ***Ганну Шышанку*** даглядаць іх у старасці і за гэта запісалі ім палову сваёй сядзібы ў маётку Шышкі (1664 г.)[679].

У падымным рэестры 1690 г. адзначаны наступныя ўладальнікі Шышкаў у Сакольскай парафіі Гарадзенскага павета: ***Казімер***, ***Казімер Матысавіч***, ***Юзаф Васільевіч***, ***Адам*** і ***Грыгоры Шышкітпеgo*** [680].

З іх быў вынайдзены тэстамент ***Юзафа Васільевіча Шышкі***, які быў напісаны і актыкаваны ў 1694 г. Дакумент ён склаў будучы ўжо хворым. Прасіў пахаваць на могілках у яго маёнтку Шышкі, а імшу за душу павінны былі служыць у касцёлах у Саколцы і Кундзіне. Нерухомая маёмасць пераходзіла да сыноў ***Яна*** і ***Мікалая***, апошні быў у той час на вайне. Пасля яго вяртання яны павінны былі выдаць сястры ***Ганне***, якая была ўдавой па Пятру Паставічу пасаг у памеры 150 злотых. Дакумент падпісалі сваякі ***Канстанты***, ***Казімер*** і ***Станіслаў Шышкі***[681].

Вывучэнні гісторыі роду Шышкаў патрабуе далейшага даследавання, якое б дазволіла скласці іх генеалогію. Сабраныя намі звесткі даволі ўрыўкавыя і па ім пакуль немагчыма прасачыць пераемнасць пакаленняў. Шышкі належалі да павятовай шляхты з невялікімі ўладаннямі, якія драбіліся паміж нашчадкамі. У павятовую эліту яны не патрапілі ні праз пасады, ні праз шлюбныя стратэгіі.

**Шчасновічы.**

Пра род ***Шчасновічаў*** сабраны матэрыял дазваляе прадставіць толькі кароткую замалёўку. "*Пані Шчаснавічова*" звярнулася да абраза Маці Божай Студэнцкай у 1663 г., калі яе сын моцна захварэў. Дзякуючы гэтаму звароту ён ачуняў[682]. Цуд яго вылячэння намаляваны на сталі (лаве)[683].




[675] Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1841. T.8. S.647–648.
[676] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych*... S.61.
[677] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.37, 850–850 адв.; Спр.39. Арк.113–115 адв.
[678] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.45. Арк.501–505, 634–635 адв. *АВАК*. Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1865. Т.1. С.89–104.
[679] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.628–628 адв.
[680] *Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo Trockie 1690 r.* Oprac. H.Lulewicz. Warszawa, 2000. S.120.
[681] *Аддзел рукапісаў БВУ*. Ф.7. Кніга гарадзенскага земскага суда 1694 г. Арк.120–121.
[682] *Sumariusz cudow i łask znakomitszych*... S.24.
[683] Сліж Н. *Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай*... С.86–87.

У дакументах за гэты час сустракаюцца дзве жанчыны з гэтым прозвішчам. Першая – гэта жонка ***Базыля Шчасновіча*** (?–1653 г.) ***Ганна Мацарская***. Яе муж склаў тэстамент у 1653 г. У ім ён прасіў пахаваць яго ў касцёле ў Адэльску. Згадваецца сын ***Юры*** і дачка ***Раіна***, якая выйшла замуж за Аляксандра Снарскага. ***Базыль*** валодаў маёнткам Шчасновічы ў Гарадзенскім павеце. Яго жонка разам з сынамі ***Юрыем***, ***Амброжым*** і ***Станіславам*** набыла ў ***Крыштафа Фёдаравіча Шчасновіча*** Няшковічы (Гарадзенскі павет), якія ён атрымаў па бацьку ***Фёдару*** і стрыечным братам ***Арцёму*** і ***Гурыну*** (1654 г.)[684].

Другая жанчына з такім прозвішчам па мужу магла быць жонкай стрыечнага брата ***Базыля*** – ***Казімера Шчасновіча*** – ***Марцыяна Кандыбянка***[685]. К.Шчасновіч судзіўся з Войцахам Якімовічам з-за крадзяжу валоў (1664 г.)[686].

Па гэтаму шляхецкаму роду намі былі сабраны толькі фрагментарныя звесткі. Яны дазволілі ўсталяваць некаторыя сваяцкія адносіны, а таксама маёмасць, якой валодалі Шчасновічы ў другой палове XVII ст. Прадстаўнікі гэта роду не займалі пасадаў у гэты перыяд часу. Шлюбныя дачыненні яны мелі са шляхтай свайго ўзроўню.

*Наталля Сліж (Горадня).*

[684] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.43. Арк.60–64, 713–715.
[685] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.46. Арк.441.
[686] *НГАБ у Менску*. Ф.1755. Воп.1. Спр.45. Арк.42.

## “*Ktorzyby lepiey skur wyprawować patrzyli*” – міжканфесійны канфлікт у межах адной царквы?

На старонках гарадзенскай “*Хронікі кармялітаў босых*”[687] пасведчаны адмысловы прыклад маёмаснага канфлікту, які выходзіць на ўзровень міжканфесійнага, хаця ён адбываўся ў межах адной (каталіцкай) царквы. Спрэчка вялася паміж уніяцкім гарбарскім брацтвам і рыма-каталіцкім кляштарам кармялітаў. Прычына канфлікту была ў набыцці земляў былой Чэснакрыжавай царквы згаданым кляштарам у 1673–1675 г. Справа вядзецца ў судовых інстанцыях розных узроўняў, у ходзе развіцця якой выяўляюцца ўзаемаадносіны паміж сацыяльнымі групамі – суб’ектамі канфлікту, розныя разуменні ролі і пазіцыі брацтваў у межах царквы, праяўляюцца складаныя канфесійныя адносіны.

### *1. Дакументацыя канфлікту.*

“*Хроніка кармялітаў босых*” складалася ў гарадзенскім манастыры ў перыяд з 1670-х па 1790 г. рознымі аўтарамі. Яе пачатак, у якім змяшчаюцца звесткі пра спрэчку, быў напісаны, верагодна, адным з братоў, што закладалі рэзідэнцыю: айцом (а.) Язафатам Тышкевічам[688], а.Іпалітам[689] ці братам (бр.) Макарыем[690]. Найбольш верагодна аўтарства першага прыёра кляштара а.Я.Тышкевіча, як асобы, што займала старэйшую пасаду.

У “*Хроніцы*” прыводзіцца апісанне ходу канфлікту, звесткі аб юрыдычных актах, вытрымкі з перапіскі, якая тычылася справы. Кармяліты босыя былі непасрэднымі ўдзельнікамі спрэчкі, таму прадстаўленне развіцця справы ў хроніцы a priori суб’ектыўнае. Тым не менш, нельга сумнявацца ў даставернасці дадзеных аб асноўных этапах вядзення справы, а цытаванне выказванняў іншых бакоў спрэчкі дазваляе ўбачыць канфлікт з розных перспектываў.

Копіі і актыкацыі некаторых дакументаў куплі-продажу і дарчых запісаў адносна земляў, якія былі прадметам спрэчкі, змяшчаюцца ў актах гарадзенскага войтаўскага суда[691]. У той жа актавай кнізе змяшчаецца тэкст данацыі земляў былой Чэснакрыжавай царквы і копіі лістоў мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага да кармялітаў і уніяцкага духавенства[692].

### *2. Абставіны ўзнікнення канфлікту.*

Прычынай канфлікту была перадача земляў старадаўняй, некалі праваслаўнай, потым уніяцкай, Чэснакрыжавай царквы – каталіцкаму кляштару.

Па меркаваннях некаторых навукоўцаў, храм Чэснага Крыжа існаваў у Горадні ўжо ў XII ст. Дакументальна пацверджана функцыянаванне царквы ў першай палове XVI ст.[693]

---

[687] *Хроніка кляштара кармялітаў босых у Горадні* (далей – *ХККБ*).// Аддзел рукапісаў БВУ. Ф.3. Спр.2377. Арк.8–9.

[688] Казімер Тышкевіч, духоўнае імя: Язафат ад Блаславёнай панны з гары Кармель (?–1677 г.) – прыёр у Горадні (1671–1676 г.), гл.: *ХККБ*. Арк.4, 10, 13 адв. Niesiecki K. *Herbarz Polski*. Lipsk, 1842. T.9. S.183.

[689] Айцец Іпаліт (?–1678 г.), быў у Горадні ў 1673–пасля 1674 г., гл.: *ХККБ*. Арк.4, 7, 18.

[690] Брат Макары Данат (?–1678 г.), быў у Горадні ў 1673–1674 г., гл.: *ХККБ*. Арк.4, 7, 18.

[691] Многія з іх былі апрацаваныя гісторыкамі, якія вывучаюць маёмасны стан Горадні гэтага часу. У манаграфіях Ю.Гардзеева, гл.: Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna...* S.98, П.Баравіка, гл.: Borowik P. *Jurydyki miasta Grodna...* S.182, przyp.431, даюцца спасылкі на наступныя дакументы: *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.73 адв., 262 адв.–263, 264 адв.–265, 265 адв.–266, 271 адв.–272, 275 адв.–276, 277 адв.–278.

[692] Актыкацыя ліста даравання зямлі мітрапалітам Ц.Жахоўскім і перапіскі, у якой пацвярджаецца данацыя, гл.: *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.286–286 адв. Вытрымкі з некаторых з лістоў Ц.Жахоўскага прыводзяцца, гл.: *Памятная книжка Гродненской губернии на 1866 год*. Гродненский губернский статистический комитет. Гродно: Типография Губернского правления, 1866. С.24–26.

[693] Гардзееў Ю. *Магдэбургская Горадня (сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў 16–18 ст.)*. Горадня-Вроцлаў, 2008. С.74. Gordziejew J. *Socjotopografia Grodna...* S.176.

Святыня размяшчалася на Падоле – пасадзе рамеснікаў, дзе шмат пляцаў належала гарбарам[694]. Нават на гравюры Адэльгаўзера-Цюндта[695] сцэна, якая прадстаўляе штодзённае жыццё ў гэтай частцы горада, паказвае працэс апрацоўкі скуры. Брацтва дадзеных рамеснікаў знаходзілася пры царкве. Пасля Маскоўскай вайны сярэдзіны XVII ст. царква была разбурана, як і іншыя уніяцкія храмы ў горадзе[696].

У 1670-х г. у Горадні засноўваюцца кармяліты, якія выразна прэтэндуюць на заняцце пазіцыі былой Чэснакрыжавай царквы. Выказвалася меркаванне, што кармяліты нават праводзілі службы ў будынку самой царквы[697], але дакументальныя пацверджанні гэтай думкі невядомыя. У кожным выпадку ў 1670-х г. кармяліты свядома скуплялі пляцы каля былой Чэснакрыжавай царквы, а пазней надалі свайму касцёлу падобнае імя – Узвіжэння Святога Крыжа[698], што пацвярджае прэтэндаванне манахаў на завалоданне пазіцый былой царквы.

### *3. Ход канфлікту.*

Тэкст "*Хронікі*" паслядоўна прыводзіць дадзеныя аб здзелках куплі-продажу ці атрыманні ў дар многіх земляў, якія знаходзіліся недалёка ад Чэснакрыжавай царквы пасля прыезду кармялітаў у горад[699]. Дакладна акрэсліваецца месцазнаходжанне кожнага з пляцаў і называюцца яго былыя ўладальнікі.

На дадзеным этапе няма згадак аб пратэстах з боку уніятаў. Наадварот, у продажы земляў удзельнічаюць прадстаўнікі грэка-каталіцкага духавенства. Так, у 1673 г. царкоўныя землі (пляц шпіталя Прачысценскай царквы) прадаюць кармялітам а. пратапоп Юзаф Валевіч, айцы Ян Савіцкі, Ян Шашко, Самуэль Васілевіч – прэсвітэры Сабрнай царквы – са згоды архіепіскапа Кіеўскай мітраполіі Габрыэля Календы, "*na restauracyą zruinowaney cerkwi Soborney grodzienskiey*" (для рэстаўрацыі зруйнаванай Саборнай гарадзенскай царквы)[700]. Нават самое брацтва гарбароў прадае кармялітам дрэва для будовы касцёла ў 1675 г.[701]

Пратэст брацтва выклікае дараванне манахам у 1675 г. пляцу самой Чэснакрыжавай царквы і могілак новым мітрапалітам Усёй Русі Цыпрыянам Жахоўскім. Тэкст "*Хронікі*" падкрэслівае законнасць гэтага дарэння: адзначаецца, што прывілей быў падпісаны ўласнаручна і зарэгістраваны ў войтаўскім судзе, падаецца дата рэгістрацыі, якая адпавядае запісу актавых кніг:

"*...fecit donationem fundi ecclesiae suae Graeci ritus cum caemeteriolo confraternitatis coriariorum vulgo cerdonum, et ne sit dubietas, propria manu donationem seu privilegium scribit, cuius donationis oblata in iudicio advocati Grodnensis 25 Ianuarii...*"[702].

---

694 Паводле апісання валочнай памеры ў 1560–1561 г., гл.: *ПКГЭ*. Вильна, 1882. Ч.2. С.49, 50, 53.
695 Braun G., Hogenberg F. *Civitates orbis terrarum*. Colonia, 1575. T.2. P.48.
696 Borowik P. *Funkcjonowanie samorządu miejskiego w Grodnie podczas "potopu moskiewskiego" (1655–1661) oraz kilka uwag o zniszczeniu miasta przez Moskali.*// Гарадзенскі палімпсест. XII–XX ст. Мат-лы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня-Беласток, 2008. С.36–39.
697 *Памятная книжка Гродненской губернии на 1866 год*. С.25. Гардзееў Ю. *Магдэбургская Горадня*. С.95.
698 Назва уніяцкай царквы ў тэксце кармеліцкай хронікі перакладалася на лацінскую мову як "*Exaltationis Sancti Crucis*" ці "*Узвіжэння Святога Крыжа*", гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв.
698 *ХККБ*. Арк.3 адв.–8. Гэтыя дадзеныя пацвярджаюцца дакументальна, гл.: *ПКГЭ*. С.257–261. Сігнатуры архіўных дакументаў былі пералічаныя вышэй.
699 *ХККБ*. Арк.3 адв.–8. Гэтыя дадзеныя пацвярджаюцца дакументальна, гл.: *ПКГЭ*. С.257–261. Сігнатуры архіўных дакументаў былі пералічаныя вышэй.
700 *ХККБ*. Арк.5, 11.
701 *ХККБ*. Арк.8.
702 "*...падараваў землі царквы сваёй грэчаскага абраду з могілкамі гарбарскага брацтва, і каб не было сумніву ўласнаручна падпісаў гэтае дараванне ці прывілей, копія якога знаходзіцца ў актах гродзкай канцэлярыі ў гарадзенскім войтаўскім судзе [ад] 25 студзеня...*", гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв. Тут і далей пераклад аўтара.

Далей у “*Хроніцы*” апісваецца пратэст брацтва гарбароў, якое не згаджалася на пабудову манастырскай святыні “*ubi suorum consanguineorum cadavera sepeliebant*”[703]. Прадстаўнікі брацтва звярнуліся з позвай аб неправамоцным наданні земляў у суд папскага нунцыя Франчэска Банвізі[704]. Скаргу ад імя старэйшых і ўсяго брацтва[705] склалі бацька і сын: лаўнік Лявон і Захары Ян Ласкевіч, пракуратар Гарадзенскай Эканоміі. У скарзе сцвярджалася, што брацтва мае намер адбудаваць царкву, спаленую ў час вайны, і не згаджаецца з перадачай земляў кармялітам: “*supra conflagratam ecclesiam tempore hostilitatis reaedificari volentium, ne occupat usurpat etc.*”[706].

Трэба адзначыць кампетэнтнасць братчыкаў у вядзенні справы: яны звяртаюцца да апостальскага нунцыя – царкоўнага суду вышэйшага ўзроўню, чым мітрапалітальны, які пачаў дзейнічаць у Рэчы Паспалітай у другой палове XVII ст.[707] – адзінай магчымай інстанцыі ў межах царквы, якая магла вырашыць канфлікт.

З боку кармялітаў на суд нунцыя выступіў прыёр а.Язафат Тышкевіч (5 красавіка 1675 г.) са сведчаннем аб беспадстаўнасці позвы, бо дадзеная зямля была падаравана манахам “*primi illorum Superioris et Loci Ordinarii Metropolitae*”[708].

Пазней у “*Хроніцы*” кажацца аб адмове ад позвы перад магістратам брацкіх старастаў Георгія Дарамеровіча і Якава Адамовіча, якія засведчылі, што скарга была складзена без іх ведама і яны прызнаюць данацыю мітрапаліта[709]. Дата гэтага пацвярджэння не падаецца, але з яго тэксту вынікае, што яно адбылося пасля перадачы справы ў суд нунцыя.

Такім чынам, брацтва самое адмаўлялася ад сваіх правоў, што канчаткова вырашыла канфлікт. Сапраўды, землі былі замацаваныя за кармялітамі, але сам факт канфлікту сведчыць пра перакананасць брацтва у сваёй рацыі і спадзяванні законнага вяртання царкоўных земляў.

### *4. Канфлікт паміж брацтвам і мітрапалітам.*

Узнікае пытанне, хто быў законным уладальнікам Чэснакрыжавай царквы і ці мог мітрапаліт распараджацца гэтымі землямі? У тэксце хронікі і юрыдычных дакументах “*брацкімі*” называюцца могілкі каля царквы[710]. П.Баравік, апісваючы судовую справу аб знікненні царкоўнага інвентара, якая вялася ў лаўніцкім судзе ў 1661 і 1666 г.[711], фармулюе адносіны брацтва да царквы як “*апеку над*” ёю. Такім чынам, хоць няма сведчанняў аб тым, што будынак царквы належаў брацтву, але брацкімі прызнаюцца могілкі і пляц каля царквы. Значыць, скарга царкоўнага брацтва, паводле фармулёўкі самога дарчага запісу, з’яўляецца правамоцнай.

---

[703] “*там, дзе пахаваныя целы нашых родных*”, гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв.

[704] Франчэска Банвізі (Francesco Bonvisi або Buonvisi) (1626–1700 г.) – італьянскі кардынал, арцыбіскуп Фесалонікі, папскі нунцый у Рэчы Паспалітай ў 1670, 1672–1674 г., гл.: Miranda S. *The Cardinals of the Holy Roman Church*.// Florida International University Library [Электронный ресурс]. 2009. Даступны: http://www.fiu.edu/~mirandas/bios1681.htm#Buonvisi. Дата доступа: 10.03.2010 г.

[705] У “*Хроніцы*”: “*нібы (“quasi”) ад імя старэйшых*”, гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв.

[706] “*аб жаданні адбудаваць спаленую ў вайну царкву, каб не заняў і не прысвоіў і г.д.*”, гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв.

[707] Bieńkowski L. *Organizacja Kościoła Wschodniego w Polsce*.// Kościół w Polsce. Wieki XVI–XVIII. Red. W.Müller. Kraków, 1969. T.2. S.870.

[708] “*іх (братчыкаў) найвышэйшай уладай і мясцовым мітрапалітам*”, гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв.–9.

[709] *ХККБ*. Арк.9.

[710] *ХККБ*. Арк.8 адв. Актыкацыя ліста даравання зямлі мітрапалітам Ц.Жахоўскім і перапіскі, у якой пацвярджаецца данацыя, гл.: *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.. Спр.1. Арк.286–286 адв.

[711] Borowik P. *Funkcjonowanie samorządu miejskiego w Grodnie podczas “potopu moskiewskiego” (1655–1661) oraz kilka uwag o zniszczeniu miasta przez Moskali*.// Гарадзенскі палімпсест. XII–XX ст. Мат-лы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня-Беласток, 2008. С.38–39.

З іншага боку мітрапаліт прадстаўляў найвышэйшую уладу ў грэка-каталіцкай царкве[712], якая падпарадкоўвала сабе ўсіх біскупаў іншых дыяцэзій "*рускай зямлі*" і была наступнай пасля папскай. Такім чынам, мітрапаліт быў, у рэшце рэшт, галоўным уладальнікам усіх земляў уніяцкай царквы на падначаленай яму тэрыторыі.

Праўда, дзеянні мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага ў маёмасных пытаннях, паводле іншых сведчанняў, часта ацэньваліся негатыўна прадстаўнікамі царквы. Атрымаўшы пасаду ў 1674 ужо ў 1679 і 1683 г. Ц.Жахоўскі стаў аб'ектам скаргаў базыліянскага ордэна каралю за неправамоцнае карыстанне добрамі, у тым ліку раздачу базыліянскіх земляў свецкім асобам[713]. Такім чынам, дзеянні гэтага мітрапаліта ўспрымаліся уніяцкімі духоўнымі і манастырамі як супярэчныя і апошнія звярталіся да вышэйшых інстанцый, каб адмяніць іх. Таксама ў 1660–80-я г. базіліянскім ордэнам прадпрымаюцца спробы атрымаць большую вольнасць ад улады мітрапаліта: манахі імкнуцца замацаваць права на заняцце пасады кіраўніка ордэна – протаархімандрыта – за простымі манахамі, якія не займаюць кіруючай пазіцыі ў царкве[714].

Такім чынам, пратэст гарадзенскага брацтва стаў у шэраг дзеянняў па абмежаванню ўлады мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага.

Актыўнасць царкоўных брацтваў у сферы кантролю над духавенствам была вядомая для розных гарадоў ВКЛ[715]. Нават у брацкіх статутах быў адзначаны абавязак нагляду за духоўнымі асобамі і прадугледжваліся механізмы скаргаў:

"*..."Вообще всякое", говорится в уставе Львовского братства, данном патриархом Иоакимом, "в каком либо городе законно учрежденное Братство обязано знать жизнь священников и мирян, как своего города, так и окрестных городов и сел. И замечая в них отступление от закона, не скрывать, но доносить о том епископу"...*"[716].

Гарадзенскае гарбарскае брацтва выступала супраць пастановы духоўнай асобы найвышэйшага ўзроўню ў межах дзяржавы, але дзеянні мітрапаліта (яго дарчы запіс) не ставіліся пад сумніў ні манахамі кармяліцкага ордэну, ні апостальскім нунцыем. Быць можа, дадатковай прычынай слабасці ў канфлікце свецкага боку было тое, што спрэчка вырашалася ўнутры каталіцкай царквы, дзе аўтарытэт і паўнамоцтвы брацтва былі меншымі, чым у праваслаўнай. З ходу развіцця інцыдэнту бачна, што гарбарскае брацтва выступае як поўнапраўны суб'ект у спрэчцы, кармяліты ж на працягу ўсяго канфлікту імкнуцца дзейнічаць на ўзроўні кіраўнікоў царквы, а іх падтрымку расцэньваюць як аргумент у справе[717], сам мітрапаліт адмаўляе брацтву права голаса ўвогуле[718].

Такім чынам, акрамя самога маёмаснага канфлікту на старонках "*Хронікі*" прадстаўлена сутыкненне розных разуменняў і падыходаў да царквы і яе органаў унутры адной аб'яднанай каталіцкай царквы.

Вядома, параза брацтва ў працэсе была прадвызначана падзелам унутры самога брацтва. Як адзначалася вышэй, Ласкевічы сцвярджалі, што выступалі ад імя старэйшых, але потым самыя старасты адракліся ад іх, кажучы, што тыя дзейнічалі без іх ведама. Аўтар хронікі сцвярджаў, што адпачатку Ласкевічы выступалі без згоды брацтва: "*quasi*

---

[712] Bieńkowski L. *Organizacja Kościoła Wschodniego w Polsce*.// Kościół w Polsce. Red. W.Müller. Kraków, 1969. T.2: Wieki XVI–XVIII. S.864.
[713] Bartoszewicz J. *Żochowski Cypryjan*.// Encyklopedia powszeczna. Warszawa, 1867. Tom XXVIII. S.1002, 1004, 1006. Казуля С.В. *Жахоўскі Цыпрыян*.// Рэлігія і царква на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн.: БелЭн, 2001. С.111. *Monumenta Ucrainae Historica*. Coll. A.Septyckyj. Romae, 1967. Tom IV (1671–1701). P.136, 138–142, 152.
[714] Bieńkowski L. *Organizacja Kościoła Wschodniego...* S.872–875.
[715] *Monumenta Ucrainae Historica*. P.157–158.
[716] Копысский З. *Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в.* Мн., 1975. С.175.
[717] *ХККБ*. Арк.8 адв.–9.
[718] Падрабязней гл. ніжэй: *ХККБ*. Арк.9.

*seniorum et totius confraternitatis*"[719]. Высветліць правамоцнасць дзеянняў Ласкевічаў у межах брацтва не прадстаўляецца магчымым. У кожным выпадку, перад магістрацкім судом старасты адракліся ад удзелу ў пазове і ад правоў на зямлю. Хоць з фармальнага пункту гледжання выступленне старастаў не змяншае супярэчнасці дзеянняў мітрапаліта, які зрабіў дарчы запіс без згоды ўладальнікаў зямлі.

Такім чынам, дадзены канфлікт, дзякуючы яго падрабязнаму апісанню, служыць сведчаннем функцыянавання уніяцкага брацтва і розніцы ў разуменні яго паўнамоцтваў рознымі суб'ектамі ў другой палове XVII ст., паказвае адметнасці ў падыходзе да брацтваў з боку розных хрысціянскіх канфесій і барацьбу гэтых падыходаў унутры самой уніяцкай царквы.

***5. Рыторыка канфлікту.***

Аўтар "*Хронікі*" не спыняецца на фактычным апісанні падзей. Ён цытуе выказванні абодвух бакоў (напрыклад, фрагменты ліставання, непасведчанага ў афіцыйных крыніцах), напэўна, дзеля захавання доказаў на выпадак працягу працэсу. Гэтыя выказванні маюць асаблівую вартасць: абодва бакі ў палеміцы карыстаюцца экспрэсіўнай лексікай і выяўляюць сваё стаўленне адзін да аднаго ў момант канфлікту. Агульны тон "*Хронікі*" ў гэтай частцы эмацыйна-нейтральны, што яшчэ больш падкрэслівае вобразнасць прыводзімых цытат.

У лісце мітрапаліта Ц.Жахоўскага да кармялітаў адрасант акрэслівае свае адносіны да брацтва, надаючы яго прадстаўнікам ацэначныя эпітэты, выяўляе сваю пазіцыю ў канфлікце:

"*Tandem 14 Aprilis scribit illusstrissimus metropolita ad reverendo patre Iosaphat condolendo de vexa a coriariis vulgo od garbarzow his formulibus: ktorzyby lepiey skur wyprawować patrzyli, nie wtrącali się do szafunku placami mere cerkiewnemi, które w dispozycyey etc. co chłopom do cmętarza etc. ...Bliszszy ia iestem waszym mościom panstwu zakonowi swiętemu, anieżeli tym skuratnikom, z których Cerkwi Bożey ani swieczki ani proskury nie masz*"[720].

Акрамя яўнай перавагі кармялітам у канфлікце словы Ц.Жахоўскага выяўляюць агульныя пагардлівыя адносіны да свецкага брацтва: аўтар не ставіцца да яго, як да царкоўнай арганізацыі, а як да сукупнасці вернікаў нізкага паходжання, адмаўляе яму права ўплыву на дзейнасць царквы. Экспрэсіўная лексіка, якая ўжываецца ў звароце да кармялітаў і ў апісанні гарбароў, мае супрацьлеглую канатацыю. Акрэсленне гарбароў "*chłopami*", "*skuratnikami*", без ніякіх уводных ветлівых формулаў, падкрэслівае іх нізкі сацыяльны статус і ў агульным кантэксце абодва эпітэты гучаць абразліва. Кармеліцкі аўтар цытуе гэтыя ўрыўкі ліста ў на мове арыгіналу, напэўна, свядома імкнучыся захаваць вобразнасць выказванняў, быць можа, выключнасць стылю здзівіла самога аўтара хронікі. Добрыя стасункі Ц.Жахоўскага да ордэна кармялітаў бачныя таксама ў ранейшым лісце мітрапаліта да правінцыяла ордэна:

"*Jakom zawsze ab unguiculis Zakon Swięty Waszmość Państwa poważał i kochał ut pupillam oculi mei, tak teraz cordicitus gratulor sobie, iż mi się podała occasia practicum, non speculaticum ku WMMPanstwu oswiadczyć affectum*"[721].

---

719 "*нібы ад імя старэйшых і ўсяго брацтва*", гл.: *ХККБ*. Арк.8 адв.

720 "*Урэшце 14 красавіка напісаў найяснейшы мітрапаліт да вялебнага айца Язафата, спачуваючы адносна праблемаў, выкліканых гарбарамі, гэтымі словамі: якія б лепей сачылі за вырабленнем скураў, а не мяшаліся да распараджэння пляцамі выключна царкоўнымі, якія належаць і г.д., што халопам да могілкаў і г.д. ...Я бліжэйшы, Вашмосць, да Вашага святога ордэна, чым да гэтых скуратнікаў, ад якіх для Царквы Божай ні свечкі, ні праскуры не прыдбаеш*", гл.: *ХККБ*. Арк.9.

721 "*Таму што я заўсёды, ад найдаўнейшых часоў, святы ордэн вашмосць айцоў паважаў і любіў як зрэнку вока майго, то шчыра цешуся, што надарылася практычная, а не ўяўная магчымасць засведчыць [гэтыя] пачуцці вашаму ордэну*", гл.: *НГАБ у Менску*. Ф.1800. Воп.1. Спр.1. Арк.286–286 адв.

Асаблівае супрацоўніцтва паміж уніятамі і кармялітамі босымі пасведчана шырэй: адным з ініцыятараў запрашэння кармялітаў у Рэч Паспалітую на пачатку XVII ст. быў уніяцкі мітрапаліт А.Г.Пацей, які імкнуўся пры іх дапамозе рэфармаваць базыліянаў[722].

У тэксце "*Хронікі*" цытуюцца таксама словы другога боку канфлікту. Аўтар прыводзіць пагрозу гарбароў прыёру а.Язафату, у якой згадваецца лёс іншага.Ясафата:

"*Quorum aliqui schismatici minitabantur, ...RP Iosaphat Grodnae, ut alterum Iosaphat Vitepscis occisuros. ex narratione RP Wasilewski Ordinis Sancti Francisci Minorum*"[723].

Гэтая пагроза надае канфлікту міжканфесійную афарбоўку. Ужо позва да нунцыя, у якой сутнасць праблемы разумеецца як будова кармяліцкай (каталіцкай) святыні на месцы старажытных царкоўных могілкаў, можа быць інтэрпрэтавана міжканфесійна[724]. Напэўна, пры адбудове на гарбарскім пляцы царквы уніяцкага вызнання такая спрэчка не мела б месца. Такім чынам, канфлікт падкрэслівае ўсведамленне асобнай тоеснасці грэка-каталіцкага брацтва, неідэнтыфікацыю вернікаў з агульнай каталіцкай царквой. Увядзенне ж вобраза Ясафата Кунцэвіча падкрэслівае гэты аспект канфлікту. Звяртае ўвагу змяшчэнне значэнняў, якое назіраецца ў метафорыцы пагрозы: каталіцкі прыёр параўноўваецца уніяцкімі вернікамі да уніяцкага святара, які быў забіты падчас усталявання уніі праваслаўнымі гараджанамі і братчыкамі. Такім чынам, смерць Ясафата Кунцэвіча выступае як сімвал барацьбы вернікаў з царкоўнымі ўладамі з аднаго боку і як сімвал барацьбы супраць каталіцызацыі – з другога, а уніяцкія братчыкі атаясамляюць сябе з праваслаўнымі гараджанамі.

Асобнага даследавання патрабуе высвятленне, як функцыянаваў вобраз Ясафата Кунцэвіча ў канфесійнай прапагандзе падчас вайны з Масковіяй. З боку каталіцкай царквы біскуп быў прызнаны пакутнікам Рымскім прастолам ужо ў 1642 г. Яго культ распаўсюджваўся ў базылянскіх асяродках з таго часу. Напярэдадні вайны (у 1646–1649 г.) было выдадзена тры друкі на лацінскай і польскай мовах аб жыцці і пакутніцкай смерці Я.Кунцэвіча каралеўскім сакратаром ксяндзом Казімерам Янам Вайшнаровічам[725]. У 1667 г. адбылося ўрачыстае перанясенне рэліквій блаславёнага Ясафата ў Полацак з Супрасля, дзе яны захоўваліся пад час Маскоўскай вайны. Урачыстая працэсія ішла праз Вільню, дзе адбыліся святкаванні. З гэтай нагоды былі выдадзеныя панегірычныя друкі, што апісвалі жыццё і смерць Ясафата, напісаныя базіліянскімі манахамі і кіраўнікамі царквы (Бенядыктам Міхневічам, Якубам Сушай, Цыпрыянам Жахоўскім), езуітам Валенціем Бяловічам[726].

Такім чынам, справа Ясафата Кунцэвіча была актуальнай у царкоўных колах Рэчы Паспалітай у разгляданы перыяд, але, нягледзечы на доўгую прапаганду на карысць мучаніцкай смерці уніяцкага блаславёнага, яго фігура разумелася неадназначна уніяцкімі вернікамі. Выкарыстоўваючы вобраз Я.Кунцэвіча ў пагрозах братчыкі адносіліся да агульнага, зразумелага ўсімі бакамі, сімвала, выкарыстоўваючы яго з супрацьлеглым афіцыйнаму знакам. Сама наяўнасць спрэчкі паказвае складанасць адносінаў, якія былі паміж прадстаўнікамі дзвюх канфесій у пасляваенны перыяд у Горадні. Дадзены канфлікт паказвае не толькі складанасць вырашэння маёмасных пытанняў у Рэчы Паспалітай у другой палове XVII ст., але і выяўляе адносіны паміж рознымі сацыяльнымі групамі ў межах горада і ўнутры царквы. Пераможцам у спрэчцы стаў бок, які займаў наймацнейшую пазіцыю ў грамадстве, аднак апісанне ходу канфлікту дазваляе ўбачыць

---

[722] Флеров И. *О православных церковных братствах, противоборствующих Унии в Юго-Западной России в XVI, XVII и XVIII столетиях*. СПб., 1857. С.818.

[723] "*З якіх некаторыя схізматыкі пагражалі вялебнаму айцу Ясафату ў Горадні, што заб'юць [яго] як іншага Ясафата ў Віцебску. З апавядання вялебнага айца Васілеўскага, ордэна братоў меншых Святога Францішка*", гл.: *ХККБ*. Арк.9.

[724] *ХККБ*. Арк.8 адв.

[725] Gil Cz. *Karmelici bosi*.// Encyklopedia Katolicka. Lublin, 2000. T.VIII. S. 814–819.

[726] Estreicher K. *Bibliografia Polska*. Warszawa, 1977. Cz.3: Stólecie XV–XVIII w układzie abecadłowym. T.33. Wyd.2. S.378–379. Estreicher K. *Bibliografia Polska*. T.20. S.347. Estreicher K. *Bibliografia Polska*. T.22. S.72.

складанасць адносінаў паміж гэтымі сацыяльнымі групамі. На нашую думку, асаблівую важнасць маюць канфесійныя канатацыі спрэчкі: адбываючыся ў межах адной царквы, разгляданы на царкоўным судзе, канфлікт, тым не менш, закранае супярэчнасці паміж веравызнаннямі, як на ўзроўні разумення царквы і арганізацый унутры яе, так і тоеснасці уніяцкіх вернікаў. Сама спроба брацтва супрацьстаяць дзеянням кіраўнікоў царквы з'яўляецца сведчаннем разумення братчыкамі сваіх правоў і пазіцыі ў грамадстве і царкве. Цікава тое, што найбольш звестак аб ходзе канфлікту і меркаваннях уніяцкага брацтва і мітрапаліта змяшчаецца ў хроніцы каталіцкага кляштара.

*Ганна Паўлоўская (Варшава–Горадня)*.

## Палітычнае значэнне справы Менскага кагала ў 50-я г. XVIII ст.

Судовая сістэма Рэчы Паспалітай XVIII ст. знаходзілася ў глыбокім крызісе. Даволі часта судовыя справы вырашаліся не на падставе закона, а з дапамогай грошай. У такой сітуацыі судовая справа Менскага кагала супраць пабораў менскага гродскага старосты Юзафа Іваноўскага, як выдавалася, не мае ніякіх перспектываў. Аднак, у ход безнадзейнай справы ўмешваюцца палітычныя фактары.

Першапачаткова супраць злоўжыванняў менскага гродскага старосты Юзафа Іваноўскага выступае з судовым іскам, як менскі войт, адзін з лідэраў Фаміліі рэферэндары ВКЛ Антоні Пшаздзецкі. Магчыма, сапраўднай мэтай Пшаздзецкага было атрыманне для сябе Менскага гродскага староства. Пшаздецкі падгаварыў Менскі кагал падаць іск у асэсарскім судзе на менскага старосту за занадтае абцяжарванне падаткамі. Рашэнне ў асэсарскім суддзе прымалася пад кіраўніцтвам канцлера ВКЛ Міхала Чартарыйскага. Гэта фактычна азначала, што рашэнне будзе прынята на карысць Антонія Пшаздзецкага і Менскага кагала. Юзаф Іваноўскі, каб пазбегнуць гэтага, вырашыў перадаць Менскае гродскае староства свайму сыну Казімеру і звярнуўся па адпаведны прывілей да караля. Аўгуст III адказаў згодай на просьбу Іваноўскага і выдаў адпаведны прывілей.

Канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі адмовіўся зацвердзіць пячаткай каралеўскі прывілей аб перадачы Менскага гродскага староства і такім чынам легітымізаваць перадачу яго ад бацькі да сына. Юрыдычнай падставай адмовы зацвердзіць каралеўскі прывілей Міхал Чартарыйскі палічыў нясконченую судовую справу Менскага кагала супраць мясцовага старосты, што выключала перадачу староства, бо вызваляла новага старосту ад судовай справы, разгляд якой распачаўся супраць былога старосты.

Адмову Чартарыйскіх вырашаюць выкарыстаць іх супернікі Радзівілы. Радзівілаўскі прадстаўнік на каралеўскім двары ў Дрэздэне Андрэй Пратасовіч узгадняе з саюзнікам Радзівілам маршалкам ВКЛ Ігнаціем Агінскім тактыку адносна канфлікту Фаміліі з каралеўскім дваром з-за адмовы Міхала Чартарыйскага зацвердзіць пячаткай прывілеі на ўладанні Купішкі і Пеняны для Ігнація Агінскага і перадачу Менскага гродскага староства Юзафам Іваноўскім. Падтрымаў іх і новы лідар прыдворнай партыі Юры Мнішак, які вырашыў выкарыстаць справу Менскага гродскага староства супраць Чартарыйскіх. Мэтай Мнішка было ўзмацніць непаразуменні паміж каралеўскім дваром і Чартарыйскімі, якія ўзніклі з-за адмовы Міхала Чартарыйскага зацвердзіць пячаткай каралеўскі прывілей аб перадачы Менскага гродскага староства.

Не сядзеў склаўшы рукі і сам менскі гродскі староста Юзаф Іваноўскі. Ён пачаў наступленне на Менскі кагал, каб прымусіць яго адмовіцца ад распачатай судовай справы. Для гэтага ён прадпрыняў некалькі дзеянняў. Не звяртаючы ўвагі на асэсарскія дэкрэты, ён з дапамогай сваіх жаўнераў і "*халопаў, якія прысланы з яго ўладанняў, габрэяў і габрэек хапае, да сваіх уладанняў накіроўвае, а там мучае, б'е і рознымі спосабамі здзекваецца*". Больш таго "*у такім пакутніцтве і біцці спрабуе атрымаць адмову ад кагала і ад асэсарскага працэса і, калі далі грошы за пратэкцыю канцлеру, рэферэндарыю, і Вашай Міласьці Пану [інстыгатару ВКЛ Мікалаю Тадэвушу Лапацінскаму – А.М.] у чым, калі не могуць фальшывага пацвердзіць, зноў па пытаннях акаваных не толькі за ногі і рукі, але і за шыю да цяжкай сажае турмы*"[727].

Адначасова Іваноўскі вярнуў да кіравання Менскім кагалам раней асуджаных кагальных старэйшых. Захапіў габрэйскія кабакі і ў парушэнне асэсарскага дэкрэта з дапамогай сваіх прыхільнікаў сярод габрэяў адкрыў іх і ўстанавіў сабе выплаты згодна "*фальшываму рэестру, ад яго партыі габрэяў пададзенай*". Для павялічэння колькасці сваіх прыхільнікаў-габрэяў Іваноўскі мяса і скуры забараніў прадаваць тым габрэям, якія

[727] *BCz*. 706. K.1120.

не далучыліся да партыі яго прыхільнікаў. Акрамя таго, “*габрэяў, якія засталіся ў горадзе, да подпісу бланка прымушаў і ўзяў ўжо якіясьці бланкі ад цяперашніх старэйшых, сваіх кагальных фаварытаў, да якіх людзі старосты, ходзячы ад дома да дома, і пад той дакумент гвалтам падпісвалі, на якіх хоча запісаць якіясьці для сябе кагала дакументы*”. Далей Іваноўскі вызваліў сваіх прыхільнікаў-габрэяў ад выплаты падаткаў і пераклаў ўсе выплаты падаткаў на габрэяў, якія пачалі з ім судовую справу[728].

Іваноўскі нават публічна хваліўся падтрымкай, якая будзе аказана яму на каралеўскім двары ў Дрэздэне. Заяўляў нязгодным з ім габрэям, што “*мае атрымаць скрыпт ад караля, каб у асэсарскім судзе не судзілі, і вярнуўшыся сыну староства саступіць*”. Далей Іваноўскі нават пагражаў, што, калі ён і будзе асуджаны на аддачу староства, то атрымаць староства ад караля можа толькі яго сын. Як заўважалі габрэі “*такімі страхамі габрэяў нашых да сябе цягне, а сваім фаварытам дае грошы і розную дапамогу, а мы ніводнага не толькі да закона, але і да жыцця не маем спосабу*”[729].

Прадпрыняў Іваноўскі дзеянні, каб не ўзніклі новыя судовыя справы габрэяў супраць яго. Таму загадаў сваёй канцылярыі не прымаць новых судовых скаргаў габрэяў. Увогуле Іваноўскі давёў непрыхільных габрэяў да поўнага разарэння, што ў іх не было грошай нават выкупіць копіі судовых рашэнняў на іх карысць для прадстаўлення ў асэсарскім суддзе. Усе фінансавыя сродкі кагала знаходзіліся ў прыхільнікаў менскага гродскага старосты. Акрамя таго, варожым Іваноўскаму габрэям нават ніхто не хацеў пазычаць грошай для далейшага разгляду справы. Іваноўскі ў сваю чаргу пагражаў “*хтосьці з нас (габрэяў) на будучы асэсарскі суд хацелі ехаць, тых абяцае хватаць па дарозе, біць, садзіць у турму і мучыць, што ўжо не раз рабіў*”[730].

Каралеўскі двор зразумеўшы, што бессэнсоўна прасіць Міхала Чартарыйскага зацвердзіць пячаткай перадачу Менскага гродскага староства, ужо ў снежні 1752 г. звярнуўся з падобнай просьбай да падканцлера ВКЛ Міхала Антонія Сапегі. Той, пасля пэўных развагаў, пагадзіўся з думкай свайго цесця Міхала Чартарыйскага[731]. Хутка, аднак, паддаўшыся на ўгаворы Генрыха Бруля і Юрыя Мнішака, стаў шукаць кампраміснае рашэнне і 18 лютага 1753 г. Міхал Антоні Сапега паставіў пячатку пад кансэсам аб перадачы Менскага гродскага староства пры двух умовах. Па-першае, што Казімер Іваноўскі будзе адказваць у пачатых судовых справах супраць яго бацькі, як менскага гродскага старосты. Па-другое, Юзаф Іваноўскі прадставіць метрыку сына, якая пацвердзіць яго паўналецце. У выніку Іваноўскі не забраў прывілея з пастаўленай пячаткай аб перадачы Менскага гродскага староства, а стаў шукаць іншыя шляхі[732]. Міхал Чартарыйскі таксама ўжо лічыў неабходным, каб Менскае гродскае староства не было

[728] *BCz*. 706. K.1120.
[729] *BCz*. 706. K.1121.
[730] *BCz*. 706. K.1121.
[731] Czeppe M. *Z dziejów rywalizacji między marszałkiem i kanclerzem*.// Trudne stulecie. Studia z dziejów XVII i XVIII wieku ofiarowane profesorowi Jerzemu Michalskiemu w siedemdziesiątą rocznicę urodzin. Warszawa, 1994. S.56–58. Zielińska Z. *Walka “Familii” o reforme Rzeczypospolitej, 1743–1752*. Warszawa, 1983. S.339–340. Matuszewicz M. *Diariusz życia mego*. Warszawa, 1986. T.1. S.348–349. *BN*. 3285: М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, Воўчын, 11.12.1752 г. K.215. *BN*. 3285: М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, Воўчын, 19.12.1752 г. K.217. *BN*. 3285: М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, Воўчын, 27.12.1752 г. K.219–219v. *BN*. 3285: М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, Воўчын, 10.01.1753 г. K.223.
[732] *BJ*. 5981. S.26. *BCz*. 706: М.А.Сапега да Я.Агродскага, 22.04.1753 г., Быхаў. K.1097–1101v. *BCz*. 3429: М.Чартарыйскі да Я.Агродскага, 04.11.1752 г., Горадня. K.320–321. *AGAD*. AR. Dz.V. Nr 13858. Cz.4: М.А.Сапега да М.К.Радзівіла, 22.01.1753 г., Быхаў. K.2–3. Шукаць гэтыя шляхі Іваноўскі накіраваўся ў Дрэздэн, гл.: *BCz*. 706: М.А.Сапега да Я.Агродскага, 10.06.1753 г., Слонім. K.1109–1110. *BCz*. 706: М.А.Сапега да Я.Агродскага, 23.06.1753 г., Слонім. K.1105–1106. Міхал Чартарыйскі яшчэ ў канцы сакавіка 1753 г. быў упэўнены, што Міхал Антоні Сапега не паставіць пячатку пад кансэнсам аб перадачы менскага гродскага старосты, гл.: *BCz*. 3127: М.Чартарыйскі да А.Пшаздзецкага, 25.03.1753 г., Воўчын. K.37–38. *LMAB*. F.139. B.4063: М.А.Сапега да Ю.С.Сапегі, б.д., б.м. P.490. *BN*. 3285: М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, Воўчын, 03.09.1753 г. K.256. Сам прывілей быў змешчаны да кніг малой канцылярыі Метрыкі ВКЛ, але замест імя сына Іваноўскага нават было пакінута пустое месца, гл.: *НГАБ у Менску*. Кмф-18. Воп.1. Спр.181. Арк.53.

нададзена Пшаздецкаму, а засталося Іваноўскім. Такім спосабам удалося б абвергнуць чуткі Мнішака і Радзівіла, якія распускаліся на каралеўскім двары, што ўся справа аб судзе над Юзафам Іваноўскім была зроблена толькі для таго, каб Менскае гродскае староства дасталося Антонію Пшаздецкаму[733].

Усе гэтыя дзеянні, аднак, не дапамаглі Іваноўскаму, бо на бок Менскага кагала стаў канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі. У выніку Менскі кагал пры падтрымцы Чартарыйскіх 4 кастрычніка 1753 г. выйграў справу ў асэсарскім суддзе. Праўда, замест ста тысяч злотых, якія патрабаваў Менскі кагал, суд пад кіраўніцтвам падканцлера ВКЛ Міхала Антонія Сапегі прысудзіў яму толькі 21476 злотых і 6 грошаў[734]. Іваноўскі адзін быў не ў стане супрацьстаяць Фаміліі.

Каралеўскі двор, аднак, стаў на бок Юзафа Іваноўскага ў яго канфлікце з Фаміліяй. Менавіта таму, каралём Аўгустам III у канцы 1753 года быў выдадзены скрыпт у абарону менскага гродскага старосты Іваноўскага перад выкананнем рашэння асэсарскага суда. Лідэры прыдворнай партыі каронны надворны маршалак Юры Мнішак і вялікі гетман ВКЛ Міхал Казімер Радзівіл падгаварылі Юзафа Іваноўскага падаць 17 кастрычніка 1753 г. у наваградскім гродзе маніфест супраць падканцлера ВКЛ Міхала Антонія Сапегі, у якім абвінавацілі таго ў несправядлівым суддзе і адмове ад апеляцыі на рашэнне асэсарскага суда. Адначасова ён, напэўна, па загаду Мнішака, збіраўся падаць апеляцыю на такое рашэнне[735]. Праблема была ў тым, што асэсарскі суд быў судом апошняй інстанцыі. Апеляцыя на яго рашэнні не прадугледжвалася, але не была забаронена. Гэта і вырашыў выкарыстаць Юзаф Іваноўскі.

Падканцлер ВКЛ Міхал Антоні Сапега быў уражаны, што пры такім прыязным дэкрэце асэсарскага суда, калі патрэбна было выплаціць крыху больш дваццаці адной тысячы злотых, а Менскі кагал патрабаваў выплаты ста пяцідзесяці тысяч злотых, Іваноўскі пайшоў на адкрытае парушэнне закона і запатрабаваў апеляцыі на рашэнне асэсарскага суда. Сапега абвінаваціў Іваноўскага, што той дзейнічае па загаду надворнага кароннага маршалка Юрыя Мнішака і вялікага гетмана ВКЛ Міхала Казімера Радзівіла. Сапега спадзяваўся, што каралеўскі двор не падтрымае такіх дзеянняў Іваноўскага і прасіў Яцка Агродскага інфарміраваць караля аб такой дзейнасці супраць права[736]. Як бачым, яго надзеі аказаліся беспадстаўнымі і каралеўскі двор фактычна стаў на бок Іваноўскага.

Прычынай такой пазіцыі каралеўскага двара было тое, што выступленне Іваноўскага было ініцыявана Юрыям Мнішакам не столькі для перагляду судовай справы Менскага кагала супраць Іваноўскага, а больш з-за імкнення дворскіх палітыкаў змяніць закон аб асэсарскіх судах, як судах апошняй інстанцыі, якія знаходзіліся пад кіраўніцтвам канцлера ці падканцлера. Такім чынам, "*нязначная*" справа паміж Менскім кагалам і менскім гродскім старостай Юзафам Іваноўскім павінна была стаць прэцэдэнтам для перагляду прэрагатываў улады канцлераў, як кіраўнікоў асэсарскага суда. Атрымалася, што выкананне рашэння асэсарскага суда аб выплаце Юзафам Іваноўскім грошай Менскаму кагалу станавілася фактычна прызнаннем захавання прэрагатываў ўлады канцлераў і асэсарскага суда пад іх кіраўніцтвам, як суда апошняй інстанцыі. Больш таго, па думцы Юрыя Мнішака, гэта справа павінна была аслабіць пазіцыі лідэраў Фаміліі кароннага і літоўскага канцлераў: Яна Малахоўскага, Міхала Чартарыйскага і літоўскага падканцлера Міхала Антонія Сапегі.

---

[733] *BN*. 3285: М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, Воўчын, 27.12.1752 г. К.219v.
[734] *НГАБ у Менску*. Ф.1727. Воп.1. Спр.12. Арк. 667 адв.
[735] *BCz*. 706: М.А.Сапега да Я.Агродскага, Горадня, 21.10.1753 г. К.1117–1118. *BN*. 3286: Копія ліста Юрыя Мнішака да Юзафа Іваноўскага, б.м., б.д. К.26. *BN*. 3286: Копія маніфеста Іваноўскага ад 17.10.1753 г. К.26. *BN*. 3286: С.Лопат да М.А.Сапегі, 3.11.1753 г., б.м. К.24. *BN*. 3286: М.Чартарыйскі да Я.Малахоўскага, 20.10.1753 г., б.м. К.20. *BN*. 3286: Я.Агродскі да М.А.Сапегі, 20.10.1753 г., Дрэздэн. К.31. *НГАБ у Менску*. Ф.1727. Воп.1. Спр.12. Арк. 339–340 адв, 341–342 адв, 343–344 адв, 345–346, 347–348 адв. Сам Мнішак перад Яцкам Агродскім абвяргаў сцвярджэнне, што Іваноўскі дзейнічае так па яго загаду, гл.: *LVIA*. 1135. Op.2. B.104. P.114v.
[736] *BCz*. 706: М.А.Сапега да Я.Агродскага, Горадня, 21.10.1753 г. К.1117–1118.

Безумоўна гэта не магло задаволіць канцлераў і падканцлера. Міхал Антоні Сапега выдаў контрманіфест супраць маніфеста Іваноўскага. Больш таго, Сапега і Чартарыйскі адмовіліся зацвердзіць каралеўскі скрыпт аб абароне Іваноўскага ад рашэння асэсарскага суда, бо зацвярджэнне гэтага скрыпту фактычна азначала прызнанне неправаты асэсарскага суда. На баку падканцлера ВКЛ выступіў не толькі канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі, але і каронны канцлер Ян Малахоўскі. Міхал Чартарыйскі настойваў, каб Міхал Антоні Сапега паклікаў Іваноўскага на суд у Трыбунал ВКЛ аб парушэнні юрысдыкцыі канцлераў. Такі сумесны выступ канцлераў прымусіў адступіць прыдворную партыю. Аднак, не прымусіў яе адмовіцца ад падтрымкі Іваноўскага супраць Фаміліі[737].

Генрых Бруль і Юры Мнішак праз Андрэя Пратасовіча загадалі Радзівілу, каб Юзаф Іваноўскі выканаў дэкрэт асэсарскага суда, бо гарантам гэтага быў сам кароль. У такім выпадку зварот Іваноўскага ў рэляцыйны суд ставіў пад сумніў каралеўскае слова. Менавіта таму Бруль і Мнішак настойвалі, каб Іваноўскі падпарадкаваўся дэкрэту[738]. На каралеўскім двары лічылі, што, калі Іваноўскі хоча, то можа звярнуцца з апеляцыяй на рашэнне асэсарскага суда ў рэляцыйны суд, але Аўгуст III будзе судзіць у гэтым судзе толькі ў выпадку, калі Фамілія пакліча яго самога на разгляд справы ў гэты суд[739]. Іваноўскі вырашыў звярнуцца з апеляцыяй у рэляцыйны суд і праз Радзівіла прасіў падтрымкі каралеўскага двара. Напэўна, радзівілаўская настойлівасць у перадачы просьбаў Іваноўскага была выклікана жаданнем вялікага гетмана ВКЛ з дапамогай каралеўскага двара перамагчы Фамілію. Такое развіццё сітуацыі не задавальняла каралеўскі двор і там не вытрымалі такой настойлівасці Іваноўскага і Радзівіла. У выніку ў пачатку 1754 г. Мнішак праз Пратасовіча рэзка заявіў Радзівілу: "*каб больш у справе Ягамосць Пана Іваноўскага не звяртаўся*". Увогуле няхай Іваноўскі "*чыніць, што хоча*": можа падаваць апеляцыю на рашэнне асэсарскага суда, але не будзе мець падтрымкі каралеўскага двара. На думку Мнішака, лепей было, каб Іваноўскі падпарадкаваўся дэкрэту асэсарскага суда і тады трэба было пaглядзець ці выканае свае абяцанні Фамілія аб зацвярджэнні прывілею аб перадачы Менскага гродскага староства[740].

Менскі гродскі староста Іваноўскі не збіраўся саступаць і Менскаму кагалу. Больш таго, пастаўленыя ім кагальнымі старэйшымі Абель Бельямінавіч і Янкель Ляйбовіч у канцы верасня 1754 г. пачалі атаку на нязгодных габрэяў Менскага кагала. Яны абвінавацілі іх у незаконным прадстаўніцтве інтарэсаў кагала на судах і беспадстаўным пазычэнні ад імя Менскага кагала 80000 злотых, якія пагражалі атрымаць праз суд на карысць Менскага кагала прыхільнікаў Іваноўскага[741]. Прыдворныя палітыкі разглядалі магчымасць прызначэння спецыяльнай камісіі, якая павінна была разглядзець канфлікт паміж менскім гродскім старостай і Менскім кагалам. Іваноўскі хацеў, каб камісія была склікана каралём, а не вызначана з асэсарскага суда, бо тады ён меў шанец на прызначэнне прыхільных сабе камісараў[742].

І Чартарыйскія, і каралеўскі двор аказвалі ціск на Менскі кагал, каб той дзейнічаў згодна іх інтарэсам. Гэта прывяло да зацягвання судовай справы. Большасць менскіх габрэяў працягвалі настойваць на выкананні рашэння асэсарскага суда. Гэта прымусіла каралеўскі двор шукаць іншыя шляхі вырашэння канфлікта. У чэрвені 1754 г. былі зроблены спробы прымірыць менскага гродскага старосту Іваноўскага з кагалам. У выніку ў 1755 г. з'явілася дамова паміж Іваноўскім і Менскім кагалам, якая павінна была прыпыніць судовую справу. Дамова была напісана не толькі пры пасярэдніцтве каралеўскага двара, але нават і састаўлена ў Варшаве прыдворнымі палітыкамі. Гэтая дамова шмат у чым была складзена на карысць Менскага кагала, бо Іваноўскі, дзеля

[737] *BCz*. 706: М.А.Сапега да Я.Агродскага, 21.10.1753 г., Горадня. K.1117–1118.
[738] *AGAD*. AR. Dz.V. Nr 12416. Cz.3: А.Пратасовіч да М.К.Радзівіла. K.37.
[739] *AGAD*. AR. Dz.V. Nr 12416. Cz.3: А.Пратасовіч да М.К.Радзівіла. K.58.
[740] *AGAD*. AR. Dz.V. Nr 12416. Cz.3. А.Пратасовіч да М.К.Радзівіла, 09.01.1754 г. K.67.
[741] *НГАБ у Менску*. Ф.1727. Воп.1. Спр.12. Арк. 546–547 адв.
[742] *LMAB*. F.139. B.4046: Ю.С.Сапега да М.А.Сапегі, 14.07.1754 г., Слонім. P.146–146v.

перадачы Менскага гродскага староства сыну, пайшоў на значныя саступкі. Ды і каралеўскі двор настойваў на гэтых саступках, бо імкнуўся як мага хутчэй скончыць судовую справу, якая атрымала моцны рэзананс у Рэчы Пасалітай.

У выніку Менскі кагал пагадзіўся на кампраміс. Замест 21476 злотых і 6 грошай Юзаф Іваноўскі абавязаўся выплаціць 1000 чырвоных злотых. У дамове асабліва падкрэслівалася, што яна была заключана толькі дзякуючы пасярэднікам у Варшаве. Таксама звярталася ўвага на ранейшыя заслугі менскага гродскага старосты ў абароне кагала, а таксама неабходнасць габрэям не быць у канфлікце з мясцовай выканаўчай уладай, якую, як раз, і прадстаўляў менскі гродскі староста[743].

Падрабязнасці заключэння гэтай дамовы становяцца зразумелымі з дыярыюша Марціна Матушэвіча. Згодна яму, каралеўскі двор пайшоў на кампраміс, бо лідэр прыдворнай партыі Юры Мнішак ня ведаў, што рабіць з незацверджаным каралеўскім скрыптам у абарону Іваноўскага ад рашэнняў асэсарскага суда. Шляхта яўна знаходзілася на баку абароны правоў канцлера і падканцлера і таму абвастрэнне справы несла страты ў першую чаргу для Аўгуста ІІІ, бо Міхал Чартарыйскі і Міхал Антоні Сапега не зацвердзілі пячаткай каралеўскі скрыпт і таму ён не меў законнай сілы, а яны маглі спакойна выконваць рашэнне асэсарскага суда. Дапамог вырашыць гэтую праблему як раз Марцін Матушэвіч, які, вывучыўшы справу, прызнаў справядлівым рашэнне асэсарскага суда. Паменьшыў толькі на некалькі тысяч злотых выплаты Іваноўскага. Пагадзіўся на такія ўмовы і прадстаўляючы інтарэсы Фаміліі, як менскі войт, рэферэндары ВКЛ Антоні Пшаздзецкі. Потым, праўда, перадумаў і адмовіўся зацвердзіць напісаную дамову і нават выехаў з Варшавы. Аднак, і ў яго адсутнасць удалося зацвердзіць канчатковую дамову, бо справа была паміж Менскім кагалам і менскім гродскім старостай. Старэйшыя кагала ў гэты год былі прыхільнікамі Іваноўскага. Гэта дало магчымасць Матушэвічу даслоўна, як было ўзгоднена з Пшаздзецкім, запісаць дамову. Іваноўскі імкнуўся тонкім пяром дапісаць некалькі незаўважальных фраз, а потым абвесці іх і такім чынам змяніць тэкст дамовы. Гэта не адпавядала інтарэсам каралеўскага двара, які імкнуўся скончыць справу так, каб у Чартарыйскіх не магло быць ніякіх зачэпак да новых антыкаралеўскіх выступленняў. У выніку, адзін з лідэраў прыдворнай партыі кіеўскі каад’ютар Каэтан Солтык уласнаручна напісаў дамову, якая была падпісана старэйшымі Менскага кагала і Іваноўскім, а потым зацверджаны подпісам Аўгуста ІІІ і пячаткай канцлера ВКЛ Міхала Чартарыйскага[744]. Фактычна абодва бакі пайшлі на саступкі.

Такім чынам, судовая справа Менскага кагала аказалася ў цэнтры барацьбы магнацкіх груповак у Рэчы Паспалітай. Новая прыдворная партыя Юрыя Мнішака вырашыла выкарыстаць справу Менскага кагала, каб павялічыць канфлікт паміж Чартарыйскімі і каралеўскім дваром. У выніку гэтай справы Мнішаку ўдалося пасварыць Міхала Чартарыйскага з Аўгустам ІІІ і Генрыхам Брулям. Аднак, не паменшыць уплывы Чартарыйскіх у ВКЛ. Нічым скончылася і спроба з дапамогай справы Менскага кагала паменшыць кампетэнцыю асэсарскага суда, а з ім і ўплывы канцлераў і падканцлераў. У выніку Мнішак быў вымушаны саступіць у гэтым пытанні і старацца вырашыць кампрамісам справу паміж Менскім кагалам і менскім гродскім старостай Юзафам Іваноўскім.

*Андрэй Мацук (Менск).*

[743] *НГАБ у Менску*. Ф.1727. Воп.1. Спр.12. Арк.668–669.

[744] Matuszewicz M. *Diariusz życia mego*. S.451–454.

## Род Дзяконскіх – галіна Яна Валынца[745].

Шляхецкі род Дзяконскіх гербу "*Караб*" нельга аднесці да катэгорыі вельмі багатых або ўплывовых. Аднак, яго прадстаўнікі ўяўляюць цікавасць у кантэксце рэгіянальнай гісторыі. Асобныя прадстаўнікі Дзяконскіх ужо траплялі ў поле зроку даследчыкаў. У энцыклапедычных выданнях у Польшчы з'яўляліся кароткія біяграфіі найбольш знакамітых прадстаўнікоў роду. "*Польскі слоўнік біяграфічны*" прыводзіць кароткія звесткі пра найбольш знаных асобаў. Да іх ліку аднесены звязаныя з Беларуссю палітык ***Антоні*** і яго сын, ваеначальнік ***Казімер Дзяконскія***. Усе астатнія праслявіліся дзейнасцю на польскіх землях: ***Барталамей*** (?–?) – прафесар навучальных устаноў у Беластоку, выкладаў сельскую гаспадарку, садаводства і старажытную філасофію. ***Тамаш Сільвестар*** (1790–1875) – педагог, перакладчык і аўтар падручнікаў. Яго сын ***Юзаф Багдан*** (1816–1855) – таленавіты пісьменнік; унук ***Юзаф Піюс*** (1844–1927) – архітэктар[746]. Шэраг публікацый польскіх знаўцаў літаратуры і беларускіх даследчыкаў прысвечана постаці паэта ***Альбіна Міхала Дзяконскага*** (1892–1940).

Між тым, значны комплекс дакументаў па гэтай праблематыцы захоўваецца ў беларускіх архівах. Сямейны фонд роду Быхаўцаў у НГАБ у Горадні вельмі багаты на дакументы Дзяконскіх[747]. Гэта тлумачыцца блізкімі роднаснымі сувязямі Быхаўцаў і Дзяконскіх. Фактычна, усе дакументы, якія захоўваюцца ў фондзе Быхаўцаў пасля 1880-х г. на самой справе належаць Дзяконскім. Гэтая група дакументаў складае болей за 35 спраў.

Знакаміты Севярын Урускі ў сваім шматтомніку "*Сям'я. Гербоўнік польскай шляхты*" ўзгадаў прыдомкі, якія бралі розныя прадстаўнікі (і галіны) рода Дзяконскіх: Валынец, Мазур, Драпач, Арол і інш. Адзін з прадстаўнікоў рода, ***Ян*** з прыдомкам Валынец атрымаў у спадчыну маёнткі Кватэры і Чапліцы. С.Урускі сцвярджаў, што Ян быў бельскім чашнікам[748]. Але, згодна з даследаваннямі сучасных польскіх вучоных, з XVII ст. да 1790 г. не згадваецца бельскі чашнік з прозвішчам Дзяконскі[749]. Больш таго, на тэрыторыі Бельскага, Драгічынскага, Бранскага, Мельніцкага паветаў Падляшша не было ніводнага ўрадніка з прозвішчам Дзяконскі. Ян Валынец быў сынам вендэньскага стольніка ***Станіслава Дзяконскага*** і ўнукам каралеўскага канюшага ***Яна Дзяконскага***[750]. Ад Яна пайшла асобная галіна роду, якую можна ўмоўна назваць "*галінай Яна Валынца*". У яго было чатыры дачкі і тры сыны: ***Антоні***, ***Юзаф*** і ***Ануфры*** (гл. Дадатак).

Дачка Яна ***Марыяна*** пайшла за замуж за ваўкавыскага чашніка Калантая, ***Яганна*** – за паручыка войск ВКЛ Булгака, ***Тэрэза*** стала жонкай бельскага мечніка Якуба Дрангоўскага, ***Францішка*** – пяцігорскага харужага войск ВКЛ Адамовіча[751].

Сын Яна ***Антоні*** меў жыццё поўнае значных падзей, зрабіў добрую палітычную кар'еру. Відаць, ён быў самым тытуляваным прадстаўніком рода ва ўсіх яго галінах. Вехі гэтай кар'еры прыведзены С.Урускім: "*ваўкавыскі стольнік у 1765 г., каралеўскі камергер, пісар Літоўскай Вайсковай Камісіі ў 1768 г., стражнік польны літоўскі ў 1766–1782 г., член Сталай Рады 1775 г., ротмістр народнай кавалерыі 1779 г., падскарбі надворны літоўскі 1785 г.*"[752]. Антоні быў таленавітым чалавекам, актыўным удзельнікам Таргавіцкай канфедэрацыі. Яго заслугі адзначаны ордэнамі Святога Станіслава і Белага

---

[745] Артыкул з'яўляецца дапрацаванай версіяй адпаведнай часткі манаграфіі, гл.: Папко В. *Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX–XX ст.* Берасце, 2009. С.24–36.
[746] *PSB*. Kraków, 1948. T.VI. S.131–135.
[747] Горячева Р. *Фамильный фонд помещиков Гродненской губернии Быховцев в Национальном историческом архиве Беларуси в Гродно.*// Архівы і справаводства. 2008. № 1. С.114–116.
[748] Uruski S. *Rodzina. Herbarz szlachty polskiej*. Warszawa, 1906. T.3. S.342.
[749] *Urzędnicy podlascy XIV–XVIII wieku. Spisy*. Oprac. Dubas-Urwanowicz E., Jarmolik W., Kulecki M., Urwanowicz J. Kórnik, 1994. S.39–40.
[750] *НГАБ у Менску*. Ф.1711. Воп.1. Спр.75. Арк.81–81 адв.
[751] *НГАБ у Менску*. Ф.1711. Воп.1. Спр.75. Арк.81–81 адв.
[752] Uruski S. *Rodzina. Herbarz szlachty polskiej*. Warszawa, 1906. T.3. S.342.

Арла. Жонкай Антонія была дачка аршанскага падстолія Караліна Мізгір, з якой ён меў сыноў ***Юзафа***, ***Міхала*** і ***Казімера***. ***Юзаф*** († у 1812 г.) даслужыўся да генерала польскіх войск, быў паслом на Чатырохгадовым і гарадзенскім 1793 г. соймах. Жыццё свай звязаў з Падоллем, быў маршалкам шляхты Падольскай губерні з 1809 г. Ажаніўся з багатай удавой падчашага літоўскага Патоцкага Саламеяй з роду Грахольскіх[753].

Вядома, што ў Юзафа быў сын ***Караль***, які служыў у польскім войску. У 1818 г. ён атрымаў званне падпаручыка ў конна-егерскім палку, а ў 1820 г. – паручыка[754]. Верагодна, яго жонкай была Адэля Алізар у першым шлюбе Пшэздзяк, якая мела сына Аляксандра Пшэздзяка. Далейшы лёс Караля невядомы. Акрамя гэтага, у Юзафа былі дзве дачкі. ***Пелагія***[755] пастрыглася ў кляштар у Львове, а ***Міхаліна*** пайшла замуж за італьянца Луіджы Станцані[756], які быў даволі вядомым ў Расіі архітэктарам. Сама Міхаліна была мастачкай. У 1857 г. абодвух супругаў абралі членамі-карэспандэнтамі Акадэміі *Virtuosi al Pantheon* у Рыме. Жыццё гэтай сям'і было звязана з Пецярбургам[757].

Другі сын Антонія, ***Міхал*** удзельнічаў у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі ў 1794 г., трапіў у расійскі палон і доўга там заставаўся. Нейкі Міхал Дзяконскі ў 1812 г. пасля заняцця французамі Горадні прадставіў ім дадзеныя аб расійскіх войсках, такім чынам выказваючы ім сваю прыхільнасць[758]. Магчыма, гэта быў сын Антонія, аднак даказаць ці абвергнуць гэты факт не атрымалася. У першай палове 1820-х г. Міхал Дзяконскі, уладальнік маёнтка Краснік, быў абвінавачаны ксяндзом Вяліка-Эйсымонтаўскага касцёла ў захопе кавалку касцёльнай зямлі. Святар пачаў судовую цяжбу. Па ходу справы высветлілася, што ён адабраў у суседзяў 15 валокаў зямлі. У 1820 г. была прызначана спецыяльная камісія для ўстанаўлення межаў Красніцкага ключа. Аднак камісія не працавала, таму ксёндз М.Сезянеўскі звярнуўся са скаргай на імя цэсарэвіча Канстанціна, бо адчаіўся знайсці ўправу на месцовыя ўлады.

У адрозненні ад сваіх братоў і бацькі, Міхал афіцыйна насіў тытул графа. Відаць, Міхал Дзяконскі меў вялікі ўплыў у грамадстве. З дакументаў вынікае, што ход справы тармазіўся з-за яго супрацьдзеяння. Амаль год слонімскі павятовы землямер не мог, або не хацеў прыступіцца да абмеру маёнтку. З гэтай прычыны яго нават два разы штрафавалі. Аднак многае тлумачыць прозвішча землямера – Дзяконскі! Магчыма, гэта быў нейкі родзіч Міхала. У 1830 г. ксёндз М.Сезянеўскі ў трэці раз піша да цэсарэвіча і паведамляе, што камісія так і не пачала сваю працу. Чым справа скончылася – невядома[759].

У другой палове 1820-х г. Міхал Дзяконскі судзіўся з кобрынскім памешчыкам Пятром Багурскім. На гэты раз падставай для судовай справы стала сума ў 10 000 злотых, што была перададзена Дзяконскаму пад працэнты. З дакументаў справы не відаць, чым яна скончылася[760].

У 1820 г. Міхал Дзяконскі набыў у князя Міхала Гераніма Радзівіла фальварак Геранімава ў Беластоцкім павеце. Потым ён прадаў гэты фальварак свайму малодшаму брату Казімеру, дзе той пабудаваў прыгожы палац[761]. Пасля Міхала застаўся сын ***Уладзіслаў*** і дзве дачкі. Пра сына, акрамя імя, невядома нічога. Дачка ***Ядзвіга*** тройчы выходзіла замуж: за графа Караля Алізара, з якім развялася; за Аляксандра Рама, які хутка памёр. Трэцім яе мужам стаў кузэн ***Караль Дзяконскі***. Ядзвігу чакала вельмі доўгае

---

753 Zielinska T. *Poczet polskich rodow arystokratycznych*. Warszawa, 1997. S.297.
754 Dziekoński T. *Gen. Kazimierz Dziekoński (1779?–1849).*// Białostocczyzna. 1989. № 1 (13). S.16.
755 Згадваецца ў першым тэстаменце свайго дзядзькі генерала К.Дзяконскага.
756 *BN. Zbiory specyjalne*. Spuścizna Zienona Przesmyckiego. 6320. Notatki Zienona Przesmyckiego, dotyczące poszukiwań spuścizny Norwida. T.2. S.79, 119–120.
757 Melbechowska-Luty A. *Dziekońska Stanzani Michalina.*// Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działających. Malarze, rzeżbiarze, graficy. Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1975. T.II. S.145.
758 Швед В., Данскіх С. *Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў*. Горадня: ГрДУ імя Я. Купалы, 2006. С.78.
759 *НГАБ у Горадні*. Ф.6. Воп.1. Спр.231. Арк.1–29.
760 *НГАБ у Горадні*. Ф.6. Воп.1. Спр.406. Арк.1–18.
761 www.michalowo.ug.gov.pl/szlakrowerowy.html

жыццё – яна памерла пасля 1908 г. Другая дачка Міхала, ***Міхаліна*** стала жонкай літаратара Браніслава Залескага. Ёй у спадчыну ад бацькі дастаўся маёнтак Краснік[762].

Апошні з сыноў Антонія, ***Казімер*** (1777/79–1849 г.) таксама адзначыўся на вайсковай службе, быў афіцэрам польскіх войск, удзельнічаў у кампаніі 1812 г. Перад падзеямі 1830 г. меў званне генерала польскіх войск, камандаваў 2-й брыгадай конна-егерскай дывізіі. Падчас паўстання перайшоў на бок паўстанцаў. Яго вопыт вайскоўца быў выкарыстаны пры фарміраванні апалчэнняў у Сандамірскай і Кракаўскай губернiях. Казімер Дзяконскі ўзначаліў Асобны корпус, які дзейнічаў у Сандамірскай губерніі, на левым беразе Віслы. Наступным яго прызначэннем 22 ліпеня 1831 г. стала пасада губернатара варшаўскага прадмесця – знакамітай Прагі. Аднак, ужо 22 верасня ён падаў у адстаўку. Пасля падаўлення паўстання Казімер Дзяконскі прысягнуў на вернасць Мікалаю І, жыў у Варшаве. Як неблаганадзейны, знаходзіўся пад сакрэтным наглядам паліцыі[763].

Некаторыя польскія публікацыі сцвярджаюць, што Казімер памёр каля 1831 г. Аднак, гэтая інфармацыя аказалася памылковай. Знойдзеныя намі дакументы высвятляюць яго далейшы лёс. Некаторыя польскія гісторыкі сцвярджаюць, што пасля падаўлення паўстання генерал разам з братам быў сасланы ў Волагду, дзе і памёр. Абставіны знаходжання Казімера Дзяконскага ў Волагдзе на падставе матэрыялаў Дзяржаўнага архіва Валагодскай вобласці высвятліў расійскі даследчык М.Бонфельд. Генерал Казімер Дзяконскі трапіў у Волагду не пазней за 2 снежня 1831 г., дзе акрамя яго было яшчэ 8 генералаў польскага войска. Усе яны ўтрымліваліся за кошт скарбу. М.Бонфельд выказвае меркаванне, што генералы не мелі праблем з грашыма – ад родзічаў Казімер Дзяконскі атрымаў 6 000 рублёў. Ужо ў маі 1833 г. ён быў адпушчаны на радзіму[764].

У 1838 г. у Кобрынскім павеце генерал Казімер Дзяконскі прысутнічаў на хрысцінах немаўля ***Альбіна***, сына свайго далёкага родзіча ***Тадэвуша Дзяконскага*** (1810–1845 г.)[765]. У 1839 г. Казімер Дзяконскі прыехаў у Беластоцкую вобласць. Яго перасоўванні знаходзіліся пад пільным наглядам паліцыі. У паліцэйскія пастарункі Беласточчыны і Гарадзенскай губерні была накіравана інфармацыя аб з'яўленні Дзяконскага з загадам паведамляць, калі ён прыедзе на тэрыторыю і сачыць за ім. У НГАБ у Горадні захавалася справа, прысвечаная гэтым падзеям[766]. У 1822 г. Казімер ажаніўся з Марыяннай Васілеўскай (1781?–1853 г.), у першым шлюбе Гурскай. Сваіх дзяцей генерал не меў, таму пакінуў свой маёнтак Геранімава ў спадчыну пляменніцам, дочкам брата ***Міхала***[767].

С.Урускі згадвае трэццяга сына Яна Валынца ***Юзафа***, які быў ваўкавыскім скарбнікам і скарбовым камісарам літоўскім у 1781–1793 г. У пачатку XIX ст. на беларускіх землях пашырылася масонства, да якога станоўча ставіўся сам расійскі імператар Аляксандр І, які таксама быў масонам. З мая 1817 г. у Горадні працавала масонская ложа "*Сябры чалавецтва*", у якую ўваходзіў ***Юзаф Янавіч Дзяконскі***. У 1819 г. ён стаў масонам 2-й ступені, а ў 1821 г. – 3-й ступені. У жніўні 1821 г. указ Аляскандра І загадаў закрыць усе масонскія ложы і таемныя таварыствы[768]. У афіцыйным генеалагічным апісанні рода Дзяконскіх, складзеным у 1797 г., Юзафа сына Яна няма[769]. Пытанне гэтае не высветлена да канца. Блытаніну стварае і тая акалічнасць, што імя Юзаф было распаўсюджана ў гэтай галіне роду і сустракаецца часта.

[762] Dziekoński T. *Gen. Kazimierz Dziekoński.* S.15–16.
[763] *PSB*. Kraków, 1948. T.VI. S.134–135.
[764] Бонфельд М. *Странники поневоле.*// www.booksite.ru/fulltext/4vo/log/4.htm14
[765] *НГАБ у Горадні*. Ф.904. Воп.1. Спр.5. Арк.36–36 адв.
[766] *НГАБ у Горадні*. Ф.1. Воп.20. Спр.69. Арк.1–2.
[767] Dziekoński T. *Gen. Kazimierz Dziekoński.* S.15–16.
[768] Швед В. *Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII–першая чвэрць XIX ст): бібліягр. слоўн.* Горадня: ГрДУ, 2007. С.21, 33, 36.
[769] *НГАБ у Менску*. Ф.1711. Воп.1. Спр.75. Арк.81–81 адв.

Трэці сын Яна Валынца, ***Ануфры*** быў гродскім суддзёй, а ў 1768–1792 г. ваўкавыскім стольнікам. У 1796 г. Ануфры Дзяконскі судзіўся з намеснікам навагрудскага епіскапа Васілём Марцінеўскім і раецкім прыхадскім святаром Янам Савічам. Прычына позвы з боку Дзяконскага крылася ў лёсе дзяўчыны Марыяны Дарашкевіч, якая была выкрадзена з двору Дзяконскага стральцом ваўкавыскіх падкаморыяў Булгарынаў Людвікам Хмялеўскім. Марыяна Дарашкевіч была каталічкай, а закаханы ў яе Хмялеўскі – уніятам. В.Марцінеўскі выдаў Хмялеўскаму дазвол на шлюб з каталічкай, а павянчаў іх Савіч. Раззлаваны Дзяконскі накіраваў позву ў суд, патрабуючы пакараць Марцінеўскага і Савіча. З дакументаў па гэтай справы вынікае, што Ануфры Дзяконскі быў кавалерам ордэну Святога Станіслава. Адказчыкі паведамілі, што Марыяна Дарашкевіч паходзіла з вёскі Рудзевічы і нарадзілася ў "*каталіцка-рускім абрадзе*". На паседжанні суду былі прачытаны меркаванні сведкаў. Раецкі прыхадскі святар Ян Савіч заявіў, што павянчаў Людвіка і Марыянну, абапіраючыся на звальненне ад выканання царкоўных правілаў і сыходзячы са сцвярджэння самой Марыянны, што яе маці была праваслаўнай і належала да праваслаўнай Сядзельніцкай парафіі. М.Дарашкевіч збіралася захаваць праваслаўнае веравызнанне і адносіцца да Раецкай парафіі.

Між тым, аказалася, што Марыяна Дарашкевіч была хрышчана ў веры свайго бацькі-каталіка ў Мяжырэцкім касцёле ў лютым 1777 г. плябанам Пятром Паржэвым, аб чым сведчыла выпіска з метрыкі гэтага касцёла. З вуснага адказу Савіча высветлілася, што ён ведаў аб негатыўным стаўленні гаспадара дзяўчыны Дзяконскага, а таксама, што яна адносіцца да іншага веравызнання. Такім чынам, была выяўлена віна святара Яна Савіча, яго на 6 месяцаў адхілілі ад выканання службы ў царкве і накіравалі для ўдасканалення ведаў у галіне тэалогіі у манастыр Лаўрышаўскіх базіліянаў. Пакараны быў таксама і Васіль Марцінеўскі. Абодва вінаватыя былі абавязаны выплаціць стольніку Дзяконскаму па 100 злотых за шкоду, які нанеслі яму сваімі дзеяннямі[770].

Ануфры меў сыноў ***Антонія***, які памёр зусім маленькім, і ***Юзафа*** – дарадцу Аўгустоўскага ваяводства ў 1825 г., а ў 1826 г. – дарадцу Крэдытнага Таварыства. Па звестках С.Урускага, Юзаф узяў за жонку Ганну са знакамітага шляхецкага рода Быхаўцаў. Менавіта яго тычыцца скарга адстаўнога паручыка, жыхара Яраслаўскай губерні, які абвінавачваў Юзафа Дзяконскага ў невыплаце яму грошай, якія належалі яму па спадчыне. Справа гэтая разглядалася ў снежні 1825–лютым 1826 г. Прэтэнзіі выказваў Караль Юр'евіч Адамовіч, удзельнік кампаніі 1812 г., паранены ў бітве на рацэ Бярэзіне пад Студзёнкай. У 1818 г. ён пайшоў у адстаўку і пасяліўся ў горадзе Данілаве Яраслаўскай губерніі. У сваім прашэнні на імя Цэсарэвіча Канстанціна К.Адамовіч піша:

"*Пакойная бабка мая Тэрэза Дрангоўская мечная Зямлі Бельскай, пасля смерці сваёй пакінула духоўнае завяшчанне, у якім адпісвае ўвесь свой у Царстве Польскім маёнтак свайму пляменніку спадару Юзафу Дзяконскаму, Прэзідэнту Гродскаму павета Ваўкавыскага*"[771].

Адной з умоў гэтага тэстамэнту была выплата праз два гады пасля смерці завяшчальніцы грошай усім асобам, якія згаданы ў дакуменце. З іх 3 000 злотых прызначаліся Каралю Адамовічу, аднак Дзяконскі свайго слова не стрымаў. Адамовіч характарызаваў Дзяконскага, як чалавека моцнага, надзеленага ўладай, з якім у судовых справах ён не зможа спаборнічаць, таму і звярнуўся да цэсарэвіча. Прашэнне гэтае дайшло да адраста, той загадаў мясцовым уладам разабрацца. Аднак з дакументаў не відаць, чым справа скончылася[772].

З матэрыялаў справы Адамовіча мы даведаліся, адкуль у галіне Яна Валынца Дзяконскага з'явіўся маёнтак Баля Вялікая. Гэтую маёмасць у Аўгустоўскім ваяводстве Т.Дрангоўская пакінула Юзафу. Далейшы яго лёс невядомы, а маёнтак Баля Вялікая з

---

[770] *АСЗР*. Вильна, 1902. Т.13. С.103–110.
[771] *НГАБ у Горадні*. Ф.6. Воп.1. Спр.155. Арк.1 адв.
[772] *НГАБ у Горадні*. Ф.6. Воп.1. Спр.155. Арк.1–3.

цягам часу трапіў у рукі яго сына ***Яўстафія*** (1820–1894). У 1855 г. Яўстафі пацвердзіў сваё шляхецтва ў Каралеўстве Польскім[773]. За жонку ён меў Юлію з роду Быхаўцаў (1825–1858 г.), якая памерла вельмі маладой і была пахавана на каталіцкіх могілках у Сапоцкіне. На гэтых могілках захаваліся дзве капліцы, адна з іх была пабудавана для Юліі Дзяконскай. У капліцы знаходзіцца шыльда з эпітафіяй ў гонар Юліі і яе мужа Яўстафія, які памёр значна пазней.

Яўстафі пакінуў пасля сябе двух сыноў: ***Казімера*** і ***Юліяна***. Старэйшы сын Казімер Дзяконскі (?–1913 г.) скончыў медыцынскі факультэт Дорпацкага універсітэта, аднак, амаль не практыкаваў. У канцы 1870–пачатку 1880-х г. пасля смерці родных братоў Юліі, Казімера і Сяргея Быхаўцаў, іх вялікі родавы маёнтак Магілёўцы ў Ваўкавыскім павеце (зараз Пружанскі раён), разам з бібліятэкай і архівам перайшоў да Казімера Дзяконскага. На той час маёнтак налічваў 3 607 дзесяцінаў зямлі. Сярэдні валавы прыбытак з яго складаў каля 6 650 рублёў срэбрам[774].

Вялікі сядзібны будынак у Магілёўцах захаваўся да нашых дзён, зараз у ім месціцца псіхіятрычная бальніца. На думку Р.Афтаназы, аднапавярховы дом быў пабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. Быхаўцамі, а прыблізна праз 100 гадоў значна павялічаны за кошт дабудовы бакавых крылаў. Парадны ўваход з порцікам падтрымлівалі чатыры іянічныя калоны. З кожнага боку ад порціка было па 9 вокнаў, сцены атынкаваныя, белага колеру. Унутраны інтэр'ер дому фарміраваўся на працягу некалькі дзесяцігоддзяў, у ім адлюстраваліся розныя эпохі і стылі. У цэнтры музычнага салона стаяў раяль фірмы "*Бехштэйн*". Мэбля ў гэтым пакоі была аздоблена бронзай. Следам за музычным салонам ішоў наступны квадратны пакой, які на дзве часткі падзялялі дзве калоны і дзве паўкалоны. Гаспадары называлі гэты пакой "*філяровым*" (калонным). Пярэдняя частка яго – салон, застаўлены мэбляй у стылі ампір, пакрытай зялёным матэрыялам. Тыльная частка была спальняй, дзе стаялі два вялікіх ложка. На другім паверсе былі толькі два вялікіх пакоі, дзе на шматлікіх ложках падчас палявання спалі мужчыны[775].

Цэцылія Цішэўская ў сваіх мемуарах згадвае гісторыю шлюбу Казімера Дзяконскага. У маёнтку Вердамічы Ваўкавыскага павету жыла сям'я памешчыкаў Талочкаў (зараз вёска ў Свіслацкім раёне Гарадзенскай вобласці). Гэта была вельмі музычна адораная сям'я. Глава сям'і, Эдвард Талочка быў добра адукаваным чалавекам, цудоўным піяністам. Яго жонка Марыя паходзіла з роду Маршалковічаў[776]. У Талочкаў было тры дачкі і адзіны сын Юліян. Старэйшай, відаць, была Стэфанія, потым ішлі Ядзвіга і Леанціна, усе яны былі таленавітымі піяністкамі. Самая малодшая з сясцёр, Леанціна, або як яе называлі ў сям'і – Лілі, увесь час сур'ёзна хварэла. У доме Талочкаў часта адбываліся медычныя кансіліюмы, аднак, дактары нічым не маглі дапамагчы. Аднойчы суседка Талочкаў, гаспадыня маёнтка Зеляневічы, Ядзвіга Сегень, прапанавала запрасіць на такі кансіліум свайго сваяка Казімера Дзяконскага. Як доктар ён не практыкаваў, займаючыся справамі свайго маёнтка, аднак лячыў сялянаў. Так, дзякуючы сваёй адукацыі ўрача, ён упершыню трапіў у Вердамічы. Далей звернемся да сведчанняў Ц.Цішэўскай:

"*Цёця Стэфця закахалася, дзядзю ўгаварылі і яны пабраліся ўжо праз некалькі гадоў пасля смерці цёці Лілі*"[777].

Аднак, нягледзячы на такія абставіны заключэння шлюбу, ён быў трывалым:

[773] Uruski S. *Rodzina. Herbarz szlachty polskiej*. Warszawa, 1906. T.3. S.342–343.
[774] *НГАБ у Горадні*. Ф.1. Воп.7. Спр.2490. Арк.19–21 адв.
[775] Aftanazy R. *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Województwa brzesko-litewkie, nowogródzkie*. Wrocław–Warszawa–Kraków, 1992. T.2. S.266–269.
[776] *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.405. Арк.1.
[777] *BN. Zbiory specjalne*. Ciszewska C. Gawęda o tym, co było. Rkps.1961. S.25.

“*Ніколі не ведала падобнай закаханай адно ў адным, зладжанай сямейнай пары, на працягу цэлага жыцця не было ніводнай спрэчкі, хоць гэта быў агонь і вада, а можа менавіта таму. Дзяцей не мелі. Цёця былы надзвычайна жывой, Дзядзя – увасабленне спакою. Ён быў вельмі мілы, выхаваны, але маламоўны. Калі цёця кідалася не раз на яго з праяўленнем пачуццяў і пацалункамі, ён са сваёй прыемнай добрай усмешкай рабіў выгляд, што адганяе і хацеў “чуласці на лістапад”. Мы, дзеці, вельмі любілі яго і ён нас, усе забавы, маёўкі і г.д. былі пад яго патранатам. Паколькі Дзядзя іграў на скрыпцы, на фартэп'яне і на аргане, з гэтай прычыны магілявецкі дом быў вельмі музыкальны. Часта вечарамі цёця Стэфця іграла на фартэп'яне, дзядзя Казё акампаніраваў на скрыпцы, мы, дзеці, прызвычаіліся да прыгожай музыкі і прасілі яе. Доўгімі самотнымі зімовымі ці восеньскімі вечарамі шмат ігралі. Для музыкі быў прызначаны вялікі салон з боку фасаду, амаль ніколі яго не выкарыстоўвалі, хіба, калі музыцыравалі*”[778].

Стыль жыцця сям'і Дзяконскіх быў, верагодна, тыповым для заможнай шляхты на гэтых землях. Няпярэдадні І Сусветнай вайны маёнтак у Магілёўцах быў цэнтрам мясцовага свецкага жыцця. Гэта быў цалкам эканамічна незалежны маёнтак. Аднавіць тагачасны выгляд дома дапамагаюць успаміны Ц.Цішэўскай. Любімым пакоем гаспадароў была вялізная бібліятэка, уздоўж сцен якой ішлі шафы з карэльскай бярозы. Бібліятэка Дзяконскіх (раней таксама належала Быхаўцам) была адной з самых багатых і знакамітых у ваколіцах. Некалі тут захоўвалася знакамітая “*Хроніка Быхаўца*”, якая была выяўлена ў гэтай бібліятэцы ў 1820-я г. У сярэдзіне бібліятэкі стаяў вялікі стол з газетамі і часопісамі, які атачала круглая канапа, разлічаная на 20 асобаў. Каля гэтага стала часта сядзеў гаспадар маёнтку, Казімер Дзяконскі. Любімае крэсла і столік гаспадыні стаяў ў нішы каля аднаго з трох вокан, дзе яна часта сядзела з працай. Па традыцыях тых часоў, нават вельмі знатныя і багатыя жанчыны займаліся шыццём і вышыўкай. Стэфанія Дзяконская сама вышыла арнаты для капліцы, што была бачна з вокнаў бібліятэкі. Пакой асвятлялі тры жырандолі з каляровага венскага шкла, якія віселі ў аконных нішах. З бібліятэкі дзверы выходзілі ў малы салонік, застаўлены мэбляй, пакрытай чорным кітайскім лакам. Пакой гэты амаль не выкарыстоўваўся. Дом у Магілёўцах быў пабудаваны па прынцыпу анфілады. З тылу дому знаходзіўся вялікі більярдны пакой, з цягам часу замест сярэдняга акна паставілі дзверы, праз якія блізка было ісці да капліцы. За гэтым пакоем размяшчалася сталовая заля, дзе стаялі шкляныя шафы, у якіх быў выстаўлены посуд з саскай парцэляны, разлічаны, хіба, на 100 асобаў. Далей былі іншыя пакоі – канцылярыя гаспадара, скарбніца з жалезнымі дзвярыма і г.д.

Са сталовай можна было трапіць на веранду – другі пасля бібліятэкі любімы пакой гаспадароў. Адтуль сходы вялі да невялікага кавалачка сада, абгароджанага невялікім мурам. У гэтым куточку квітнелі геліатропы, пеларгоніі і бягоніі, сярод якіх стаялі лаўкі і можна было адпачыць. Большая частка парку называлася “*Звярынцам*” і мела характар даволі дзікі. Аднак, была і частка парку з клумбамі, кветкамі, вялікім ставам, садам і агародам.

Ц.Цішэўская ўспаміналa:

“*Абеды і вячэры мелі заўсёды той самы стыль, ці дзядзя з цёцяй былі самі, ці былі госці. Ніколі нічога не змянялася, толькі (кухар) Уладзіслаў ведаў, што, калі хтосьці заехаў, павінна быць больш, але таго самага, а запасы ў той гаспадарцы цёці былі вялізнымі, так што не было клопату. Слугі былі так выдрэсіраваны, што цёця не павінна была рушыць з крэсла. Любіла з цёцяй хадзіць у аранжэрэю, поўную кветак, выбіраць, якія прынесці дадому – альбо да гаспадаркі, свойскай птушкі і свіней. Ездзілі мы таксама часта па грыбы ў лес, дакладней да размешчанага каля фальварку Разалін, дзе ў прасторным ладным доміку, жыў упраўляючы Елінэк, бадай што цэлае жыццё быў у цёці з дзядзем. Па грыбы ездзілі дзіўнай старасвецкай павозкай, называнай амвонкай, крытай гранатавым*

[778] *BN. Zbiory specjalne*. Ciszewska C. Gawęda o tym, co było. Rkps.1961. S.25.

*сукном. Сядзенні былі не папярочныя, як у кожнай брычцы, але ішлі так, як дышаль; па просту сядзелі бокам да каня, былі ўзняты, і туды, у вялікія як бы паглыбленні складвалі кашы з грыбамі*”[779].

У 1909 г. Стэфанія пазычыла мужу 126 000 рублёў пад заклад маёнтку Магілёўцы. Нам падаецца, што гэта было мерай забеспячэння яе больш трывалага матэрыяльнага становішча ў выпадку смерці мужа. Да таго ж Казімер меў нейкія грашовыя прэтэнзіі да Юліяна (можа, выкупляў яго вексэлі?) на суму звыш 100 000 рублёў. З матэрыялаў судовай справы аб выкананні тэстамента вынікае, што Казімер Дзяконскі пакінуў сваю спадчыну жонцы Стэфаніі “*за выключэннем родавых нерухомых маёмасцяў*”. Тэстамэнт быў складзены Дзяконскім у красавіку 1909 г. Аднак, Стэфаніі пакідалася права пажыццёва валодаць гэтай родавай маёмасцю. Доля Стэфаніі складала 1/7 частку маёнтку Магілёўцы[780].

30 кастрычніка 1913 г. пасля доўгай хваробы ў Магілёўцах памёр Казімер Дзяконскі. Дзяцей ён не меў, таму афіцыйна сваю маёмасць мог пакінуць жонцы і брату Юліяну, таксама бяздзетнаму ўдаўцу. Каля 1910 г. Стэфанія і Казімер вырашылі ўсынавіць свайго далёкага родзіча, васемнадцацігадовага юнака Альбіна Міхала Дзяконскага (1892–1940 г.). Бацькі яго далі згоду. Відаць, пагадненне гэтае трымалася ў сакрэце і стала вядомым толькі пасля смерці Казімера, аднак, афіцыйна не было аформлена.

Пасля смерці Казімера яго жонка Стэфанія пачала ўладкоўваць спадчынныя справы такім чынам, каб захаваць свае інтарэсы і пакінуць маёмасць Альбіну. Большая частка маёнтка Магілёўцы адносілася да катэгорыі родавых, а значыць атрымаць іх мог бліжэйшы родзіч мужчынскага полу. З той прычыны, што Альбін не быў усыноўлены, 6/7 частак маёнтку Магілёўцы пераходзіла ва ўладанне брата Казімера, Юліяна. Верагодна, проста завяшчаць іх Казімер Альбіну не мог. Менавіта таму ўзнікла ідэя афіцыйнага прызнання Альбіна ў якасці прыемнага сына. Адкрытым застаецца пытанне, чаму ўсынаўленне не адбылося раней. Цікава было б даведацца, хто быў наступным па ступені радства пасля Юліяна кандыдатам у спадкаемцы ўладанняў Казімера.

У снежні 1913 г. было складзена пагадненне паміж Стэфаніяй, Альбінам і бацькамі Альбіна. На жаль, атрымалася знайсці толькі непадпісаны варыянт, таму невядома, ці меў ён законную сілу. Між іншым, гэты дакумент можна ўмоўна назваць “*дамовай аб намерах*”. Пагадненне абвяшчала згоду ўсіх бакоў на імкненне перадаць Альбіну маёнтак Магілёўцы, а Стэфаніі пры гэтым быў забяспечаны грашовы штогадовы прыбытак і пражыванне ў доме. Размова ішла нават пра тое, што Альбін купіць у яе 1/7 частку маёнтку[781].

У сакавіку 1914 г. да маёнтка Магілёўцы належалі фальваркі Разалін, Янін, Лібертполь, Гута і хутары Копань, Полька, Сосенкі і Крупа. Агулам маёнтак з фальваркамі і хутарамі складаў 5081 дзесяцінаў зямлі, з іх 3607 дзесяцінаў зручнай і 1474 дзесяцінаў незручнай зямлі[782]. У часы І Сусветнай вайны дом і гаспадарка значна пацярпелі. Перасоўванні войска прыносілі значны ўрон, гэта былі патравы збожавых і рэквізіцыі. У верасні 1915 г. у маёнтку Магілёўцы рэквізіцыю жыта, аўсу, пшаніцы, канюшыны, вікі, саломы і бульбы праводзіў маршалак шляхты Гарадзенскага павету, у чым выдаў квітанцыю на 120 000 рублёў прадстаўніку Дзяконскай, яе брату Юліяну Эдуардавічу Талочку[783]. У 1920 г. былі зроблены падлікі стратаў маёнтка ад расійскіх і нямецкіх войск. Верагодна, кампенсаваць маглі толькі тое, што было занатавана на паперы. Рэквізіцыя прадуктаў на суму 120 610 рублёў на патрэбы расійскага войска склала 8% ад перадваеннага кошту маёнтка (1,5 млн. рублёў) У лютым 1916 г. расійскія ўлады

---

[779] *BN. Zbiory specjalne*. Ciszewska C. Gawęda o tym, co było. Rkps.1961. S.24.
[780] *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр. 410. Арк.1–2.
[781] *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.624. Арк.1–2.
[782] *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.619. Арк.1.
[783] *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр. 626. Арк.1–2.

кампенсавалі Стэфаніі 104 410 рублёў. Страты ад дзеянняў немцаў склалі 9% ад кошту маёнтку або 161 049 рублёў. Ніхто не заплаціў за гэта. З дакументаў відаць, як значна ад немцаў у 1915–1918 г. пацярпеў дом Дзяконскіх і прыватныя рэчы гаспадароў. У спісе забраных немцамі прадметаў значыцца вопратка, абутак, коўдры, залатыя ўпрыгожанні, кальe з манетаў. Рэквізавалі таксама мэблю з кабінета і сталовай – шафу, камод, столікі. Аднак, упраўляючаму немцы выдалі даведкі аб рэквізіцыі[784].

У 1916 г. Стэфанія Дзяконская ўсынавіла Альбіна Міхала і арганізавала яго шлюб з Соф'яй Малінскай (1893 г.–?). У кастрычніку 1921 г. у варшаўскага натарыюса Стэфанія пакінула тэстамэнт на карысць Альбіна Міхала[785]. Стэфанія Дзяконская памерла 13 верасня 1924 г. у Магілёўцах ва ўзросце 58 гадоў ад анеўрызмы сэрца і была праз тыдзень пахавана побач з мужам на могілках каля касцёла Сэрца Хрыстовага ў Лыскаве[786]. Відаць, адносіны паміж Ц.Цішэўскай і сям'ёй Альбіна Дзяконскага пагоршыліся пасля І Сусветнай вайны, што вынікае з некаторых намёкаў у мемуарах. Пасля смерці Стэфаніі яна болей не ўзгадвае нікога з гэтага роду, што магло даць карысны матэрыял для даследавання.

Апошні дакладна вядомы нам нашчадак Яна Валынца, ***Юліян Дзяконскі*** (?–1914 г.) жыў у Сувалках і займаўся нейкай камерцыйнай дзейнасцю. Па ўсім відаць, што справы ў яго ішлі добра. Пасля смерці Казімера Юліян згадзіўся прадаць сваю долю спадчыны брата за 45 000 рублёў. У снежні 1913 г. Юліян склаў свой асабісты тэстамент. Сваіх дзяцей у яго не было, жонка Разалія з Грыгаровічаў памерла раней за яго. Усю сваю рухомую маёмасць Юліян Дзяконскі завяшчаў Сігізмунду Антонавічу Буйноўскаму, жыхару горада Сувалкі. Спадчынай пасля Юліяна было ўсё тое, што знаходзілася ў яго доме па вуліцы Садовай, д.8. Акрамя гэтага, Юліян пакінуў пасля сябе значныя грашовыя капіталы ў працэнтных паперах, 45 000 рублёў, якія ён павінен быў атрымаць за Магілёўцы і сумы, якія былі пазычаны ў яго іншымі асобамі. Усе гэтыя грошы былі завешчаны Буйноўскаму, сыну бліжэйшых суседзяў Дзяконскага, які вырас на яго вачах. Фактычна, Юліян успрымаў яго як свайго прыёмнага сына. Юліян дапамог яму адкрыць сваю лаўку і вёў нейкія агульныя з ім справы.

12 мая 1914 г. у Вільні быў складзены падзельны акт на спадчыну Казімера Дзяконскага. Аднак вельмі хутка, праз месяц – 16 (29) чэрвеня 1914 г. Юліян Дзяконскі памёр. Буйноўскі патрабаваў выплаціць яму абяцаныя грошы, таму Стэфанія Дзяконская была вымушана закласці маёнтак, аднак разлічылася да канца 1914 г.[787] Казімер і Юліян былі бяздзетнымі. Сваю спадчыну яны пакінулі прыёмным сынам. Аднак ***Альбін Міхал Дзяконскі*** таксама не пакінуў нашчадкаў. Ён быў расстраляны ў савецкай турме ў 1940 г. Такім чынам, не засталося мужчынскіх нашчадкаў пасля малодшых сыноў Яна Валынца – Юзафа і Ануфрыя. Нашчадкі яго старэйшага сына Антонія добра не вывучаны.

С.Урускі ўзгадвае іншых прадстаўнікоў рода, якія даказалі шляхецкае паходжанне. На жаль, не атрымалася звесці іх у адзінае генеалагічнае дрэва з прычыны недахопу звестак. Магчыма, сярод згаданых ніжэй імёнаў знаходзяцца нашчадкі Яна Валынца Дзяконскага. Прывядзем іх імёны і даты пацвярджэння шляхецтва такім чынам, як зрабіў гэта С.Урускі, спадзяючыся ў будучым запоўніць гэты прагал у даследаванні:

Запісаныя ў кнігу шляхты Гарадзенскай губерніі:

- Францішак і Ян, сыны Яна (1844 г.);
- Юзаф, Фердынанд і Фларэнты, сыны Марціна (1852 г.);
- Антоні, Рамуальд і Аляксандр, сыны Яна (1852 г.);
- Матэвуш з нашчадкамі, сын Валенція (1842 г.);
- Міхал, сын Барталамея (1842 г.);
- Матэвуш з нашчадкамі, сын Андрэя (1842 г.);

[784] *НГАБ у Гарадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.417. Арк.1–8.
[785] *НГАБ у Гарадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.410. Арк.10.
[786] *НГАБ у Гарадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.405. Арк.1.
[787] *НГАБ у Гарадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.411. Арк.1–18.

- Генрык, сын Якава (1862 г.);
- Войцах, Ян і Міхал, сыны Станіслава (1862 г.)[788].

На жаль, на падставе знойдзеных матэрыялаў не атрымалася высветліць усіх прадстаўнікоў галіны Яна Валынца Дзяконскага, не гледзячы на тое, што да яе належалі даволі вядомыя ў гісторыі асобы, у першую чаргу сенатар Антоні і яго сын генерал Казімер. Верагодна, зараз недзе жывуць нашчадкі гэтай галіны, аднак, даказаць факт іх існавання не было магчымасці.

**Дадатак:**

Дакумент знаходзіцца ў складзе гродскіх судовых кніг Гарадзенскага павета і захоўваецца ў НГАБ у Менску. Упершыню ён быў выяўлены польскім даследчыкам Генрыкам Лаўмяньскім і згаданы ў яго публікацыі за 1939 г.[789]

Друкуецца з захаваннем асаблівасцяў арыгіналу. Прапісныя даты і лічбы заменены арабскімі і рымскімі лічбамі ў квадратных дужках. У такіх жа дужках раскрыты ўсе скароты. Лацінізмы вылучаны курсівам.

**Акт генеалогіі роду Дзяконскіх.**
**1797 г.**

[арк.81]

Akt Genealogij Domu J[asnie]WW[ielmożnych]: Dziekonskich
Roku [1797 7.IV]

Przed Aktami Grodzkimi P[owia]tt[u] Grodzienskiego, Stanąwszy obecnie W[ielmożny]J[ego miłość]Pan Felicyan Michałowski, Genealogią Domu J[asnie]WW[ielmożnych] Dziekońskich nizej wyrażającą się do Akt podał, ktorej wyrazy takowe –

Genealogia Domu De = Nawitow z Dziekonia
Dziekońskich

Herb Korab nad Tarczą Hełm, na którym Korona a nad tę taki Korab = Opisanie Tego Herbu Takie. Korab żółty w Polu Czerwonym z Masztem Szarym iak pisze Paprocki o Herbach folio [113] y Okolski w Tomie [1] folio [413] dokładają Krajopisarze iż w Herbie używano Zaglu, lecz potem dla walecznosci Mężow wieża u Góry Zembata dana została. Ustanowiony ten Herb od dawnych Czasow a iak, pisze Niesiecki w Tomie [2] Folio [601] że Justynian Cesarz nadał tym, od których Hunnowie Słowaccy na Dunaiu Rzece zwyciężonemi zostali, y ztąd od Słowa *Navis De* = Nawitowie z Dziekonia Dziekońscy, tym się zaszczycaią –

Herbem, opuszczaiąc poprzednikow jest: Ambroży Seraffin Denawit z Dziekonia Dziekoński z wo[jewo]dztwa Podlaskiego z Ziemi Bielskiey z Paraffij Trzeiańskiej zaszczycony od Przodkow swoich Szlachectwa Polskiego Kleynotem używał Herbu Nawy, czyli Korab – Ten spłodził Jakuba y Prokopa, Jakub miał corkę Dorotę y Maryannę – Pawła syna. Prokop miał Córkę Agatę za Brzuskim, która bez potomnie zeszła, Paweł, Andrzeja który służąc woyskowo bezpotomnie umarł, y Herubin, który żył koło Roku [1600] – Herubin zaś spłodził Syna Stanisława, y Corkę Felicyannę, ktora mniszką w Przasznyszu umarła. Stanisław zaś spłodził Michała Vice Regenta Ziemi Bielskiey, Jana Koniuszego J[ego]K[rólewskiej]M[iłoś]c[i] a wprzod w Woysku służącego, Samuela Komornika Ziemi Bielskiey od sąsiadow zabitego. – Michał spłodził Krzysztoffa Rottmistrza Woysk Koronnych, y Alexandra Sub Delegata Ziemi Drohickiey – Jan zaś spłodził Stanisława Stolnika Wendenskiego y Andrzeja bez potomnie zeszłego – Krzysztoff spłodził Dominika Jozeffa Jana Podczaszego Starodubowskiego – Alexander zaś Mateusza skarbnika Orszan[skieg][o] a Stanisław Jana Czesnika Ziemi Bielskiey y Corkę Zoffią, ktora wmałoletnosci Żyć przestała. Jan Czesnik, spłodził Maryannę Kołątaiownę Czesnikowę

[788] Uruski S. *Rodzina. Herbarz szlachty polskiej*. Warszawa, 1906. T.3. S.342–343.
[789] Łowmiański H. *Wykaz wywodów szlachectwa na Litwie przeważnie z lat 1773–1799.*// Miesięcznik Heraldyczny. Warszawa, 1939. R. XVIII. № 5. S.69.

Wołkowyską Onufrego Stolnika P[owia]ttu Wołkowyskiego Kawalera Orderu Swiętego Stanisława, Joanne Bułhakową Porucznikowę Woysk Litte[wskic]h

[арк.81 адв.]
Antoniego Podskarbiego Nadwornego W[ielkiego]X[ięstwa]L[i]tt[ewskieg]o Orderow Orła Białego y Swiętego Stanisława Kawalera – Teressę Drągowską miecznikowę Ziemi Bielskiey y Franciszkę Adamowiczowę Chorązynę Petyhorską Woysk W[ielkieg]°X[ięstw]aLitt[ewskieg]° – Onufry spłodził Jozefa y Antoniego – Antoni Podskarbi Nadworny Litt[ewski] Kazimierza Michała y Jozeffa Kawalera Orderu S[więteg]° Stanisława Szambelana J[ego]K[rólewskiej]m[iłoś]c[i] spłodził. Jozeff zaś spłodził Orszulę Corkę – u tey Genealogij podpis takowy. Takową Genealogią co do słowa wypisaną iako Plenipotęt podpisuję Datt w Grodnie dnia [7.IV.1797] Roku – Felicyan Michałowski – Ktora to Genealogia przez wyz wyrazoną Osobę do Akt podana, iest do Ksiąg P[owia]tt[u] Grodzieńskiego wpisana –
*Connotatur* Stanisław Wólmer Regent G[rodzki]P[owiatu]Grodzien[skiego] mp

(*НГАБ у Менску*. Ф.1711. Воп.1. Спр.75. Арк.81–81 адв.).

*Вольга Папко (Берасце).*

## Радавод Вайніловічаў гербу “*Сыракомля*” змененая.

Прозвішча Вайніловіч у Беларусі сустракаецца нярэдка і належыць прадстаўнікам розных станаў. У нашай гісторыі вядома многа Вайніловічаў шляхецкага паходжання, але нават даследаванне іх радаводаў яшчэ далёка не закончана. Бадай што найбольш знакамітым з носьбітаў прозвішча можна лічыць Эдварда Вайніловіча – выдатнага грамадскага дзеяча Беларусі ў канцы XIX–пачатку XX ст. Ён увекавечыў сваё імя будаўніцтвам у Менску касцёла Святых Сымона і Алены або, як яго называюць прасцей – Чырвонага. Сёння касцёл знаходзіцца ў самым цэнтры горада, на галоўным пляцы Незалежнасці. Яго прывабная гатычная веліч адразу надала Менску адметны выгляд. Можна сказаць, што самое захаванне касцёла ў багатай на трагічныя падзеі гісторыі Беларусі сімвалічнае. Не знішчылі Божы храм рэвалюцыі, сусветныя войны і змагары з рэлігіяй. У канцы XX ст. касцёл вярнулі вернікам і сёння ён з’яўляецца адным з самых папулярных храмаў Менску.

Найлепшае ўшанаванне – гэта наша памяць. Адкуль жа паходзіць род Эдварда Вайніловіча? Сам ён сцісла падаў свой радавод ва ўспамінах, першы том якіх быў надрукаваны ўжо пасля яго смерці[790]. З гісторыкаў першымі да яго радавода звярнуліся, практычна адначасова, вядомыя польскія генеалогі А.Касінскі[791] і Т.Жыхлінскі (апошні лічыў лінію Э.Вайніловіча ў родзе старэйшай і галоўнай)[792]. Негледзячы на асобныя памылкі, абедзве працы маюць значнасць, найперш з-за выкарыстання родавых архіваў з маёнтку Савічы, якія былі знішчаны ў 1918 г. Радавод роднаснай барышынскай лініі Вайніловічаў, створаны на падставе вываду рода ў шляхецтве ў Літоўска-Віленскім ДДС у 1798 г., быў друкаваны ў 1997 г.[793] Найбольшы ўклад у распрацоўку пытання ўнёс сучасны польскі гісторык С.Аўгусевіч[794]. Ён не толькі крытычна ацаніў назапашаныя матэрыялы, але і пабудаваў самую поўную радаслоўную. Некаторыя роднасныя сувязі, асабліва ў пачатках генеалогіі (XVI–XVII ст.), з-за фрагментарнасці захаваных звестак ці поўнай адсутнасці патрэбных крыніц былі рэканструяваны ім гіпатэтычна.



Герб “*Сыракомля*” Вайніловічаў з вывадовай справы 1798 г.

Вынікам даследавання С.Аўгусевіча стала ўдакладненне (ці правільней сказаць – меркаванне) аб паходжанні некаторых асобаў. Напрыклад, традыцыйны радавод падае Барыса сынам Сямёна Стэцкавіча, а С.Аўгусевіч мяркуе, што Барыс быў, хутчэй за ўсё, яго ўнукам. Таксама Змайла ў традыцыйным радаводзе паказаны родным братам Барыса, але быў, відавочна, па версіі С.Аўгусевіча (ён спасылаецца на новаадшуканыя звесткі), яго стрыечным братам. Тлумачэнне гэтаму можна даць наступнае – у Э.Вайніловіча звестак па старажытнасці не хапала (зразумела, у параўнанні з сучасным станам), і ён мог вывесці лінію месцамі памылкова. З другога боку, традыцыйны радавод, складзены ўласна Э.Вайніловічам, згадвае некалькі дакументаў за XVI ст., пэўна з сямейнага архіву, змест якіх мы сёння не ведаем. С.Аўгусевіч пра іх таксама нічога не піша. Таму невысветленыя месцы ў пачатках генеалогіі могуць быць, а дакладная лінія прасочваецца толькі ад

[790] Wojniłłowicz E. *Wspomnienia 1847–1928*. Wilno, 1931. Cz.I. S.5. Таксама, гл.: “*Drewo genealogiczne rodu Wojniłłowiczów, ułożone i zaprojektowane przez s.p. Edwarda Wojniłłowicza*”, змешчанае ў гэтым жа творы паміж старонкамі 8 і 9.

[791] Kosiński A. *Przewodnik Heraldyczny*. Warszawa, 1881. T.III. S.603–611.

[792] Żychliński T. *Złota księga szlachty polskiej*. Poznań, 1881. T.III. S.308–312.

[793] Рыбчонак С., Яцкевіч З. *Вайніловічы гербу Сыракомля.*// Малы гербоўнік навагрудзкай шляхты. Мн., 1997. С.26–27.

[794] Augusiewicz S. *Rodowód Wojniłłowiczów na Sawiczach.*// Przegląd Wschodni. T.X. Z.1 (37). S.21–40.

Барыса. У сучаснай публікацыі падаем радавод, складзены на падставе архіўных дакументаў, якія захаваліся сёння ў НГАБ у Менску (здаецца, ён быў асновай для радавода, складзенага Э.Вайніловічам), адзначаючы ў патрэбных месцах разыходжанні з радаводам, прапанаваным С.Аўгусевічам. Таксама ў радавод былі ўключаны ўсе новаадшуканыя звесткі па генеалогіі савіцкай лініі.

Некалькі словаў аб этнічным паходжанні рода. Несумненна, што былі Вайніловічы мясцовага беларускага паходжання – з "*русінаў*". Напісанне прозвішчаў у дакументах рознілася па часе і лініях ("*Войнилович*", "*Воинилович*", "*Woyniłłowicz*", "*Wojniłowicz*"). Той жа Э.Вайніловіч на падставе вывучэння родавых архіваў сцвярджаў, што ў савіцкай лініі пачалі пісацца "*Woyniłłowicz*" толькі ў канцы XVIII ст. і тлумачыцца гэта паланізацыяй і ўспрыняццем нормаў польскай мовы. На карысць беларускага паходжання сведчаць імёны, ўжываныя прадстаўнікамі роду ў старажытны перыяд – Сямён, Іван, Фёдар, Барыс, Змайла. У XVI ст. Вайніловічы былі праваслаўнымі. Пасля заключэння ў 1596 г. Берасцейскай уніі, яны, відавочна, перайшлі ва уніяцтва і заставаліся ў ім да канца XVIII ст., як, прынамсі, Мікалай-Феліцыян-Юліян, сын Яна Адамавіча, напачатку хрышчаны ў Пузаўскай уніяцкай царкве, а потым – у Цімкавіцкім касцёле. Асобныя ўплывовыя прадстаўнікі рода дзеля паспяховай кар'еры пераходзілі ў каталіцтва і раней. Тым часам далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. і скасаванне уніі ў 1839 г. прывялі многіх Вайніловічаў з дробных і збяднелых ліній і пераважна ўніятаў у праваслаўе.

Можна сцвярджаць, што Эдвард Вайніловіч у 2-й палове XIX–пачатку XX ст. свядома залічаў сябе да польскага этнасу і нават належаў да яго эліты ў Беларусі. Практычна ўся яго грамадская і культурная дзейнасць сведчыць на карысць гэтага. У той жа час і ўздым нацыянальнай свядомасці беларусаў не быў для яго абыякавы. Свайго сына і прадаўжальніка роду Э.Вайніловіч назваў дакладна беларускім варыянтам імені "*Сямён*", за што атрымаў ад блізкіх папрокі ў нацыяналістычных беларускіх матывах.

Згодна з крыніцамі, пачаткі радаводу адносяцца да канца XV–пачатку XVI ст. Легенда пра паходжанне роду ад рыцара Вайнілы, які жыў у часы панавання Ягайлы, відавочна позняя, была прыдумана, каб падкрэсліць старажытнасць роду. Паходжанне прозвішча тыповае для ВКЛ ў гэты перыяд і мае выразны патранімічны характар (ад імя па бацьку, г.зн. Вайніловіч – сын Вайнілы). Метрыка ВКЛ і іншыя акты згадваюць багата Вайніловічаў, аднак, пацвердзіць іх сувязь з вядомымі прадстаўнікамі рода не атрымліваецца. Калі паходжанне прозвішча не падкрэслівае ў гэтыя часы адзінае паходжанне, то пра яго ў значнай ступені можа сведчыць ужываны герб, бо Вайніловічы пячаталіся гербам "*Сыракомля*" ўжо ў XVI ст. Праца В.Каяловіча падае, што Вайніловічы ўжывалі тыповую "*Сыракомлю*", толькі замест крыжа на "*Абданку*" размяшчалі стралу[795]. У той жа час у вывадзе барышынскай лініі Вайніловічаў падаецца такі малюнак герба: выява на шчыце насуперак тыповай "*Сыракомлі*" перавернута, атрымліваецца літара "*W*" – дагары нагамі, страла накіравана долу[796].

Роднасныя сувязі паміж Вайніловічамі, як сцвярджае той жа С.Аўгусевіч на падставе аналізу вялікай колькасці захаваных крыніц, ужо ў XVII–XVIII ст. былі вельмі далёкія, калі існавалі ўвогуле. Вядомы роды Самуэля Вайніловіча, аселы ў Берасцейскім ваяводстве (з 2-й паловы XVII ст.), і Міхаіла, чашніка менскага ў 1-й палове XVIII ст. Аднак, большасць Вайніловічаў, якія пазначалі сваім родапачынальнікам Сямёна Стэцкавіча Вайніловіча, валодалі ў 1-й палове XVI ст. дзвюма вёскамі ў Наваградскім ваяводстве – Нянькаў і Клюкавічы і выводзіліся з іх[797]. Уласна савіцкая галіна была

[795] Kojałowicz W. *Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego tak zwany Compendium*. Kraków, 1897. S.277.
[796] Такое маляванне складальнікі вываду патлумачылі "*сведчаннем польскіх генеалогаў і пячаткамі ўласных арыгінальных дакументаў, якія былі прадстаўлены да разгляду, пачынаючы ад 1554 г.*" (памылкова, бо першы дакумент датаваны 1559 г.). Такім чынам, правільна называць герб не проста "*Сыракомля*", а "*Сыракомля*" зменeная.
[797] Сёння гэта вёскі Нянькава і Клюкавічы на паўночным усходзе ад Наваградка, недалёка ад Любчы.

прызнана ў дваранстве Расійскай імперыі з аднясеннем да 1 часткі радаслоўнай кнігі пастановай Менскага ДДС 19.05.1798 г. (гэта першы вывад), пастановай 09.09.1832 г. перанесена ў 6 частку радаслоўнай кнігі, зацверджана ўказам Сената 17.09.1834 г. (№ 7984)[798].

**<u>I калена</u>.**

1. **Стэцька**, вядомы толькі з імя сына па бацьку.

С.Аўгусевіч лічыць, што ён можа быць наваградчанінам Стэцкам, які разам з братам Аляксандрам плаціў даніну вялікаму князю Казімеру Ягайлавічу ў 1487–1489 г.[799]

**<u>II калена</u>.**

2/1. **Сямён**, выдаў квіт Францкевічу (01.05.1559 г.)[800].

Пра квіт Францкевічу нам пакуль нічога не вядома. Паводле традыцыйнага радавода Барыс павінен быць сынам Сямёна Стэцкавіча, "*мужа рыцарскага*", памерлага у 1563 г. У гісторыі вядомы Сямён, дваранін гаспадарскі, які згадваецца ў актах 1509 і 1528 г. Згодна з апошнім попісам войска ВКЛ ён выстаўляў 5 коней (ваяроў на конях), таму можа лічыцца даволі заможным. У 1519 г. Сямён набыў ад Зеляневічаў маёнтак Нянькаў у Наваградскім ваяводстве, які з таго часу зрабіўся родавым гняздом Вайніловічаў. Дакладна яго сынам быў Іван Сямёнавіч, які ў 1565 і 1567 г. выконваў рыцарскую службу з Нянькава.

**<u>III калена</u>.**

3/2. **Багдан**, † да 1572 г., жонка Ядзвіга Іваноўская (паводле Т.Жыхлінскага – гербу "*Рагаля*").

Пра Багдана і яго жонку Ядзвігу Іваноўскую згадвае толькі традыцыйны радавод, незалежных дакументаў, якія сведчаць пра іх, не адшукана.

4/2. **Барыс**, меў справу з Багданавай удавой Ядзвігай (кампрамісарскі дэкрэт 08.07.1572 г.). А.Касіньскі і Т.Жыхлінскі, паводле родавых папераў, называюць жонку Барыса – Марыя Галынская гербу "*Сас*".

Пра кампрамісарскі дэкрэт нам нічога не вядома. Згодна з даследаваннем С.Аўгусевіча, Барыс быў уладальнікам часткі маёнтка Клюкавічы, з якога і выконваў рыцарскую службу – па попісе войска 1567 г. выстаўляў 1 каня. Як Барыс апынуўся ўладальнікам часткі Клюкавіч (між іншым другой часткай валодала N – удава па харужым наваградскім), пакуль незразумела. Ці то была спадчына, купля, пасаг? Той жа попіс згадвае Івана Русіча, Івана і Фёдара Міхайлавічаў Вайніловічаў, якія выконвалі службу з Нянькава. Калі пра Івана Русіча нічога невядома, то бацька апошніх – Міхаіл жыў, відавочна, у часы Сямёна Стэцкавіча (мажліва быў харужым наваградскім, бо рэестр войска ВКЛ за 1528 г. згадвае нейкага Міхна, які выстаўляе 3 кані) і валодаў разам з ім часткай Нянькава. З іх Іван, пэўна, пакінуў сына Сямёна, які меў жонку Раіну Галаўнянку[801] і судзіўся у 1589 г. з самым ваяводай віленскім Крыштафам Радзівілам "*Пяруном*" з-за нянькаўскіх грунтоў. Памёр гэты Сямён Іванавіч каля 1605 г. Сам Барыс, па меркаванню С.Аўгусевіча, памёр каля 1591 г.

5/2. **Змайла**. Паводле Т.Жыхлінскага, яго жонка – з Пантусаў.

---

[798] *НГАБ у Менску*. Ф.319. Воп.1. Спр.1094. Арк.8–8 адв.; Воп.2. Спр.531, 535. Вывады шляхецтва, якія адбываліся ў ДДС Расійскай імперыі ў 1-й палове XIX ст. часам фрагментарныя і недакладныя, што патрабуе іх праверкі незалежнымі крыніцамі (параўнай вывад шляхецтва барышынскай лініі Вайніловічаў з рэканструкцыяй С.Аўгусевіча), якія часта не захаваліся. Белыя плямы ў радаводах Вайніловічаў пэўна яшчэ не раз трапяць пад увагу спецыялістаў.

[799] *РИБ*. Т.XXVII. С.198, 261, 296.

[800] Ні арыгінала, ні копіі квіта ў дакументах не прадстаўлена, таксама ў копіі вываду пазначана яго памылковая дата – 1759 г., а не 1559 г. (памылка, што адбылася па віне тагачаснага слуцкага маршалка Міхаіла Бярновіча, была папраўлена ў 1824 г.).

[801] Другі шлюб ўзяла з Фёдарам Пратасовічам.

Э.Вайніловіч лічыў яго родным братам Барыса, бо Змайла таксама быў па бацьку Сямёнавіч. Тым часам С.Аўгусевіч адшукаў квітацыйны запіс Змайлы, датаваны 1591 г. З яго вынікае, што Змайла быў уладальнікам часткі Клюкавіч, а сыны Барыса былі яго стрыечнымі братамі. Г. зн. што бацька Змайлы Сямён (пэўна Іванавіч і мажліва сын Івана Сямёнавіча з Нянькава, як мяркуе С.Аўгусевіч) і Барыс маглі быць роднымі братамі і уладальнікамі дзвюх частак маёнтка Клюкавічы[802]. З запіса Змайлы і іншых дакументаў вынікае, што сынамі Сямёна і Раіны Галаўнянкі і яго братамі былі Стэфан (памёр да 1623 г.), падстолі слонімскі і заснавальнік барышынскай лініі[803], і Іван, суддзя гродскі наваградскі, пазней атрымаў і валодаў часткай маёнтка Шчорсы[804].

**IV калена.**

6/4. **Мельхіёр**, † пасля 1636 г., 1 жонка N (у А.Касіньскага і Т.Жыхлінскага – Эльжбета Слупская гербу "*Лешчыц*"), 2 жонка Крысціна Кярсноўская гербу "*Ястрабец*" зменены (у 1636 г. дакладна, † пасля 1674 г.).

Мельхіёр разам з братам Грыгорыем валодалі недалёка ад Дзярэчына вёскай Гяйшэвічы або Вайнілоўцы Слонімскага павета (у 1630-х г. дакладна), але ад каго і калі атрымалі маёнтак пакуль не вядома[805]. У 1636 г. Мельхіёр, відавочна, забяспечыў на ім пасаг другой жонцы.

7/4. **Адам**, † пасля 1621 г., жонка Ганна Тукала (у 1604 г. дакладна)[806].

Адам, відавочна служыў пры двары магнатаў князёў Вішнявецкіх, мажліва ў 1599 г. прадстаўляў у каралеўскім судзе Міхаіла Ратамскага, пазванага баярамі і мяшчанамі осцерскімі. У 1600 г. атрымаў ад князя Канстанціна Вішнявецкага частку з маёнтка Дзярэчын недалёка ад Слоніма, што пазней атрымала назву Вайнілы[807]. У 1604 г. жонка запісала яму ў якасці пасага маёнтак пад назвай Дзярэчын Славуцінскі. Суседам Адама быў наваградскі кашталян Аляксандр Палубінскі, які набыў Дзярэчын ад Вішнявецкіх (1600 г.), аднак напачатку адносіны не складаліся добра, бо ў студзені 1602 г. Мельхіёр скардзіўся ў Лідскі земскі суд на кашталяна і яго сына з-за наезда і разрабавання сядзібы Адама ў Клюковічах. Пра нашчадкаў Адама не вядома, С.Аўгусевіч мяркуе, што ён мог мець дачку, якая ўзяла шлюб з Самуэлем Аўлачымскім.

8/4. **Ян**.

[802] З такога сваяцтва Сямёна Іванавіча і Барыса (родныя браты) вынікае галоўная цяжкасць С.Аўгусевіча, бо ў дакументах зафіксаваны як мінімум 3 розных Іваны, якія гіпатэтычна маглі быць іх бацькамі. З другога боку паўстае пытанне з Клюкавічамі. Сямён выконвае службу з Нянькава, а Барыс – з Клюкавіч. Але няма ніякіх дакументаў, каб патлумачыць гэта.

[803] Назва лініі звязана са Стэфанавым сынам Траянам, які набыў маёнтак Барышын у 1653 г. ад Аляксандра Шэмета. Траян быў падчашым наваградскім (з 1648 г.), войскім (у 1654 г.) і падкаморым (з 1673 г.), памёр у 1675 г. Адзначыўся пры абароне Ляхавіцкага замка ад расійскіх войск (1660 г.), быў жанаты (шлюб каля 1652 г.) з Юстынай, дачкой Станіслава Палубінскага, харужага і потым падкаморыя слонімскага. Меў значны ўплыў у Наваградскім ваяводстве, нават князь Багуслаў Радзівіл прасіў яго аб падтрымцы уласных спраў на ваяводскім сойміку у 1666 г. Братам Траяна быў Тамаш, стольнік мазырскі і харужы ваўкавыскі, сакратар караля Яна Казіміра ў 1660-х г. З гэтай лініі паходзіць Фларыян, пасол на сойм 1793 г., пасля падзелаў Рэчы Паспалітай генерал расійскіх войск, постаць яго ўвекавечыў Адам Міцкевіч у паэме "*Пан Тадэвуш*".

[804] Ад Івана паходзіць асобная лінія, у яго было пяць сыноў: Аляксандр, Юры, Мікалай, Станіслаў і Леў Казімер. З іх Мікалай († пасля 1651 г., жонка Яўфімія Палонская) пакінуў чатырох сыноў. Гэта – Тамаш Мікалай – падчашы пінскі (1679 г.), падстолі наваградскі (1705 г.), Себасцян – стольнік мазырскі (1674 г.), † пасля 1694 г., Мікалай – падстолі мсціслаўскі (1683 г.) і Ян. Найбольш шматлікіх нашчадкаў пакінулі першы і апошні. Прадстаўнікі гэтай лініі пражывалі ў Наваградскім павеце. Яшчэ адзін сын Івана – Леў Казімер быў падчашым і потым чашнікам слонімскім, † каля 1654 г. Яго сын Дамінік – вядомы дамініканін, прэор канвенту Святога Духа ў Вільні, правінцыял літоўскі, славуты сваімі казаннямі і прамовамі, †1694 г.

[805] С.Аўгусевіч лічыць, што гэта не мог быць маёнтак Вайнілы Адама, які памёр пасля 1621 г. Нам такая выснова падаецца спрэчнай. Калі гэта і не быў дакладна той жа маёнтак, то ён мог знаходзіцца блізка. У любым выпадку каля Дзярэчына сёння не існуе ніякіх Гяйшэвічаў і ёсць толькі адныя Вайніловічы.

[806] У першым шлюбе была за Марцінам Славутай.

[807] Магчыма, сёння гэта вёска Вайніловічы, якая знаходзіцца недалёка ад Дзярэчына, у паўночна-заходнім напрамку.

9/4. **Грыгоры**, † пасля 1640 г., валодаў разам з братам Мельхіёрам часткай маёнтка Гяйшэвічы.

6–9 разам з маці N атрымалі ад каморніка навааградскага Стэфана Багушэвіча квіт (1597 г.)[808]. Гэты дакумент вядомы толькі з традыцыйнага радавода і нам больш пра яго нічога невядома. С.Аўгусевіч адшукаў іншы дакумент, датаваны 1591 г. – гэта запіс аб падзеле спадчыннай часткі маёнтка Клюкавічы паміж Адамам Барысавічам (7/4) і сынамі вышэйзгаданага Сямёна Іванавіча Іванам і Стэфанам[809]. Таксама ў схеме С.Аўгусевіча ў параўнанні з традыцыйным радаводам няма аднаго брата – Яна (8/4)[810].

**<u>V калена</u>.**

10/6. **Людвік Казімер**, † каля 1670 г., быў падчашым мсціслаўскім (у 1655 г. дакладна), стольнікам мазырскім (1659 г.), яго жонка Ганна з Тэльшаўскіх (шлюб у 1647 г.), дачка стольніка навагрудскага, за якой атрымаў у пасаг маёнткі Савічы і Пузаў[811], таму і з'яўляецца пачынальнікам ўласна савіцкай лініі. За заслугі атрымаў ад караля Яна Казімера прывілей на дазвол брацыь маставое ў дзедзічным маёнтку Пузаў (19.07.1668 г.). Быў звязаны з нясвіжскай лініяй князёў Радзівілаў, бо ў 1669 г. князь Міхал Казімер Радзівіл, падканцлер ВКЛ, высылаў яго з даручэннем прыняць кіраванне Слуцкім княствам пасля смерці князя Багуслава Радзівіла. Ганна з Тэльшаўскіх[812] пакінула тэстамент датаваны 1694 г., згодна з якім падзяліла спадчыну паміж унукамі 14–15.

11/6. **Адам**, спадчыннік часткі маёнтка Гяйшэвічы, † каля 1677 г., пра яго нашчадкаў нічога невядома.

10–11 падпісалі між сабой дзельчы ліст (02.03.1666 г.)[813], паводле якога Людвік Казімер выракся правоў на Гяйшэвічы на карысць брата, але захаваў правы на Клюкавічы.

**<u>VI калена</u>**[814].

12/10. **Крыштаф Пётр**, хрышчаны 08.04.1649 г., † пасля 1688 г. Падчашы мазырскі (1670 г.), служыў у князя Міхала Казімера Радзівіла (1671–1674 г.), пазней стольнік мазырскі (?). Спадчыннік маёнткаў Савічы, Пузаў, Клюкавічы, з якіх прадаў сваю частку Клюкавіч Себасцяну Вайніловічу. Жонка Людвіка Расудоўская гербу "*Рох III*".

13/10. **Казімер**, падчашы мсціслаўскі (ужо ў 1680 г.). Пра яго нашчадкаў нічога не вядома.

12 і 13, відавочна, валодалі спадчыннай часткай маёнтка Гяйшэвічы, што пацвярджаецца судовай справай іх з дачкой старосты літынскага Габрыэля Барбарай з Вайніловічаў Хаіньскай (09.11.1680 г.).

**<u>VII калена</u>.**

---

808 Мажліва, што гаворка ідзе пра квіт аб выплаце падымнага падатку з маёнтка Клюкавічы. Барыс памёр каля 1591 г., таму квіт і падпісала ўдава з дзецьмі.

809 *НГАБ у Менску*. Ф.1727. Воп.1. Спр.106. Арк.889–892.

810 С.Аўгусевіч мяркуе, што ад Грыгорыя паходзіў Габрыэль († каля 1664 г.) – знакаміты палкоўнік ў часы "*крывавага патопу*", староста літынскі з 1652 г. (ці з 1658? г.), служыў у Гераніма Вішнявецкага, удзельнік бітвы пад Жоўтымі Водамі, загінуў на Ўкраіне. Габрыэль пакінуў дачку Барбару (каля 1670 г. узяла шлюб з Антоніем Францішкам Хаіньскім, † 1701 г.), а лінія скончылася на дзецях яго брата Андрэя († 1676 г.) – сыне Гераніме (беспатомны) і дачцэ Ганне, у першым шлюбе (каля 1670 г.) за Станіславам Ясеньскім, у другім (каля 1698 г.) – за Прозарам.

811 У XVI ст. Савічы належалі Алелькавічам, у 1600 г. іх набыў Валенці Тэльшаўскі, у 1625 г. перайшлі ў спадчыну да яго сына Крыштафа, стольніка ноўгарад-северскага, і жонкі апошняга Зоф'і Касакоўскай. Пасля смерці мужа Касакоўская завяшчала Савічы і Пузава (відавочна, частку належную маці) дачцэ. Бо астатні маёнтак Пузаў адыйшоў Ганне трохі пазней – па тэстаменту яе брата Яна Касакоўскага (тэстамент быў складзены 30.04.1681 г.).

812 У другім шлюбе Ганна была за Стэфанам Трыпольскім, у трэцім – за Марцыянам Рэйтанам.

813 С.Аўгусевіч мяркуе, што Людвік Казімер памёр каля 1670 г. Тым часам, падзел спадчыны паміж сынамі звычайна рабіўся пасля смерці бацькі, таму можна меркаваць, што ён памёр да падзелу (02.03.1666 г.).

814 Вывад Вайніловічаў ў шляхецтве 19.05.1798 г. згадвае ў Людвіка Казімера (называе яго Людвікам) толькі аднаго сына Крыштафа Пятра (называе яго Крыштафам).

14/12. **Францішак Казімер**, † 1745 г., падчашы мазырскі (1722 г.), губернатар Нясвіжскага княства князёў Радзівілаў (1725–1740 г.), жонка Барбара Фелькерзамб гербу ўласнага (яе маці з Юдыцкіх гербу "*Радван*").

15/12. **Антоні**, ксёндз езуіцкага закону, рэктар у Жодзішках (ужо ў 1735 г.), потым ў Горадні і Менску (?)[815].

**VIII калена**[816].

16/14. **Брыгіда**, муж Юзаф Межаеўскі.

17/14. **Францішка**, 1 муж – Бенядзікт Арэшка, 2 муж – Казімер Корсак.

18/14. **Алена**, муж Францішак Хамскі.

19/14. **Адам**, хрышчаны ў 1739 г., † 1803 г., абозны (ужо ў 1765 г.), канюшы (1776 г.), потым суддзя земскі (прывілей караля Станіслава Аўгуста 1778 г.), нарэшце, падкаморы Наваградскага ваяводства (прывілей 1783 г.), кавалер ордэна Святога Станіслава (1783 г.). Адам карыстаўся значным ўплывам сярод мясцовай шляхты. У 1776 г. ён быў абраны паслом на надзвычайны сойм, на якім выступіў з прамовай. З яго меркаваннем лічыўся нават князь Караль Станіслаў Радзівіл "*Пане Каханку*", уладальнік Нясвіжскага княства ў 2-й палове XVIII ст. Э.Вайніловіч згадвае, што ў родавым архіве былі лісты ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, з просьбай ад падтрымцы на сойміку Наваградскага ваяводства Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Жонка Адама – Караліна Сулістроўская гербу "*Любіч*" (яе маці была з Пацаў). У 1790 г. Адам падзяліў спадчыну паміж сынамі: Ян атрымаў Пузаў, а Антоні – Савічы.

20/14. **Дамінік**, хрышчаны ў 1744 г., † пасля 1787 г., у духоўным стане, быў місіянерам Святога Яна ў Вільні.

**IX калена**[817].

21/19. **Ян**, хрышчаны 04.01.1767 г.[818], † 29.12.1844 г., на варшаўскім сойме 1788 г. быў абраны асэсарам задворна-асэсарскага суда ВКЛ у Вільні, дэпутат вывадовы Менскага ДДС (1794 г.), падкаморы Слуцкага павета (указ імператара Паўла I, з 1797 па 1806 г.), старшыня Менскага гранічнага апеляцыйнага суда (1814 г.), сябра камісіі па разбору даўгоў князя Дамініка Радзівіла ў Вільні (1815–1827 г.). Жонка Фартуната Ева з графоў Гюнтэр фон Гільдэнсгайм († 1828 г.)[819], паводле А.Касіньскага – дачка Міхала Гюнтэра і Канстанцыі з Валадковічаў.

22/19. **Антоні**, хрышчаны 17.07.1773 г., † 1855 г., маршалак Слуцкага павета (з 1816 г. амаль 30 гадоў), жонка Тэафіля Адынец гербу ўласнага[820].

23/19. **Флярэнтына**, муж Міхал Кастравіцкі.

21–22 былі складальнікамі вываду 1798 г. у Менскім ДДС, валодалі маёнткамі Савічы і Пузаў Слуцкага павета сумесна (выракальны запіс 08.05.1800 г. і дзельчы запіс 19.06.1800 г.)[821], з іх Ян валодаў ½ часткай Пузава асобна, згодна з дароўным запісам ад маці (29.06.1795 г.). Потым Ян – дзедзіч на Пузаве, а Антоні – на Савічах, Клярымонтах і Караліне.

**X калена.**

24/21. **Агата**, муж Эразм Петразалін, уладальнік маёнтка Кукавічы Слуцкага павета.

---

[815] У вывадзе шляхецтва згаданы толькі як гарадзенскі рэктар.
[816] У вывадзе 1798 г. згаданы толькі сыны Францішак і Антоні, С.Аўгусевіч пазначае яшчэ трох дачок.
[817] У вывадзе 1798 г. у Адама паказаны толькі сыны.
[818] Метрыкі 21 і 22 засведчыў Раман Барташэвіч Сумарок, віцэ-прэпазіт цімкавіцкі, у 1798 г.
[819] У метрыцы сына Люцыяна прозвішча маці напісана "*з графоў Гюнтэраў*".
[820] Яе сваячка Марыя Адынец, памерла ў Савічах на пачатку 1833 г.
[821] Апошні запіс быў актыкаваны 07.11.1801 г. у Слуцкім земстве.

25/21. **Мікалай Феліцыян Юліян**, хрышчаны 09.06.1804 г.[822], хадайнічаў аб выданні пашпарта на 1 год для паездкі ў Віцебскую губерню па ўласных справах (1836 г.), ксёндз і пробашч парафіі Святога Духа ў Вільні.

26/21. **Люцыян**, хрышчаны 24.01.1817 г., † 09.09.1880 г., межавы суддзя Менскай губерні (1838–1841 г.), хадайнічаў аб выданні пашпарта на 6 месяцаў для паездкі ў Віленскую губерню (1850 г.), у 1848 г. узяў шлюб з Аленай († 09.12.1880 г.), адзінай дачкой генерала, начальніка дывізіі ўланаў Яна і Тэклі з Атвіноўскіх Вейсенгоф гербу "*Лебедзь*". Каля 1857 г. перасяліўся ў Царства Польскае, дзе жонка па тэстаменту брата Ўладзіміра Вейсенгофа атрымала маёнтак Самакленскі ў Люблінскай губерні, пазней жыў у Варшаве. Нашчадкаў мужчынскага пола не пакінуў, таму ў 1867 г. адказаў маёнтак Пузаў пляменніку Эдварду Вайніловічу.

27/21. **Ізабэла**, паводле А.Касіньскага, памерла ў 1859 г. у паненскім стане.

28/21. **Клярыса**, муж Міхал Межаеўскі гербу "*Шаліга*", дзедзіч маёнтка Гальцэвічы ў Віленскай губерні.

29/21. **Аляксандра**, муж Казімер Равеньскі, дзедзіч маёнтка Пятровічы Наваградскага павета[823].

30/22. **Тадэвуш Ян**, *30.08, хрышчаны 08.10.1804 г., †1878 г. Збіраўся паступаць на вайсковую службу (1824 г.), служыў фейерверкерам у 30-й конна-артылерыйскай роце Літоўскага асобнага корпуса (1825 г.), пазней юнкер, прапаршчык Казанскага драгунскага палка (1834 г.), у адстаўку выйшаў паручыкам, быў маршалкам Слуцкага павета (да 1864 г., каля 20 гадоў), уладальнік маёнткаў Клярымонты і Каралін. Жонка Казімера з Наркевічаў-Ёдкаў.

31/22. **Адам Дамінік**, *01.11.1806 г.[824], † 22.12.1874 г. Пасля заканчэння Віленскага універсітэта паступіў на працу ў канцылярыю таго ж універсітэта (1827 г.), губернскі сакратар (з 1829 г.), у 1832–1842 г. служыў інспектарам Слуцкага часовага паліцэйскага ўпраўлення, дазорца сельскіх запасных магазінаў Слуцкага павета (1835–1845 г.), па выбарах ад дваранства абіраўся міравым суддзёй (1832–1835 г.), уладальнік маёнтку Савічы, дзе зрабіў узорную гаспадарку. Жонка Ганна († пасля 1877 г.), дачка Эдварда і Міхаліны з Манюшкаў Ваньковічаў гербу "*Ліс*".

25, 26, 30, 31 былі далучаны да роду пастановай Менскага ДДС 16.09.1824 г.

32/22. **Яўстахі Аляксандр**, *14.04, хрышчаны 20.04.1810 г., збіраўся паступаць на вайсковую службу (1828 г.)[825], паводле А.Касіньскага – афіцэр расійскіх войск, загінуў у вайне з туркамі 1829 г.

33/22. **Анэля**, муж N Гараін гербу "*Срэнява*".

**XI калена.**

34/30. **Эмілія**, памерла ў юнацтве.

35/30. З**оф'я**, у 1859 узяла шлюб з Лявонам Даманьскім гербу "*Лярыса*", дзедзічам маёнткаў Бялевічы і Белічы Слуцкага павета, а таксама атрыманых у пасаг Клярымонтаў і Караліна.

36/31. **Міхаліна**, муж Атон Горват гербу ўласнага, менскі губернскі маршалак, дзедзіч маёнтку Ліпаў Мазырскага павета.

37/31. **Марыя**, † 1927 г., муж Ксаверы Бельскі, дзедзіч маёнтку Уцечызна Кобрынскага павета.

---

[822] Напачатку быў хрышчаны вадой у Пузаўскай уніяцкай царкве, а 18.06.1805 г. – у касцёле, метрыка была засведчана Робертам Бубатовічам, камендарам цімкавіцкім, у 1823 г.

[823] Аляксандру і яе мужа згадвае толькі А.Касіньскі.

[824] 30–32 былі хрышчаны ў Цімкавіцкім касцёле, што засведчыў у 1824 г. Ян Адрыян Адэльскі, мясцовы прэпазіт. З іх Адам Дамінік напачатку быў хрышчаны вадой у Савіцкай уніяцкай царкве.

[825] С.Аўгусевіч падае дзвух розных сыноў – Яўстахія (пра яго нічога не піша) і Аляксандра († пасля 1829 г.). Відавочна, гэта памылка, бо ў архіўных дакументах фігуруе адзін Яўстахі Аляксандр. Ды й А.Касіньскі называе аднаго з дзвума імёнамі.

38/31. **Эдуард Антон Леанард**, *12.10, хрышчаны 13.10.1847 г. у Менскім катэдральным касцёле, † 1928 г. Быў далучаны да роду пастановай Менскага ДДС 23.07.1865 г. і зацверджаны ў дваранстве указам Сената 10.02.1866 г. за № 765, выхаванец С-Пецярбургскага тэхналагічнага універсітэта, які скончыў са ступенню тэхнолаг 1 разраду (1869 г.), пачаў службу ў канцылярыі слуцкага павятовага маршалка ў 1880 г., калежскі рэгістратар (1883 г.), губернскі сакратар (1884 г.), калежскі сакратар (1886 г.), тытулярны радца (1890 г.), надворны радца (1896 г.), калежскі радца (1901 г.), стацкі радца (1905 г.). Доўгі час быў ганаровым міравым суддзёй Слуцкага павета (з 1883 г.) і дэпутатам ад дваранства Слуцкага павета (з 1887 г.), уладальнік маёнткаў Савічы і Пузаў[826], удзельнік шматлікіх гаспадарчых, фінансавых і дабрачынных таварыстваў[827], старшыня Менскага сельскагаспадарчага таварыства, член Дзяржаўнага Савета Расійскай імперыі па выбарам ад з’езда землеўладальнікаў Менскай губерні у 1906–1909 г., з 1911 г. абраны земскім губернскім і павятовым гласным. З 1880 г. зацверджаны членам Слуцкага дабрачыннага камітэта аб бедных і Імператарскага Чалавекалюбівага таварыства, за заслугі пажалаваны ордэнамі Святога Станіслава 3 ступені (1882 г.) і Святой Ганны 3 ступені (1886 г.), Святога Станіслава 2 ступені (1894 г.), Святой Ганны 2 ступені (1898 г.), Святога Ўладзіміра 4 ступені (1902 г.), кавалер срэбранага медаля ва ўшанаванне памяці імператара Аляксандра III (1896 г.), бронзавага медаля ў гонар 300-годдзя царавання Дома Раманавых (1913 г.), меў срэбраны нагрудны знак у памяць 50-годдзя земскіх установаў. Жонка Алімпія (*09.03.1861 г.) дачка Марка Ўзлоўскага. Пасля трагічнай смерці дзяцей Эдвард уласным коштам збудаваў новы касцёл у Менску (1910 г.)[828]. Пасля ўсталявання ў Беларусі Савецкай улады пражываў у Быдгашчы (Польшча), пахаваны там жа на старых могілках – “*pośród obcych sobie lanów*”, як напісана на помніку.



Пліта Эдварда Вайніловіча ў нясвіжскім Фарным касцёле. *Фота: НГАБ у Менску*. Ф.694. Воп.1. Спр.624. Арк.24.

39/31. **Габрыэля Казімера Ганна**, *11.07.1851 г., † 1879 г., муж Юры Магільніцкі, дзедзіч маёнтку Бзовец Люблінскай губерні[829].

40/31. **Ядзвіга**, *1863 г., муж Вацлаў Кастравіцкі.

**XII калена.**

41/37. **Алена Бянігна**, *13.02.1884 г., † 1903 г. ад грыпа званага “*гішпанкай*”.

42/37. **Сямён**, *17.06.1885, † 1897 г.

39–42 былі далучаны да дваранскага рода Вайніловічаў пастановай Менскага ДДС 09.03.1891 г., зацверджаным указам Сената 30.04.1891 г.

Асабістая трагедыя яшчэ больш выкшталціла характар і душу Э.Вайніловіча. Вось што ён пісаў у сваіх успамінах: “*Wskutek ciosów, które z woli Najwyższej na mnie spadły, postanowiłem uczynić ofiarę błagalną, przez wybudowanie świątyni, pod wezwaniem patronów zmarłych dzieci moich, Św. Św. Symeona i Heleny i na to miejsce Mińsk wybrałem*”. Так і стаіць сёння касцёл, як помнік Эдварду Вайніловічу.

*Сяргей Рыбчонак (Менск).*

[826] У 1893 г. маёнткі налічвалі 1617 дзесяцінаў зямлі.
[827] *НГАБ у Менску*. Ф.299. Воп.2. Спр.7928: Справа Менскага губернскага праўлення аб дазволе Э.Вайніловічу заснаваць пазыказберагальнае таварыства ў мястэчку Клецк Слуцкага павета 1881–1894 г.
[828] Цяпер касцёл Сымона і Алены.
[829] За Габрыэлю хадайнічала ў 1874 г. Міхаліна дачка Станіслава Ваньковіч, прычым называла яе ўнучкай.

## Nieznana pieczęć wielka litewska Augusta II.

Czasy panowania Augusta II to z punktu widzenia sfragistyki okres niezmiernie ciekawy. Pojawiają się wówczas, nowe, nieznane wcześniej rodzaje pieczęci (pieczęcie króla elekta, pieczęcie tzw. królewskie, pieczęcie instytucji związanych z dworem sasko-polskim)[830]. Zwiększona ilość odcisków oraz różnorodność ówczesnych pieczęci powoduje jednak, że uwaga badaczy skupia się na rozpoznaniu i systematyzacji tego materiału. Mniejszą wagę przykładano jak dotąd do badania gatunków pieczęci należących do grupy tradycyjnych pieczęci państwowych. Okazuje się jednak, że i w tym zakresie można rozszerzyć naszą wiedzę. Anatol Citou opublikował w 1993 r. nieznaną pieczęć większą litewską tego władcy[831]. Udało się również odnaleźć nienotowaną dotąd przez literaturę jego pieczęć majestatową[832].

Dotąd znane były dwie pieczęcie większe litewskie Augusta II. Pierwszą z nich, opisał już Marian Gumowski[833]. Wyobraża ona w polu pieczęci, wśród barokowej ornamentyki, dużą tarczę z Pogonią, podtrzymywaną przez dwóch zbrojnych: jednego z herbem arcymarszałkowskim (dwa przekrzyżowane skośnie miecze sztychami do góry), drugiego z saskim herbem Wettynów. Powyżej znajduje mitra książęca, pod którą umieszczono datę: 1699. Wokół centralnego pola znajduje się wieniec złożony z 12 herbów: polskiego Orła, którego tarczę wieńczy korona zamknięta, Pogoni na tarczy zwieńczonej mitrą, herbu Kolumny oraz 9 herbów ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego, na przemian w owalnych i hiszpańskich tarczach herbowych, ujętych w kartusze. Korona nad tarczą z Orłem polskim dzieli pierścień legendy. U dołu natomiast, w polu legendy, znajduje się kartusz z herbem kanclerskim: radziwiłłowskim Orłem, który dzieli inskrypcję. Powierzchnię centralnego pola pieczęci jak i pierścienia z wieńcem herbów dynastycznych i ziemskich wypełniają ornamenty roślinne. Legenda pieczęci brzmi: AVGVSTVS II: D(*ei*)G(*ratia*) REX. POLONIAE MAG(*nvs*): DVX. LITHVANIAE. RVS(*siae*)/ PRVS(*siae*). MASO(*viae*) SAMO(*gitiae*) PODL(*achiae*): VOL(*hyniae*): PODOL(*iae*): LIVONIAE Q(*ve*): HAEREDITAR(*ivs*): DVX SAXON(*iae*): (*et)* ELECT. Cechą charakterystyczną tego tłoka, na co zwrócił już uwagę M.Gumowski, jest jego niski poziom artystyczny[834]. Relief wyobrażenia jest dość płytki, tak, że na wielu odciskach wykonywanych przez papier trudno dostrzec detale. M.Gumowski znał odciski tego sigillum pochodzące z lat 1710-1720, zaś A.Citou przywołuje egzemplarze z lat 1701-1702[835]. Ze względu na stosunkowo



*1. Pierwsza pieczęć większa litewska Augusta II.*

[830] Największy jak dotąd zbiór pieczęci Augusta II opublikował: Gumowski M. *Pieczęcie królów Polski.* Kraków 1910. S.69–77. Nr 138–156. Publikację tę uzupełnił ów autor w pracy: Gumowski M. *Handbuch der Polnischen Siegelkunde*. Graz, 1966. Taf.VIII. Nr 160, Taf.IX. Nr 162–163. Nieznane M.Gumowskiemu odciski pieczęci opublikowano ostatnio w katalogu: *Pieczęcie królów i królowych Polski. Tabularium actorum Antiquorum Varsoviense Maximum Divisio Prima "In simul"*. Warszawa, 2010. S.160, 164–171. O nowych zjawiskach w sfragistyce monarchów z dynastii Wettynów zasiadających na tronie Rzeczpospolitej zob.: Hlebionek M. *Nowożytne pieczęcie królów polskich.*// Polska kancelaria królewska czasów nowożytnych. Między władzą a społeczeństwem. Materiały konferencji naukowej Toruń 8 kwietnia 2002 r. Pod red. W.Chorążyczewskiego, W.Krawczuka. Warszawa, 2003. S.59–60. Wpływ unii polsko-saskiej na pieczęcie elektorskie omawia pokrótce: Blaschke K.H. *Siegel und Wappen in Sachsen*. Leipzig, 1960. S.53–55. Tam też na s.61–65 znajduje się charakterystyka pieczęci saskich instytucji państwowych.

[831] Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi. Narysy sfragistyki*. Minsk, 1993. S.150–151.

[832] Hlebionek M. *Pieczęć majestatowa Augusta II w zbiorach Biblioteki Kórnickiej.*// Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. Z.26. 2003. S.199–204.

[833] Gumowski M. *Pieczęcie królów*... Nr 144. S.73.

[834] Gumowski M. *Pieczęcie królów*... S.73.

[835] Gumowski M. S.73. Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi*... S.149.

rzadkie występowanie odcisków tego sigillum, M.Gumowski podejrzewał funkcjonowanie innej pieczęci wielkiej litewskiej króla Augusta. Przypuszczenie to okazało się słuszne.

Jak już wspomniano, kolejną, nie znaną badaczom pieczęć wielką litewską Wettyna opublikował A.Citou[836]. Prezentuje ona znacznie wyższy poziom artystyczny, choć jej schemat ikonograficzny odpowiada wyżej opisanemu. Od poprzedniej różni się ona jednak ornamentyką: festonami zdobiącymi podstawę tarczy, większymi wolutami na jej bokach i głowicy, sposobem zaznaczenia wewnętrznej linii otokowej, dzielącej obie sfery pola pieczęci a także głębszym reliefem, pozwalającym na uzyskanie lepszej jakości odcisków. Pod mitrą książęcą umieszczono datę: 1699. Podobnie jak w poprzednim przypadku w polu legendy znajduje się kartusz z herbem kanclerskim: orłem Radziwiłłów, dzielącym inskrypcję. Pewne różnice w stosunku do poprzedniej wykazuje również legenda. Brzmi ona: AVGVSTVS II: D(*ei*) G(*ratia*) REX. POLONIAE MAG(*nvs*): DVX. LITHVANIAE. RVS(*siae*): PRVS(*siae*). MASO SAMO PODL(*achiae*): VOL(*hyniae*): PODOL(*iae*): LIVONIAEQ(*ue*): HAEREDITAR(*ivs*): DVX SAXONIAE (*et*) PRINCEPS ELECT(*or*)[837].

Jak się okazuje, zbiór pieczęci większych litewskich Wettyna należy powiększyć o jeszcze jeden element. W Wojewódzkiej i Miejskiej Bibliotece Publicznej w Bydgoszczy, w zbiorach rękopisów znajduje się dokument Augusta II uwierzytelniony odciskiem trzeciej, niepublikowanej dotąd pieczęci Większej Litewskiej Augusta II[838]. Wchodzi on w skład tzw. kolekcji Kazimierza Kierskiego, prawnika i dyplomaty, który jeszcze przed ostatnią wojną przekazał swój zbiór autografów miastu Bydgoszczy[839]. Wspomniany odcisk uwierzytelnia dokument wystawiony w Warszawie 28 lutego 1731 r. Mierzy on 100 mm średnicy. Pole pieczęci, oddzielone od legendy podwójną linią ciągłą, podzielone zostało na dwie sfery. W polu wewnętrznym, okrągłym, pod mitrą książęcą, której skraj obszyty jest perłami, a którą wieńczy gałka z krzyżykiem, umieszczono tarczę z Pogonią. Skraj tarczy zdobią woluty, jednak ich układ jest odmienny niż na pieczęci pierwszej. Zdobienia skraju tarczy zachodzą na wewnętrzną obręcz mitry, na której, ponad ornamentami umieszczono datę, z której czytelna jedynie cyfra "*9*". Tarczę z obu stron podtrzymują postacie zbrojnych mężów. Postać z prawej trzyma w prawej ręce tarczę z herbem elektorskim (w polu dwudzielnym w pas dwa przekrzyżowane w skos miecze, sztychami ku górze), postać z lewej w lewej ręce trzyma tarczę z herbem Saskim (w polu na którym 9 pasów czarno-złotych na nich wieniec ruciany). W polu zewnętrznym, o kształcie pierścienia, oddzielonym od pola centralnego linią z `perełek wieniec 12 tarcz z herbami państwowymi i ziemskimi: w tarczy hiszpańskiej, zwieńczonej koroną zamkniętą, zachodzącą na pole legendy i rozpoczynającą inskrypcję, orzeł Polski, w tarczy owalnej, zwieńczonej mitrą, Pogoń, w tarczy owalnej, Kolumny Giedymina, w tarczy owalnej;



*2. Druga pieczęć większa litewska Augusta II. Fot.: Citou A. Piačatki staražytnaj Belarusi... S.150.*

[836] Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi*... S.150–151. Luźny odcisk tej pieczęci znajduje się w zbiorach kórnickich: *Biblioteka Kórnicka Polskiej Akademii Nauk*. Zbiór luźnych odcisków pieczęci. Sygn. P-30.

[837] W opracowaniu A.Citowa doszło do pomyłki, polegającej na przemieszaniu legend obu pieczęci. Pieczęci pierwszej przypisano legendę pieczęci drugiej i odwrotnie. Zob.: Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi*... S.146, 151.

[838] *Wojewódzka i Miejska Biblioteka Publiczna w Bydgoszczy*. Zbiór Kierskiego. Sygn. 1223/30 III. Źle zachowany odcisk tej pieczęci, błędnie zidentyfikowany jako pieczęć pierwsza, został opublikowany w katalogu pieczęci królewskich z zasobu AGAD: *Pieczęcie królów i królowych*... S.156. Na identyfikację z trzecią pieczęcią, prócz datacji odcisku każącej łączyć go z czasami Wiśniowieckiego, pozwala odmienny niż na pieczęci pierwszej kształt kartusza (zob. niżej). Umieszczone w nim godło, słabo czytelne, to zapewne Korybut, nie zaś radziwiłłowski Orzeł.

[839] Hlebionek M. *Pieczęcie w zbiorach bydgoskich – Archiwum Państwowe, Biblioteka Wojewódzka i Miejska, Muzeum Okręgowe*.// Zbiory pieczęci w Polsce. Pod red. Z.Piecha, W.Strzyżewskiego. Warszawa, 2009. S.140–141, 144–145.

krzyż, w tarczy hiszpańskiej [późnogotyckiej] kroczący niedźwiedź, w tarczy owalnej mąż z włócznią i tarczą, w tarczy owalnej wspięty niedźwiedź w obroży, w tarczy hiszpańskiej chorągiew, w tarczy hiszpańskiej dwie postacie trzymające się za ręce, w tarczy owalnej; w tarczy owalnej stojący jeleń w lewo, w tarczy owalnej postać z dwoma palmowymi gałązkami, w tarczy okrągłej Veraikon. Skraje tarcz zdobią rollwerki. Resztę pola wypełniają ornamenty roślinne – kwitnące gałązki. U dołu, w polu legendy umieszczono zdobny gałązkami palmowymi kartusz z herbem kanclerskim: Korybutem Wiśniowieckich. Legenda pieczęci brzmi: AVGVSTVS II·D(*ei*) 'G(*ratia*) REX·POLONIAE MAG(nvs): DVX·LITHVANIAE·RVS(*siae*): PRVS(*siae*)/ MASO(*viae*): SAMO(*gitiae*): PODL(*achiae*): VOL(*hyniae*): PODOLI(*a*)E HEREDITAR(*ivs*) DVX SAXON(*iae*) & ELECT(*or*).



*3. Trzecia pieczęć większa litewska Augusta II.*

Wyobrażenie napieczętne tego odcisku powtarza niemal dokładnie ikonografię pierwszej pieczęci większej litewskiej Wettyna. Są jednak i różnice. Widać je w zdobieniach skraju tarczy z Pogonią, odmiennym, niż na poprzednich herbie kanclerskim, a także precyzji wykonania, która pozwoliła na uzyskiwanie odcisków znacznie lepszej jakości.

Porównanie trzeciej pieczęci większej litewskiej Augusta II z pieczęciami używanymi przez jego następcę, wskazuje również, że typariusz ten funkcjonował nadal w kancelarii Augusta III. Ponieważ w początkach panowania tego władcy kanclerzem litewskim był również Michał Wiśniowiecki, przeróbce poddano jedynie fragment inskrypcji napieczętnej zawierający imię władcy, oraz datę pod mitrą[840]. Domysł ten potwierdza spostrzeżenie, że, inaczej niż pozostała część inskrypcji, cyfry w liczebniku towarzyszącym imieniu króla nie zostały wykonane w jednej linii. W okresie późniejszym na typariuszu aktualizowano, choć niekonsekwentnie, jedynie herb kanclerski[841]. Inaczej uważał M.Gumowski, który przyjął, że tłok pieczęci Augusta III został przerytowany z pierwszej pieczęci większej litewskiej jego poprzednika[842]. Przeciw temu przemawia jednak niższy poziom artystyczny pierwszej pieczęci, oraz fakt że w początkach panowania Augusta III kanclerzem litewskim był Michał Wiśniowiecki, który zapewne dokonał przeróbki używanego wcześniej typariusza.

Ustalono wyżej górną chronologię funkcjonowania interesującego nas typariusza spróbujmy określić czas, kiedy wprowadzono go do użytku. Wskazówką może tu być informacja M.Gumowskiego, że po 1720 r. nie spotkał on odcisków pierwszej pieczęci[843]. I rzeczywiście najstarszy znany egzemplarz pieczeci trzeciej pochodzi z marca 1720 r.[844]

Do interesujących wniosków prowadzi ustalenie chronologii pieczęci używanych przez poprzednika Michała Wiśniowieckiego na godności – Karola Stanisława Radziwiłła. Radziwiłł uzyskał królewską deklarację na urząd w grudniu 1698 r., zaś nominację dopiero w lipcu następnego roku. Kanclerzem był do śmierci, która nastąpiła w 1719 r. Jak już wspomniano, z czasów jego kancelariatu znamy odciski dwóch pieczęci: pierwszej, potwierdzonej w użyciu w

---

[840] Fotografię pieczęci wielkiej litewskiej Augusta III z 1734 r. publikuje E.Rimša: Rimša E. *Heraldika. Iš praeities į dabartį*. Vilnius, 2004. S.65. Fot. Nr 125. Od opisanej wyżej trzeciej pieczęci Augusta II różniła się ona jedynie cyfrą w liczebniku przy królewskim imieniu, a także znajdującą się pod mitrą datą: zamiast 1699 znajdował się tam rok 1733.

[841] Por.: Gumowski M. *Pieczęcie królów*... S.83–84. Nr 168. Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi*... S.152–153 (odcisk z 1758 r.). *Pieczęcie królów i królowych*... S.183 (odcisk z 1760 r.). Oba egzemplarze pochodzą z czasów kancelariatu Czartoryskiego, ale znajduje się na nich herb poprzedniego kanclerza Jana Fryderyka Sapiehy.

[842] Gumowski M. *Pieczęcie królów*... S.84.

[843] Gumowski M. *Pieczęcie królów*... S.78.

[844] Zob. przyp. 338.

latach 1701–1702 oraz 1710–1720[845], a także drugiej znanej z lat 1712 i 1722[846]. Interesujące jest, że okresy funkcjonowania obu typów pieczęci nakładają się na siebie. Z naszego punktu widzenia jest istotne, że jeszcze z 1722 r., a zatem już z czasów Wiśniowieckiego, mamy potwierdzone użycie drugiej z pieczęci. Jeżeli wykluczymy możliwość równoczesnego funkcjonowania dwóch typariuszy, powstanie trzeciej pieczęci Augusta II należałoby położyć na okres po 1722 r. Jednak najstarszy odcisk interesującej nas pieczęci pochodzi już z marca 1720 r.[847]. Co więcej, jeszcze z 1724 r. mamy poświadczony odcisk pierwszej pieczęci większej litewskiej, używanej przez Radziwiłła[848]. Niestety, dolna część pieczęci nie została odpowiednio dociśnięta, nie wiemy więc, czy przerobiono znajdujący się tam herb kanclerski. Spostrzeżenia te mogą wskazywać, że z jakichś względów, tak za kancelariatu Karola Stanisława Radziwiłła jak i Michała Wiśniowieckiego jednocześnie funkcjonowało kilka tłoków pieczęci większej litewskiej (dwa za Radziwiłła i trzy za czasów Wiśniowieckiego). Potwierdzenie tej hipotezy oraz wyjaśnienie zjawiska wymaga jednak dalszych kwerend.



*4. Korybut – herb kanclerski na trzeciej pieczęci większej litewskiej Augusta II.*





*5-6. Liczebniki przy imieniu królewskim na pieczęciach większych litewskich Augusta II i Augusta III.*



*7. Pieczęć wielka litewska Augusta III z czasów kanclerstwa Jana Fryderyka Sapiehy.*

*Marcin Hlebionek*
*Uniwersytet Mikołaja Kopernika*
*(Toruń).*

[845] Gumowski M. S.78. Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi…* S.149.
[846] Citou A. *Piačatki staražytnaj Bielarusi…* S.151.
[847] *Pieczęcie królów i królowych…* S.156. W sprawie identyfikacji zob. uwagi w przyp. 338.
[848] *Zakład Narodowy im. Ossolińskich*. Dział Rękopisów. Sygn. BO 2919. Odcisk przy dokumencie z 11 października 1724 r. Za zwrócenie uwagi na tą pieczęć dziękuję Robertowi Forysiakowi-Wójcińskiemu z Gabinetu Numizmatyczno-Sfragistycznego wrocławskiego Ossolineum.

# Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ў другой палове XVI–XVIII ст. (В)

In work "*The true Armorial of nobility of Vaŭkavysk region in second half 16th –18th c.*" **Alaksiej Šałanda** on basis sphragistic materials reconstructs really heraldic situation among Vaŭkavysk nobility in the specified period, analyzes processes in nobility heraldry separately taken region, and allocates three basic kinds nobility of the arms: Polish, mark and western European. The work is attempt of creation new heraldic-archeographic type of armorial of nobility of GDL on an example Vaŭkavysk region. Continuation "*Armorial*" on the letter "*B*".

У дадатак да надрукаванай часткі гербоўніка ваўкавыскай шляхты з прозвішчамі на літару "*Б*" падаем адшуканую гербавую пячатку Аляксандра Бяляўскага (№ 34):

## (34). Бяляўскі Аляксандр, суддзя гродскі і канюшы ваўкавыскі, 1740.

**Герб**: на авальнай картушовай тарчы падкова канцамі дагары з простым крыжам унутры, на крыжы стаіць птушка (ястраб?) з пярсцёнкам у дзюбе ("*Ястрабец*" зменены), над тарчай шляхецкая карона, вакол герба ініцыялы: "*A[leksander] M[?] B[ielawski] S[ędzia] G[rodzki] K[oniuszy] P[owiatu] W[ołkowyskiego]*".



Пячатка: адб., чрв/с, 16х19 мм, в [20, ф.1711, воп.1, спр.186, а.13].

27 чэрвеня 1740 г. на Ахрэмаўскіх маргах Аляксандр Бяляўскі, ваўкавыскі гродскі суддзя і канюшы пры сведках: Міхалу Антонію Наргялевічу, Юзафу Эйсымонту, Марціну Антонію Наргялевічу, Міхалу Старынскім, Якубу Людвіку Гушчы, а таксама генералах ЯКМ Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў Грыгорыю Эйсымонту і Юрыю Зарэмбе адпаведна, выдаў падаўчы ліст на фальварак Абухава і Арэхвіцкія маргі з пляцамі Востраў і Цыдзікаўшчызна N Баркоўскаму, інстыгатару ЯКМ Гарадзенскай Эканоміі ў сувязі з выракам задворнага асэсарскага суду ВКЛ па справе паміж графам Юрыем Дэтлафам Флемінгам, генералам артылерыі ВКЛ, старостай шэрашэўскім, ліпнішскім, геранёнскім, генеральным адміністратарам і дзяржаўцай сталовых уладанняў ЯКМ і Бенядыктам Яўстахіем Аляксандровічам, гарадзенскім стольнікам. Падпісаўся: "*Aleksander Bielawski Sędzia Grodzki y Koniuszy Pttu Wołkow mp*".

Род Бяляўскіх у Ваўкавыскім павеце ВКЛ паходзіў з Калішскага ваяводства Польшчы, але з-за таго, што ў Кароне існавала два рода з такім прозвішчам – адзін гербу "*Еліта*", другі – "*Зарэмба*", доўгі час іх герб быў невядомы: "*czyli ten dom jest herbu Jelita czyli Zaręba nie jest wiadomo*" [4, T.2, s.139]. Першым ў Ваўкавыскім павеце згадваецца ў 1621 г. Пракоп Бяляўскі [42, c.50]. Яго сын Адам вядомы таксама ў Ваўкавыскім павеце ў 1641 г., пры гэтым Ігнацы Капіца Мілеўскі памылкова прыпісаў яму герб "*Зарэмба*" [61, s.10]. Першым, хто амаль правільна ідэнтыфікаваў герб ваўкавыскіх Бяляўскіх як "*Ястрабец*", быў А.Банецкі [27, T.1, s.213–214].

У сваю чаргу С.Урускі ведаў Бяляўскіх гербу "*Ястрабец*" зменены, але ў якасці адметнасці ўказаў залаты ланцуг вакол тарчы, які нібыта быў нададзены Бяляўскім імператарам Святой Рымскай Імперыі (СРІ) Максіміліянам I у 1518 г. [26, T.I, s.175]. Праўда, ваўкавыскіх Бяляўскіх ён усё ж аднёс да гербу "*Зарэмба*", але адзначыў, што нашчадкам Адама быў Аляксандр Бяляўскі, ваўкавыскі чашнік у 1700 г. [26, T.I, s.178]. Займаў ён гэтую пасаду найраней з 1679 г. і паводле падымнага рэестру Ваўкавыскага павета ў 1690 і 1710 г. валодаў 2 сялянскімі дымамі ў вячыстым маёнтку Лапеніца, памёр недзе пасля 1710 г. [19, s.189; 67, s.239]. Калі апошняя дата верная, то ў 1716 г. прывілей на пасаду ваўкавыскага канюшага атрымаў нейкі іншы Аляксандр Бяляўскі, смерць якога А.Рахуба адносіць на час пасля 1728 г. [62, s.173, 186]. Магчыма, аднак, што ён ідэнтычны з Аляксандрам Бяляўскім, суддзёй гродскім і канюшым ваўкавыскім у 1738–1745 г. [9, ф.1664, воп.1, спр.270, а.1; спр.288, а.1]. Паводле падымнага рэестру Ваўкавыскага павета ў 1734 г. ён валодаў у тых жа Лапеніцах 1 дымам: "*JmP Alexander Bielawski z Łopienicy Bary... 1 [dym]*" [9, ф.1663, воп.1, спр.197, а.5 адв.; гл. С.170].

Галоўная адметнасць герба "*Ястрабец*" Аляксандра Бяляўскага, ваўкавыскага суддзі гродскага і канюшага заключалася не толькі ў размяшчэнні птушкі з пярсцёнкам у дзюбе на крыжы ў полі тарчы, але таксама ў спалучэнні птушкі з пярсцёнкам. Справа ў тым, што ў гербе "*Ястрабец*" ястраб, праўда, у кляйноце, трымаў у лапе падкову з крыжам такую ж самую, як і на тарчы [37, s.68]. У дадзеным жа выпадку птушка больш нагадвае элемент іншага гербу – "*Слепаўрона*" [37, s.147], а таму больш падобная на крука, а не на ястраба. Праўда, крук у класічным "*Слепаўроне*" падаваўся звычайна ў полі тарчы з узнятымі крыламі, а не са складзенымі, як у гербе Аляксандра Бяляўскага. Магчыма, адметны герб апошняга ўтварыўся ў выніку спалучэння дзвух гербаў – "*Ястрабца*" і "*Слепаўрона*" зменены.

# *B.*

## **(35). Васілеўскі Богуш Андрэевіч**, суддзя гродскі ваўкавыскі, 1575.



**Герб**: на тарчы клейнавы знак накшталт доўгага простага крыжа з адросткам, які выходзіць з яго правага боку і загнуты ўніз, над тарчай ініцыялы: "◦*B[ohusz] V◦[asilewski]*".

Пячатка: адб.№2, вак, 13х15 мм, в [20, ф.694, воп.4, спр.1087, т.1, а.26].

25 сакавіка 1575 г. у Ваўкавыску гродскі суд у складзе: ***Себастыян Лісавіцкі***, падстароста і Богуш Андрэевіч Васілеўскі, суддзя выдалі выпіс з кніг гродскіх двара гаспадарскага ваўкавыскага з дароўным лістом Ганны Себастыянаўны Дыбоўскай для яе мужа Войцаха Бялдоўскага. Каля пячаткі Богуш падпісаўся: "*Богуш Василевский судя кгродский волковыйский рукою власною подписал*".

В.Каяловіч не ведаў такога роду. К.Нясецкі прыпісаў Васілеўскіх у ВКЛ, у тым ліку і ў Ваўкавыскім павеце, да гербу "*Рагаля*" [4, Т.9, s.245]. Як бачым, памылкова. У канцы XVIII ст. самыя Васілеўскія ў Полацкім і Віцебскім ваяводствах, у тым ліку з Аршанскага павета, прыпісваліся яшчэ да гербу "*Астоя*" [51, s.139; 58, c.13–14]. Але гэта выклікае сумнеў, бо, напрыклад, Юзаф Васілеўскі, аршанскі гродскі пісар і дэпутат на Галоўны Трыбунал ВКЛ ад Аршанскага павета ў 1738 г. меў герб, дзе былі: "*Xiężyc, Miecz y Gwiazda*" [59, а.2 адв.]. Ён быў падобны на той, якім карыстаўся Геранім Васілеўскі, ваўкавыскі стольнік (гл. ніжэй). Усё гэта дазваляе гаварыць, што польскі герб "*Астоя*" Васілеўскіх быў вынікам натуралізацыі і паланізацыі іх уласных гербаў. З другога боку геральдыка дазваляе меркаваць аб агульным паходжанні ваўкавыскіх і полацка-віцебска-аршанскіх Васілеўскіх.

Род Васілеўскіх вядомы ў Ваўкавыскім павеце з другой паловы XVI ст. Згаданы "*Богушъ Василевски на мер.[ине], въ пан.[цери], въ пр.[илбицы], съ тар.[чей], з древомъ*" ставіўся пад ваўкавыскую харугву ў Ракаве 19 ліпеня 1565 г. [17, слп.320]. Аднак, у попісе ваўкавыскай харугвы за 1567 г. яго ўжо не было: "*Богушъ Василевский самъ дома, поведають быти его форымъ, з ыменей своихъ з Мошушина а въ Белскомъ повете изъ Шумковъ выславъ сына своего Леска и ставилъ коней 2, [в] панце.[рях], пр.[илбицах], тар.[чах], [з] древ.[ы]*" [17, слп.860]. Хто быў бацька Богуша – Андрэй – невядома. Праз год пасля попісу нейкі Васілеўскі партызаніў разам з Філонам Кмітай: "*N.Wasilowski z Kmitą wojował Moskwę w r.1568*" [4, T.9, s.245]. Родавым іх маёнкам у Ваўкавыскім павеце было Машушына ці Масушына. Шумкі ляжалі на Падляшшы. 2 чэрвеня 1569 г. менавіта з Шумкоў Богуш Андрэевіч Васілеўскі склаў прысягу каралю Жыгімонту Аўгусту і Каралеўству Польскаму, тым самым падцвердзіўшы пераход Падляшша да Польшчы [13, s.308, № 137]. Імя сына Богуша – Леско, магчыма, з'яўляецца скарочанай формай ад Аляксандр.

У 1621 г. на выправу ў Інфлянты нейкі пан N Васілеўскі, гараднічы ваўкавыскі? з Самуйлавічаў разам з князем Сямёнам Глінскім ставіў каня, а Аляксандр (Леско?) Васілеўскі з саўдзельнікамі ставіў каня па-гусарску [42, c.48–49]. У 1655 г. прысягу маскоўскаму цару склалі з Ваўкавыскага павета: "*Ян Станиславов сын Василевский… Андреян Станиславов сын Василевской… Костянтин Александров сын Василевский, Михайло Александров сын Василевский…*" [18, c.80–81, 86]. Апошнія былі сынамі згаданага вышэй Аляксандра Васілеўскага. У 1665 г. за забойства падскарбія і польнага гетмана ВКЛ Вінцэнта Аляксандра Гансеўскага быў асуджаны на інфамію нейкі Аляксандр Васілеўскі [9, ф.1663, воп.1, спр.411, а.2]. Аднак, ці належаў ён да ваўкавыскай галіны – невядома.

Напэўна, нашчадкамі Богуша Андрэеевіча Васілеўскага быў хтосьці з пазнейшых уладальнікаў Масушына. Як сведчыць "*Рэестр падымнага*" за 1690 і 1710 г. у Поразаўскай парафіі ў маёнтку Масушына валодалі 1 сялянскім дымам Міхал [Аляксандравіч?] і 1-мі сваімі Геранім, Ян і Андрэй Світка Васілеўскія. Ян Васілеўскі трымаў яшчэ 2 сялянскія дымы ў заставе ад Юрыя Караля Хадкевіча ў маёнтку Русецкаўшчызна Ліхасельцы і Бунаўшчызна ў Шыдлоўскай парафіі. 1 сялянскі дым у маёнтку Кетурыкі ў Ялоўскай парафіі меў Юры Васілеўскі [19, s.183–184, 186, 193, 201; 67, s.233–234, 236, 250]. Паводле падымнага рэестру Ваўкавыскага павета ў 1734 г. па палове дыму ў Масушыне мелі тыя ж Міхал, Геранім, Андрэй і N [Ян?, які ўжо памёр?] Васілеўскія. Палову дыму меў у Кетурыках і Юры Васілеўскі [9, ф.1663, воп.1, спр.197, а.4 адв.–5, 6; гл. С.168–169]. У 1698 г. на паспалітае рушанне пад ваўкавыскую генеральную харугву ставіўся нейкі Аляксандр Васілеўскі [64, f.n]. У 1721 г. згадваюцца сыны Яна [Станіслававіча?] Васілеўскага – Міхал, віцебскі падчашы, Андрэй, віцебскі мечны, Францішак, ваўкавыскі стражнік і Юзаф, стражнік смаленскі [32, T.13, c.9]. Апошні – Юзаф Ануфры Васілеўскі быў смаленскім стражнікам ў 1721–1722 г. [41, s.208]. Акрамя іх тамсама згадваюцца Казімер Браніслававіч, Ян, Крыштаф і Стэфан Казімеравічы Васілеўскія. Усе яны разам, што сведчыць аб іх блізкім сваяцтве, падалі ў трыбунальскія кнігі для актыкацыі стары дакумент са свайго родавага архіва – выпіс з віцебскіх земскіх судовых кніг ад 20 студзеня 1579 г., выдадзены іх продку Васілю Багданавічу, віцебскаму земскаму пісару і яго жонцы княжне Ганне Дзмітраўне Глінскай [32, T.13, c.9]. Але ці быў Васіль Багданавіч, у 1566–1581г. – пісар, у 1581–1583 г. – падсудак земскі віцебскі [100, c.53], таксама Васілеўскім – цяжка сказаць. У якіх роднасных адносінах знаходзіліся паміж сабой згаданыя Васілеўскія – невядома.

## (36). **Васілеўскі Яранім**, стольнік ваўкавыскі, 1598 г.

**Герб**: на тарчы доўгі просты крыж, справа ад яго шасціпраменная зорка, злева – месяц рагамі ў правы бок, над тарчай закратаваны гелм, на якім абруч, з абруча справа выходзіць рог аленя з чатырма адросткамі, злева – рог вала, вакол тарчы намёт з лісця, па баках кляйноту ініцыялы: "*.I[aronim]?W[asilewski].*".



Пячатка: адб.№2, вак, памеры не вызначаны, в [65, ф.694, воп.1, спр.4617, а.16 адв., фота Н.Сліж][849].

6 кастрычніка 1598 г. у Малышчыне (Гарадзенскі павет) Яранім ці Геранім Васілеўскі, ваўкавыскі стольнік, як сведка і печатар, прыклаў сваю пячатку да дароўнага ліста Аўдоцці Кандыбянкі Васілевай Малышчынскай для яе сына Якуба Васільевіча Малышчынскага на 1/3 частку маёнтка Малышчын. Падпісаўся: "*Яронимъ Василевский рукою власною тр*".

У 1601 г. Геранім Васілеўскі, стольнік ваўкавыскі згадваецца яшчэ як паборца Ваўкавыскага павета. Памёр каля 1610 г. [4, T.9, s.245, гл. таксама С.152]. Яго герб уяўляе сабой натуралізаваную форму клейнавага знаку Богуша Васілеўскага: крыж пазбавіўся адростка, але не ператварыўся яшчэ ў меч, як у Юзафа Васілеўскага, сам адростак быў трансфармаваны ў месяц, у дадатак да якога з'явілася зорка. Але найбольш цікавымі элементамі герба Гераніма Васілеўскага з'яўляюцца абруч замест шляхецкай кароны і кляйнот у выглядзе дзвух рагоў – аленя і вала. Прысутнасць апошніх дазваляе бачыць у іх кляйнот ...польскага гербу "*Рагаля*" [37, s.137]!

У 1655 г. сярод іншых Васілеўскіх прысягу маскоўскаму цару склаў з Ваўкавыскага павета: "*Матяшь Еронимов сын Василевский…*" [18, с.80]. Быў ён сынам Гераніма Васілеўскага, ваўкавыскага стольніка. Магчыма, таксама пакінуў нашчадкаў, верагодна, кагосьці з тых Васілеўскіх, што згадваюцца ў рэестрах падымнага ў 1690, 1710 і 1734 г.

## (37). **Воўк Сямён**, зямянін гаспадарскі Ваўкавыскага павета, 1591.

**Герб**: на авальным картушы клейнавы знак у выглядзе крыжастрэла вастрыём дагары, ніжні канец якога заламаны ў правы бок і ўверх, на яго ўзроўні злева адыходзіць яшчэ адная папярочка, заламаная ўніз, над картушом ініцыялы: "*S[iemion] W[ołk]*".




Пячатка: адб.№3, вак, 15x16 мм, в [9, ф.1783, воп.1, спр.3, а.3].

У 1591 г. у Конна Сямён Воўк, як сведка і пячатар, прыклаў сваю пячатку да вызнанага ліста Жыгімонта Залескага для ***Крыштафа Вольскага*** на Крамяніцы, двараніна ЯКМ, цівуна паюрскага ў справе аб абмене грунтамі. Падпісаўся: "*...Семен Волк...*".

Першым род Ваўкоў – N Ваўка, пінскага старосту, героя бітвы з татарамі пад Альшаніцамі ў 1527 г. і яго сыноў Фёдара і Мікалая, узгадаў Б.Папроцкі і аднёс яго да польскага гербу "*Трубы*" [1, s.838]. Адкуль ён узяў гэтую інфармацыю – невядома, але сярод пінскіх старостаў Ваўкі не згадваюцца [39, s.XXXVII]. Магчыма, Б.Папроцкі памыліўся, запісаўшы "*пінскі*" замест "*мінскі*". Справа ў тым, што ў 1510 г. нейкі Воўк быў наместнікам менскага старосты: "*наместник пана старостин Волкъ*" [71, слп.10]. Магчыма, ён быў памылкова залічаны ў старосты, бо менскім старостай у 1499–1525 г. з'яўляўся князь Багдан Іванавіч Заслаўскі [39, s.XXXIV]. Згаданага вышэй сына Ваўка – Мікалая – знаходзім у Жамойцкай зямлі – у 1563 г. ён быў ляснічым ЯКМ жамойцкім [71, с.153].



В.Каяловіч паўтарыў звесткі Б.Папроцкага, дадаўшы да згаданых асобаў яшчэ Матфея Ваўка, паручніка роты Філона Кміты ў 1567 г., які вызначыўся ў бітве з маскоўскім войскам на Іванскім полі [3, s.313–314; 39, s.380]. Аднак, апошні дакладна "*Трубамі*" не карыстаўся. Напрыклад, Станіслаў Дзядулевіч бачыў на яго пячатцы з 1575 г. польскі герб "*Пабог*" [10, s.357]. Аднак, і гэта выклікае сумненні. На пячатцы Матфея Фёдаравіча Ваўка, ротмістра ЯКМ у 1566 г., якога мы атаясамляем з Матфеем – партызанам Філона Кміты, герб выглядаў так: на тарчы клейнавы знак у выглядзе чатырох трохкутнікаў, пакладзеных у квадрат вяршынямі да сябе, два зверху і два знізу, злучаных паміж сабой трыма ляскамі накшталт літары "*Н*", над тарчай гелм без шляхецкай кароны, павернуты? ў правы бок, у кляйноце тры кулі 1:2, вакол тарчы намёт з лісця, над гелмам ініцыялы: "*M[atfiej] W[ołk]*"[850].

[849] Аўтар шчыра ўдзячны Наталлі Сліж за магчымасць выкарыстаць фотаздымак у гербоўніку.

[850] Пячатка была прыкладзена да вызнанага ліста князя Аляксандра Іванавіча Ліхадзееўскага ад 25 студзеня 1566 г. Фотаздымак пячаткі атрыманы намі ад Анатоля Васільевіча Чабаганава.

Быў гэта ўласны герб Матфея Ваўка. У 1582 г. ён згадваецца як гаспадарскі зямянін Наваградскай зямлі [32, Т.36, с.109].

В.Каяловіч ведаў яшчэ Ваўкоў гербаў "*Касьцеша*" і "*Вежы*", а таксама трох братоў Ваўкоў з Полацкага ваяводства: Фёдара, войта кіеўскага і лоеўскага, Крыштафа і Аляксандра, палкоўніка ЯКМ, якія карысталіся гербам "*Секеж*" зменены [3, s.101, 271, 326]. Апошняя інфармацыя падцвярджаецца тым, што згаданы Аляксандр Воўк, дворны слуга Крыштафа Радзівіла (1585–1640 г.) сапраўды меў пячатку з такім гербам [66, s.163]. Такім чынам, гербавая клейнавая выява полацкіх Ваўкоў цалкам адпавядала гербу Сямёна Ваўка, што дазваляе аднесці ваўкавыскага шляхціча да аднаго з імі роду.

Полацкі след дазваляе меркаваць, што Ваўкі былі мяшчанскага паходжання: у попісе войска ВКЛ 1528 г. у рэестры Полацкай зямлі сярод мясцовых мяшчанаў згадваецца "*Иван Волкъ кон[ь]*" [16, с.155]. Цікава, што К.Нясецкі ўсіх гэтых Ваўкоў аднёс да гербу "*Касьцеша*", чым канчаткова заблытаў сітуацыю [4, Т.9, s.410]. Наталля Якавенка сцвярджае, што Фёдар, стаўшы кіеўскім войтам, перанёсся на Украіну і яго сыну Максіму, ужо мяшчаніну ў 1616 г. было нададзена шляхецтва і новы герб "*Вежы*" [55, с.56]. Апошні, паводле В.Каяловіча выглядаў так: "*Павінны быць у чырвоным полі дзве спічастыя белыя вежы, у кляйноце тры пёры стравуса*" [3, s.325]. Паводле Барбары Трэліньскай ён замяніў уласны герб Максіма Ваўка, які яна назвала "*Воўк*" [63, s.282]. Верагодна, меўся на ўвазе або "*Секеж*" зменены, або падобны на той, які быў у Матфея Ваўка. Трэба адзначыць, што Максім Воўк не быў мяшчанінам, як хоча Н.Якавенка, а ротмістрам ЯКМ, які вызначыўся пад Смаленскам. За вайсковыя заслугі ён і атрымаў "*pro armis et stemmate duabus turribus acuminatis*" [2, Т.3, f.359]. Яго сынам В.Каяловіч называе Канстанціна Максімавіча Ваўка, які паводле той жа Н.Якавенкі з'яўляўся пісарам Запарожскага войска [3, s.326; 55, с.56]. На сойме 1629 (1638) г. яму быў падцверджаны прывілей, атрыманы бацькам, або, як пісаў Ш.Акольскі: "*approbatur Priuilegiu indigenatus Constantini Wołk*" [2, Т.3, f.360; 3, s.326]. Б.Трэліньская памылкова назвала яго Волэкам і аднесла набілітацыю Канстанціна на 1639 г. [63, s.298]. Калі ўсіх згаданых Ваўкоў сапраўды аб'ядноўвала агульнае паходжанне, то ім была ўласціва такая з'ява, як шматгербавасць або выкарыстанне адразу некалькіх гербаў: уласнага ("*Секеж*" зменены ці "*Воўк*"), ганаровага ("*Вежы*") і, відаць, польскага "*Пабога*". Што дытычыць "*Трубаў*" і "*Касцешы*", то іх ужыванне прадстаўнікамі роду пакуль не падцвярджаецца наяўнымі крыніцамі.

У Ваўкавыскім павеце род Ваўкоў вядомы з другой паловы XVI ст. У ваўкавыскай харугве 1565 г. згадваецца: "*Федоръ Василевичъ Волькъ 3 кони. 2 кони въ пан.[церях], въ пр.[илбицах], съ таръ.[чами], з древы, а трети въ кафъ.[тане] з сагадакомъ*" [17, слп.322]. Магчыма, ён ідэнтычны з Фёдарам, сынам N Ваўка. У такім выпадку апошняга звалі Васіль. Фёдар Воўк меў у 1587 г. маёнткі Шапялевічы і Пціч у Менскім павеце. Жонка яго Багдана N [32, Т.36, с.89, 348, 349]. Жыў у Менскім павеце яшчэ ў 1595 г. [32, Т.31, с.225]. Сынамі Фёдара Васільевіча былі Грыгоры Фёдаравіч Воўк, які ў 1590 г. трымаў у заставе ад Коцелаў маёнтак Княгінін у Ашмянскім павеце і Крыштаф Фёдаравіч Воўк, у 1595 г. зямянін гаспадарскі менскі [93, с.135; 32, Т.31, с.223].



Герб "*Вежы*"
паводле гербоўніка
Вацлава Патоцкага,
Кракаў, 1696 г.
[73, s.631].

На попіс войска ВКЛ у 1567 г. пад ваўкавыскай харугвай запісаўся "*Семенъ Волкъ з ыменья Занковского конь 1, [в] панце.[ри], шишакъ, аркабу.[з], рогати.[на]*" [39, слп.866]. У 1577–1587 г. ён з'яўляўся ваўкавыскім гродскім пісарам [9, ф.1783, воп.1, спр.6, а.1; ф.1664, воп.1, спр.664, а.2; 70, с.104; 77, s.247]. Быў ён родным братам Фёдара Васільевіча Ваўка, а таксама сясцёр Паланеі і Марфы [32, Т.36, с.347–349]. Пакінуў сына Дзмітра Сямёнавіча Ваўка, які ў якасці сведкі згадваецца ў розных дакументах за 1619–1636 г. Падпісваўся па-польску: "*Dmitr Wołk ręką swą*" ці "*Dmitro Wołk*" [9, ф.1664, воп.1, спр.321, а.2; спр.327, а.1; ф.1783, воп.1, спр.11, а.1; 21, КП 15111, а.3 адв.]. 5 лютага 1630 г. ён разам з жонкай Зоф'яй Дзеватчанкай пазычыў 10 копаў літоўскіх грошаў у ***Андрэя Адамовіча***: падпісаўся: "*Dmitr Wołk ręką swą*", пячатка не захавалася. Аддаць грошы ў тэрмін не змог, таму паводле выраку ваўкавыскага гродскага суда ад 7 студзеня 1632 г. яму з жонкай быў прысуджаны штраф у памеры 33 капы і 4 грошы "*на имению их Седельникох*" [9, ф.1664, воп.1, спр.664, а.1–3].

Менавіта з Сядзельнікаў у 1621 г. на выправу ў Інфлянты нейкі Мікалай Воўк ставіў каня па-пяцігорску [42, с.49]. Кім ён прыходзіўся Дзмітру – цяжка сказаць, магчыма – сынам. 5 лютага 1635 г. ён пазычыў у ***Андрэя Адамовіча*** на свае патрэбы "*sjarki srebrney złocistey*", падпісаўся па-польску "*Mikołay Wołk ręką własną*". Памёр да 1642 г., бо ў гэты год 5 копаў грошаў літоўскіх пазычыла у таго ж ***Андрэя Адамовіча*** яго жонка Палонія Антановіч [9, ф.1664, воп.1, спр.348, а.5–6]. Магчыма, гэта яго згадваў В.Каяловіч пад гербам "*Вежы*": "*Mikołay Wołk*" [3, s.326].

У 1655 г. прысягнуў маскоўскаму цару з Ваўкавыскага павета нейкі "*Александр Шепелевич Волк*" [18, с.80]. Магчыма, ён быў нашчадкам Фёдара Васільевіча Ваўка і ад маёнтка Шапялевічы ўзяў сабе прыдомак да прозвішча. Пра Аляксандра вядома яшчэ толькі тое, што ён у 1645 г. быў дэпутатам на Галоўны Трыбунал ВКЛ але не ад Ваўкавыскага, а ад Рэчыцкага павета [69, s.250]. У канцы XVII–пачатку XVIII ст. паступова Ваўкі знікаюць з Ваўкавыскага павета. Паводле падымнага рэестру 1690 г. Адам Воўк яшчэ валодаў 1 сялянскім дымам у застаўным ад Мікалая Сухадольскага маёнтку Пятроўшчызна ў

Межырэчскай парафіі [19, s.178]. Ён жа зафіксаваны ў падымным рэестры 1710 г. [67, s.230]. Але ў такім жа самым рэестры за 1734 г. яго ўжо няма [9, ф.1663, воп.1, спр.197].

У 1686 г. нейкі Пётр Воўк, які пісаўся "*з Ланевічаў*", з жонкай Зоф'яй Пакаслаўскай прызналі свой вячысты зрачоны квіт на фальварак Селяўшчызна Самуэлю і Генрыку Дамаслаўскім. Падпісаўся: "*Piotr z Łaniewicz Wołk ręką swą*" [9, ф.1663, воп.1, спр.561, а.1–1 адв.]. У 1688 г. як менскі падкаморы ён падпісаўся ў Асташыне на квітацыйным лісце Станіслава з Лабішына Пакаслаўскага, сандамірскага мечніка: "*Piotr Wołk Podk. Minmp*" [9, ф.1664, воп.1, спр.484, а.5–6]. У 1689–1690 г. Пётр Воўк судзіўся з закрачымскім войскім Станіславам Янам Млоцкім па справе аб маёнтку Палонка ў Ваўкавыскім павеце [68, КП 1000/214, спр.1354, а.1; КП 1000/215, спр.1359, а.1; КП 1000/237, спр.1361, а.1; КП 1000/243, спр.1375, а.1]. Справа была доўгай, бо яшчэ ў 1691 г. Пётр Воўк з жонкай Зоф'яй Пакаслаўскай скардзіўся ў ваўкавыскі гродскі суд на таго ж Станіслава Яна Млоцкага, яго жонку Крысціну Янаўну Трызнянку, ваўкавыскую старосціну, N Русецкага, кашталяніча Менскага ваяводства, яго жонку Ганну Янаўну Трызнянку, удаву па Генрыку Райскім, Пятра Пякарскага, мечніка Берасцейскага ваяводства і айца Ўладзіслава Сушыцкага [9, ф.1664, воп.1, спр.511, а.1]. У 1690 г. Пётр Ланеўскі Воўк згадваецца ўжо як мсціслаўскі падстолі, меў 23 дымы ў сваім вячыстым маёнтку Нача і 46 дымоў – у застаўным маёнтку Краеўшчызна. У 1704 г. – наваградскі стольнік, памёр пасля 1720 г. [19, s.62]. З Зоф'яй Пакаслаўскай пакінуў сем дзяцей: Стэфана Караля, Марыю, Галену, другую Марыю, Рэгіну, Даніэля і Ўладзіслава Гедэона [92, s.323–324].

## (38). **Віскоўскі Андрэй**, зямянін гаспадарскі Ваўкавыскага павета, 1611.

**Герб**: на картушовай тарчы клейнавы знак накшталт чатырох гакаў злучаных парамі наўскос так, што іх канцы ўтвараюць ромб, над тарчай ініцыялы: "*A[ndrzej]:V[iskowski]*".




Пячатка: адб.№2, вак, 13х15 мм, к [9, ф.1664, воп.1, спр.658, а.2 адв.].

18 студзеня 1611 г. у Манцяках Андрэй Віскоўскі, як сведка і пячатар, прыклаў сваю пячатку да вызнанага ліста ***Станіслава Пукшты Кляўзгеловіча*** для Станіслава Манькоўскага і яго жонкі ***Ядзвігі Мацеяўны Андрэйковіч*** у справе аб абмене грунтамі. Падпісаўся: "*andrzy wiskowsky reką swą*".

В.Каяловіч не ведаў такога роду і яго гербу. Нічога не мог паведаміць пра Віскоўскіх і К.Нясецкі.

У Ваўкавыскім павеце род Віскоўскіх фіксуецца з другой паловы XVI ст. У попіс ваўкавыскай харугвы 7 кастрычніка 1567 г. быў упісаны: "*Григорей Висковский з ыменя своего з дворца Волчковского, а з дворца Немъчиновского, у повете Волковыйскомъ лежачихъ, выслалъ слугу на имя Яна Ленца, конь 1, [в] панце.[ри], прил.[бицы], [з] тар.[чей], древ.[ом], а сам служить пану Троцкому*" [17, слп.862]. Троцкім панам ці кашталянам быў на той час Юры Аляксандравіч Хадкевіч [78, s.126]. Невядома кім Грыгоры прыходзіўся Андрэю Віскоўскаму. Пра апошняга, акрамя таго, што ён карыстаўся ўласным гербам, няма больш ніякай інфармацыі.

## (39). **Віславух Юры***, зямянін гаспадарскі Ваўкавыскага павета, 1602.

**Герб**: на тарчы выява накшталт перавернутай лацінскай літары "*S*" з крыжам наверсе, па баках крыжа дзве коскі ("*Быліна*" зменeная), над тарчай ініцыялы: "*SV?Г*".



Пячатка: адб.№3, вак, 15х17 мм, д [9, ф.1783, воп.1, спр.8, а.8].

Юры Віславух, як сведка і пячатар, прыклаў такую пячатку да застаўнага ліста 1602 г. ***Мікалая Янавіча Шэмета*** і яго жонкі ***Барбары Шыманаўны Калусоўскай*** для Карпа Забагонскага. Падпісаўся: "*...Yrzy Wysłouch...*".

Паводле В.Каяловіча род Віславухаў з Берасцейскага ваяводства і Аршанскага павета карыстаўся ўласным гербам, які ён назваў "*Адынец*" зменены [3, s.188]. Да "*Адынца*" без усялякіх зменаў аднёс Віславухаў К.Нясецкі [4, Т.9, s.345]. Тое, што ў XVIII ст. берасцейскія Віславухі карысталіся гербам "*Адынец*" зменены падцвярджае сфрагістычны матэрыял [74, с.55–56]. Аднак, ваўкавыскія Віславухі і іх герб у гербоўніках не згадваюцца.

Віславухі – старажытны ваўкавыскі баярскі род. Першая згадка іх у Ваўкавыскім павеце паходзіць з другой паловы XV ст. Паводле судовага выраку ваўкавыскага намесніка Івашкі Ілініча ім быў прызначаны ўвязчым нейкі Віславух: "*увязчого ... дальъ Выслоуха*" [72, № 193, с.74]. Як удалося высветліць, Івашка Ілініч намеснічаў у Ваўкавыску ў 1470–1473 г. (гл. С.177). Згаданы Віславух пакінуў даволі шматлікіх нашчадкаў. У 1514 г. сярод дваранаў ЯКМ быў запісаны Кміта Віславухавіч [79, с.27]. У 1521 г. згадваюцца ваўкавыскія гаспадарскія баяры Іван і Федзька Віславухавічы. Апошні спачатку быў служэбнікам Яна Мікалаевіча Радзівіла, а потым – у 1537 г. – дваранінам ЯКМ [71, слп.1503, 1510; 75, с.94]. У попісу войска ВКЛ 1528 г. пад ваўкавыскай харугвай акрамя згаданых Івана і Фёдара Віславухавічаў, якія ставілі па 1 вершніку, згадваюцца: "*Марътинъ Вислоуховичъ конь*" і "*Богданъ Вислоуховичъ самъ*" [16, с.97]. Як можна меркаваць, Марцін меў сына таксама Марціна Віславухавіча, двараніна ЯКМ у 1530 г., які пакінуў дзвух сыноў – Івашку і Міхайлу (згадваюцца ў 1537 г.) [39, s.367]. Роднымі братамі апошніх былі яшчэ Славута, Ляцко і Ждан Марцінавічы, якія ўсе разам у тым жа 1537 г. судзіліся з жонкай ужо памерлага на той час

Ждана – Ядзвігай М(і)неўскай [75, с.93]. Міхайла Марцінавіч меў сына Барталамея, які згадваецца ў попісу войска ВКЛ 1567 г.: "*Болтромей Михайловичъ Вислоухъ з Рогозницы меринъ, каф.[тан], рогати.[на], секир.[ка]*" [17, слп.859].

У сваю чаргу Іван Віславухавіч меў сына Багдана, з якім ён разам судзіўся з князем Глінскім у 1530 г. [39, s.367]. Багдан Іванавіч, відаць, ідэнтычны з Багданам Віславухавічам, які самастойна ставіўся на попіс 1528 г. У 1540 г. ён быў віжом ад ураду ваўкавыскага гаспадарскага двара [76, с.75]. Дачкой Івана Віславухавіча была Людміна Іванаўна Віславухаўна, жонка гарадзенскага шляхціча Андрэя Кімбара ў 1566 г. [20, ф.1755, воп.1, спр.3, а.56, 60 адв.].

Федар (Федзька) Віславухавіч, дваранін ЯКМ не дажыў да 1565 г., бо на попіс войска ВКЛ ад яго жонкі Ганны Гаўрыла Віславух ставіў пахолка ў кафтане з ашчэпам на кані [17, слп.324]. Сынам Фёдара быў запісаны пад ваўкавыскай харугвай у 1567 г. Фядута Фёдаравіч Віславух з Рагозніцы [17, слп.859].

Згаданы Гаўрыла Віславух называе Ганну Фёдараву Віславухаву сваёй "*дзядінай*", што можна разумець як жонку роднага брата яго бацькі. Нам вядомы адзін родны брат Фёдара – згаданы вышэй Іван Віславухавіч. Верагодна, Гаўрыла быў яго сынам і братам Багдана, ваўкавыскага віжа ў 1540 г. і Людміны Кімбаравай. Тое, што ў яго былі браты сведчыць стаўленне вершніка на попіс 1565 г. "*з чаргі*". У 1567 г. Гаўрыла зноў згаданы ў попісу: "*Гаврилъ Вислоухъ з Рогозници конь, панце.[р], прил.[бица], согой.[дак], оргати.[на]*" [17, слп.858–859]. Выглядае на тое, што родавым гняздом Віславухаў у Ваўкавыскім павеце была Рагозніца. З яе ў 1567 г. ставіўся ў кафтане, прылбіцы, з рагацінай на мерыне яшчэ Свяціцкі Віславух [17, слп.859]. Ён жа разам з Гаўрылам і Паўлам Віславухамі зафіксаваны пад ваўкавыскай харугвай і ў 1565 г. [17, слп.323–324]. Разам з тым, у 1567 г. нейкі Мікалай Якубавіч Віславух ставіўся з маёнтку Кінтаўтовічы [17, слп.858].

Далейшы радавод Віславухаў патрабуе спецыяльнага даследавання. Як відаць з папярэдняга матэрыялу ў XVI ст. род значна разросся. Юры Віславух пакуль ніяк са згаданымі Віславухамі не звязваецца. Контраверсіі будзяць ініцыялы на пячатцы, каля якой ён падпісаўся ў 1602 г. Калі паміж ініцыяламі "*S*" і "*I*" стаіць літара "*V*", то цалкам магчыма, што Юры Віславух прыклаў сваю ўласную пячатку, а не нейкага "*прыяцеля*" SI. Тады ініцыялы могуць чытацца злева направа так: "*Ierzy Vislouch Swiecicki*", а Юры з'яўляецца сынам Свяціцкага Віславуха з попісаў 1565 і 1567 г.

Герб, змешчаны на пячатцы, не адпавядае той геральдычнай традыцыі берасцейска-аршанскіх Віславухаў, якая зафіксавана ў гербоўніках XVII–XVIII ст. Ён з'яўляецца адметным варыянтам польскага герба "*Быліна*" [83, s.201–202]. Апошні вядомы ў ВКЛ з часоў Гарадзельскай уніі 1413 г. [80, s.139]. Магчыма, ва ўмовах шматгербавасці Юры Віславух карыстаўся зменянай польскай "*Былінай*". Нашчадкі яго невядомыя.

## (40). Война Грыгоры Матфеевіч Грычынавіч, суддзя земскі Ваўкавыскага павета, 1586.

**Герб**: тарча падзелена на чатыры часткі: у 1-ай тры трубы, складзеныя ў вехер ("*Трубы*"), у 2-ой – тры ўрубы ("*Карчак*"), у 3-яй – нахіленая ўправа пентаграма, у 4-ай – лілія, раздзертая ўнізе ў котвіцу, над тарчай ініцыялы: "*H[ryhory] W[ojna]*".




Пячатка: адб.№1, вак, 14x16 мм, д [9, ф.1783, воп.1, спр.6, а.10 адв.; ф.1664, воп.1, спр.580, а.1 адв. (1589 г.)].

3 чэрвеня 1586 г. у Ваўкавыску Грыгоры Война, суддзя, ***Ленарт Узлоўскі***, падсудак, ***Ян Багданавіч Углік***, пісар – ураднікі земскія Ваўкавыскага павета – выдалі пад сваімі пячаткамі выпіс з кніг спраў судовых земскіх па справе Жыгімонта Пятровіча Залескага з ***Крыштафам Мікалаевічам Вольскім***, падстоліям ВКЛ.

Б.Пароцкі род Войнаў адносіў да гербу "*Карчак*" і выводзіў са Смаленскай зямлі, адкуль ён быццам бы выехаў у часы Казімера Ягайлавіча з-за войнаў з Вялікім княствам Маскоўскім. Пачынальнікам Войнаў у ВКЛ ён лічыў Матфея Грычына, які меў дзвух сыноў: Кердзея, ротмістра і Войну, падкаморыя пінскага і старосту ожскага. Уласна кажучы ад Войны Матфеевіча Грычыновіча і пайшоў род Войнаў, бо імя бацькі захавалі ў якасці прозвішча яго сыны. Б.Папроцкі ведаў Лаўрына Войну, падскарбія ВКЛ і трох яго братоў: N, старосту палангоўскага, N, ротмістра і N, троцкага пробашча [1, s.851–852]. На самой справе іх было шэсць: ксёндз Бенедыкт, пробашч троцкі, віленскі біскуп, Габрыэль ці Гаўрыла, пісар, пасля падканцлер ВКЛ, Лаўрын ці Ваўжынец, падскарбі ВКЛ, староста пінскі, Сямён, мсціслаўскі кашталян, Грыгоры, берасцейкі кашталян, Сокал, менскі, пазней берасцейскі кашталян і карысталіся яны, паводле В.Каяловіча, польскім гербам "*Трубы*" [3, s.312–313].

К.Нясецкі адносіў Войнаў таксама да "*Трубаў*", але не быў добра ў гэтым упэўнены, бо запісаў пад Грычынамі Войнамі, што яны карысталіся гербам "*Карчак*": "*że się tym herbem niektórzy z nich w księstwie Litewskiem pieczętują, miałem pewną relacyą*" [4, T.4, s.388; T.9, s.433]. Ад каго была атрымана такая інфармацыя, К.Нясецкі не ўдакладніў. Затое, ён змясціў цікавае родавае паданне, што "*gdy Erdywił z Litewskim wojskiem wpadł w Ruskie kraje, trzey Woynowie Ruskich obywatelów, przeciwko niemu nie tylko pobudzili, ale i mężnie go z niemi wojowali. Między Prypeciem i Pinem rzekami mieli kiedyś przodkowie ich*

*obszerną fortunę*” [4, T.9, s.433]. Паводле гэтай інфармацыі, арыгінальна ўплеценай ў афіцыйную гісторыю ВКЛ, радзімай Войнаў быў Пінскі павет і былі яны русінамі. Сапраўды, попіс войска ВКЛ 1528 г. сярод пінскіх баяраў фіксуе ўдаву Матфея Грычына ці Грычынавіча і яго сыноў: Кірдзея, Івана і Войну. Згаданы тамсама Гаўрыла Грычынавіч, магчыма, быў іх дзядзькам [16, с.151]. Высвятляецца таксама, што бацька братоў Матфей атрымаў пэўныя землі ў Пінскім павеце ад княжны Марыі Сямёнавай і князя Фёдара Яраславіча, а ў 1524 г. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары падцвердзіў яму гэтыя наданні [39, s.94].

Ці памыліўся з іх родавым гербам Б.Папроцкі? Памыліцца можна было лёгка, тым больш, што ён карыстаўся інфармацыяй пра Войнаў не з першых рук (адсюль непоўны радавод і адсутнасць імёнаў у родных братоў больш вядомага і ўплывовага ў ВКЛ падскарбія Лаўрына Войны). Але, выглядае на тое, што Б.Папроцкі проста дакладна падаў герб роду з вядомага яму падскарбінскага лічмана 1577 г. На апошнім быў змешчаны складаны чатырохчастковы герб Лаўрына Войны, дзе памылкова ў 1-м полі былі тры ўрубы (“*Карчак*”), у 2-м – тры паляўнічыя трубы, складзеныя ў вехер (“*Трубы*”), у 3-м – нахіленая ўправа пентаграма, у 4-м – увеньчаныя ліліяй дзве простападныя ляскі, заламаныя накшталт трохкутнікаў уверх наўскос налева і направа, злучаныя паміж сабой паземнай ляскай [81, s.26, № 47]. Паводле правілаў складання такіх шматчастковых гербавых кампазіцыяў родавы герб змяшчаўся ў першым полі. Відаць, іншых крыніц пра герб Войнаў Б.Папроцкі не меў, бо тады б ведаў, што той жа Лаўрын Война на сваіх пячатках выкарыстоўваў герб “*Трубы*” [5, с.82, № 154; 82, с.55].

У Ваўкавыскім павеце Войны з’яўляюцца ў другой палове XVI ст. Першым быў Грыгоры Война Матфеевіч Грычынавіч, ротмістр ЯКМ у 1565–1568 г., дваранін ЯКМ і дзяржаўца радашковіцкі ў 1569 г., войскі гарадзенскі з 1576 г., ваўкавыскі земскі суддзя ў 1578–1593 г., берасцейскі кашталян у 1593–1605 г. [78, s.349; 84, p.94–95; 85, p.50; 86, c.175; гл. С.147]. З’явіўся ён тут дзякуючы шлюбу з Раінай Мацееўнай Клачкоўнай Падароскай, атрымаўшы па ёй ¼ частку мястэчка Межырэчы: дом на Рынку, Карбатоўскую стадолу каля дарогі з Ваўкавыску на Слонім, а таксама пляцы з мяшчанамі на вуліцах Славацічоўскай, Крывой і Слонімскай, а таксама ¼ частку мястэчка Лыскава [9, ф.1664, воп.1, спр.572, а.2; спр.576, а.1; спр.782, а.1–3]. Паводле К.Нясецкага Грыгоры Война мусіў загінуць пад час штурму Полацка ў 1579 г. на вачах караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя: “*odważnie nacierając poległ kulą postrzelony*” [4, T.9, s.437]. Аднак, гэта не адпавядае праўдзе. К.Нясецкі па-просту не зразумеў інфармацыю В.Каяловіча: “*Hrehory Woyna kasztel[an] Brzeski z postrzału pod Połockiem odniesionego vmarł*” [3, s.313]. З яе вынікае, што Грыгоры Война памёр ад раны, атрыманай пры штурме Полацка, але адбылося гэта значна пазней – у 1605 г. Пакінуў сына Філіпа Грыгоравіча Войніча і дачок [9, ф.1664, воп.1, спр.576, а.1]. Відаць, сын Грыгора Войны памёр маладым, бо больш пра яго няма звестак. Што да дачок, то адной з іх была ***Багдана Грыгораўна Война***, жонка ***Мікалая Вольскага***. Другая N была жонкай вядомага паэта XVI-XVII ст. Яна Пратасовіча, а трэцяя – Марыя – жонкай Яна Калантая [102, с.117, 119].

Складаны чатырохчастковы герб Грыгорыя Войны быў падобны на апісаны вышэй герб Лаўрына, але ў 4-м полі выява была пададзена па іншаму: лілія была раздзерта ўнізе ў котвіцу. Выглядае на тое, што герб бабкі па маці выклікаў у братоў нейкія сумненні. Нічога не можам сказаць, акрамя родавых “*Трубаў*” у 1-м полі, і пра прыналежнасць гербавых выяў у іншых частках складанага герба Грыгорыя Войны. У 2-м полі “*Карчак*” павінен быў належаць яго маці. Жонка Войны Матфеевіча Грычынавіча нам не вядома. У 3-м полі выява пентаграмы павінна была належаць бабцы па бацьку ці жонцы Матфея Грычыны. Вядома толькі яе імя – Марына [39, s.94], але з якога яна паходзіла роду – няма звестак. Тое ж можна сказаць і пра герб бабкі па маці ў 4-м полі. Радавод Войнаў патрабуе далейшага глыбокага вывучэння.

## (41). Война Багдана Грыгораўна, берасцейская кашталянка, 1605.

**Герб**: на картушовай тарчы тры трубы з матузкамі складзены ў вехер (“*Трубы*”), над тарчай гелм з каронай, у кляйноце тры пёры стравуса, па баках кляйноту ініцыялы: “*B[ohdana] W[ojna]*”.




Пячатка: адб.№1, вак, 12x16 мм, в [21, КП б/н, а.1].

13 ліпеня 1605 г. у Крамяніцы Багдана Грыгораўна Война выдала вызнаны ліст свайму мужу ***Мікалаю Вольскаму*** на Крамяніцы з адмовай ад 20 000 залатых польскіх, запісаных ёй у якасці вена на яго маёнтку Даўспуда ў Гарадзенскім павеце. Падпісалася: “*Bohdana woynianka mikołaiowa wolska Ręką swą*”. Сярод сведкаў былі: падкаморы лідскі і староста вількійскі Аляксандр Палубінскі, зямяне Ваўкавыскага павета ***Крыспін Левальт Язерскі*** і ***Марцін Яраслаў Роскі***.

Дачка ***Грыгорыя Войны***, ваўкавыскага земскага суддзі і берасцейскага кашталяна. 28 мая 1598 г. згадваецца яшчэ як панна [9, ф.1664, воп.1, спр.576, а.1]. Шлюб з Мікалаем Вольскім адбыўся ў 1604 г. [21, КП б/н, а.1]. Перайшла ў каталіцтва, змяніўшы імя на Барбара. Разам з мужам фундавала ў 1619–1620 г. у маёнтку Крамяніца Ваўкавыскага павета першы ў ВКЛ касцёл і кляштар канонікаў рэгулярных Святога Аўгусціна з Латэрану. У 1619 г. быў закладзены першы камень, у 1629 г. ужо існаваў мураваны касцёл, але яго кансэкрацыя адбылася толькі ў 1657 г. Кляштар спачатку драўляны быў змураваны да 1646 г. [87, s.120–123]. У касцёле захавалася пахавальная пліта Барбары (Багданы Грыгораўны) Войны з надпісам: “*ILL. D.*

*BarBara WOINIANKA WOLSKA CaSTELL[ANEA] WITEBSCEN[sis] OBIIT ANNO D: MDCXXIII MAII DIE 17 AETATIS SUAE 40*" – "*Найяснейшая Пані Барбара Вайнянка Вольская, кашталянка віцебская, памерла году Божага 1623, дня 17 мая ва ўзросце 40 год*" [87, s.119]. У такім выпадку нарадзілася Багдана ў 1583 г. На пліце, якая датуецца 30-мі г. XVII ст., быў выбіты яе складаны герб: тарча падзелена на чатыры часткі, у 1-ай тры трубы, складзеныя ў вехер (родавыя ці бацькоўскія "*Трубы*"), у 2-ой – дуга канцамі ўніз са стралой наверсе ("*Агоньчык*" маці Раіны Клочкі Падароскай), у 3-яй – тры ўрубы ("*Карчак*" невядомай бабкі па бацьку), у 4-ай – леў, які ідзе (бабкі па маці), над тарчай гелм з каронай, у кляйноце выходзіць палова льва [23, с.163]. Праблема, аднак у тым, што бабкай Багданы Войны па маці лічыцца Кацярына Станіславаўна Глябовіч, ваявадзянка полоцкая, а Глябовічы карысталіся гербам "*Ляліва*" [3, s.134; 39, s.131]. Кляйнот з паловай льва адносіўся да герба са львом, бо "*Трубам*" Войнаў адпавядалі пёры стравуса, пра што сведчыць не толькі пячатка Багданы Войны 1605 г., але і пячаткі іншых прадстаўнікоў роду ў другой палове XVI–другой палове XVII ст. [5, № 157–159, с.83; 91, № 79–84, с.23–25]. Замена ў кляйноце пёраў на палову ўзнятага льва сведчыць аб жаданні сына Багданы Казімера Станіслава Вольскага надаць большую вагу гербу са львом у 4-й частцы. Магчыма, ён такім чынам хацеў падкрэсліць сувязь свайго роду з Гедымінавічамі – князямі Яўнутавічамі Заслаўскімі, якія былі пароднены з Глябовічамі [101, с.33].

Адзначым цікавы факт. У 1621 г. у Кракаве Станіслаў Германьскі выдаў "*Сумарыюш кляйнотаў або гербаў дзяржавы і рыцарства Кароны Польскай і ВКЛ*" [88]. Кніга ўяўляла сабой кампілятыўны гербоўнік з працаў Я.Бельскага і Б.Папроцкага, а таксама рукапісаў Станіслава Серафіна Ягадыньскага, багата аздоблены гравюрамі гербаў [90, s.23]. Фундатарам выдання выступіў нейкі Павел Война, дваранін ЯКМ, якому аўтар прысвяціў прадмову і змясціў яго герб з вершам "*Na przezacny Kleynot Starosławnego Domu Jch M. PP. WOYNOM*":

"*Y na woyne nie lękliwe*
*A y doma są krzykliwe,*
*Trąby domu WOYNINEGO*
*Trąby glosu tro[i]stego*
*Gdzi[e] się z tymi Cnota Sławi*
*Tam muzyke sławno sprawi*" [88, f.A].

Відавочна, што галоўным матывам вершу было жаданне аўтара падкрэсліць старажытнасць і славутасць роду Войнаў, а таксама даказаць іх прыналежнасць да польскага герба "*Трубы*". Ні першае, ні другое не адпавядала праўдзе, бо пра існаванне такога роду можна гаварыць толькі з другой паловы XVI ст., а іх герб "*Трубы*" быў вынікам натуралізацыі і паланізацыі гербавай выявы Войны Матфеевіча Грычыновіча [89, с.252–253]. Відавочны таксама геральдычны інтарэс фундатара – кніга выпраўляла памылку Б.Папроцкага аб гербе "*Карчак*" Войнаў і канчаткова замацоўвала за імі "*Трубы*".

## (42). **Вольскі Крыштаф Мікалаевіч на Крамяніцы**, падстолі ВКЛ, цівун паюрскі ў Жамойцкай зямлі, 1597.

**Герб**: на тарчы галава казы, над тарчай два гелмы з каронамі, у кляйноце правага лебедзь, скіраваны ўлева, у кляйноце левага – пёры ("*Палукоз*" зменены), вакол тарчы намёт, з бакоў кляйнотаў ініцыялы: "*K[rzysztof] W[olski]*".



Пячатка: адб.№1, вак, 15x16 мм, д [21, КП б/н, а.2].

12 чэрвеня ў Крамяніцы Крыштаф Мікалаевіч Вольскі на Крамяніцы выдаў дароўны ліст сваёй жонцы Барбары Янаўне Лявон, падкамаранцы віленскай, старасцянцы дынамонтскай і новамлынскай на ўсе свае маёнткі: двор Крамяніцу з фальваркамі Князікаўшчызна і Марціновічы, Рагозніцу, Юхновічы і Малую Крамяніцу. Падпісаўся: "*Krzystoff Wolsky Ręką własną*". Сярод сведкаў згадваюцца: пісар гродскі ваўкавыскі ***Станіслаў Пятрашэўскі***, ***Крыштаф Алендскі*** і ***Станіслаў Хойніцкі***.

Род Вольскіх гербу "*Палукоз*" быў мазавецкага паходжання – з Гавартовай Волі ў Раўскім ваяводстве. Пазней пісаліся "*з Падгайцаў*" – замку ў Галіцкай зямлі [4, T.9, s.405]. Пачаў гэтую традыцыю першы ўладальнік (з 1534 г.) Падгайцаў – Мікалай Вольскі, спярша харужы (1505 г.), пасля кашталян сахачэўскі (1506 г.) і судамірскі (1541 г.), удзельнік бітвы пад Воршай 1514 г., охмістр двара каралевы Боны Сфорцы ў 1518 г., памерлы 18 мая 1548 г. Лічаць, што з жонкай Ганнай Глінкай, з якой узяў шлюб у 1521 г., ён пакінуў тры сыны: Станіслава, Мікалая і Жыгімонта [95, s.211–215]. Але ці было іх толькі тры? У 1541 г. сам Мікалай Вольскі, на той час кашталян судамірскі, охмістр ЯеКМ, староста саноцкі, лянцкароньскі, ломжынскі і візненскі ўзгадваў яшчэ аднаго свайго сына, відаць, самага малодшага – Яна, які быў заручаны з паннай Ганнай, дачкой Мікалая Юр'евіча Забярэзінскага [97, p.110].

Паводле К.Нясецкага, Жыгімонт Вольскі з Барбарай Глябовіч, віленскай ваявадзянкай меў сына Мікалая, віцебскага кашталяна, уладальніка Крамяніцы ў Ваўкавыскім павеце, а той сына Казімера, ад якога: "*w księstwie Litewskim rozplenieni Wolscy Półkozicowie*" [4, T.9, s.407–408]. Той жа К.Нясецкі засведчыў, што Жыгімонт Вольскі, чэрскі кашталян у 1569 г. падпісаў каралеўскі ліст па далучэнню Падляшша да Кароны Польскай [4, T.9, s.407]. На самой справе ён падпісаў акт Люблінскай уніі 1569 г. з боку Кароны. Яго гербавую пячатку апісаў У.Сэмковіч: на тарчы герб "*Палукоз*", над тарчай два кляйноты, у

адным тры пёры, у другім палова ўзнятай казы, па баках кляйноту ініцыялы “*S*|*W*” (17x20 мм) [13, № 148, s.333]. У 1573 г. ён згадваецца як судамірскі кашталян, староста варшаўскі [95, s.216]. Ці быў ён, аднак, заснавальнікам галіны Вольскіх у ВКЛ?

Супраць радаводу, прадстаўленага К.Нясецкім, сведчыць імя па бацьку ***Мікалая Крыштафавіча Вольскага***, кашталяна віцебскага ў 1615–1621 г. (гл. С.143). Спроба Ю.Вольфа звязаць яго з Жыгімонтам ці Зыгмунтам, судамірскім кашталянам праз даданне патраніміку “*Зыгмунтовіч*” не вытрымлівае крытыкі. Акрамя таго, у Ваўкавыскім павеце ВКЛ Вольскія вядомы з першай паловы XVI ст. У 1535 г. нейкі Лаўрын Вольскі, сахачэўскі харужы, мельніцкі войскі, намеснік высоцкі і гарадыскі атрымаў ваўкавыскае вайтоўства. Жонкай яго была Ганна Шэметаўна [39, s.379]. Яшчэ адзін пан Мікалай Вольскі ў 1563 г. збіраў падатак серабшчыну з сяла Госніцы ў Зэльвенскай воласці, а ў 1564–1567 г. быў дзяржаўцам ці старостай ожскім і пераломскім [94, слп.727, 812, 825; 32, Т.22, с.144, 256]. У 1565 г. на попіс войска ВКЛ ён высылаў почат у складзе 17 вершнікаў і 8 драбаў. Праз два гады – у 1567 г. “*Панъ Микалай Волский, державца Ожский и Переломский, з ыменей своихъ Кремяницы а Шидловичъ въ повете Волковыйскомъ, а з Довспуды въ повете Городенскомъ ставилъ коней двадцать чотыри збройно – панц(ы)ри, при.(лбицы), согай.(даки), рогати.(ны). Самъ панъ Волский при королю Его милости, выслалъ бояръ своихъ, старшимъ над тымъ почтомъ Криштофъ, служебникъ его милости. Онъ же ставилъ драбовъ одиннадъцать – з руч.(ницами) пять а з ощепы – 6*” [17, слп.248, 494]. Не мог ён быць ні памерлым ў 1548 г. судамірскім кашталянам, ні пазнейшым кашталянам віцебскім. Хто ж ён быў такі?

Дамо слова самому Жыгімонту Вольскаму: “*деи державца ожъский и переломский, небожчикъ панъ Миколаи Вольскии сходячы с зъ сего света дети, именя и всю маетность свою ему, яко брату своему, достаментомъ своимъ у в опеку записал, где ж деи он по смерти малжонки впрод речоного небожчика Миколая Волского Алжбеты Рачковны, заховываючи ся водле обычаю права посполитого и водле дестаменту небожчиковского, урадовне до именеи небожчиковских Кремяницы, Шы(д)лович, Провожи и Довъсподы въехал и то, яко братъ небожчика Волского а опекун детеи его в държанье и заведане свое взял*” [85, p.24].

Такім чынам, Мікалай Вольскі быў братам Жыгімонта і, верагодна, яшчэ адным сынам Мікалая, судамірскага кашталяна. Магчыма, блытаніна ўзнікла, бо ў апошняга быў яшчэ адзін сын таксама Мікалай, які абраў духоўную кар’еру – спярша пробашч плоцкі, затым біскуп холмскі, пазней – з 1565 г.– куяўскі, памёр ў 1570 г. [4, T.9, s.405–406; 95, s.215–216]. Другі Мікалай Вольскі, староста ожскі і пераломскі памёр раней – недзе каля 1568 г., а ў наступным – 1569 г. – памерла яго жонка Альжбета Рачкоўна, што прымусіла Жыгімонта апекавацца іх маёнткамі ў ВКЛ і нялетнімі дзецьмі. Адным з іх быў Крыштаф.

Крыштаф Мікалаевіч Вольскі на Крамяніцы, дваранін ЯКМ упершыню згадваецца ў вядомых нам крыніцах у 1577 г., калі на яго скардзіўся ў ваўкавыскі гродскі суд Жыгімонт Пятровіч Залескі за наезд на яго маёнтак Конна [9, ф.1783, воп.1, спр.6, а.1, 5, 6]. У 1589 г., як дваранін Жыгімонта III Вазы, Крыштаф Вольскі атрымаў са скарбу 120 фларынаў на 6 вершнікаў [96, s.56]. З 1590 г. ён – паюрскі цівун у Жамойці, у 1595–1600 г. – падстолі ВКЛ [48, s.165]. Распачаты ў 1577 г. судовы працэс з суседам Жыгімонтам Залескім працягнуўся ў 1585–1586 г. і закончыўся заменай спрэчных паміж імі грунтоў у сяле Самаровічы [9, ф.1783, воп.1, спр.6, а.9–9 адв., 11]. Але на гэтым справа не заціхла. У 1590 г. ужо Крыштаф скардзіўся ў ваўкавыскі земскі суд на Жыгімонта Залескага [9, ф.1783, воп.1, спр.6, а.13]. Нарэшце, у 1591 г. яны памірыліся [9, ф.1783, воп.1, спр.3, а.3]. У 1594 г. Крыштаф Вольскі мяняўся грунтамі ў Крамяніцы і Марціновічах з Юрыем Юндзілам, ваўкавыскім падкаморыем [21, КП б/н, а.1]. У 1598 г. ён купіў тры палоскі грунтоў маёнтка Вяльцюкі ў Грыгорыя Яраслава Роскага, ваўкавыскага гродскага суддзі [21, КП б/н, а.1]. Ім жа былі куплены два фальваркі Марціновічы – адзін у Юрыя Астроўскага, другі – ў ***Грыгорыя Войны***, Васіля Зянкевіча Ціхіньскага, Яна Аўсянага і князя ***Пракопа Дольскага***, Рагозніца і Юхновічы – у Андрэя Войны, Малая Крамяніца – у Каспара Камароўскага [21, КП б/н, а.1–1 адв.]. У Ашмянскім павеце Крыштаф Вольскі валодаў фальваркам Аковічы пад Курэнчам, які ў 1600 г. трымаў у заставе Ян Невядомскі [21, КП б/н, а.2]. У Ваўкавыску Вольскаму належаў пляц з дваром на Рынку [9, ф.1664, воп.1, спр.497, а.1]. Вызначыўся ён і як фундатар – у маёнтку Шыдловічы ім быў заснаваны касцёл Святой Троіцы, на які быў нададзены двор Бердзыкі [21, КП б/н, а.2–2 адв.].

11 лістапада 1600 г. Крыштаф Вольскі склаў тэстамент, актыкаваны 18 студзеня 1601 г. у ваўкавыскім земскім судзе, паводле якога прасіў пахаваць сябе ў Вільні ў касцёле Святога Духа “*w sklepie ktory ma budowac małzonka moia y ołtarz na nim wedle nauki moiey...*” [21, КП б/н, а.1–6]. Жонкай яго была Барбара Янаўна Лявон, віленская падкамаранка, старасцянка дынамонтская і новамлынская. Як вынікае з вышэй адзначанага дароўнага ліста Крыштафа, дадзенага жонцы 12 чэрвеня 1597 г., яны мелі “*...потомка сына Миколая… внедорослости зуполных лет…*” [21, КП б/н, а.1]. Быў гэта нялетні ***Мікалай Крыштафавіч Вольскі на Крамяніцы***.

Герб Крыштафа Вольскага быў падобны на герб Жыгімонта Вольскага ў плане выкарыстання дзвух гелмаў з кляйнотамі. Звычайна такія кляйноты былі характэрныя для складаных шматчастковых гербаў. Але ў гербах дзядзькі і сыноўца на простых тарчах былі выявы галавы казы ( “*Палукоз*”). Таму іх левыя кляйноты з пёрамі трэба разглядаць як ганаровую адзнаку, атрыманую за нейкія заслугі. Разам з тым, адметнасць герба Крыштафа была яшчэ і ў тым, што ў правым кляйноце замест паловы ўзнятай казы – класічнага кляйноту “*Палукоза*” [1, s.247] – быў змешчаны лебедзь – гербавая выява маці Альжбеты Рачкоўны. Род Рачкоў паходзіў ад Кляўсуця, унук якога Андрэй ці Галігунт у 1413 г. у Горадлі ўзяў на ўвесь

свой род польскі герб “*Лебедзь*” [80, s.71; 98, T.V, s.54]. Родапачынальнікам Рачкоў быў дваюрадны сыновец Галігунта Рачко Якуб Табутавіч (1433–1463 г.), пячатку якога з выявай лебедзя з акту Гарадзенскай уніі 1434 г. апублікаваў У.Сэмковіч. У сваю чаргу сын Рачка Міхно ці Мікалай (згадваецца ў 1463 і 1479 г.) пакінуў сыноў: Мікалая “*Бакаляра*”, двараніна ў 1499 г., пісара лацінскага ў 1504–1520 г, маршалка ЯКМ у 1514–1527 г., дзяржаўцу шаўленскага з 1504 г., Яна, двараніна ЯКМ у 1523–1528 г. і Станіслава. Гняздом роду былі маёнткі Рачкі і Крамяніца ў Ваўкавыскім павеце [48, s.88, 124; 80, s.71–72; 98, T.IV, s.96–97]. Станіслаў Міхновіч Рачковіч валодаў таксама Даўспудамі ў Гарадзенскім павеце ў 1523 г., на попіс войска ВКЛ у 1528 г. ставіў чатыры вершнікі: “*Станислав Михнович Рачковича мает ставити 4 кони*” [16, с.52; 21, T.XV, s.105]. Жонкай яго была нейкая Барбара Айсахоўская (?) [39, s.268; 98, T.IV, s.96–97]. А.Банецкі, які падаў яе прозвішча пад пытальнікам, не быў упэўнены ў тым, што яно гучала менавіта так.

Альжбета Рачкоўна была дачкой Мікалая Міхновіча Рачковіча “*Бакаляра*” [20, ф.389, воп.ЛМ, спр.254, арк.13 адв.] і праз яе Вольскія ўспадкавалі маёнткі Крамяніца і Даўспуда ў Ваўкавыскім і Гарадзенскім паветах ВКЛ. Несумненна яна карысталася гербам “*Лебедзь*”. Відаць, што ў памяць аб маці Крыштаф Вольскі вынес выяву лебедзя ў адзін з кляйнотаў свайго герба.

## (43). Вольскі Мікалай Крыштафавіч на Крамяніцы, зямянін Ваўкавыскага павета, 1604.

**Герб**: тарча падзелена на чатыры часткі: у 1-ай галава казы (“*Палукоз*”), у 2-ой лілія (“*Газдава*”), у 3-яй лебедзь (“*Лебедзь*”), у 4-ай тры трубы, злучаныя ў вехер (“*Трубы*”), над тарчай гелм з каронай, у кляйноце палова казы, вакол тарчы намёт, па баках кляйноту ініцыялы: “*M[ikołaj] W[olski]*”.




Пячатка: адб.№1, пак, 14x17 мм, д [21, КП б/н, а.1].

6 верасня 1604 г. у Падароску Мікалай Крыштафавіч Вольскі на Крамяніцы выдаў вызнаны ліст жонцы ***Багдане Грыгораўне Войне***, кашталянцы берасцейскай на запіс ёй 20 000 злотых польскіх на маёнтку Даўспуда ў Гарадзенскім павеце. Падпісаўся: “*Mikołai Wolski na Krzemienicy Ręką swą*”. Сярод сведкаў былі: Васіль Зянкевіч Ціхіньскі, маршалак ЯКМ і суддзя земскі наваградскі, князь Ян Шуйскі, падкаморы берасцейскі і Якуб Кунцэвіч, харужы Гарадзенскага павета.

Складаны герб Мікалая Крыштафавіча Вольскага меў: у 1-ай частцы – родавы “*Палукоз*”, у 2-ой – “*Газдаву*” маці Барбары Янаўны Лявон [4, T.VI, s.88], у 3-яй – “*Лебедзь*” бабкі па бацьку Альжбеты Рачкоўны, у 4-ай – “*Трубы*” невядомай бабкі з маці. Класічны кляйнот “*Палукоза*” замест адметнага бацькоўскага з выявай лебедзя тлумачыцца наяўнасцю герба бабкі па бацьку ў 3-м полі.

Як сведчыць ліст Пракопа Дольскага ад 30 снежня 1602 г. Мікалай Вольскі на Крамяніцы заставіў яму за 1150 копаў грошаў літоўскіх 58 валокаў з аселымі на іх людзьмі ў сёлах Ляхавічы, Падбалоцце і Самаровічы свайго маёнтку Крамяніца [21, КП б/н, а.1]. У 1604 г. ён судзіўся з князем Мікалаем Міхайлавічам Глінскім па справе аб маёнтку Юхновічы, некалі набытым яго бацькам ад Андрэя Войны [9, ф.1783, воп.1, спр.9, а.7, 10]. У 1606–1615 г. Мікалай быў маршалкам Ваўкавыскага павету, з 1615 па 1621 г. – віцебскім кашталянам (гл. С.143). Недзе ў гэты прамежак часу ён набыў у Мацея Карпавіча Забагоцкага за 150 копаў грошаў літоўскіх дзвух падданых [9, ф.1783, воп.1, спр.18, а.3]. 22 лістапада 1619 г. атрымаў ад Жыгімонта III Вызы права на мастовае мыта ў сваім маёнтку Галавачы на рацэ Котра пад мястэчкам Галавачы ў Гарадзенскім павеце [32, T.7, с.107–108]. Памёр Мікалай Вольскі 3 мая 1621 г., пахаваны разам з жонкай ***Барбарай Вайнянкай*** у фундаваным імі крамяніцкім касцёле, дзе захавалася пахавальная пліта з надпісам: “*ILL.D. Nicolaus Wolski haeres Krzemienicensis castella[nus] Witebsscen[sis] OBIIT Anno D. MDCXXI. MAI DIE 3 AETATIS SUAE 37*” – “*Найяснейшы Пан Мікалай Вольскі, дзедзіч Крамяніцы, кашталян віцебскі, памёр года Божага 1621 дня 3 мая ва ўзросце 37 гадоў*” [87, s.119]. Побач – складаны чатырохчастковы герб, аналагічны апісанаму [23, с.163]. З надпісу на пліце вынікае, што нарадзіўся Мікалай у 1584 г.

Сынам Мікалая Вольскага і Барбары Войны быў Казімер, якога К.Нясецкі згадвае пад 1630 г. [4, T.9, s.408]. У 1631 г. ён валодае маёнткам Рудавае ў Ваўкавыскім павеце [21, КП 9216, а.1]. У 1637 г. Галоўны Трыбунал ВКЛ разглядаў гучную справу “*Казімера Станіслава з Падгайцаў Вольскага на Крамяніцы*” і яго жонкі Раіны Ратомскай. Яны абвінавачваліся за напад, збіццё і абрабаванне ў 1631 г. Аляксандры Петрашэўскай, жонкі ваўкавыскага маршалка Эзыяша Гедройця і яе сына Казімера Людвіка Еўлашэўскага, сакратара ЯКМ, а таксама за несправядлівы прысуд па іх справе ў Ваўкавыскім гродскім судзе ў 1635 г., які быў вынікам змовы Вольскага з Мікалаем Кішкай, мсціслаўскім ваяводай і ваўкавыскім старостай. Справа закончылася трыбунальскім выракам, паводле якога Казімер Станіслаў Вольскі з жонкай павінны былі заплаціць вялікія штрафы [9, ф.1783, воп.1, спр.17, а.1–1 адв., 15 адв]. У выніку, ў першай палове XVII ст. Вольскія знікаюць з Ваўкавыскага павету.

Нашчадкам Казімера Станіслава Вольскага К.Нясецкі называе нейкага дэпутата Галоўнага Трыбуналу ВКЛ у 1679 г., “*jakom widział na konkluzyach Wileńskich*” [4, T.9, s.408]. Меўся на ўвазе Ўладзіслаў Ян Вольскі, наваградскі гродскі пісар і дэпутат у 1679 і 1684 г. [69, s.340, 357]. У 1688–1690 г. ён быў ужо наваградскім падчашым, у 1693 г. – падсудкам земскім наваградскім і сакратаром вялікай пячаткі

ВКЛ, памёр у 1703 г. Уладзіслаў Ян у 1690 г. меў 25 дымоў з млынам і карчмой у сваім вячыстым маёнтку і мястэчку Сваяцічы ў Наваградскім павеце [19, s.55].

## (44). Вярэнка Хрызастом*, каморнік земскі Ваўкавыскага павета, 1736.

**Герб**: на авальнай тарчы падкова канцамі ўніз з крыжам наверсе, унутры яе доўгі лацінскі крыж з завостраным ніжнім канцом ("*Любіч*" зменены), над тарчай шляхецкая карона, вакол тарчы дзве галінкі, перакрыжаваныя і перавязаныя ўнізе, па баках кароны ініцыялы: "*IS?*".



Пячатка: адб.№2, чрв/с, 15х16 мм, в [9, ф.1664, воп.1, спр.71, а.7].

29 чэрвеня 1736 г. Хрызастом Вярэнка як сведка і пячатар разам з ***Антоніям Казімерам Шэметам*** прыклаў гэтую пячатку да "*Рэвізіі*" спраў, дакументаў і рухомай маёмасці, складзенай ксяндзом ***Янам Быхаўцам***, канонікам віленскім і пробашчам воўпенскім пасля смерці братовай Людовікі з Тызенгаўзаў Быхаўцавай, пісаровай скарбовай ВКЛ. Падпісаўся: "*CHryzostom Werenko komornyk ziemski Ptu Wołkowyskiego mp*".

В.Каяловіч род Вярэнкаў не ведаў. К.Нясецкі адносіў яго да герба "*Лагода*" і выводзіў ад Яна Вернэка, які перасяліўся з Польшчы ў ВКЛ "*пад час Прускай вайны*" і змяніў сваё прозвішча на Вярэнка. Ён асеў у Ваўкавыскім павеце на маёнтках Аляхновічы і Цягляевічы, пакінуўшы сына Войцаха [4, T.9, s.277].

У Ваўкавыскім павеце Вярэнкі фіксуюцца ў першай палове XVII ст. У 1621 г. пры перапісу ваўкавыскай харугвы было адзначана, што Іляйковы Вярэнкі, якія купілі частку маёнтка Л(Ц)ягляевічы Мальхераўшызна, не ставілі з яго вершнікаў [42, с.51].

6 кастрычніка 1637 г. Мацей Вярэнка падпісаў па-польску: "*Maciey Werenka ręką własną*" дароўны ліст Ядзвігі Андрэйкевічавай Станіслававай Манькоўскай на 1/3 частку яе маёнтку ў Манцяках Станевічызне для дачкі Зузанны Манькоўскай і зяця ***Шымана Калусоўскага*** [9, ф.1664, воп.1, спр.653, а.1 адв.]. Ён жа разам з Янам Станіславам Вярэнкай, каморнікам земскім Ваўкавыскага павета 13 снежня 1650 г. быў сведкай тэстаменту ***Андрэя Фёдаравіча Адамовіча*** [9, ф.1664, воп.1, спр.310, а.5 адв.]. Сынам Мацея быў Казімер, які ў 1655 г. у ліку іншай ваўкавыскай шляхты склаў прысягу маскоўскаму цару: "*Казимер Матвеев сын Веренка*" [18, с.84].

Ян Станіслаў Вярэнка, ваўкавыскі каморнік згадваецца яшчэ ў 1673 г. У гэты год ён падпісаў: "*JAn Stanisłław Wereka komornik ptu Wołłkow*" пазыковы ліст Андрэя Адамовіча на 333 злотых і 9 грошаў польскіх для Казімера Адамовіча і яго жонкі Аляксандры Ўрачынскай [9, ф.1664, воп.1, спр.350, а.1]. Улічваючы той факт, што ён ваўкавыскім каморнікам быў яшчэ ў 1650 г., выкажам меркаванне аб ідэнтычнасці яго з Янам Мікалаевічам Вярэнкай, які прысягнуў маскоўскаму цару ў 1655 г.: "*Ян Микулаев сын В[е]ренка*" [18, с.83]. Магчыма, ён быў родным братам Войцаха Мікалаевіча Вярэнкі, чый радавод змясціў у сваім гербоўніку К.Нясецкі [4, T.9, s.277].

28 ліпеня 1690 г. ваўкавыскі гродскі ўрад у складзе: ***Даніэль Казімер Ардынец***, смаленскі стражнк і падстароста, нейкі Станіслаў Вярэнка, ваўкавыскі скарбнік і гродскі суддзя, а таксама Дыянізы Алендскі, пісар прынялі ад ***Самуэля Дабрагоста Быхаўца***, старосты люцінскага юрамент і атэстацыю з маёнтка Лыскава [9, ф.1664, воп.1, спр.589, а.1]. На пасаду гродскага суддзі Станіслаў Вярэнка быў прызначаны князем Грыгорыем Антоніем Агінскім, ваўкавыскім старостай. Не хапае інфармацыі, каб дакладна высвятліць пытанне: ці можна атаясамляць Станіслава, скарбніка з Янам Станіславам, каморнікам? Апошні да 1690 г., відаць, ужо памёр, бо ў падымным рэестры Ваўкавыскага павета 1690 г. яго няма. Няма там і Станіслава Вярэнкі, які памёр недзе ў гэты ж час, бо ў 1692 г. ваўкавыскім гродскім суддзёй з'яўляўся ўжо Марцін з Канопніцаў Грабоўскі, віцебскі стольнік [99, с.79].

У 1690 г. у падымным рэестры Ваўкавыскага павета быў запісаны Хрызастом Вярэнка з 1 сялянскім дымам у яго маёнтку Цягляевічы Сядзельнікі. Разам з ім у Цягляевічах меў 1 дым нейкі Марцін Вярэнка. У 1698 г. Хрызастом Вярэнка ставіўся пад генеральную ваўкавыскую харугву на паспалітае рушанне паміж Лаўнам і Пузевічамі ў Гарадзенскім павеце [64, f.n]. У 1710 г. ён – каморнік і паборца ваўкавыскі [19, s.179, 206–207]. Як каморнік Ваўкавыскага павета Хрызастом Вярэнка згадваецца 23 красавіка 1712 г. У гэты дзень ён выступіў сведкай на вызнаным лісце Агнешкі Алендскай, ваўкавыскай маршалковай для Ганны Дыбоўскай Юзафовай Радзевічавай, падстолічавай пінскай. Падпісаўся: "*CHryzostom Weręko komor ziemski Ptu Wkomp*" [9, ф.1664, воп.1, спр.673, а]. 24 чэрвеня 1720 г., ён жа падпісаў ўлеўковы ліст падкаморыя Ваўкавыскага павета Геранім Юзафа Калантая [9, ф.1664, воп.1, спр.671, а.2]. 24 ліпеня 1722 г. Хрызастом Вярэнка падпісаў зрачоны ліст Яна Бутаўта Андрэйковіча, крайчага і рэгента гродскага ваўкавыскага і яго жонкі Кацярыны Казімераўны Адамовічавай для ксяндза Ідзі Палькевіча, доктара Святой Тэалогіі, прэора ўсіх ксяндзоў кармялітаў Віленскага канвенту пры касцёле Ўсіх Святых [9, ф.1664, воп.1, спр.355, а.2]. Паводле падымнага рэестру Ваўкавыскага павета ў 1734 г. ён валодаў у Межырэчскай парафіі паловай дыма: "*JP Chryzostom Weręko 0,5*". Тады ж ён быў таксама пабаровым камісарам Ваўкавыскага павета [9, ф.1663, воп.1, спр.197, а.3 адв., 8 адв.].

Ініцыялы на гербавай пячатцы Хрызастома Вярэнкі не супадаюць з яго ўласнымі. Гэта значыць, што яна належала іншай асобе. Тое, аднак, што яе прыклаў сам Хрызастом (гэта вынікае з характару дакумента ад 29 чэрвеня 1736 г.), прымушае думаць аб даволі блізкіх адносінах паміж ім і сапраўдным уладальнікам

пячаткі. Магчыма, ініцыялы складаліся як мінімум з трох літараў: “*IS*” і “*W*” у страчаным нізе пячаткі. Тады, па-першае, яны павінны чытацца: “*I[an] S[tanisław] W[erenko]*”, па-другое, апошні быў бацькам Хрызастома, па-трэцяе, ваўкавыскія Вярэнкі карысталіся ўласным гербам, які быў бліжэй да польскага “*Любіча*”, чым да “*Лагоды*”.

## Літаратура і крыніцы:


1. Paprocki B. Herby rycerstwa polskiego 1584.– Kraków, 1858.– 964 s.
2. Okolski S. Orbis Polonus.– Cracoviae, 1640–1645.– T.1–3.
3. Kojałowicz Wijuk W. Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego tak zwany Compendium.– Kraków, 1897.– 527 s.
4. Niesiecki K. Herbarz polski.– Lipsk, 1839–1846.– T.1–10.
5. Цітоў А. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі.– Мн.: Полымя, 1993.– 239 с.
6. ЭГБ.– Мн.: БелЭн, 1993–2003.– Т.1–6.
7. Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.– М., 1892.
8. Biblioteka Narodowa w Warszawie, Rps. BN III, 9100.
9. НГАБ у Горадні.
10. Wittyg W., Dziadulewicz S. Nieznana szlachta polska i jej herby.– Kraków, 1908.– 436 s.
11. Rachuba A. W sprawie nieznanych Wittygowi nazwisk i herbów szlacheckich.// Heraldyka i okolice./ Red. A.Rachuba, S.Górzyński, H.Manikowska.– Warszawa, 2002.– S.143–154.
12. Puzyna J. Niektóre pieczęcie litewskie z XVI i XVII w.// Magazyn heraldyczny.– Warszawa, 1933.– R.XII.– Nr 4.– S.55–58; Nr 5.– S.73–77.
13. Akta Unii Polski z Litwą 1385–1791./ Wyd. S.Kutrzeba, W.Semkowicz.– Kraków, 1932.– 570 s.
14. Шаланда А. Гербы і род Адамовічаў у другой палове XVI–XVII ст.// Наш радавод.– Горадня, 1996.– Кн.7.– С.187–190.
15. Шаланда А. Удакладненні да гербу і радаводу Аляхновічаў.// Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей.– Ваўкавыск, 1997.– С.75–77.
16. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн.523. Кн. Публічных спраў 1./ Падрыхт. А.Груша, М.Спірыдонаў, М.Вайтовіч.– Мн.: Бел. навука, 2003.– 444 с.
17. РИБ.– Пгд, 1915.– Т.33.– 1378 с.
18. Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г.: Памятники истории Восточной Европы: Источники XV–XVII вв./ Сост. Е.Е.Лыкова, М.Кулецкий.– М.: Древлехранилище, 1999.– Т.IV.– 264 с.
19. Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo nowogródzkie 1690 r./ Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba.– Warszawa, 2002.– 290 s.
20. НГАБ у Менску.
21. ГДГАМ.
22. Bouffałł B. Olędzcy herbu Rawicz.// Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej.– Poznań, 1891.– R.XIII.– S.247–267.
23. Пластыка Беларусі XII–XVIII ст.– Мн.: Беларусь, 1983.– 231 с.
24. Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej.– Poznań, 1891.– R.XIII.– 405 s.
25. Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku.– Warszawa, 1895.– 698 s.
26. Uruski S. Rodzina. Herbarz szlachty polskiej.– Warszawa, 1904–1931.– T.I–XV.
27. Boniecki A. Herbarz Polski.– Warszawa, 1899–1913.– T.1–16.
28. Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV–первой трети XVI в.– М.: Наука, 1988.– 350 с.
29. Шаланда А., Фёдараў І. Палацава-паркавы комплекс у вёсцы Ябланова і яго ўладальнікі ў канцы XVIII–пачатку XIX ст.// Сядзібы і паркі Гродзеншчыны.– Гродна, 2004.– Ч.II.– С.54–58.
30. Окуневский Г.А. Родословная князей Огинских в Волковысском повете.// Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей.– Ваўкавыск, 1997.– С.78–82.
31. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Ваўкавыскага раёна.– Мн.: БЕЛТА, 2004.– 528 с.
32. АВАК.– Вильно, 1865–1915.– Т.1–39.
33. Lietuvos Metrika (1528–1547).– Vilnius, 1995.– Kn.6.– 488 s.
34. Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413.// LSP.– Poznań, 1989.– Studia Historica III.– S.7–139.
35. Gumowski M. Pieczęcie królów polskich.– Kraków, 1910.– 94 s.
36. БРК ГДГАМ, № 01929/3: Paszkiewicz M. Ślady bez zawady JW.JP.Krystyny z Abramowiczów Oginskiey...– Wilno, 1739.
37. Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej.– Warszawa, 1992.– 175 s.
38. АЮЗР.– СПб., 1865.– Т.2.– 287 с.
39. Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku.– Warszawa, 1887.– 425 s.
40. Гербоўнік беларускай шляхты./ Т.Капіца, А.Леўчык, С.Рыбчонак і інш.– Мн.: БелНДІДАС, 2002.– Т.1.– 493 с.
41. Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie XIV–XVIII wiek./ Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk.– Warszawa, 2003.– T.IV.– 412 s.
42. Семянчук Г. Попіс шляхты Ваўкавыскага павета 1621 г.// Герольд Litherland.– Горадня, 2004.– № 1–2.– С.44–51.
43. Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст.– Мн.: Навука і тэхніка, 1983.– 175 с.
44. Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskigo. Województwo wileńskie 1690 r./ Opr. A.Rachuba.– Warszawa, 1989.– 372 s.

45. Kossakowski S.K. Monografie histiryczno-genealogiczne niektórych rodzin polskich.– Warszawa, 1859–1872.– T.I–III.
46. Гербовник дворянских родов Царства Польского, высочайше утверждённый./ Сост. Н.И.Павлищев.– Варшава, 1853.– Ч.1–2.
47. Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej.– Poznań, 1881.– R.III.– 380 s.
48. Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku. Spisy./ Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba.– Kórnik, 1994.– 255 s.
49. Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek./ Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk.– Warszawa, 2004.– T.I.– 764 s.
50. Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej.– Poznań, 1883.– R.V.– 490 s.
51. Herbarz szlachty prowincyi Witebskiej./ Wyd. F.Piekosiński.– Kraków, 1899.– 228 s.
52. Шаланда А. Гербавы "*сепаратызм*" шляхты ВКЛ у 2 палове XVII–XVIII ст.// Шлях да ўзаемнасці=Droga ku wzajemności. Мат. X Міжнар. навук. канф.: Гродна–Мір, 24 кастрычніка 2002 г./ Пад рэд. І.Крэня.– Гродна: ГАУПП "*Гродз. друк.*", 2004.– С.41–47.
53. Pamiętnik [1640–1684]. Jan Władysław Poczobut Odlanicki./ Opr. A.Rachuba.– Warszawa, 1987.–430 s.
54. Kamieński A. Kariera rodu Siemaszków w XV–XVII wieku.// LSP.– Poznań, 1989.– Studia Historica III.– S.179–202.
55. Яковенко Н.М. Українська шляхта. З кінця XIV до середини XVII ст. (Волинь і Центральна Украіна).– Київ, 1993.– 412 с.
56. Małachowski P. Zbiór nazwisk szlachty z opisem herbów własnych familiom zostaiącym w Królestwie Polskim i Wielkim Xięstwie Litewskim.– Lublin, 1805.– 817 s.
57. Амелька С. Шляхецкі род Сямашкаў гербу "*Лебедзь*": рассяленне, паходжанне і гістарычна-культурнае значэнне ў XVI–XIX ст.// Герольд Litherland.– Горадня, 2001.– № 1.– С.27–34.
58. Дзядзенка З. Аршанская шляхта.– Менск, 1996.– 64 с.
59. БРК ГДГАМ, № 01929/9: Rekognicya Deputackiey, Sędziowskiey Obligacyi za fundament Swiętey Sprawiedliwośći...– Wilno, 1738.
60. Kunowski Jan. Ekspedycyja inflantska 1621 roku./ Opr. W.Walczak, K.Łopatecki.– Białystok, 2007.– 263 s.
61. Herbarz Ignacego Kapicy Milewskiego (Dopełnienie Niesieckiego)./ Wyd. Z.Gloger.– Kraków, 1870.– 504 s.
62. Metryka Litewska. Księga Sigillat 1709–1719./ Oprac. A.Rachuba.– Warszawa; 1987.– 265 s.
63. Album armorum nobilium Regni Poloniae XV–XVIII saec. Herby nobilitacji i indygenatów XV–XVIII w./ Wstęp, opracowanie i edycja B.Trelińska.– Lublin, 2001.– 875 s.
64. БРК ГДГАМ, № 01319/11: Acta stanow Wielkiego Xięstwa Littewskiego na pospolite ruszenie vigore laudum Wilenskiego 14 Augusti 1698... Wilno; 1699.
65. ЛДГА.
66. Augustyniak U. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585–1640). Mechanizmy patronatu.– Warszawa, 2001.– 386 s.
67. Krakowski S. Wykaz podatku podymnego powiatu Wołkowyskiego z r. 1690.// Odbitka z Wiadomości Studium Historii Prawa Litewskiego U.S.B. T.1.– Wilno, 1938.– S.205–272.
68. СКМ.
69. Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego księstwa Litewskiego (1582–1696). Spis./ Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba.– Warszawa, 2007.– 469 s.
70. Брэгер Г., Лінская Л. Дакументальныя матэрыялы XVI–XVIII ст. у фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.// БАШ.– Мн., 2001.– Вып.2.– С.102–116.
71. РИБ.– Пб, 1903.– Т.20.– 1566 слп.
72. Акты Литовской Метрики (1413–1498)./ Собр. Ф.И.Леонтович. Варшава, 1896. Т.I. Вып.1.
73. Potocki W. Poczet herbow szlachty Korony Polskiey y Wielkiego Xiestwa Litewskiego. Krakow, 1696.
74. Шаланда А. Пячаткі Галоўнага Трыбуналу ВКЛ Менскай ("*рускай*") кадэнцыі ў XVII–XVIII ст.// Мінск і мінчане: дзесяць стагоддзяў гісторыі (да 510-годдзя атрымання Менскам магдэбургскага права): Мат-лы Міжнар. навук.-практ. канф., Мінск, 4-5 верасня 2009 г.– Мн.: Беларуская навука, 2010.– С.48–56.
75. Судебная книга витебского воеводы, господарского маршалка, волковыского и оболецкого державцы М.В.Клочко. 1533–1540./ Отв. ред. А.Л.Хорошкевич, Г.Я.Голенченко.– М.: Наука, 2008.– 525 с.
76. Lietuvos Metrika (1540–1541).– Vilnius, 2003.– Kn.10.– 332 p.
77. Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Okresy bezkrólewi./ Oprac. H.Lulewicz.– Warszawa, 2006.– T.I.– 437 s.
78. Urzędnicy Wielkiego księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek./ Pod red. A.Rachuby./ Opr. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.P.Romaniuk, A.Haratym./ Przy współpr. A.Macuka i J.Aniszczanki.– Warszawa, 2009.– 687 s.
79. Памятники истории Восточной Европы. Источники XV–XVII вв. Радзивилловские акты из Собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в./ Составитель М.М.Кром.– Москва–Варшава, 2002.– T.VI.– 266 с.
80. Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413.// Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica.– Poznań, 1989.– T.III.– S.7–139.
81. Demel B. Liczmany mennicze zwane podskarbiówkami.– Warszawa, 1911.– 32 s.
82. Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555–1564 г.// Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст./ Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж.– Горадня, 2009.– С.35–64.
83. Piekosiński F. Heraldyka polska wieków średnich.– Kraków, 1899.– 486 s.
84. Lietuvos Metrika (1567–1569).– Vilnius, 2000.– Kn.531.
85. Lietuvos Metrika (1569–1571).– Vilnius, 2001.– Kn.532.
86. Янушкевіч А. Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1557–1570 г.– Мн.: Медисонт, 2007.– 356 с.

87. Kuty D.J. Kościół i klasztor kanoników regularnych Lateraneńskich w Krzemienicy Dolnej na Białorusi w świetle dokumentów zachowanych w Archiwach Wileńskich.// Przegląd Wschodni.– Warszawa, 1999.– T.VI.– Zesz.1 (21).– S.117–135.
88. Giermański S. Summariusz kleynotow, Abo herbow Panstwa y Rycerstwa Korony Polskiey y W.X.Litew. z roznych Authorow: A mianowicie z Bielskiego, z Paprockiego y scriptow S.S.Jagodyńskiego zebrany.– Krakow, 1621.
89. Шаланда А.Гербавая паланізацыя шляхты Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI–першай палове XVII ст.// Архіварыус.– Мн.: НГАБ, 2010.– Вып.8.– С.250–255.
90. Dacka I.M. “*Korona Polska*” Kaspra Niesieckiego. Pomnik staropolskiego piśmiennictwa heraldycznego.– Warszawa, 2004.– 270 s.
91. Алфьоров О., Однороженко О. Українські особові печатки XV–XVII ст. за матеріалами київських архівосховищ.– Харків, 2008.– 199 с.
92. Konarski S. Szlachta kalwińska w Polsce.– Warszawa, 1936.– 358 s.
93. Нясвіжскія зборы Радзівілаў: іх фарміраванне, гістарычны лёс, цяперашняе месцазнаходжанне і шляхі выкарыстання.– Мн.: БФК, 2002.– Кн.7.– 368 с.
94. РИБ.– Юрьев, 1914.– Т.30.– 896 слп.
95. Werschler I. Wolscy z Podhajec. Z dziejów możnowładztwa polskiego XVI i XVII wieku.// Zeszyty historyczno-teologiczne.– Kraków, 2002.– Rok VIII.– Nr 8.– S.210–224.
96. Ordynacja dworu Zygmunta III z 1589 roku./ Oprac. K.Chłapowski.– Warszawa, 2004.– 101 s.
97. Lietuvos Metrika (1540–1541).– Vilnius, 2003.– Kn.10.– 332 p.
98. Glinka J. Rod Klausucia w wiekach XIII–XIV. Ze studiów nad kształtowaniem się i różnicowaniem społecznym bojarstwa litewskiego.// Studia Źródłoznawcze.– Warszawa, Poznań, 1959.– T.IV.– S.85–107; 1960.– T.V.– S.35–55.
99. Залівака А. Гісторыя дзяржустаноў Вялікага княства Літоўскага.– Мн.: Энцыклапедыкс, 2011.– 88 с.
100. Радаман А., Галубовіч В., Вілімас Д. Земскія ўраднікі Віцебскага ваяводства ў другой палове XVI–першай палове XVII ст.// Полацкія гістарычныя запіскі=Commentarii Polocenses historici.– Наваполацк–Менск, 2005.– Т.II.– С.51–61.
101. Заяц Ю. Заслаўская кафля.– Мн.: Навука і тэхніка, 1990.– 62 с.
102. Кавалёў С. Ян Пратасовіч – паэт, філёзаф, энцыкляпэдыст.// Спадчына.- 1999.- № 5-6.- С.116-131.

*Аляксей Шаланда (Горадня-Менск)*

(працяг будзе).

# Земскія ўраднікі Ваўкавыскага павета ВКЛ (другая палова XVI–першая палова XVII ст.).

**МАРШАЛАК**

## Ваганоўскі Аляксандр Фёдаравіч.

(“*Александр Фёдорович Вагановский*”).

У “*Списаньи поветов Великого Князства Литовского и врадниковъ въ нихъ*” не згадваецца. Маршалак гаспадарскі Ваўкавыскага павета. Згадваецца на пасадзе:

**11.X.1567 г.**

**15.XI.1569 г.** як “*Александр Фёдорович Вагановский*”.

**X.1581 г.** як гаспадарскі маршалак.

Памёр (†) да **29.III.1583 г.**

***Крыніцы:***

*РГАДА*. Ф.389. Литовская метрика=*НГАБ у Менску*. КМФ-18. Метрыка ВКЛ (далей – *Метрыка ВКЛ*). Спр.529. Арк.213 адв.–219 адв. (па ст. паг.: 197 адв.–203 адв.). Любавский. *ЛРС*. Приложения. № 79. С.229. *РИБ*. XXXIII. Стб.459. *U* XI. № 616. S.94, 247. *LM* 51. № 137. P.104. *ŹD*. IX. Cz.2, S.45. *Метрыка ВКЛ* 69. Арк.153.

## Юндзіл Андрэй Мацеевіч.

(“*Андрей Юндил на Кремяницы*”).

Маршалак гаспадарскі – **N 02.IV.1586 г.**

**N 04.IV.1586 г.** Згадваецца на пасадзе:

**VI.1603 г.**

**05.VI.1603 г.**

† да **14.II.1606 г.** вядома з намінацыі наступніка Мікалая Крыштафавіча Вольскага.

***Крыніцы:***

*ГДГАМ*. КП № 2768. Намінацыйны прывілей Стэфана Баторыя Андрэю Юндзілу на гаспадарскае (ваўкавыскае) маршалкоўства. (Горадня, 04.IV.1586 г.) (арыгінал). *ГДГАМ*. КП № 2769. Ліст Стэфана Баторыя да шляхты Ваўкавыскага павета пра намінацыю Андрэя Юндзіла на ваўкавыскае маршалкоўства. (Горадня, 04.IV.1586 г.) (арыгінал). Лупсякова Т. *Дакументы Стэфана Баторыя ў фондах музея.*// Краязнаўчыя запіскі. Горадня, 1997. Вып.4. С.115–123. У яе працы памылкова адзначаецца, што Андрэй Юндзіл атрымаў прывілей на надворнае маршалкоўства. *BJ*. 3574. K.5. Kopia. *U* XI. № 637. S.96, 213. *НГАБ у Менску*. Ф.1737. Воп.1. Спр.6. Арк.350 адв. *AMCh*. 1089. K.7 [7–17v].

## Вольскі Мікалай Крыштафавіч.

(“*Миколай Криштофович Вольский*”).

**N 14.II.1606 г**. Згадваецца на пасадзе:

**09.II.1613 г.**

**A 31.III/IV.1615 г.** на віцебскую кашталянію.

† да **26.VI.1621 г.** Герб гл. С.138.

***Крыніцы:***

*Метрыка ВКЛ* 85. Арк.393–393 адв. *U* XI. Nr 637. Wisner H. *Rzeczpospolita Wazów*. III. Warszawa, 2008. S.191. Przypis 48. *Метрыка ВКЛ* 92. № 5. Арк.4 адв.–5. Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze*. S.139 – N 31.III i “*Zygmuntowicz*”.

## Окунь Ян.

(“*Ян Окунь на Кремяницы*”).

Былы кліент Яна Геранімавіча Хадкевіча: “*Месяца декабря в 30 день [1575] в пятницу присылал ко мне къ Янглычу в Слонимо староста жемотцкий [Ян Ходкевич] слугу своего пана Яна Окуня*”.

**N 07.XII.1615 г.** па **A** М.Вольскага на віцебскую кашталянію, “*залецаны через некоторых панов-рад дворных*”.

† да **03.XII.1616 г.** 07.III.1617 г. згадваецца “*Янова Окунева маршалковая волковыйская княжна Зофъя Крошынская*”.

***Крыніцы:***

*Посольская книга по связям России с Польшей (1575–1576 г.).* Составитель Л.В.Соболев. Отв. редакторы: Б.Н.Флоря, Ю.М.Эскин. Москва, Варшава: Изд-во "*Древлехранилище*", 2004. Т.VII. С.79. [л.101 об.]. *Метрыка ВКЛ* 92. Арк.191. *НГАБ у Менску*. Ф.1727. Воп.1. Спр.2. Арк.309–309 адв., 413.

## Юндзіл Ян Андрэевіч на Зэльве.

("*Ян Андреевич Юндзвил*").
Кліент Крыштафа Радзівіла. Згадваецца на пасадзе:
**01.VIII.1616 г.**
† да **09.XII.1625 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*НГАБ у Менску*. Ф.1848. Воп.1. Спр.1. Арк.149 адв. Boniecki A. *Herbarz Polski*. T.IX. S.104.

## Халецкі Аляксандр.

("*Алекъсандр Халецкий*").
Каралеўскі сакратар.
**N 07.XII.1623 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 100. Арк.152–152 адв.

## Гедройць Эзаіяш.

("*Езаиаш Кгедройть*").
Дваранін і пакаёвы каралевы.
**N 09.XII.1625 г.** па † Я.Юндзіла.
† да **24.VII.1629 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 100. Арк.421 адв.

## Карп Эзоф Янавіч.

("*Езоф Карп*").
**N 24.VII.1629 г.** па † Э.Гедройця.
**13–28.XI.1629 г.** Пасол на экстраардынарны сойм 1629 г. ад Ваўкавыскага павета.
† да **16.IX.1637 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 102. Арк.235–235 адв. Seredyka J. *Posłowie na sejm 1629 r.* S.33.

## Пукшта Кляўзгеловіч Юзаф Самуэль.

("*Jozef Samuel Pukszta*", "*Samuel Pukszta Kławsgiełowicz*").
Дваранін ЯКМ, сакратар ЯКМ.
**N 16.IX.1637 г.** па † Э.Карпа (Копця?).
**10.XI.1639 г.** згадваецца як маршалак ваўкавыскі і дэпутат Трыбунала ВКЛ ад Ваўкавыскага павета.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 113. Арк.88–88 адв. *LVTS*. № 82. P.404.

## Карп Стэфан Эзофавіч.

("*Karp Stefan*").
**N канец 1647 г.**
**1655 г.** згадваецца "*Степан Карп Юзофовичь, моршалок волковицкий мазырский*", "*Степан Езоф Карп, маршалок волковицкий*".
† да **07.IX.1657 г**. вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*ML* 131. № 399. S.118, 449, 464. *Крестоприводная книга 1655*. С.61, 75.

## Агінскі Ян Яцак Стэфан.

("*Jan Jacek Stefan Ogiński*").
Князь, харужы ваўкавыскі з 1650 г.

**N 07.IX.1657 г.** Згадваецца на пасадзе:
**1661 г.** Падваявода віленскі ў 1661–1665 г. Пісар польны літоўскі – N IX.1668 г. (?), аднак **16.IX.1668 г.** (?)– толькі маршалак.
**18.I.1669 г.** Ваявода мсціслаўскі. Прызначаны ў XII.1672 г. Ваявода полацкі ў 1682 г. Гетман польны 15.II.1683 г.
**† 24.II.1684 г.**
***Крыніцы:***
*ML* 131. S.464. Medeksza S.F. *Księga pamiętnicza*. Kraków, 1875. S.250. Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze*. S.31, 285. *PSB*. XXIII. S.613–614. *U* XI. № 168, 763. S.47, 110.

## ПАДКАМОРЫ

### Юндзіл Юры Мацеевіч.
("*Юрей Юньдель*", "*Юрей Юндил*").
Пан.
Згадваецца к. **1567 г.** у "*Списанье поветов ВКЛ и врадников в них*".
† да **06.VIII.1597 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 529. КПС 7. Арк.217. Любавский. *ЛРС*. Приложения. № 79. С.229. *LMAB*. RS. F.16. B.27. L.46v.

### Карп Мікалай Янавіч.
("*Миколай Карпь*").
Дзяржаўца новадворскі.
**N 15.VII.1599 г.** па † Ю.Юндзіла.
† да **03.II.1623 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 86. Арк.68. Żychliński T. *Złota księga szlachty polskiej*. Poznań, 1904. R.XXVI. S.56.

### Тальвош Мікалай.
("*Миколай Талъвош*").
Староста жосленскі.
**E 03.II.1623 г.**
**N 15.II.1623 г.** па † М.Карпа.
† да **24.VII.1628 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 99. Арк.10–10 адв.

### Дольскі Андрэй Пракопавіч.
("*Андрей Долзъский*").
Князь, каралеўскі сакратар, дваранін імператара Фердынанда II.
**N 24.VII.1628 г**. па † М.Тальвоша.
† да **16.XI.1646 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 99. Арк.265–265 адв. *ML* 131. S.439.

### Трызна Андрэй.
("*Andrzey Tryzna*").
**N 16.XI.1646 г.** па † А.Дольскага.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 119. Арк.722 адв.

### Алендскі Крыштаф Крыштафавіч.
("*Оленский Крыштоф*", "*Krzysztoph Olędski*", "*Олонский Крыштап*", "*Хриштоп Хриштопов сын Оленской*").
Пасол на элекцыйны сойм 1648 г.

**1650 г.** староста дзяцкі і жыліцкі, падкаморы ваўкавыскі. Згадваецца на пасадзе:
**1655 г.** як "*Хриштоп Хриштопов сын Оленской, подкоморье Вол[ков]иц[кий]*".
**26.IV.1661 г.** у Ваўкавыску: "*Sejmik elekcyjny na podsędka za uniwersałem wojewody nowogr. Krzysztofa Wołodkowicza. Obrano 4 kandydatów. Kazimierz Ludwik Jewłaszewski, wda brzeski, dyrektor koła – Jan Tryzna, starosta, Stanisław Władysław Tryzna, sędzia z., Adam Kołłątaj, wojski,* ***Krzysztof Olędzki, podkomorzy****, Tomasz Kazimierz Woyniłowicz, chorąży, Mikołaj Jurowski, stolnik, Kazimierz Władysław Nowicki, podczaszy etc.*".
**Т 02.XII.1669 г.** з невядомай жонкай не пакінуў нашчадкаў. Усе свае маёнткі запісаў сыну брата Юрыя – Тэафілу.

***Крыніцы:***
*VL*. T.IV. S.107. Шаланда А. *Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVIII ст. (А).//* Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2 (13–14). С.13. *Крестоприводная книга 1655*. С.76. *ML* 456. K.105n. Bouffałł B. *Olędscy herbu Rawicz.//* Złota księga szlachty polskiej. Poznań, 1891. R.XIII. S.258. *Гербоўнік беларускай шляхты*. Склад. Т.Капіца, А.Леўчык, С.Рыбчонак і інш. Мн: БелНДІДАС, 2002. Т.1. С.145.

### ХАРУЖЫ

## Пукшта Кляўзгеловіч Геранім Марцінавіч.

("*Ероним Клазкгелович Пукшта (Шумшта)*", "*Ероним Мартинович Пукшта*").
Пан. Згадваецца на пасадзе:
**19.VII.1565 г.**
**29.III.1566 г.** як "*Шумшта*". Ваўкавыскі харужы "*панъ Пукшта*" згадваецца ў "*Списанье поветов ВКЛ и врадников в них*".
**03.X.1567 г.** як "*Ян Пукшта*".
† да **VI.1578 г.** вядома з намінацыі наступніка.

***Крыніцы:***
*РИБ*. XXXIII. Стб.319, 856, 1375. *Метрыка ВКЛ* 529. Арк.99 адв., 108, 217. *РИБ*. XXX. Стб.849, 866. Любавский. *ЛРС*. Прил. № 79. С.229.

## Пукшта Кляўзгеловіч Станіслаў Геранімавіч.

("*Станислав Еронимович Клавзкгелович Пукшта*", "*Станислав Клавзкгеллович Пукшта*", "*Stanisław Pukszta Kławsgiełowisz (Kliausgelowicz)*").
Пан.
**N VI.1578 г.** папярэдні дакумент датаваны 13.VI.1578 г. "*за залецаньем от пана троцкого, подканцлера, старосты берестейского и кобринского Остафея Воловича*" (Львоў).
† да **03.XII.1624 г.**

***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 59. Арк.128–128 адв.

## Пукшта Кляўзгеловіч Жыгімонт.

("*Жыкгимонт Клявзкгелович Пукшта*").
**03.XII.1624 г.** адбыўся элекцыйны соймік: "*Konkurs był niemały ludzi znacznych […], którzy nie tak dla sejmiku, jako gwoli elekcji zjechali się byli*".
**N 18.II.1625 г.** па † С.Пукшты.
† да **23.IX.1645 г.** вядома з намінацыі наступніка.

***Крыніцы:***
Wisner H. *Najjaśniejsza Rzeczpospolita.* II. S.28. Krzysztof Chodkiewicz do Krzysztofa Radziwiłła. 03.XII.1624. Iwiec. *Метрыка ВКЛ* 100. Арк.287–287 адв.

## Война Лукаш.

("*Lukasz Woyna*").
Дваранін ЯКМ.
**E 19.IX.1645 г.** На пасаду абраны згодна.
**N 23.IX.1645 г.** па † Ж.Пукшты (Варшава).

**†** у **1650 г.**

***Крыніцы:***

*BUW*. Rkps.316. K.43–44. Skarga Stanisława i Cherubina Mozyrków na Kaspra Jaskołda i Piotra Miłaszewskiego i sługi Samuela Pukszty o pobicie na sejmiku elekcyjnym wołkowyskim 19.IX.1645. Wypis z ksiąg ziemskich wołkowyskich. *Метрыка ВКЛ* 119. Арк.293 адв.–294. *RPN*. S.181.

## Агінскі Ян Яцак Стэфан.

(“*Jan Jacek Stefan Ogiński*”).

Паручнік панцырнай харугвы П.Я.Сапегі.

**20.III.1650 г.** прызначаны на пасаду ваўкавыскага харужага. Адначасова маршалак ваўкавыскі. Падваявода віленскі (1661–1665 г.). Пісар польны літоўскі (1668?–1669 г.). Ваявода мсціслаўскі (1672 г.). Ваявода полацкі (1682 г.). Гетман польны (1683 г.).

**† 24.II.1684 г.**

***Крыніцы:***

*ML* 131. S.464. *PSB*. XXIII. S.613–614.

### СУДДЗЯ ЗЕМСКІ

## Роскі Яраслаў.

(“*Ярослав Роский*”).

Пан.

**1567 г.** у “*Спісанье поветов ВКЛ и врадников в них*” згадваецца “*панъ Ярославъ Роский*”.

**10.I.1570 г.**

**†** да **III.1571 г.**

***Крыніцы:***

*НГАБ у Менску*. Ф.1710. Воп.1. Спр.19. Арк.1307, інфармацыя Алеся Доўнара.

## Гараін Фрыдрых.

(“*Фридрих Гораин*”).

Пан.

**N 16.III.1571 г.** Згадваецца на пасадзе:

**10.III.1572 г.**

***Крыніцы:***

*Метрыка ВКЛ* 267. Арк.334 адв.–335, пра лёс папярэдніка ў намінацыйным прывілеі не згадваецца. *LMAB*. RS. F.16. B.24. L.127, 162.

## Война Грычынавіч Грыгоры Мацьвеевіч.

(“*Григорей Война Гричинович*”).

Пан, войскі гарадзенскі.

Згдваецца на пасадзе:

**14.X.1578 г.**

**03.X.1589 г.**

**A 10.VI.1593 г.** на берасцейскую кашталянію. Герб гл. С.135.

***Крыніцы:***

*LMAB*. RS. F.16. B.74. L.71. *НГАБ у Менску*. Ф.1785. Воп.1. Спр.11. Арк.202. *Метрыка ВКЛ* 76. Арк.412–412 адв. Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze*. S.99.

На элекцыйным сойміку, які сабраўся 04.IV.1594 г.[851], па **A** Грыгорыя Войны на берасцейскую кашталянію былі абраны электамі 4 чалавекі, у тым ліку князь Пракоп Раманавіч Дольскі і Ян Шэмет. Як Дольскі, так і Шэмет адначасова атрымалі прывілеі на пасаду. На пасадзе застаўся Ян Шэмет.

## Дольскі Пракоп Раманавіч.

(“*Прокоп Долзский*”).

[851] *Метрыка ВКЛ* 78. Арк.282 адв.–283.

Князь.
**E 04.IV.1594 г.**
**N 22.X.1594 г.** "*за залецаньем канцлера ВКЛ Льва Сапеги*" (Кракаў).
**† 1623/1625 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 77. Арк.533 адв.–534.

## Шэмет Ян.

("*Ян Шемет*").
Пан.
**E 04.IV.1594 г.**
**N 24.XI.1594 г.** (Кракаў). Згадваецца на пасадзе:
**22.I.1599 г.**
† да **01.V.1602 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 76. Арк.470–470 адв. *Метрыка ВКЛ* 78. Арк.282 адв.–283. *НГАБ у Менску*. Ф.1710. Воп.1. Спр.1. Арк.123.

Элекцыйны соймік адбыўся па † Яна Шэмета ў Ваўкавыску 01.V.1602 г. "*...на местцо звыклое где се суды отправують до двора волковыского зъехавшы се шляхта...*"[852]. На вакантную пасаду быў авансаваны падсудак Ян Вуглік.

## Вуглік Ян (Іван) Багданавіч.

("*Ян Богданович Углик*").
Падсудак.
**E 01.V.1602 г.**
**N 09.V.1602 г.** "*по смерти Яна Шемета*" (Варшава).
† да к. **XII 1606 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 85. Арк.183–183 адв.

На элекцыйным сойміку, які быў скліканы ваяводай наваградскім Тэадорам Скуміным па смерці Івана Багданавіча Вугліка на 08.I.1607 г., былі выбраны 4 электы на ўрад.

## Дольскі Пракоп Раманавіч.

("*Пракоп Долский, Долзский*").
Князь.
**E 08.I.1607 г.**
**N 24.I.1607 г.** (Кракаў).
† да **04.XII.1625 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 88. Арк.274–274 адв.

## Масальскі Багдан Міхайлавіч.

("*Богдан Масальский*").
Князь, падсудак.
**E 04.XII.1625 г.**
**N 29.XII.1625 г.** па † П.Дольскага.
**† 07.V.1634 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 100. Арк.425–425адв.

## Алендскі Крыштаф.

---
[852] *Метрыка ВКЛ* 85. Арк.183.

(“*Оленский Крыштоф*”, “*Krzysztoph Olędski, Oleński*”, “*Алонскі*”, “*Олонский Крыштап*”). Стольнік.
**N 07.V.1634 г.** па † Б.Масальскага. Згадваецца на пасадзе:
**17.XI.1648 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 111. Арк.39 адв.–40 адв. *VL*. T.IV. S.229 [107].

**ЗАЎВАГА!** Памылкова ў 1655 г., як суддзі земскія, згадваюцца: “*Теофил Олетцкий, судья волковитцкий*” і “*Юрье Хриштопов сын Оленский, судья земский и волковицкий*”[853].

## ПАДСУДАК

### Узлоўскі Аляксандр Ленарт.

(“*Александр*”, “*Ленарт Узловский*”, “*Lenart Uzłowski*”).
Пан.
**1567 г.** у “*Спісанье поветов ВКЛ и врадников в них*” згадваецца “*панъ Ленартъ Узловский*”. Згадваецца на пасадзе:
**03.(04).X.1567 г.**
**10.I.1570 г.**
**23.I.1584 г.** як “*Ленард Узлоўскі*”, пан, падсудак земскі ваўкавыскі.
**03.X.1589 г.** як “*Аляксандр Узлоўскі*”, пан, падсудак земскі ваўкавыскі.
**05.I.1590 г.** як “*Ленарт Узлоўскі*”.
† да **27.VII.1591 г**. у намінацыйным прывілеі наступніка згадваецца як Ленарт Узлоўскі, падсудак ваўкавыскі.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 529. Арк.217; Любавский. *ЛРС*. Приложения. № 79. С.229. *РИБ*. XXXIII. Стб.859. *НГАБ у Менску*. Ф.1710. Воп.1. Спр.19. Арк.1307 – інфармацыя Алеся Доўнара. *LMAB* RS. F.16. B.49. L.28. *НГАБ у Менску*. Ф.1785. Воп.1. Спр.11. Арк.202. *АРК*. Oddział I na Wawelu. ASang. Rkps.38. S.100.

Элекцыйны соймік адбыўся 29.V.1591 г., пісар земскі Ян Вуглік авансаваны на падсудства.

### Вуглік Ян (Іван) Багданавіч.

(“*Ян Углик*”).
Пісар земскі.
**E 29.V.1591 г.**
**N 27.VII.1591 г.**
**A** на судзейства земскае ваўкавыскае – **N 09.V.1602 г.** (Варшава).
† да к. **XII 1606 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 76. Арк.176 адв.–177. *Метрыка ВКЛ* 85. Арк.183 адв.

Элекцыйны соймік адбыўся ў Ваўкавыску 01.V.1602 г. “*...на местцо звыклое где се суды отправують до двора волковыского зъехавшы се шляхта...*”. Ян Вуглік быў авансаваны на судзейства земскае. На падсудства былі абраны 4 электы[854].

### Масальскі Багдан Міхайлавіч.

(“*Богдан Михайлович Масальский*”).
Князь.
**E 01.V.1602 г.**
**N 07.V.1602 г.** па **A** Я.Вугліка на судзейства земскае (Варшава).
**A** на судзейства земскае – **N 29.XII.1625 г.** па † П.Дольскага.

[853] *Крестоприводная книга 1655*. С.75, 76.
[854] *Метрыка ВКЛ* 85. Арк.183.

***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 85. Арк.182 адв. *Метрыка ВКЛ* 100. Арк.425–425 адв.

Па **A** князя Б.Масальскага 04.XII.1623 г. адбыўся элекцыйны соймік, на якім былі абраны 4 электы на вакантную пасаду: 1) Пётр Ян Залескі, пісар земскі ваўкавыскі, 2) Васіль Калантай, 3) Мальхер Жукоўскі, пісар гродскі ваўкавыскі, 4) Крыштаф Шэмет.

## Жукоўскі Абрам Мальхер.

("*Абрам Малхер Жуковский*").
Пісар гродскі.
**E 04.XII.1625 г.**
**N 11.XII.1625 г.** па **A** на судзейства земскае князя Б.Масальскага.
† да **10.IX.1626 г.** вядома з намінацыі наступніка дата элекцыйнага сойміка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 100. Арк.424–425.

## Кандзераўскі Якаў.

("*Яков Кендзеравский*").
**E 10.IX.1626 г.**
**N 22.IX.1626 г.** па † А.Жукоўскага.
† да **09.XII.1633 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 99. Арк.175–175 адв.

## Алендскі Юры.

("*Юрей Олендский*", "*Jerzy Olenski*").
**N 09.XII.1633 г.** па † Я.Кандзераўскага. Згадваецца на пасадзе:
**19.IX.1645 г.**
**1650 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка 110*. Арк.264–264 адв. *BUW*. Rkps.316. Dok.13. K.43–44. *AGAD*. AR. Dz.VI. Rkps.II–50. S.9.

## Аўсяны Даніэль Янавіч.

("*Owsenny Daniel*").
Пісар земскі.
**N** у **1650 г.** вядома з намінацыі наступніка. Згадваецца на пасадзе:
**24.XI.1650 г.**
**1655 г.** "*Данила Янов сын Овсяной, подсудок волковитцкий*".
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 125. Арк.52–53 адв. *LVTS*. № 104. P.477. *Крестоприводная книга 1655*. С.109.

---

**ПІСАР ЗЕМСКІ**

---

## Хадакоўскі Ян.

("*Ян Ходаковский*").
Пан.
**1567 г.** у "*Списанье поветов ВКЛ и врадников в них*" згадваецца "*панъ Янъ Ходаковский*". Згадваецца на пасадзе:
**03.X.1567 г.**
**20.VII.1578 г.**
† да **20.XII.1579 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 529. Арк.217. Любавский. *ЛРС*. Приложения. № 79. С.229. *РИБ*. XXXIII. Стб.859. *LMAB* RS, F.16, B.45, L.47.

## Вуглік Ян (Іван) Багданавіч.

(“*Иван (Ян) Богданович Углик*”, “*Jan Waglik*”).
Пан.
**N 20.XII.1579 г.** (Варшава).
**А** на падсудкоўства ваўкавыскае – **Е 29.V.1591 г.** і **N 27.VII.1591 г.** (Кракаў).
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 64. № 182. Арк.287 адв. *Метрыка ВКЛ* 76. Арк.176 адв.–177. № 222.

## Жукоўскі Лаўрын (Ваўжынец).
(“*Лаврин (Вавжинец) Жуковский*”).
**Е 29.V.1591 г.**
**N 08.VI.1591 г.** “*за залецаньем*” падканцлера ВКЛ Габрыэля Войны: “*нам пан подканцлер Габрыэль Война особливе на то подал, залетил и у прычыны нас за ним же жедал*” (Кракаў).
† да **02.II.1614 г.** вядома з намінацыі наступніка; дата элекцыйнага сойміка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 76. Арк.161–161 адв. *Метрыка ВКЛ* 78. Арк.85–85 адв.

## Гарадзельскі Шыман.
(“*Шимон Городельский*”).
Пісар гродскі ваўкавыскі.
**Е 02.II.1614 г.** элекцыйны соймік супаў з грамнічным і адбыўся ў “*дворы господарском волковыйском*”.
**N 10.II.1614 г.** па † Л.Жукоўскага (Варшава).
† да **18.IX.1623 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 91. Арк.246–246 адв.

## Залескі Пётр.
(“*Петръ Залеский*”).
**N 18.IX.1623 г.** па † Ш.Гарадзельскага. Згадваецца на пасадзе:
**08.VI.1628 г.**
**27.VI.1631 г.**
† да **02.III.1633 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 100. Арк.134 адв.–135. *Метрыка ВКЛ* 106. Арк.136–137 адв. *U* XI. № 1485. S.185–186, 252. *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.374. Арк.1 адв., Спр.689. Арк.1.

## Аўсяны Даніэль Янавіч.
(“*Owsenny Daniel*”).
Згадваецца на пасадзе:
**1637 г.**
**19.IX.1645 г.**
**А** да ці **16.IX.1650 г.** на падсудкоўства ваўкавыскае.
***Крыніцы:***
Шаланда А. *Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVIII ст.* (А).// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2 (13–14). С.19. *BUW*. Rkps.316. Dok.13. K.43–44. *Метрыка ВКЛ* 125. Арк.52 адв.–53 адв.

## Сухадольскі Павел Казімер.
(“*Pawieł Kazimierz Suchodolski*”).
**N 20.II.1658 г.** (Варшава).
† да **10.XII.1659 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*ML* 131. № 548. S.160, 479. *Метрыка ВКЛ* 130. Арк.431 адв.

## Лукашэвіч Павел.

(“*Pawieł Lukaszewic*”).
**N 10.XII.1659 г.** (Гданьск).
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 130. Арк.431 адв. *ML* 131. S.479.

## ВОЙСКІ

### Цывінскі Шыман Янавіч.
**18.I.1594 г.**
**03.XI.1594 г.**
† да **07.II.1619 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*LVTS*. № 22. S.107.

### Юндзіл Адам Андрэеевіч на Зэльве.
(“*Адам Юндил*”).
**N 07.II.1619 г.** па † Ш.Цывінскага (Горадня).
**Т 1642 г.**
† да **1643 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 93. Арк.278. Boniecki A. *Herbarz*. T.IX. S.104.

### Карп Пётр Мікалаевіч.
(“*Piotr Mikołajewicz Karp*”).
**1643 г.**
***Крыніцы:***
Żychliński T. *Złota księga*... R.XXVI. S.56.

### Дольскі Ўладзіслаў (Павел) (Пракопавіч).
(“*Władysław Dolski*”)
Князь.
† да **14.III.1645 г.** вядома з намінацыі наступніка.

### Калантай Андрэй (Васільевіч).
(“*Andrzey Kołontay*”, “*Kołontaj*”, “*Kołłątaj*”).
**N 14.III.1645 г.** па † У.Дольскага.
**17.XI.1648 г.**
**1655 г.** “*Ондрей Васильев сын Колонтай войский и волковитцкий*”.
† да **20.II.1659 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 114. Арк.783–783 адв. *ML* 131. № 605. S.178, 452. *VL*. T.IV. S.229 [107]. *Крестоприводная книга 1655*. С.77. *Метрыка ВКЛ* 130. Арк.448 адв.–449.

## СТОЛЬНІК

### Васілеўскі Геранім.
(“*Яроним (Героним) Василевский*”, “*Hieronim Wasilewski (Waselowski)*”).
**N 26.IV.1589 г.** (Варшава). Згадваецца на пасадзе:
**06.X.1598 г.** Герб гл. С.131.
**III.1601 г.**
† да **14.II.1610 г.** вядома з намінацыі наступніка.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 77. Арк.13–13 адв. *VL*. T.II. S.1547 [411]. Niesiecki K. *Herbarz*. T.IX. S.245.

### Алендскі Крыштаф.
(“*Оленский Крыштоф*”, “*Krzysztoph Olędski*”, “*Алонскі*”, “*Олонский Крыштап*”).

**N 14.II.1610 г.** па † Г.Васілеўскага (абоз пад Смаленскам).
**A** на судзейства земскае ваўкавыскае – **N 07.V.1634 г.** па † Б.Масальскага.
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 89. Арк. 167 адв. *Метрыка ВКЛ* 111. Арк.39 адв.–40 адв.

## Трызна Ян.

("*Jan Tryzna*").
**N 03.VI.1634 г.** па **A** на судзейства земскае ваўкавыскае К.Алендскага.
**N** да **10.XII.1645 г.** на староства ваўкавыскае (з намінацыі наступніка).
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 110. Арк.428 адв. *ML* 131. S.482.

## Юроўскі Мікалай Янавіч.

("*Mikołay Jurowski*").
**$N_1$ 10.XII.1645 г.** па **A** на староства ваўкавыскае Я.Трызны.
**$N_2$ 1645 г.** па **A** на староства ваўкавыскае N Трызны. Згадваецца на пасадзе:
**17.XI.1648 г.**
**1655 г.** "*Микулай Янов сын Юровский, стольник волковицкий*".
**1660 г.** У намінацыйным прывілеі наступніка на пасадзе стольніка ваўкавыскага няпэўна выстаўлены год намінацыі – 1660 г. Прывілей змешчаны паміж дакументамі за 1664 г.
† к. **1660 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 119. Арк.283–283 адв., 419 адв.–420. *VL*. T.IV. S.229 [107]. *Крестоприводная книга 1655*. С.88. Boniecki A. *Herbarz*. T.IX. S.119. *Метрыка ВКЛ* 135. Арк.103–104.

---

### ПАДСТОЛІ

---

## Васілеўскі Лукаш.

("*Лукаш Василевский*").
† да **22.II.1619 г.** вядома з намінацыі наступніка.

## Калантай Адам (Іванавіч?).

("*Адам Колонтай*").
Суддзя гродскі ваўкавыскі.
**N 22.II.1619 г.** па † Л.Васілеўскага. Згадваецца на пасадзе:
**01.III.1630 г.**
**1635 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 95. Арк.205 адв.–206. *АрхСбДок*. T.III. № 40. С.73–74. Boniecki A. *Herbarz*. T.X. S.337.

## Колыч Адам.

("*Adam Kołycz*").
Суддзя гродскі гарадзенскі.
Згадваецца на пасадзе:
**1642 г.**
**A** на падстольства гарадзенскае **08.II.1648 г.** (?).
† да **26.I.1656 г.**
***Крыніцы:***
*ML* 131. S.452.

## Мяжэньскі (Міжэньскі) Ян.

("*Jan z Mierzna Mierzeński*", "*Mirzenski*", "*Mierzyński*").
**N 07.VII.1648 г.** па **A** на падстольства гарадзенскае N Колыча. Згадваецца на пасадзе: **17.XI.1648 г.**
**A** на маршалкоўства ваўкавыскае да ці **16.I.1653 г.**

***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 121. Арк.211 адв.–212. *VL*. T.IV. S.229 [107]. *Метрыка ВКЛ* 128. Арк.333–333 адв.

## ПАДЧАШЫ

### Дудзінскі Яраш.
("*Jarosz Dudziński*").
[**1635–1636 г.?**]
**A** на падстольства мазырскае. Згадваецца на гэтай пасадзе ўжо **28.VI.1639 г.**
***Крыніцы:***
*LMAB*. F 43-26683: Rachuba.

### Вільчак Самуэль Францішак.
("*Samuel Franciszek Wilczek*").
**N 01.II.1649 г.** (Кракаў, каранацыйны сойм).
**A** на падстольства да **1664 г.**
**† 1696 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 124. Арк.100 адв.–100а. *RPT*. S.102.

### Уніхоўскі Самуэль Паўлавіч.
**1655 г.** "*Самойло Павлов сын Униховской, подчаше волковицкий ротмистр новогороддцкой, писарь земский*".
***Крыніцы:***
*Крестоприводная книга 1655*. С.75.

## ЧАШНІК

### Мізгер Мікалай.
("*Mikołaj Mizgier*").
Згадваецца на пасадзе:
**1654 г.**
† пасля **1669 г.**
***Крыніцы:***
*ML* 131. S.460.

## СКАРБНІК

### Гранастайскі Яўхім.
("*Joachim Gronostayski*").
**N 03.XII.1635 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 111. Арк.486 адв.–487.

### Камаеўскі Аляксандр.
("*Aleksandr Komaiewski*", "*Komajewski*").
Пісар гродскі ваўкавыскі.
**N 30.III.1643 г.**
† пасля **1658 г.**
***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 114. Арк.222 – 223 адв. *ML* 131. S.452.

## МЕЧНІК

### Длускі Лукаш.
("*Łukasz Dłuski*").

† да **30.III.1643 г.** вядома з намінацыі наступніка.

## Мінеўскі Мікалай.

("*Mikołay Miniewski*").
**N 30.III.1643 г.** па † Л.Длускага.
**1655 г.** "*Микулай Миневский Мечный*".
**А** на падстольства мазырскае – **N 20.XII.1659 г.**

***Крыніцы:***
*Метрыка ВКЛ* 118. Арк.496–496 адв. *Метрыка ВКЛ* 130. Арк.455–455 адв. *Крестоприводная книга 1655*. С.86.

## Борк Альбрэхт.

("*Bork Albrycht*").
Электар караля Міхала Карыбута.

***Крыніцы:***
*Elektorowie*. S.14.

**ЗАЎВАГА!** Сокал Мацьвеевіч Война Грычынавіч, гербу "*Трубы*", памылкова згадваецца ў 1591 г. як суддзя земскі ваўкавыскі ў перадруку *Volumina Legum*, але ў арыгінале выдання яго ў гэтай якасці не згадваюць[855]. Быў ён харужым ожскім і пераломскім, кашталянам мсціслаўскім (1599 г.), кашталянам берасцейскім (1603 г.). Памёр у 1610 г.

**Умоўныя пазначэнні:**

**А** – аванс,
**Е** – элекцыя,
**N** – намінацыя,
**Т** – тэстамент,
**R** – рэзыгнацыя,
† – смерць.

*Андрэй Радаман (Менск),*
*Віталь Галубовіч (Горадня),*
*Дарыюс Вілімас (Вільня).*

[855] *VL*. T.II. S.332, 1376.

# Спісы шляхецкіх родаў Гарадзенскай губерні паводле радаводных кніг за 1841 г.

Крыніцы па гісторыі Гарадзеншыны раскіданы па розных архівах і бібліятэках свету, а іх сістэматызацыя застаецца важнай задачай для даследчыкаў нашага рэгіёну. Аднак, інфармацыя з многіх замежных архіўных збораў дагэтуль застаецца маладасяжнай з-за адносна вялікіх коштаў на навуковыя пошукі.

Да ліку каштоўных крыніцаў для вывучэння генеалогіі гарадзенскай шляхты трэба аднесці радаводныя кнігі Гарадзенскай губерні, якія былі складзены ў Дэпартаменце Герольдыі Расійскай Імперыі ў XIX–XX ст. Захоўваюцца гарадзенскія радаводныя кнігі ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбурзе (РДГА у СПб.): фонд № 1343, вопіс № 51. Актуальнымі для даследчыкаў генеалогіі гарадзенскай шляхты з'яўляюцца адзінкі захоўвання № 93–97. Кожная асобная справа ўяўляе сабой кнігу з рознымі генеалагічнымі матэрыяламі. Час узнікнення большасці кніг – 40-я гады XIX ст., але ёсць і пазнейшыя: № 93 і 94 складзены ў 1841, справа № 95 – у 1842, № 96 – у 1843, № 97 – у 1913 г. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на генеалагічную інфармацыю са спраў 93 і 94. Кожная з іх утрымлівае рэестр прозвішчаў і звесткі пра асобныя роды. Інфармацыя пра паходжанне мае абагульняючы характар і ўтрымлівае пераказ дакументаў, прадстаўленых раней губернскім шляхецкім сходам. У значнай частцы выводаў пазначана, што справы былі накіраваныя на дадатковую праверку ў шляхецкі сход Гарадзенскай губерні. Акрамя таго ў справе № 93 змешчаны радавод "*Каменских*" (арк.28, справа ёсць, але без тлумачэння некаторых дадзеных, таму яе накіравалі на разгляд Гарадзенскага Дваранскага Дэпутацкага Схода). Да гэтага далучаны нейкі спіс, хіба, расейскіх дваранаў (без пагінацыі): "*Альбрехт, Барановы, Быков, Демидовы, Долст, Дубянской, Железнов, Закревский, Кашкарев, Колмовский, Мармылев, Миллер, Мозовская, Рубановский, Рубановская, Рындины, Рамбург, Стахиев, Хлебников, Хмельницкий, Шмитова, Шувалов*".

Выявы гербаў і генеалагічных дрэваў у кнігах адсутнічаюць. Для лепшага ўяўлення пра тое, выводы якіх шляхецкіх родаў увайшлі ў гэтыя радаводныя кнігі, ніжэй мы змяшчаем пералік прозвішчаў з першых аркушоў згаданых вышэй спраў. Спісы друкуюцца на мове арыгіналаў з адаптацыяй да сучасных нормаў расійскай моўнай арфаграфіі.

**Список**
**потомственным дворянам Гродненской губернии**
**кои внесены в родословные книги на законном основании и**
**по неопровергаемым доказательствам**
**по ревизии за 1841 год.**
**Часть 1.**

Бучинских, Былевских, Буховецких, Барановичей, Барткевичей, Богушевичей, Бреннеров, Бельских, Быстрых, Бржозовских, Володкевичей, Винских, Вольских, Ворошилов, Волковыцких, Гарбовских, Гойжевских, Гутовских, Горских, Грудзинов, Гржималлов, Гацкевичей, Добржилевских, Дибкевичев-Гойжевских, Домбровских, Эйсымонтов, Ереминовичев, Эйсимонтов, Запасников, Каменских, Керсновских, Кохлевских, Каштонских, Кирейвов, Коркуцов, Круковских, Крживоблоцких, Коссовских, Куленов, Кашубы, Ксаверих, Лейков, Лукашевичей, Манецких, Нецецких, Ольшевских, Ольшевских, Пащевичей, Падейков, Поморских, Петрашов, Пржигодских, Паульсонов, Пиотровских, Поволанских, Ржожницких, Решков, Семашков, Скоробогатых, Стржижовских, Сененских, Сосонков, Слотвинских, Саросеков, Тельшевских, Тышмовских, Тышкевичей, Тарновецких, Хлевинских, Цыдзиков, Цедронских, князей Четвертинских, Шпегальских, Шепетовских.

(*РДГА ў СПб. Ф.1343. Воп.51. Спр.93. Арк.1*).

**Список**
**потомственным дворянам Гродненской губернии**
**кои внесены в родословные книги на законном основании**
**по неопровергаемым доказательствам**
**по ревизии за 1841 год.**
**Часть 2.**

Бульковских, Бильдзюкевичей, Берзибогатых, Быковских, Бялопиотровичей, Вилькошевских, Велнина, Верещаков, Волков, Вильчевских, Витановских, Гореглядов, Гружевских, Гезголдов, Гродецких, Гаржицов[856], Гузельфов, Горбатовских, Дмитриева, Дзедюшов, Даневских, Довнаровичей, Ержиковичей, Зубелевичей, Задарновских, Ильцевичей, Куликовских, Козеровских, Криделев, Качковских, Кобышинских, Куневичей, Кутволовских, Кмитов, Левицких, Лясковских, Лясецких, Лясковских (2), Модзолевских, Малешевских, Мицкевичей (Римвидов-Мицкевичей), Монкевичей, Минкевичей, Мазевских, Недеведских, Немцевичей, Наркевичей, Непокойчицких, Оверковичей, Олендских, Орановских, Пальчевских, Подгайских, Путкамеров, Полубинских, Пушкинов, Роубов, Ржонсницких, Росудавских, Радкевичей, Роттов, Рутковских, Садковских, Строжельбицких, Саболевских, Соколовичей, Саросеков, Старовольских, Тугановских, Тернеров, Турских, Харитонова, Чаплеевских, Чеховских, Шишков, Остиков, Юрагов, Хворовских, Яворовских, Янковских.

(*РДГА ў СПб. Ф.1343. Воп.51. Спр.94. Арк.1*).
*Віталь Галубовіч (Горадня).*

[856] Перакрэслена, побач алоўкам іншае прозвішча.

## Падымны “*Тарыф*” шляхты Ваўкавыскага павета 1734 г.

У архіве роду Слізняў, што захоўваецца ў НГАБ у Горадні (Ф.1663), нашу ўвагу прыцягнуў дакумент пад назвай “*Taryffa z Xiąg Ziemskich Grodzkich P[owia]ttu Wołkowyskiego...*” (далей – “*Тарыф*”) у выглядзе табліцы са спісам ваўкавыскай шляхты і прыналежных ёй дымоў па стану на 1734 г. Пры бліжэйшым аглядзе высвятлілася, што гэта – копія падымнага рэестру ці тарыфу шляхты Ваўкавыскага павета для збору падаткаў на войска Рэчы Паспалітай, якія збіраў у свой час Юры Станіслаў Радавіцкі, падстароста і лоўчы ваўкавыскі[857]. Пазней дакумент быў перададзены 28 снежня 1733 г. яго сынам Пятром Радавіцкім Лявону Багуславу на Тулаве Тулоўскаму, войскаму і пісару гродскаму ваўкавыскаму для актыкацыі ў ваўкавыскіх гродскіх кнігах. У сваю чаргу 22 чэрвеня 1734 г. на рэляцыйным павятовым сойміку Ваўкавыскага павета са згоды ўсёй шляхты, а таксама маршалка сойміку, суддзі гродскага ваўкавыскага Ўладзіслава Быхаўца[858] згаданы “*Тарыф*” быў зацверджаны для збору падатку на правіянт ужо расійскаму войску[859]. З гэтай мэтай і быў выдадзены 12 кастрычніка 1734 г. тым жа Лявонам Багуславам Тулоўскім павятоваму каморніку і камісару Хрызастому Вярэнцы[860] згаданы “*відымус*”. Відаць, пасля збору падаткаў Хрызастом Вярэнка перадаў “*Тарыф*” ваўкавыскаму павятоваму маршалку і гродскаму суддзі Ўладзіславу Быхаўцу, у сувязі з чым, ён асеў у родавым архіве апошняга. Як ён апынуўся ў фондзе Слізняў – не вядома. Улічваючы тое, што ў НГАБ у Горадні захоўваецца таксама архіў Быхаўцаў (Ф.1664), можна меркаваць, што “*Тарыф*” апынуўся ў складзе фонда Слізняў памылкова – у выніку перамяшання спраў.

Структурна дакумент складзены ў выглядзе табліцы са спісам ваўкавыскай шляхты, падзеленай па парафіях. Першая графа ўтрымлівае назвы парафіяў, прозвішчы шляхты і назвы іх маёнткаў, а наступныя пяць – колькасць дымоў, паўдымоў, чвэрцяў, асьмінаў і шаснадцаткаў. Асаблівасцю друкуемай тарыфы 1734 г. з’яўляецца тое, што гэта быў так званы “*бягучы*” варыянт дакументу, бо на ім павятовы каморнік і камісар Хрызастом Вярэнка пазначаў хто аддаў падатак, а хто – не. Некаторыя ўдакладненні рабіў ў “*Тарыфе*” і ваўкавыскі гродскі пісар Лявон Багуслаў Тулоўскі.

“*Тарыф*” напісаны на 8 аркушах, прышытых сёння ў выглядзе сшытку да пазнейшай архіўнай папкі. Аркушы маюць арыгінальную пагінацыю, але пранумараваны таксама ў пазнейшы час у НГАБ у Горадні простым алоўкам з 1 па 8 адв. Стан захавання рукапісу задавальняючы, хаця маюцца зацертыя месцы, плямы, забруджванні, падкрэсленні, дзіркі. Апошнія заклееныя кавалкамі белай паперы пад час так званай “*рэстаўрацыі*” архіўнымі супрацоўнікамі, у выніку чаго інфармацыя часткова страчана (а.3, 4, 6 адв., 7–7 адв., 8–8 адв.) і асабліва ў графе “*Шаснадцаткі*”. На аркушы 8 адв. цалкам заклеена ваўкавыская ўрадавая гродская пячатка.

“*Тарыф*” дэманструе некалькі тагачасных почыркаў. Асноўны почырк (1) дакументу даволі выразны і чытэльны. Ён адрозніваецца ад почырку (2) Лявона Багуслава Тулоўскага, які падпісаўся каля гродскай пячаткі. Магчыма, почырк (1) належаў да аднаго з ваўкавыскіх земскіх і гродскіх рэгентаў, можа нават згаданаму ў дакуменце Адаму Гажкоўскаму. Почыркам (3) рабіліся адзнакі, выпраўленні, заўвагі. Як можна меркаваць

[857] Юры Станіслаў на Радовіцах Радавіцкі згадваецца ваўкавыскім судовым падстаростай і лоўчым у 1715-1725 г., сурагатарам у 1716-1717 г. Магчыма, памёр да ці ў 1733 г., гл.: *НГАБ у Горадні*. Ф.1664. Воп.1. Спр.672. Арк.1, 3; Спр.256. Арк.1; Спр.731. Арк.1; Спр.804. Арк.1.

[858] Гл. пра яго: Шаланда А. *Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVIII ст. (Б).*// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 3–4. С.101–102.

[859] Расійскія войскі колькасцю 45 000 чалавек пад камандаваннем фельдмаршала Мініха знаходзіліся ў ВКЛ пад час вайны “*за польскую спадчыну*” 1733-1735 г. для падтрымкі свайго саюзніка - караля Рэчы Паспалітай Аўгуста ІІІ, гл.: *Гісторыя Беларусі. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII-XVIII)*. Мн.: УП “*Экаперспектыва*”, 2004. С.116-117. Мацук А. *Унутрыпалітычная сітуацыя ў Ваўкавыскім павеце з 1721 па 1764 гады.// Памяць. Ваўкавыскі раён*. Мн.: БЕЛТА, 2004. С.74-75.

[860] Гл. пра яго С.139–140.

належаў ён Хрызастому Вярэнку. Почыркамі (4) і (5) рабіліся паметкі ўладальнікамі "*Тарыфу*" – верагодна, Быхаўцамі, калі наша думка аб паходжанні дакумента з іх родавага архіва слушная. Тэкст рукапісу напісаны светла-шэрым атрамантам, праўкі і дапіскі – цёмным брунатным. На аркушах 1, 3, 5, 7 маецца вадзяны знак: тры птушкі сядзяць на кусце, пад імі на стужцы ініцыялы: IWS. Ён падобны на той, які ў каталогу Э.Лаўцавічуса зафіксаваны пад № 2859–2864[861].

Мова рукапісу польская, больш таго па некаторых прыкметах (частае і неўнармаванае выкарыстанне літары "*ę*", напісанне некаторых мясцовых назваў у польскіх фанетычных формах, напрыклад, "*Dombrownikami*" і г.д.), дазваляе меркаваць, што аўтар быў паляк, аселы ў Ваўкавыскім павеце. Разам з тым, у перадачы прозвішчаў ваўкавыскай шляхты і назваў населеных пунктаў (напрыклад, "*Łaurow*" замест "*Ławrów*") адчуваюцца ўплывы беларускай мовы. Магчыма, нашае меркаванне наконт перапісчыка "*Тарыфу*" Адама Гажкоўскага мае пад сабой грунт, бо род Гажкоўскіх у ВКЛ быў польскага паходжання[862]. Украпленні лацінізмаў у тэкст нязначныя, больш іх у заключнай частцы дакументу.

Падымны "*Тарыф*" ваўкавыскай шляхты 1734 г. публікуецца ўпершыню. Ён дапаўняе ранейшыя падымныя рэестры шляхты Ваўкавыскага павета 1690 і 1710 г., апублікаваныя Стэфанам Кракоўскім, Анджэем Рахубай і Генрыкам Люлевічам[863]. Рукапіс з'яўляецца важнай крыніцай не толькі па гісторыі Ваўкавыскага павета і шляхты, якая яго засяляла ў першай палове XVIII ст., але і па гісторыі скарбу ВКЛ, бо дае магчымасць параўнаць дадзеныя падымных рэестраў канца XVII–першай паловы XVIII ст. на прыкладзе асобна ўзятага рэгіёна.

Дакумент друкуецца палітарным спосабам з максімальным набліжэннем да арыгінала[864]. Захавана структурная адметнасць крыніцы – табліца. Адзінае змяненне – назвы графаў, якія ў дакуменце паўтараюцца на кожным аркушы, падаюцца намі толькі адзін раз – у пачатку публікацыі. Для лепшай арыентацыі ў змесце "*Тарыфу*" паўтлустым шрыфтам вылучаны назвы парафіяў, ваколіцы і назвы графаў. У квадратных дужках падаецца архіўная нумарацыя аркушоў (але захавана і арыгінальная пагінацыя), раскрыццё скаротаў, страты і адноўлены намі тэкст. Скароты, якія стала паўтараюцца ў тэксце раскрываюцца толькі раз. Курсівам вылучаны лацінізмы, пазнакі і дапіскі. Паўтлустым курсівам у публікацыі вылучаны пазнейшыя праўкі цёмным брунатным атрамантам на першапачатковых зацертых лічбах колькасці дымоў. Памылкі і недакладныя месцы пазначаны словам (sic!). Пры незразумелых месцах ставіўся пытальнік (?). Канцы радкоў у прэамбуле і заключэнні "*Тарыфу*" пазначаны простай рысай |.

Дакумент быў выяўлены Аляксеем Шаландай. Набор тэкста здзейснены Генадзем Семянчуком. Уступ, каментары, рэдагаванне і зверка набранага тэксту з рукапісам зроблены А.Шаландай. "*Тарыф*" друкуецца з ласкавага дазволу адміністрацыі НГАБ у Горадні, за што дырэктару Таццяне Юр'еўне Афанасьевай складаем шчырую падзяку.

---

861 Laucevicius E. *Popierius Lietuvoje. Atlasas*. Vilnius, 1967. P.394–395.
862 Niesiecki K. *Herbarz polski*. Lipsk, 1839. T.4. S.219.
863 Krakowski S. *Wykaz podatku podymnego powiatu Wołkowyskiego z r. 1690.*// Odbitka z Wiadomości Studium Historii Prawa Litewskiego U.S.B. T.1. Wilno, 1938. S.205–272. *Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo nowogródzkie 1690 r.* Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba. Warszawa, 2002. S.154–207.
864 Шаланда А. *Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі польскамоўных дакументаў па гісторыі Беларусі XVI-першай паловы XIX ст. Праект*. Мн.: БелНДІДАС, 2011. 40 с. (у друку).

**Выпіс падымнага тарыфу шляхты Ваўкавыскага павета.**
**12 X 1734 г. Ваўкавыск.**

**Ар.**: невядомы.
**К.**: *НГАБ у Горадні*. Ф.1663. Воп.1. Спр.197. Арк.1-8 адв. Ркпс. Папера *in folio*. Колер цёмна-жоўты. Маюцца нязначныя забруджанні, зацертасці, плямы, дзіркі, заклееныя пад час архіўнай “*рэстаўрацыі*” кавалкамі белай паперы. Захаванасць задавальняючая. Тэкст чытаецца амаль цалкам. Пячатка не захавалася – заклеена кавалкам белай паперы. На дадатковым аркушы белага колеру маецца архіўны фіялетавы прамакутны штамп: “ФИЛИАЛ ЦЕНТРАЛЬНОГО ГОСУДАРСТВЕННОГО | ИСТОРИЧЕСКОГО АРХИВА го[р]. ГРОДНО | - | В настоящей единице хранения | ф. № *1663* оп. № *1* ед.хр. № *197* | *8 (восемь)* листов. | Архивариус *[подпіс неразборлівы]* |”[865].
**Выд.**: упершыню.

[арк.1]
[1]

# mnię myn in(?)[866] |

Taryffa z Xiąg Ziemskich Grodzkich P[owia]ttu Wołkowyskiego Widymusem | Roku 1734 M[iesią]Ca *8bra*[867] Dwunastego Dnia WYięta |

| **Paraffia Wołkowyska.** | **DYmY** | **PulDYmY** | **Czwierci** | **Osminy** | **Szestnastki** |
|---|---|---|---|---|---|
| *o*[868]J[ego]m[iłoś]ci (sic!) Pan Heronim Pietraszewski ZOlszymowa – // –[869] Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*JmPan Stanisław Kołłątay Zolszymowa – // – // Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*JmP Jan Niemczynowicz ZOlszymowa – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*Jm P. Katarzyna Bucholcowa z Kołłątaiow – // Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*Taż Jmć od P. Niemczynowicza – // – // – // – Dym | – | ½ | ¼ | | |
| *o*JmP Zabohonski ZWołkowyska – // – // – // – // Dym | | | ¼ | | |
| *JmC Pan Kołątay z Wokowyszyznu* (sic!) *Rosi*[870] | – | ***½*** | – | ***1/8*** | |
| *o*JmP. Stefan Płaskowicki z Krzysięwicz – // – // Dy[m] | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*Tenze po JmPu Charmanskim – // – // – // – Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP Andrzey Niemczynowicz z Krzysiewicz – // – // Dym | – | – | ¼ | | |
| *o*JmP. Michał Niemczynowicz z Krzysięwicz – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP Marcin Niemczynowicz z tychze – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP Benedykt Koreywa z Krzysięwicz – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP Andrzey Koreywa – // – // – // – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP. Alexander Sawicki z Koreywicz – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP. Andrzey Niemczynowicz z Koreywicz – // – // Dym | – | ½ | | | |
| *o*JmP Jan Koreywo z Koreywicz – // – // – // Dym | – | ½ | – | 1/8 | |

865 Курсівам падаюцца лічбы, словы і подпіс, напісаныя ад рукі фіялетавым атрамантам.
866 Сказ незразумелы: “*мяне мінуй…?*”. Напісаны почыркам (1).
867 *8bra* – кастрычніка.
868 Тут і далей літара “*o*” напісана почыркам (3), які мог належаць ваўкавыскаму павятоваму каморніку і камісару Хрызастому Вярэнцы і відавочна значыў скарот ад слова “*oddał*” – “*аддаў*”. Адсутнасць гэтага пазначэння дае падставы меркаваць аб невыплаце падатку.
869 Аўтарскія касыя крэскі і прочыркі займалі месца з канца назвы маёнтка да слова “*Dym*”. Іх колькасць захавана як у крыніцы.
870 Увесь радок разам з колькасцю паўдымоў і асьмінаў дапісаны пазней цёмным брунатным атрамантам почыркам (2), які належаў Лявону Багуславу Тулоўскаму, ваўкавыскаму гродскаму пісару.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *o*JmP Mikołay Koreywo z Koreywicz – // – // – // | Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| JmP Jan Cedrowski z Koreywicz – // – // – // | Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*JmP. Andrzey Podrez z Koreywicz – // – // – // | Dym | – | ½ | – | | |
| *o*JmP Alexander Horodelski z Krżywopiszow – // – // | Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*JmP. Marcinowa Raffałowiczowa z Swięcicy – // | Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*JmP Woyciech Kilanski od Jm Pa Kołłątaja – // | Dym | – | ½ | – | 1/8 | |
| *o*JmPani Miniewska z Marcinowki – // – // – // | Dym[871] | – | /2 | – | 1/8 | |
| *o*JmP. Maciey Mozyrko z Łopienicy – // – // | Dym[872] | – | ***2*** | ***¼*** | ***8*** | |
| *o*JmP. Andrzey Tołoczko z Łopienicy Małey – // | Dy[m] | – | ½ | | | |

---

871 Напісанне /2 у графе "*Паўдымы*", магчыма, трэба разумець як ½.
872 Лічба ¼ закрэслена. Пад лічбамі 2 і 8, верагодна, трэба разумець ½ і 1/8.
873 *Cum attinensijs* – з уладаннямі.
874 Віленскім біскупам у 1734 г. быў Міхал Ян Зянковіч, гл.: Niesiecki K. *Herbarz polski*. Lipsk, 1839. T.1. S.44.
875 Апошні прочырк закрэслівае ранейшую зацертую лічбу 2.
876 Лічба 2 напісана па зацертаму слову "*odd[a]łł*".
877 Лічба 13 напісана паверх ранейшага прочырка.
878 Лічба 1 напісана паверх ранейшага прочырка.
879 Лічба 10 напісана паверх ранейшага прочырка.
880 Як можна меркаваць, маецца на ўвазе Казімер Дамінік Агінскі, ваявода віленскі ў 1730-1733 г. Негледзячы на тое, што яшчэ 10 кастрычніка 1733 г. ён памёр, яго наступнік на гэтай пасадзе Міхал Сервацы Карыбут Вішнявецкі ў 1734 г. называўся толькі адміністратарам Віленскага ваяводства, гл.: *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Wileńskie XIV–XVIII wiek*. Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk. Warszawa, 2004. T.I. S.197.
881 Маецца на ўвазе фальварак Марціновічы і Кватэры. Лічба 1 у колькасці дымоў выпраўляе ранейшую зацертую лічбу 3 (?).
882 Трэба "*Konna*".
883 Дапісана пазней почыркам (3). Слова "*odd[a]łł*" дапісана і ў графе "*Асьміны*". Падкрэсленная назва маёнтку Ўрушаляўшчызна дазваляе меркаваць, што другі раз Хрызастом Вярэнка адзначыў атрыманне падатку менавіта з гэтага ўладання Юдыцкага.
884 У графе "*Шаснадцаткі*" відаць толькі лічба 1.
885 У графе "*Чвэрці*" каля лічбы ¼ відаць адзнаку *n'*, сэнс якой раскрыць мы не можам. Магчыма, маецца на ўвазе скарот ад "*niedzielny*" – "*не падзелены*" (?).
886 У графе "*Чвэрці*" каля лічбы ¼ відаць адзнаку *n'*.
887 У графе "*Чвэрці*" каля лічбы ¼ відаць адзнаку *n'*.
888 Графы "*Чвэрці*", "*Асьміны*" і "*Шаснадцаткі*" заклееныя кавалкам паперы.
889 Графы "*Чвэрці*", "*Асьміны*" і "*Шаснадцаткі*" заклееныя кавалкам паперы.
890 Графы "*Чвэрці*", "*Асьміны*" і "*Шаснадцаткі*" заклееныя кавалкам паперы.
891 Лічба 2 напісана паверх ранейшага прочырку.
892 Лічба 2 напісана паверх ранейшага прочырку. У графе "*Чвэрці*" прочырк пастаўлены паверх зацертай лічбы ¼, а ў наступнай – "*Асьміны*" – дапісана лічба 8.
893 У графе "*Чвэрці*" зацерта лічба ¼.
894 У графе "*Паўдымы*" лічба 1 напісана паверх ранейшага прочырка.
895 Лічба 30 напісана паверх нейкай зацертай ранейшай лічбы.
896 Лічба ¼ зацертая.
897 Лічба 10 напісана паверх прочырку.
898 Графа "*Шаснадцаткі*" заклеена кавалкам белай паперы.
899 Графа "*Шаснадцаткі*" заклеена кавалкам белай паперы.
900 У графе "*Дымы*" прочырк пастаўлены паверх зацертай лічбы.
901 У графе "*Дымы*" 4 пастаўлена паверх зацертай лічбы 2.
902 *Re[s]tat* – супраціўляўся.
903 Лічба ¼ зацертая, а побач з прочыркам ў графе "*Асьміны*" дапісана лічба 1/8.
904 Ва ўсіх графах дадзеныя адсутнічаюць.
905 *autt* – дакладна?
906 У графе "*Шаснадцаткі*" відаць толькі лічба 1 ад 16.
907 Імя напісана паверх ранейшага зацертага слова.
908 Назва маёнтка выпраўлена з нейкай іншай.
909 Літара "*n*" у назве маёнтка напісана паверх нейкай іншай ранейшай літары.
910 Назва маёнтка дапісана пазней паверх прочыркаў з касымі крэскамі.
911 Лічба ¼ зацертая.

бацькам ужо вядомага нам Мікалая Крыштафа Радзівіла, уладальніка Чарнаўчыцаў з 1568 г.[944]

У левай частцы тарчы тры залатыя колы сімвалізуюць тры першапачатковыя вуліцы мястэчка, з якіх вырас сучасны населены пункт (гістарычны прынцып). Чорнае поле вынікае з назвы Чарнаўчыцы ("*гаворачы*" прынцып). Сцяг Чарнаўчыцаў: *простакутная плахта з суадносінамі бакоў 1:2 падзелена на тры роўныя вертыкальныя палосы: дзве залатыя па краях і цэнтральная чорная*, паўтарае асноўныя геральдычныя колеры яго герба.

Такім чынам, першай дакладнай датай, ад якой трэба лічыць узрост Чарнаўчыцаў, з'яўляецца на сёння 1471 г. – год фундацыі Івашкай Іллінічам чарнаўчыцкага касцёла. Праект герба, складзены на падставе трох прынцыпаў: "*гаворачага*", прыватнаўласніцкага і гістарычнага, на нашу думку, адлюстроўвае не толькі гісторыю Чарнаўчыцаў, звязаную са славутым родам Радзівілаў, след па якіх захаваўся ў помніках сакральнай архітэктуры, але і пэўныя этапы урбанізацыі сучаснага населенага пункта: вёска – мястэчка.

ПРАЕКТ

АПІСАННЕ
герба і сцягу Чарнаўчыцаў.

ГЕРБ: тарча гішпанскага тыпу разбіта на дзве часткі, у правай – у залатым полі палова чорнага арла з раскінутым крылом, на якім залатыя падперыны, вока чорнае на блакітным зрэнку, залатая дзюба раскрыта і з яе высоўваецца чырвоны язык, лапа залатая з чорнымі капцюрамі, у левай – у чорным полі тры залатыя колы з шасцю спіцамі ў слуп.
СЦЯГ: простакутная плахта з суадносінамі бакоў 1:2 падзелена на тры роўныя вертыкальныя палосы: дзве залатыя па краях і цэнтральная чорная.

Аўтар герба і сцягу: Аляксей Шаланда.
Мастак: Іна Салдатава.

Адзначаны Праект удзельнічаў у конкурсе на герб Чарнаўчыцаў, які праводзілі мясцовыя ўлады, аднак, ніводзін з прадстаўленых на іх разгляд варыянтаў, у тым ліку і наш, не быў ухвалены. У адносінах да нашага праекту герба быў зроблены закід, што ён занадта …нямецкі! Ды і паўарол падаўся мясцовым знаўцам геральдыкі вельмі драпежным. У выніку, ўлады звярнуліся па герб у Геральдычны савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Яго супрацоўнікамі М.Елінскай і В.Ляхарам быў распрацаваны праект герба Чарнаўчыцаў, у аснову якога была пакладзена сімвалічная выява мясцовага помніку архітэктуры другой паловы XVI ст. – касцёла Святой Троіцы. Па сутнасці, імі быў абраны прынцып стварэння герба на падставе мясцовай святыні, што яшчэ можна зразумець, аднак, узнікае іншая праблема: якімі крытэрыямі кіраваліся стваральнікі герба ў адборы сваіх гербатворчых прынцыпаў? З другога боку, пры абраным падыходзе роля Радзівілаў у фарміраванні мястэчка Чарнаўчыцы становіцца зусім малавыразнай. Аднак, Радзівілы ў Чарнаўчыцах - гэта не толькі гісторыя, але яшчэ і эканоміка, якая мае непасрэднае дачыненне да сённяшняга дня. Можна сказаць па іншаму – сёння Радзівілы - гэта брэнд. У апошнім Чарнаўчыцы, ператвораныя ў савецкі час з мястэчка ў вёску і атрымаўшыя ў 1997 г. статус аграгарадка, маюць не толькі асаблівую патрэбу, але і правы. Здавалася б мясцовыя ўлады добра разумеюць і бачаць урбаністычную і эканамічную перспектывы свайго адміністрацыйнага цэнтра. Яшчэ адным крокам на гэтым шляху мог бы стаць новастворааны герб Чарнаўчыцаў. Але, відаць, наша памылка як раз і заключалася ў тым, што мы стваралі герб гістарычнага мястэчка – некалі



*Праект гербу Чарнаўчыцаў аўтарства А.Шаланды і І.Салдатавай.*

[944] Гурын М. *Радзівіл Мікалай Крыштоф.*// ВКЛЭ. У 2 т. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С.494.

цэнтра графства, а трэба было – сучаснай вёскі – цэнтра сельсавета. Праблема, аднак, у тым, што герб цэнтра сельсавета – гэта нонсэнс з любога пункту гледжання.



*Праект герба Чарнаўчыцаў аўтарства Марыны Елінскай і Віктара Ляхара*

Тым не менш, удзел у конкурсе на герб вёскі Чарнаўчыцы даў нам каштоўны вопыт гербатворчасці і дазволіў яшчэ раз упэўніцца ў нізкай геральдычнай культуры мясцовых чыноўнікаў. Апошняе прывяло нас да высновы, што ў сітуацыі, калі аргументы спецыялістаў не пераконваюць па нейкіх надуманных матывах, ісці за густамі абывацеляў у справе стварэння новых гербаў - няўдзячная справа. З іншага боку, калі цябе не разумеюць, значыць ты наперадзе. На нашу думку, у дадзеным выпадку лепей пакінуць населены пункт пакуль увогуле без гербу, чым маляваць нічым не падмацаваныя малюнкі і губляць на гэта свой час. Бо, каб скласці гістарычную даведку населенага пункта на падставе архіўных дакументаў, стварыць праект яго герба і намаляваць яго каляровую мініяцюру, патрэбны пэўны тэрмін і праца не толькі геральдыста-навукоўца, але і прафесійнага мастака, знаёмага з геральдыкай. Не кажучы ўжо пра тое, што мець герб – гэта дарагое задавальненне.

***Адэльск.*** Сучасная вёска, а некалі мястэчка, Адэльск вядома з другой паловы XV ст., калі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімер Ягайлавіч надаў яму таргі і вольнасці. Апошнія былі пацверджаны 20 чэрвеня 1546 г. каралевай і вялікай княгіняй Бонай Сфорца. Яе канфірмацыя з’явілася з нагоды пажару мясцовага касцёла, дзе згарэлі ўсе адэльскія дакументы. Пазней, паводле Анатоля Цітова, правы і вольнасці мяшчанаў Адэльска былі пацверджаны Стэфанам Баторыям 26 сакавіка 1580 г., Уладзіславам IV Вазай 23 мая 1633 г. і ў 1670 г. Міхалам Вішнявецкім. Тым не менш, далей ён адзначыў, што: “*Пакуль няма звестак аб карыстанні мяшчанамі майдэборскімі правамі...*”[945]. У якасці адэльскага герба А.Цітовым быў прапанаваны варыянт, распрацаваны ў Герольдыі Расійскай Імперыі (праект ад 27 лютага 1875 г.): “*у залатым полі дзве скрыжаваныя касы, па краях тарка – два каласы чырвонага колеру*”[946].

Тым не меней, захаваўся дакумент, які не толькі сведчыць пра карыстанне Адэльскам Магдэбургскім правам, але ўтрымоўвае інфармацыю пра яго гарадскі герб.



*Герб Майшаголы, 1792 г.*

Гэта – копія рэнавацыйнага прывілея Адэльска, нададзенага каралём польскім і вялікім князем літоўскім Станіславам Аўгустам Панятоўскім. Дакумент захоўваецца ў Архіве Адэльскага касцёла[947]. Прывілей быў выдадзены ў Варшаве, але датацыя адсутнічае. Як можна меркаваць, ён быў з серыі тых рэнавацыйных і лакацыйных прывілеяў, якія з’явіліся на падставе прынятай Чатырохгадовым (1788–1792 г.) соймам у Варшаве пастанове ад 18 красавіка 1791 г. “*Miasta nasze Królewskie wolne w państwach Rzeczypospolitey*”[948]. Як падлічыў літоўскі геральдыст Эдмундас Рымша, ў прамежак часу з 9 лістапада 1791 па 26 чэрвеня 1792 г. 74 места ВКЛ атрымалі прывілеі на вольнасць[949]. І хаця прывілей Адэльску застаўся яму невядомым, выданне дакументу можна аднесці на 1791–1792 г.

Пра гэта сведчыць таксама аднатыпнасць адэльскага дакумента з іншымі рэнавацыйнымі прывілеямі Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Спачатку ідзе пералік усіх

945 Цітоў А. *Геральдыка Беларускіх местаў*. Мн.: Полымя, 1998. С.105.
946 Цітоў А. *Геральдыка Беларускіх местаў*. С.105.
947 *Архіў Адэльскага касцёла (далей – ААК)*. Спр.3. Арк.12–13 адв. Гл. таксама: Макарчык Ю. *Адэльск. 1490–2010*. Мн.: Про Хрысто, 2010. С.27–30.
948 *VL*. Kraków, 1889. T.IX. S.215.
949 Rimša E. *Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego*. Warszawa, 2007. S.238.

папярэдніх прывілеяў на правы і вольнасці Адэльску: ад Казімера Ягайлавіча на таргі і землі, канфірмацыі гэтых наданняў ад Боны (ад 12 чэрвеня 1546 г.), Яна III Сабескага (ад 15 студзеня 1679 г.), Аўгуста II Саса (ад 20 студзеня 1720 г.), Аўгуста III Саса (ад 15 лістапада 1744 г.), а таксама канфірмацыі на валокі і грунты, памеранныя рэвізорамі Жыгімонта Аўгуста, ад Стэфана Баторыя (ад 20 мая 1580 г.), Уладзіслава IV Вазы (ад 23 мая 1633 г.), Яна Казімера Вазы (ад 13 ліпеня 1667 г.) і Міхала Вішнявецкага (ад 23 сакавіка 1670 г.)[950]. Далей апісваліся правы і вольнасці Адэльска, судовы парадак, даваўся дазвол на пабудову ратушу і, нарэшце, "*aby zaś też miasto tak w rzeczach sądowych, jako i rządowych miejskich na wypisach i działach urzędowych, jaki się tu odmalowany widzieć daje, to jest św. Antoniego, którego to herbu na pieczęciach i wszelkich oznakach temuż miastu używać dozwalamy*"[951]. У выніку маем два варыянты герба для Адэльска: гістарычны з выявай Святога Антонія Падуанскага (1791–1792 г.), і праект расійскай Герольдыі з косамі і каласамі (1875 г.). У такой сітуацыі выбіраецца той, які паўстаў раней[952].

Такім чынам, у гербе Адэльска павінен быць Святы Антоні Падуанскі, малюнак якога быў намаляваны ў арыгінальным прывілеі і які захаваўся ў копіі. Трэба сказаць, што падобны герб 23 лютага 1792 г. атрымала літоўская Майшагола: "*...to jest wyobrażenie świętego Antoniego...*"[953]. Апісанні гербаў у прывілеях Адэльска і Майшаголы амаль супадаюць, а іканаграфія Святога Антонія Падуанскага ў XVIII ст. была набліжана да аднаго канону – звычайна ён паказваўся з малым Ісусам у адной руцэ і з ліліяй ў другой. Герб Майшаголы ўяўляў сабой: *у чорным полі пагрудную выяву Святога Антонія з прамяністым залатым німбам у брунатна-чырвоным хітоне, які трымае ў правай руцэ Псалтыр, а левай прытрымлівае малога Ісуса з прамяністым залатым німбам і з белай ліліяй на зялёнай сцябліне ў левай руцэ*[954].



*Праект герба Адэльска аўтарства Ўладзімера Кіслага*

Зразумела, што адэльскі герб павінен быў неяк адрозніваццa ад майшагольскага. Гэтая розніца магла быць ў колерах іх палёў і гербавых выяў. Па меньшай меры, мастак, які маляваў гербы для вольных гарадоў ВКЛ у 1791–1792 г. практыкаваў такі прыём у выпадках, калі гербавыя выявы супадалі. Дастаткова параўнаць гербы з выявамі Святога Юрыя Прэнаў і Ўгор'я[955], Святога Станіслава Пуняў і Цельшаў[956] ці, напрыклад, льва Слоніма і Алькенікаў[957]. Праўда, часам выявы маглі амаль цалкам супадаць, як гэта было са Святым Паўлам ў гербах Пуньска і Платэляў[958], але і ў апошнім выпадку былі дробныя адрозныя элементы. У сувязі з гэтым, для рэканструкцыі герба Адэльска трэба ўзяць за аснову выяву Святога Антонія ў аналагічным гербе Майшаголы, прымяніўшы для адрознення адваротны прынцып у выбары колераў поля і гербавай выявы.

---

[950] *ААК*. Спр.3. Арк.12. Даты патрабуюць дадатковай праверкі, бо не заўсёды правільна падаюцца ў копіі.

[951] *ААК*. Спр.3. Арк.13. Пераклад наш: "*каб горад, як у судовых справах, так і кіраўнічых гарадскіх, на выпісах і справах урадовых, як тут намаляваны бачыць можна, гэта значыць Святога Антонія, каторага герба на пячатках і розных адзнаках гэтаму ж гораду ўжываць дазваляем*".

[952] Адамушко В.И., Елинская М.М. *Гербы и флаги Беларуси*. Мн.: Беларусь, 2006. С.13–14, 22.

[953] *АВАК*: Акты Главнаго Литовскаго Трибунала. Вильна, 1886. Т.XIII. С.270. № 87. Цітоў А. *Геральдыка Беларускіх местаў*. С.195. *Lietuvos Metrika*. Knyga Nr. 556: (1791–1792). Viešųjų reikalų knyga 35. Parengė A.Baliulis, R.Firkovičius, E.Rimša. Vilnius: Versus aureus, 2005. P.67. № 24. Rimša E. *Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego*. S.629.

[954] Цітоў А. *Геральдыка Беларускіх местаў*. С.195. *LM. Knyga Nr. 556: (1791–1792).* P.67. № 24.

[955] *LM. Knyga Nr. 556: (1791–1792).* P.17. № 2; P.111. № 45.

[956] *LM. Knyga Nr. 556: (1791–1792).* P.22. № 4; P.27. № 6.

[957] *LM. Knyga Nr. 556: (1791–1792).* P.83. № 32; P.168. № 74.

[958] *LM. Knyga Nr. 556: (1791–1792).* P.50. № 16; P.79. № 30.

Прапануем наступны варыянт праекта гістарычнага герба Адэльска: *у чырвоным полі пагрудная выява Святога Антонія з прамяністым залатым німбам у чорным хітоне, які трымае ў правай руцэ Псалтыр, а левай прытрымлівае малога Ісуса з прамяністым залатым німбам і з белай ліліяй на зялёнай сцябліне ў левай руцэ.*

ПРАЕКТ

АПІСАННЕ
герба Адэльска.

ГЕРБ: на тарчы гішпанскага тыпу ў чырвоным полі пагрудная выява Святога Антонія з прамяністым залатым німбам у чорным хітоне, які трымае ў правай руцэ Псалтыр, а левай прытрымлівае малога Ісуса з прамяністым залатым німбам і з белай ліліяй на зялёнай сцябліне ў левай руцэ.

Аўтар гербу: Аляксей Шаланда.

На падставе рэнавацыйнага прывілея 1791–1792 г. гарадзенскім мастаком Уладзімерам Кіслым быў распрацаваны ўласны праект герба Адэльска, дзе галоўнымі адрозненнямі ад нашага варыянту былі: блакітны колер поля тарчы, постаць Святога Антонія ў брунатным хітоне пададзена ва ўвесь рост, лілію ён трымае ў сваёй правай руцэ, а Псалтыр з Ісусам – у левай, акрамя гэтага Ісус у левай руцэ трымае кулю. Калі з колерам поля і хітона мы яшчэ можам пагадзіцца, бо першы адпавядае колеру поля гербу Горадні, а Адэльск, які адміністрацыйна ўваходзіць у Гарадзенскую вобласць, цалкам можа запазычыць “*абласны*” блакіт, а другі – адпавядае колеру хітона Святога Антонія з герба Майшаголы, то размяшчэнне ліліі, Псалтыра і Ісуса выглядае не зусім удалым і натуральным. Следам за ім пайшлі супрацоўнікі Геральдычнага савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М.Елінская і В.Ляхар, якія, улічыўшы нашую інфармацыю, стварылі свой варыянт герба Адэльска: *на тарчы нямецкага тыпу ў блакітным полі пагрудная выява Святога Антонія з прамяністым залатым німбам у брунатным хітоне, які ўказвае правай рукой на раскрыты Псалтыр, які трымае ў левай, на ёй жа сядзіць у белай доўгай кашулі малы Ісус з прамяністым залатым німбам і з белай ліліяй на зялёнай сцябліне ў левай руцэ*. Як бачым, гэтаму варыянту ўласцівы тыя ж хібы, што былі ў праекце герба Ў.Кіслага.

Выкажам галоўныя высновы, якія вымалёўваюцца з усяго нашага папярэдняга вопыту гербатворчасці: па-першае, адных толькі гербатворчых прынцыпаў для стварэння новых гербаў для гарадоў і вёсак Беларусі яўна недастаткова; па-другое: стварэнню герба павінна папярэднічаць сур’ёзная і глыбокая навукова-даследчыцкая праца, якая павінна выявіць найбольш раннюю дату згадкі населенага пункта, высвятліць наяўнасць ці адсутнасць у яго Магдэбургскага права і герба (г.зн. вызначыць яго гістарычны статус), па-трэцяе, даследаваць асноўныя вехі яго гісторыі, каб мець нейкі сапраўды адмысловы матэрыял для адлюстравання яго ў гербавай выяве, па-чацьвертае, апошняе слова ў справе стварэння герба павінна заставацца за геральдыстамі, а не за чыноўнікамі, якія, на нашу думку, павінны мець толькі права ініцыяваць адпаведную працэдуру. Сёння ўжо зразумела, што займацца стварэннем новых гербаў можа толькі тая навуковая ўстанова, дзе ёсць для гэтага спецыялісты па геральдыцы (чытай – Інстытут гісторыі НАН Беларусі, сектар геральдыкі і нумізматыкі), у той час, як Геральдычны савет павінен пакінуць сабе права зацьвярджаць прадстаўленыя ёй праекты і ўносіць іх у Гербавы Матрыкул Рэспублікі Беларусь. Лічым, што сітуацыя, калі апошні сам стварае і сам зацьвярджае свае гербавыя праекты, не адпавядае вымогам сучаснай геральдычнай навукі.



*Праект герба Адэльска аўтарства М.Елінскай і В.Ляхара.*

*Аляксей Шаланда (Менск).*

## Чарняўскі Фёдар.

*Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI–XVIII ст.: Біяграфічны даведнік. Вып.1.*

Баранавічы: БелАніГал, 2007. 256 с.

У 2007 г. у Баранавічах была надрукавана цікавая ва ўсіх адносінах кніга, падрыхтаваная Фёдарам Чарняўскім. Кніга выклікала пэўны розгалас сярод даследчыкаў эпохі ВКЛ, а вусныя адзнакі стракацелі неадназначнасцю. Гэта – заканамерная рэакцыя "*прафесійных*" знаўцаў на працу, якую адназначна можна кваліфікаваць як аматарскую, хаця і не без прэтэнзіяў на большае. Кніга Ф.Чарняўскага з'яўляецца першым выпускам даведніка з біяграфічнымі звесткамі пра менскіхураднікаў часоў Рэчы Паспалітай.



Уласна ідэя кнігі не выклікае пярэчанняў, а вось што датычыць назвы, то тут усё атрымліваецца па вядомай формуле: як "*карабель*" назывеш, так і "*паплывеш*". Да назвы ўзнікаюць вялікія прэтэнзіі адразу як пачынаеш чытаць кнігу. Справа ў тым, што не гледзячы на апраўданні і тлумачэнні аўтара ў прадмове (с.11), правільней усё ж было б назваць даведнік "*Ураднікі **Менскага павета***...", паколькі ў даведнік трапілі толькі менскія павятовыя ўраднікі. Між тым вядома, што Менскае ваяводства складалася ажно з трох паветаў: Менскага, Рэчыцкага і Мазырскага. Навошта было аўтару прыдумляць на роўным месцы праблемы – цяжка сказаць. Няма таксама сэнсу ў вынаходніцтве зручных і арыгінальных толькі для аўтара тэрмінаў, тым больш, што ў крыніцах няма ні пісараў, ні суддзяў земскіх Менскага ваяводства, але былі павятовыя ўраднікі.

Структура даведніка шмат у чым абумоўлена агульнай канцэпцыяй выдання. Аўтар змясціў у першым выпуску (?!) 11, 12, 21 і 29 раздзелы, якія ўтрымліваюць інфармацыю пра менскіх стольнікаў, падстоліяў, лоўчых і струкчашых. Кожны раздзел складаецца з артыкулаў са звесткамі пра ўраднікаў у адпаведнасці з хcraналагічным парадкам займання пасады. Сумарна Ф.Чарняўскі падае звесткі пра 30 стольнікаў, 39 падстоліяў, 43 лоўчых і дзвух струкчашых, што дае разам 114 нарысаў розных, як па памерах, так і па вартасці. Кожны раздзел мае "*ўласны*" асабовы паказальнік (агульны не прадугледжаны), што даволі нязручна, бо запавольвае пошук патрэбнай інфармацыі.

Праца Ф.Чарняўскага заснавана на архіўных і апублікаваных матэрыялах. Сярод першых фундаментальную ролю адыгрываюць дакументы з Метрыкі ВКЛ, а таксама земскіх і гродскіх кніг Менскага павета. Усе выкарыстаныя матэрыялы айчыннага "*паходжання*", бо зберагаюцца ў НГАБ у Менску. Замежныя архівы не трапілі ў поле зроку складальніка кнігі. Праўда, Ф.Чарняўскі у спісе скарачэнняў (с.6) згадвае неакрэсленыя бліжэй "*матэрыялы*" з Нацыянальнай бібліятэкі і Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве, якія належаць вядомаму польскаму гісторыку Анджэю Рахубе, але спасылак на іх у гэтым выпуску няма, калі не лічыць выразаў накшталт "*як сведчыць А.Рахуба*" (с.24). Акрамя архіўных і апублікаваных крыніцаў (АВАК і г.д – с.6) дапаможную функцыю адыгралі пры падборцы звестак дадзеныя з гербоўнікаў С.Урускага, А.Банецкага, В.Каяловіча і інш.

Пры відавочнай абмежаванасці крыніцавай базы, бо далёка не ўвесь патэнцыял нават менскіх бібліятэк быў выкарыстаны аўтарам, выяўленых сведчанняў хапіла на даведнік, пры гэтым сапраўды адзінкавы ў сваім родзе. Сабраныя Ф.Чарняўскім звесткі датычаць найперш кар'ераў, маёмаснага і сямейнага становішча менскіх ураднікаў, а таму ў многіх выпадках даюцца паўнавартасныя біяграмы, альтэрнатывы якім пакуль няма. Менавіта ў гэтым заключаецца найбольшая карысць рэцэнзуемай працы. Ф.Чарняўскі

здолеў адшукаць у рукапісных крыніцах вялікую колькасць невядомых фактаў і пераказаць іх змест. Паводле нашага меркавання, комплекснае выкарыстанне беларускіх ды замежных архіваў дазволіла б сабраць яшчэ больш важнай інфармацыі. Зразумела, што вымагаць прасцей, чым рабіць, але неяк фізічна адчуваецца нястача ў даведніку звестак, напрыклад, з таго ж Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве, асабліва эпісталярнай яго часткі.

Пры ўсіх плюсах сабранага матэрыялу, бракуе ў даведніку яшчэ адной важкай дэталі – грунтоўнага аналітычнага даследавання эвалюцыі сістэмы урадаў менавіта ў Менскім ваяводстве, з улікам усіх паветаў. Малавартаснымі выглядаюць сціплыя прадмовы аўтара пра самыя ўрады. Аднак і на гэта можна не звярнуць увагу. Ад такога выдання можна было б чакаць нейкага абагульняючага “*партрэту*” менскага ўрадніка – ці таго стольніка, ці таго падстолія. Але, на жаль, і гэтага няма.

Нельга не выказаць яшчэ такую заўвагу. Актавыя крыніцы, на якіх пераважна складзены даведнік, дэтэрмінуюць яго пэўную факталагічную перагружанасць. Часам складваецца ўражанне, што чытаеш не вынік даследавання, а кепскі пераклад на беларускую мову. Адчуваецца фатальная залежнасць працы Ф.Чарняўскага ад польскай мовы, якая ў кнізе прысутнічае ў дзіўных і неўласцівых для беларускай мовы формах – “*струкцасы*” ці “*маетнасць*”, “*менне*” і г.д. Не лепш выглядае справа і з механічнымі перайманнямі з расійскай мовы. Неаднаразовыя згадкі пра шлюбы маглі б натхніць аўтара зазірнуць у слоўнік для даведкі пра тое, што “*шлюбы бяруць*”, а не “*ўступаюць у шлюбы*” (с.17 і г.д.). А чаго толькі варты выраз “*не маючы падтрымкі **на верхніх паверхах ўлады***” (с. 26)? Ён больш пасуе да прыкладаў сучаснай лексыкі.

Нарэшце, апошняе. Ф.Чарняўскі ў наш складаны час выглядае вялікім аптымістам, калі падае напрыканцы сваёй працы дакладныя даты “*выхаду ў свет*” чарговых выпускаў даведніка, распісаныя на 2007–2011 г. Фактычна ў гэтым годзе выданне павінна было б закончыцца. Але ўсім цікаўным яўна прыдзецца пачакаць[959].

Даведнікі патрэбныя нашай гістарычнай навуцы ды грамадству, як паветра. Няхай не ўсё ўдаецца адразу. Па вялікаму рахунку Ф.Чарняўскі самаахвярна робіць працу цэлага калектыву акадэмічных прафесійных гісторыкаў. Хочацца спадзявацца, што даследчыцкі энтузіязм і смеласць Ф.Чарняўскага, праяўлены пры падрыхтоўцы згаданага выпуску, перарасце ў наступных выданнях у належную навуковую якасць.

*Віталь Галубовіч (Горадня).*

## Данскіх Сяргей.

*Стагоддзі і падзеі Шчучынскай зямлі.*
Баранавічы: Баранав. узбуйн. друк., 2007. 252 с.

Ужо са з’яўленнем у 2001 г. кнігі даследчыка Сяргея Данскіх “*Наш Шчучын*” стала зразумела, што Шчучыншчыне пашчасціла атрымаць свайго летапісца. Канцэптуальна па-новаму, цікава і нават захапляльна аўтар пазнаёміў чытачоў са сваім родным горадам. Шкада толькі, што наклад кнігі адразу зрабіў яе бібліяграфічнай рэдкасцю. І новая кніга даследчыка “*Стагоддзі і падзеі Шчучынскай зямлі*” не можа не звярнуць на сябе ўвагу як аматара мінуўшчыны і шчырага патрыёта роднага краю, так і кожнага навукоўца, які ў кола сваіх інтарэсаў ўключае гістарычныі падзеі Шчучыншчыны.




Сваім зместам кніга С.Данскіх сведчыць пра бясконцую насычанасць кожнага кутка нашай краіны падзеямі як мясцовай, так агульнадзяржаўнай і агульнаеўрапейскай гісторыі. Аўтар на падставе ўласнай храналогіі, пакладзенай у змест кнігі, прапануе шырокую карціну

[959] У 2010 г. быў надрукаваны 3 выпуск, гл.: Чарняўскі Ф. *Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI–XVIII ст. Біяграф. давед.* Мн.: УП “*ПТаХа*”, 2010. Вып.III (канюшыя, абозныя, крайчыя, мастаўнічыя і будаўнічыя). 287 с.

дэмаграфічнай, эканамічнай, сацыяльна-палітычнай і культурнай эвалюцыі Шчучынскага краю Беларусі. На кожным гістарычным этапе, выбраным даследчыкам, чытачоў сустракаюць "*лёсам звязаныя*" з краем асобы. Іх месца ў гісторыі рознае і масштаб асоб таксама розны. Манархі, накшталт Жыгімонта І Старога, Аляксандра Ягелончыка ці Станіслава Ляшчынскага, магнаты – Пацы, Сапегі, Давойны, навукоўцы – Вандалін Шукевіч і Станіслаў Юндзіл, змагары за волю – Валеры Ўрублеўскі і Вацлаў Іваноўскі, "*рэвалюцыянеры-перабудоўшчыкі*" Шчучына – Сцыпіёны і Друцкія-Любецкія... Усе яны, а на старонках кнігі па гісторыі Шчучынскай зямлі – сотні згаданых імёнаў, робяць мінуўшчыну гэтага беларускага краю жывой, ачалавечанай і разам з тым бясконца складанай і супярэчлівай.

Кніга чытаецца з цікавасцю, бо аўтар не проста згадвае шматлікія факты, але задумываецца над імі і прапануе чытачам рабіць тое ж самае. У прадмове кнігі ідзе гаворка, што дадзенае даследванне носіць навукова-папулярны краязнаўчы характар і арыентуецца на "*Праграму*" для школьнага вывучэння айчыннай гісторыі. Гэта сапраўды шмат у чым знаходзіць падцверджанне ў змесце кнігі. Напрыклад, калі ідзе апавяданне пра саслоўны склад шчучынскага насельніцтва, даследчыкам асабліва засяроджваецца ўвага на баярах, дваранах альбо мяшчанах, даецца тлумачэнне іх сацыяльнага становішча і канкрэтныя асобы прыкладам свайго стану ілюструюць стракатую сацыяльную карціну тагачаснага феадальнага грамадства (с.32–34).

С.Данскіх на старонках дадзенай сваёй кнігі неаднаразова прапаноўвае ўласныя меркаванні наконт асобных гістарычных праблемаў і пытанняў, звязаных з гісторыяй Шчучыншчыны. У прыватнасці, гэта тычыцца тапоніма Шчучын (с.58–59) або месца Ражанкі ў гісторыі краю (с.21).

Перад чытачом паўстае расфарбаваная адноўленымі падзеямі і "*знойдзенымі*" ў архіве людзьмі карціна гісторыі Шчучынскай зямлі. Аўтар слушна падае больш масштабныя падзеі такім чынам, што мясцовае, шчучынскае жыццё выглядае іх арганічным працягам ці адлюстраваннем. Такі краязнаўчы падыход дапамагае навукоўцу растлумачыць чытачу асобныя падзеі ў мясцовай даўніне і заўсёды – падкрэсліць актыўную далучанасць мясцовых жыхароў да складаных палітычных і сацыяльна-эканамічных, этна-культурных і канфесійных працэсаў.

Выбраная аўтарам кнігі метадалогія асэнсавання гістарычнага матэрыялу і прапанаванне яго чытачу дазволіла яму разглядзець гісторыю краю і насельніцтва ад этнагенезу да крокаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы, прасачыць шляхі эвалюцыі ў часе і прасторы мясцовых населеных пунктаў – гарадзішчаў, гарадоў і мястэчак (Турэйск, Астрына, Жалудок, Ражанка, Шчучын і г.д.).

Асобнае месца ў краязнаўчым даследаванні С.Данскіх займаюць шчучынскія мястэчкі і маёнткі, іх гаспадары і жыхары. Маленькія цэнтры вялікага краёвага жыцця – мястэчкі ўвасобілі ў сабе тую ўвагу, якую надавалі краю або манархі і паны розных часоў ВКЛ – да і пасля 1569 г., або расійская адміністрацыя да 1915 г.

Акрамя асобаў, якія маштабам сваіх дзеянняў выйшлі за межы аднаго краю – Антонія і Канстанціна Тызенгаузаў, Станіслава Юндзіла, у кнізе згадваюцца постаці, якія фактычна адным толькі дзеяннем пакінулі пра сабе памяць для нашчадкаў. Напрыклад, такою асобаю бачыцца фундатар Мураванкаўскага інкастэлізаванага храма Шымко Мацкевіч Шкленскі (с.63) ці князь Ксаверы Друцкі-Любецкі, дзейнасць якога "*у 1807–1846 г. выратавала Шчучын ад заняпаду пасля скасавання кляштару піяраў і спынення актыўнай дзейнасці канвенту сясцёр міласэрнасці*" (с.124). Аўтар не проста згадвае таго ці іншага жыхара Шчучыншчыны, а знаходзіць факты, як гэты чалавек штосьці зрабіў для свайго краю, звесткі таго, як ён, нават думаў пра свой край. Сярод такіх – вобраз Леанарда Іваноўскага, які не толькі "*не забываў пра родную Лябёдку*" (родавы фальварак), а "*марыў аб тым, каб яго маёнтак быў не толькі вялікім, але самым лепшым у Заходняй Беларусі*" і далей – "*каб дабрабыт яго маёнтку стаў не выключэннем, а правілам на роднай зямлі*" (с.125–126). Сярод розных накірункаў прызначэння дадзенай кнігі аўтар згадвае

“*ідэалагічную і выхаваўчую працу*”. Згаданыя ўзоры ўчынкаў і думак гістарычных асобаў Шчучынчыны з’яўляюцца лепшымі прыкладамі для сучасных пакаленняў патрыётаў краю, а для настаўнікаў – выдатным дыдактычным матэрыялам па арганізацыі краязнаўчай дзейнасці з вучнямі.

Адметным бокам кнігі С.Данскіх з’яўляецца здольнасць аўтара прасачыць жыццяпіс таго ці іншага земляка “*са стагоддзем уровень*”. Кожны больш-менш значны чалавек са шчучынскай гісторыі паказваецца праз прызму віруючых вакол яго грамадска-палітычных, сацыяльна-эканамічных, культурна-асветніцкіх працэсаў і падзеяў. Такімі чытачу прапануюцца вобразы троцкага ваяводы Пятра Лялюша (XV ст.), дзеда Івана Грознага – Васіля Глінскага (Сляпога), “*дзяржаўцы Жалудоцкага*” князя Васіля Андрэевіча Палубінскага (XVI ст.), сябры караля Жыгімонта II Аўгуста Станіслава Давойны або пасвараных паміж сабою магнатаў – Крыштафа Завішы і Яна Казімера Качаноўскага (пачатак XVIII ст.).

Старонкі гісторыі Шчучыншычы ў адмысловыя часы адноўлены аўтарам кнігі з дэталямі вартымі асобнай увагі. Гэта асобы, факты, статыстычныя звесткі, мясціны падзеяў такіх старонак гісторыі, як вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй XVII ст, Паўночная вайна, вайна 1812 г., паўстанні 1794, 1830–1831 і 1863–1864 г., першая і другая Сусветныя войны. Усе яны сведчаць аб асобным, у кожным выпадку, даследванні аўтара згаданай старонкі мінуўшчыны краю, што па-сутнасці недалёка ад праўды, бо публікацыі С.Данскіх, прысвечаныя падзеям Паўночнай ваны і вайны 1812 г. на Беларусі, вядомы ў айчыннай гістарыяграфіі[960].

Вартыя ўвагі старонкі кнігі, прысвечаныя эканамічнай гісторыі краю. Яны насычаны статыстыкай, якая дазваляе зразумець якім чынам кожная чарада гаспадарчых пераўтварэнняў адбівалася на дабрабыце як пана, так і селяніна ці мяшчаніна. Дарэчы, самых гаспадароў – па імёнах – таксама немала. І за гэта – асобны камплімент кнізе, бо сялянская гісторыя з большага непісьменная. Прасачыць канкрэтных дробных уладальнікаў праз тоўшчу гадоў складана і кожная архіўная знаходка жывой душы на полі, у майстэрні ці ў гандлярскай лаўцы – сапраўднае адкрыццё для даследчыка. А такіх адкрыццяў у аўтара кнігі нямала.

У цэлым Шчучыншчына пад пяром С.Данскіх паўстае бясконца насычаным лёсавызначальнымі падзеямі краем у бурлівым і неспакойным часе. Такі позірк на толькі адную мясцовасць нашай краіны дазваляе звярнуць увагу на ўсю айчынную гісторыю, як скарбніцу незлічоных прыкладаў высокіх учынкаў, смелых думак і няспыннага змагання за лепшую долю, прыкладаў паўсюднага намагання прадстаўнікоў нашага народа зрабіць сваю зямлю лепей і прыгажэй. Кніга С.Данскіх якасна вылучаецца з ліку краязнаўчых выданняў такога юбілейнага кшталту (Друцк, Ваўкавыск, Тураў і інш.) навуковай грунтоўнасцю, інфарматыўнай насычанасцю і натуральным зваротам да галоўных спажыўцоў дадзенай інфармацыі – падрастаючага пакалення. Яе змест штурхае да далейшага пошуку, нараджае жаданне пабываць у тых мясцінах, пра якія піша аўтар, даведацца пра іх больш.

*Віталь Карнялюк (Горадня).*

## Карнялюк Віталь.

*Крынкі ў 1795–1918 г.*
*Нарысы гісторыі мястэчка.*
*Горадня: ПВУП Ламарк, 2010. 200 с.*

Беларускае мястэчка, шырока пашыраны калісьці тып паселішча – цэлая эпоха ў гісторыі нашай краіны. Мястэчкі, дзякуючы сваёй шматлікасці, адмысловым эканамічным, адміністрацыйным і культурным функцыям, адыгрывалі надзвычай важную

[960] Гл., напрыклад: Швед В., Данскіх С. *Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805-1815 гады*. Горадня: ГрДУ імя Янкі Купалы, 2006. 252 с.

ролю ў развіцці Беларускага краю, аказвалі вялізарнае ўздзеянне на фармаванне сацыяльна-эканамічнага і культурнага аблічча Беларусі на працягу ўсяго перыяду іх існавання (XIV ст.–1939 г.).

Мястэчкі займалі своеасаблівае месца ў гістарычнай сістэме паселішчаў Беларусі. Яны былі трансфарматарамі эканамічнага і культурнага ўзаемаабмену паміж горадам і вёскай. Паводле вобразнага параўнання Захара Шыбекі, калі гарады былі артэрыямі, то мястэчкі – капілярамі арганізму Беларускага краю. Праз мястэчкі буйныя гарады трансфармавалі свой палітычны, эканамічны і культурны ўплыў на навакольныя сельскія паселішчы[961].

Мястэчка – гэта не проста пераходны паміж вёскай і горадам населены пункт, дзе арганічна спалучаліся ўклад вясковага і гарадскога жыцця, побыт селяніна і гараджаніна, гэта – самадастатковая адметная з’ява грамадскага, побытавага і культурнага жыцця Беларусі. Сацыяльная і этнаканфесійная стракатасць насельніцтва мястэчак пры іх невялікіх памерах і адсутнасці ананімнасці вялікага горада, павольнасць штодзённага жыцця ва ўмовах традыцыйнага грамадства, своеасаблівы эканамічны і культурна-побытавы ўклад гэтых паселішчаў стваралі непаўторную атмасферу сусвету мястэчка, адрозную як ад горада, так і ад вёскі.

Пры спробах даць азначэнне паняцця *мястэчка* гісторыкі, як правіла, шукаюць адрознасць гэтага тыпу паселішчаў ад *горада* і *вёскі*. Вельмі цікавымі разважаннямі на гэты конт падзяліўся Андрэй Кіштымаў: “*Горад – мястэчка – вёска. На працягу стагоддзяў менавіта яны складалі сетку населеных пунктаў Беларусі. Прычым складнікі гэтай трыяды мелі розную ступень свабоды. Горад мусіў быць падобным на іншыя гарады. Жыць гарадскім жыццём. Інакш бы яму не паверылі, што ён – горад. Ён так і рабіў. Напрыклад, дамагаўся магдэбургіі, самасцвярджаўся: я – такі ж горад, як усе, я – гэтага варты, я – частка гарадской супольнасці Еўропы і свету… Вёска свята шанавала сваю традыцыйнасць – як свой нязменны і неразменны капітал ды цноту. Праўда, горад выступаў у дачыненні да вёскі агрэсарам, неаднаразова падрываючы яе традыцыі, уносячы сумятню ў вясковыя галовы і забіраючы, як здабычу, у гарадскі вір самы актыўны вясковы элемент. І толькі мястэчка было свабодным. Яно не мусіла быць падобным ні на горад, ні на вёску. Яно не было агрэсіўным ні ў сваім прагрэсе, ні ў сваёй патрыярхальнасці. Яно было супольным домам для ўсіх насельнікаў, а іх было нямала. Сацыяльная, эканамічная, этнічная, культурная, канфесійная стракатасць мястэчак была значна шырэйшая за вясковую аднатоннасць і зусім не саступала шматкаляровасці гарадскога жыцця*”[962].




Ёсць усе падставы сцвярджаць, што *мястэчкі – культурна-гістарычны феномен нашага мінулага*. Унікальнасць гэтых паселішчаў заключаецца ў тым, што:

- мястэчкі – скрыжаванне горада і вёскі;
- мястэчкі – “*памежжа*” этнасаў, рэлігій, моваў і культур;
- мястэчкі – асяродкі яўрэйскай гісторыі і культуры, асноўныя населеныя пункты на ментальнай карце страчанага яўрэйскага свету Усходняй Еўропы;
- мястэчкі – асяродкі захавання мясцовых традыцый самакіравання на прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэнічнасці;
- мястэчкі – мадэль эканамічнай, сацыяльнай і культурнай арганізацыі для жыхароў малых гарадскіх паселішчаў ва ўмовах палітычнай і эканамічнай трансфармацыі.

---

[961] Шыбека З. *Гарады Беларусі (60-я гады XIX–пачатак XX ст.)*. Мн.: ЭўроФорум, 1997. Шыбека З. *Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет*. Вільня: ЕГУ, 2009.

[962] Кіштымаў А. *Рэцэнзія на манаграфію: Іна Соркіна. Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII–першай палове XIX ст. Вільня: ЕГУ, 2010. 488 с.*// Беларускі гістарычны агляд. Т.16. Сшытак 2 (31). С.641.

Самае важнае гістарычнае значэнне мястэчак ў тым, што гэтыя паселішчы з'яўляліся прыкладам "*сужыцця*" у згодзе пад "*адным дахам*" розных этнасаў, вераў, моваў і культур, своеасаблівай кантактнай зонай паміж імі. "*Напрацоўкай*" і заслугай мястэчак, прадуктам местачковага жыцця назваў Вячаслаў Рагойша такія характэрныя для беларусаў якасці, як "*нацыянальная, сацыяльная, рэлігійная, моўная, палітычная талерантнасць, пачуццё сужыцця "у адной лодцы*". У беларускіх мястэчках на роўных ці з некаторай перавагай аднаго або другога сыходзіліся веры (праваслаўная, каталіцкая, іудзейская, часам – ісламская), этнасы (беларусы, палякі, яўрэі, часам – беларускія татары, рускія стараверы), мовы (беларуская, польская, ідыш, руская). Для культуролагаў мястэчка цікавае як унікальная форма спакойнага, талерантнага прадуцыравання і сужыцця некалькіх нацыянальных культур, спецыфічная лабараторыя іх інтэнсіўных узаемасувязей і ўзаемаўзбагачэння, выпрацоўкі на гэтай аснове своеасаблівага феномена – поліэтнічнай, поліканфесійнай, полілінгвістычнай местачковай культуры[963]. Можна сцвярджаць, што і мястэчкі прычыніліся да таго, што Беларусь зрабілася антыподам Вавілонскай вежы: тут Госпад даў паразумецца мноству моваў[964]. Мястэчка, такім чынам, гэта мікрамадэль усёй Беларусі, наш гістарычны брэнд.

Даследаванне мястэчак дае унікальную магчымасць зазірнуць у своеасаблівы местачковы сусвет, адчуць яго непаўторныя атмасферу і каларыт, якія ствараліся на тым "*скрыжаванні*" і "*памежжы*", што ўяўляла сабой кожнае мястэчка.

Новым перспектыўным накірункам даследаванняў становіцца сёння вывучэнне гісторыі асобных мястэчак. У сувязі з актывізацыяй вывучэння лакальнай гісторыі ў Беларусі створаныя цікавейшыя гістарычныя нарысы шэрагу мястэчак[965]. Лакальная гісторыя набывае навуковы характар, паўаматарскае краязнаўства ператвараецца ў прафесійную рэгіяналістыку. Пра гэта сведчыць шэраг кніг, выдадзеных у апошнія гады ў Беларусі, дзе мікрагісторыя канкрэтных мястэчак створаная на падставе грунтоўнага фундаменту гістарычных крыніцаў (як, напрыклад, праца Германа Брэгера пра Хацюхова[966]), новых метадалагічных падыходаў (даследаванне Сяргея Данскіх, прысвечанае Шчучыну[967]). Калектывам аўтараў (пры найбольшым укладзе Сяргея Токця) на шырокай крыніцазнаўчай базе напісаная праца, прысвечаная 500-гадовай гісторыі Скідзеля[968]. Своеасаблівымі энцыклапедыямі гісторыі габрэйскага жыцця, цесна звязанага з жыццём іншых народаў, агульнымі гістарычнымі працэсамі, з'яўляюцца працы, прысвечаныя Рэчыцы (АльбертКагановіч[969]) і Тураву (Леанід Смілавіцкі[970]). Даследаванні мікрагісторыі асобных мястэчак пераконвае, што "*твар*" кожнага канкрэтнага мястэчка залежаў ад камбінацыі самых разнастайных фактараў – ад геаграфічных і эканамічных да этнаканфесійных і культурна-асветніцкіх.

Важным укладам у вывучэнне гісторыі мястэчак Беларусі з'яўляецца і рэцэнзуемая кніга Віталя Карнялюка, гарадзенскага гісторыка і педагога, кандыдата гістарычных навук, дацэнта кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы і, адначасова па сумяшчальніцтву, настаўніка гісторыі гімназіі №1 імя Яўхіма Карскага ў Горадні. Пад мікраскопам даследчыка апынуліся Крынкі – мястэчка Гарадзенскага ўезда Гарадзенскай губерні Расійскай імперыі

---

[963] Рагойша В. *Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава).*// На шляхах да ўзаемаразумення. Беларусіка. Кн.15. Мн., 2000. С.62.
[964] Гэтае трапнае выказванне пра Беларусь належыць Паўлу Севярынцу: Севярынец П. *Люблю Беларусь*. Вільня, 2008. С.298.
[965] Гл., напрыклад: Скобла М. *Дзярэчынскі дыярыюш*. Мн., 1999. Камінскі А. *Пад хвалямі Крэўскага мора*. Маладэчна, 2002.
[966] Брэгер Г. *Хацюхова. Гісторыя невялікага паселішча*. Мн., 2001.
[967] Данскіх С. *Наш Шчучын*. Горадня, 2001.
[968] *Скідзель. 500 год гісторыі*. Горадня, 2008.
[969] Каганович А. *Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии*. Иерусалим, 2007.
[970] Смиловицкий Л. *Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья*. Иерусалим, 2008.

(сёння горад у Сакольскім павеце Падляскага ваяводства Польшчы). Перад чытачамі разгортваецца жыццяпіс мястэчка перыяду Расійскай імперыі (1795–1918 г.).

Як адзначае аўтар, ідэя напісання гісторыі Крынак і актыўная падтрымка пры яе выданні зыходзілі ад выбітнага грамадзяніна гэтага мястэчка, пісьменніка і публіцыста Сакрата Яновіча. Дапамогу ў правядзенні даследавання аказвалі супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Горадні і асабіста яго дырэктар Таццяна Афанасьева, гарадзенскі настаўнік беларускай славеснасці і паэт Фёдар Чычкан, падзяка якім выказваецца ў прадмове.

Манаграфія была рэкамендаваная да друку Саветам факультэта турызму і сэрвісу ГрДУ імя Янкі Купалы. Рэцэнзентам яе з’яўляецца кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры сацыялогіі Сяргей Токць. Выдаўцом выступіла прыватнае вытворчае ўнітарнае прадпрыемства “*Ламарк*” (г.п.Сапоцкін).

У кнізе на аснове гістарычнай літаратуры, шырокага кола архіўных і некаторых друкаваных крыніц прасочваецца гісторыя Крынак у 1795–1918 г. Перад намі вынік карпатлівай працы. Звесткі аб жыцці мястэчка і местачкоўцаў збіраліся па кроплі. Абсалютная большасць навуковых дадзеных прыводзяцца ўпершыню. Матэрыялы для даследавання былі пачэрпнутыя, галоўным чынам, з фондаў НГАБ у Горадні, а таксама з апублікаваных “*Літоўскай метрыкі*” (архіва канцылярыі ВКЛ), “*Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі*”, матэрыялаў тагачаснага перыядычнага друку (“*Гродненские губернские ведомости*”, “*Наше утро*”).

Аўтару варта было б дабрацца яшчэ і да Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва, які знаходзіцца ў Вільні і дзе таксама захоўваецца шмат цікавых дакументаў па гісторыі Крынак.

Манаграфія Віталя Карнялюка ўяўляе сабой нарысы гісторыі мястэчка. Гэта абумовіла пабудову такой структуры, дзе кожны раздзел мае самастойны сюжэт. Таму знаёміцца з кнігай можна з любой яе часткі.

Гістарычнае мінулае Крынак і крынчанаў канца XVIII–пачатку XX ст. раскрываюцца ў чатырох раздзелах. Першы з іх мае арыгінальную назву “*Каардынаты Крынак*”. Тут падаецца храналогія важнейшых падзеяў з гісторыі мястэчка, пачынаючы з яго першай узгадкі ў пісьмовых крыніцах у 1434 г., паказваецца месца Крынак на картах і аналізуецца ўплыў на развіццё мястэчка яго геаграфічнага становішча; ствараецца дэмаграфічны партрэт насельніцтва мястэчка і вызначаецца яго дынаміка на працягу 1795–1914 г., апісваецца архітэктурнае аблічча Крынак.

Шматгранна паказваецца гісторыя мястэчка ў другім раздзеле – “*Гаспадарка, камунікацыі, культура*”. Тут адлюстраваныя такія аспекты, як сялянства мястэчка, памешчыцкае землеўладанне, прамысловасць і гандаль, тэхнічны прагрэс, крынкаўскія дынастыі (пераважна сялянскія, а таксама прадпрымальнікаў-габрэяў), асвета (навучальныя ўстановы), працэсы урбанізацыі. Пераканаўча паказана, што ў сваім развіцці Крынкі дасягнулі ўзроўню горада. Мястэчка ўсё болей дэманстравала свой гарадскі характар, асабліва ў галіне прамысловага і гандлёвага прадпрымальніцтва, палітычных паводзінаў насельніцтва. Аднак, Крынкі, як і шэраг іншых падобных паселішчаў, не змаглі прабіцца ў разрад “*афіцыйных*” гарадоў. Галоўнай перашкодай была палітыка царызму ў галіне горадаўтварэння ў нашым краі.

Трэці раздзел працы, названы “*Змаганне*”, распачынаецца сюжэтам, прысвечаным барацьбе жыхароў Крынак за вяртанне страчанага пасля далучэння да Расійскай імперыі мяшчанскага статусу, супраць выканання павіннасцей на карысць памешчыкаў нароўні з прыгоннымі сялянамі. Прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што местачкоўцы не былі ціхімі і пакорлівымі, добра ведалі сваю гісторыю і ранейшыя правы, старанна захоўвалі прывілеі манархаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай і выкарыстоўвалі іх у змаганні за волю і зямлю. Гэта была адна з цікавейшых старонак гісторыі мястэчка, а таксама адна з самых значных праяваў антыпрыгонніцкага руху ў нашым краі. Далей у гэтым раздзеле кнігі адлюстраваныя ўдзел крынчанаў у паўстанні 1863 г. і рэвалюцыі 1905–1907 гадоў. Відаць,

аўтару, на жаль, не трапіліся крыніцы, якія б дазволілі меркаваць аб ступені ўплыву на мястэчка і яго жыхароў падзеяў паўстання 1830–1831 гадоў.

У асобны раздзел выдзеленыя сюжэты, звязаныя з вайной 1812 г. і Першай сусветнай вайной. І гэта не выпадкова, бо Віталь Карнялюк з'яўляецца прызнаным спецыялістам у даследаванні праблем ваенна-гістарычнай дэмаграфіі Беларусі.

Завяршае тэкставую частку кнігі раздзел, названы чамусьці сціпла – "*Замест пасляслоўя*", хаця тут прысутнічаюць асноўныя рысы заключэння навуковай манаграфіі: падсумаванне асноўных тэндэнцый гістарычнага развіцця Крынак у 1795–1918 г., вызначэнне накірункаў далейшых даследаванняў гісторыі мястэчка.

У кнізе шмат арыгінальных табліц са статыстычнымі звесткамі. У дадатках змяшчаюцца цікавыя картаграфічныя матэрыялы, дакументальныя крыніцы, узятыя з архіўных сховішчаў. Неабходна падкрэсліць арыгінальнае афармленне вокладкі: на фоне рукапіснага тэксту XIX ст. змешчана выява пячаткі 1791 г. з гербам Крынак.

Такім чынам, кніга Віталя Карнялюка вылучаецца панарамным апісаннем жыцця насельнікаў Крынак. Аўтар пастараўся ахапіць усе бакі гістарычнага развіцця мястэчка ў 1795–1918 г. Упершыню комплексна даследавана эканоміка, палітыка, культура. Маштабнасць выданню надае антрапалагічны падыход аўтара да гістарычнага матэрыялу. Жыццё мястэчка вывучаецца на ўзроўні асобных жыхароў і сем'яў (наколькі дазваляюць гістарычныя крыніцы). У цэнтр ўвагі аўтар стараецца паставіць звычайнага чалавека, з яго клопатамі, цяжкасцямі, радасцямі, поспехамі. Перад намі "*жывая*" гісторыя канкрэтных людзей, жыхароў Крынак, цесна звязаных з асяроддзем і паміж сабою. Пры гэтым лакальныя падзеі разглядаюцца ў кантэксце агульных палітычных, эканамічных, сацыяльных працэсаў, а таксама рэлігійных і культурных змен, якія адбываюцца ў краі на працягу вывучаемага перыяду, што дазваляе выявіць на лакальным узроўні дзеянне працэсаў, што вызначаюць развіццё грамадства на макраўзроўні.

Знаёмства з працай Віталя Карнялюка дазваляе заўважыць у ёй некаторыя недахопы і недакладнасці. Шкада, што няма такіх неабходных атрыбутаў навуковага выдання, як аналіз гістарыяграфіі і крыніц. Пра гэта гаворка вядзецца толькі ў двух невялікіх абзацах ва ўступе (с.4), дзе аўтар абмежаваўся пералікам месцаў збору матэрыялаў для кнігі (архіваў і бібліятэк), а таксама тых аспектаў мінуўшчыны Крынак, якія ўжо дачакаліся асвятлення ў гістарычнай літаратуры.

Недакладным з'яўляецца сцвярджэнне, што ўсе мястэчкі беларускіх губерняў знаходзіліся на памешчыцкіх землях (с.133). Гэта не так. Напрыклад, у Гарадзенскай губерні па дадзеных на 1807 г. сярод 86 мястэчак 74 былі ўладальніцкімі, 9 – дзяржаўнымі, 3 – духоўнымі[971]; у 1835 г. у Менскай губерні налічвалася 110 мястэчак, у тым ліку 92 памешчыцкіх і 18 дзяржаўных; у пяці беларускіх губернях да канца 30-х г. XIX ст. 15,5% мястэчак былі дзяржаўнымі, усе астатнія належалі прыватным асобам[972]; у пачатку 60-х г. XIX ст. 82,5% мястэчак Беларусі стаялі на памешчыцкіх землях[973]. Прыведзеныя лічбы паказваюць, што на памешчыцкіх землях знаходзілася абсалютная большасць мястэчак Беларусі, аднак пэўная частка гэтых паселішчаў належала дзяржаве і царкве.

Пры апісанні архітэктурнага аблічча мястэчка аўтар узгадвае аб існаванні з 1850 г. *каўказскай* сінагогі (с.41). На жаль, пры гэтым не прыводзіцца ніякага каментара наконт дадзенага тэрміна і факта. Без адказу застаюцца натуральныя пытанні чытача: што такое *каўказская сінагога,* адкуль такая назва, чаму яна з'явілася ў Крынках?

Узнікаюць таксама заўвагі, звязаныя з пэўнай стылістычнай недасканаласцю тэксту, недакладнасцю некаторых спасылак (пад нумарам 51 на с.28), адсутнасцю даціроўкі дакумента, змешчанага на старонках 175–180, недастатковасцю ўказання ў спісе

---

[971] *НГАБ у Горадні*. Ф.1. Воп.1. Спр.100. Арк.28–30.
[972] Лютый А. *Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII–первой половине XIX в.* Мн., 1987. С.18.
[973] Шыбека З. *Гарады Беларусі (60-я г. XIX–пачатак XX ст.)*. С.38.

літаратуры і крыніц толькі нумароў фондаў НГАБ у Горадні (без пазначэння выкарыстаных адзінак захавання).

Нягледзячы на некаторыя нязначныя недахопы рэцэнзуемай працы, яе значэнне велізарнае. Знаёмства з ёй пераконвае ў тым, што, сапраўды, кожны населены пункт варты сваёй кнігі. Манаграфія Віталя Карнялюка пра Крынкі яскрава паказвае велізарныя магчымасці і невычарпальныя рэзервы для вывучэння кожнага мястэчка Беларусі, як у сэнсе крыніц, так і навейшых метадалогіяў і методыкаў вывучэння. Кніга завяршаецца заклікам да вывучэння сваёй малой Бацькаўшчыны, бо “*адшукаць свае карані ў сваім краі значыць назаўсёды звязаць сябе з ім, стаць яго сапраўдным гаспадаром*”.

*Іна Соркіна (Горадня).*

## Скідзель. 500 год гісторыі.

*І.Барысаў, М.Дзелянкоўскі, А.Вашкевіч, Д.Люцік, Я.Лялевіч, З.Сямашка, С.Токць.*

Горадня: Гарадзен. друк., 2008. 248 с.

Напісанне грунтоўнай і сапраўды навуковай гісторыі населенных пунктаў з’яўляецца вельмі актуальным заданнем для сучаснай беларускай гістарыяграфіі. З гэтага пункту гледжання актуальнасць працы па гісторыі горада Скідзеля, падрыхтаванай аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам гарадзенскага гісторыка Сяргея Токця, не выклікае сумнення.




Аўтарам удалося сабраць і абагульніць вялізны факталагічны матэрыял, які ахоплівае падзеі з гісторыі Скідзеля з канца XV ст. і па сучаснасць. У кнізе выкарыстаныя дакументы архіваў Горадні, Менску і Вільні. Многія з іх упершыню ўводзяцца ў навуковы зварот.

Кніга складаецца з пяці частак. У першай главе разглядаецца гісторыя Скідзеля ў часы Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай напачатку як вялікакняскага двара, а потым ужо як мястэчка ў складзе Гарадзенскай каралеўскай эканоміі. Аўтары апрацавалі інвентары Гарадзенскай эканоміі, прасачылі дынаміку гаспадарчага і сацыяльнага развіцця Скідзельшчыны ў гэты перыяд.

Вельмі насычаная разнастайнымі гістарычнымі фактамі другая глава, прысвечаная скідэельскай гісторыі ў складзе Расійскай імперыі. У ёй разглядаецца эканамічнае жыццё Скідзеля і ваколічных вёсак, сацыяльныя стасункі, рэлігійнае жыццё і развіццё адукацыі. Асаблівую ўвагу аўтары звяртаюць на тыя змены, што адбываліся ў жыцці скідзельцаў пад уплывам працэсаў індустрыялізаці і мадэрнізацыі.

У трэцяй главе разглядаецца гісторыя Скідзеля ў міжваенны час. Тут асноўная ўвага звяртаецца на развіццё беларускага нацыянальнага руху, абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці жыхароў на Скідзельшчыне.

У чацвёртай главе падрабязна разглядаюцца падзеі пачатку Другой сусветнай вайны і перш за ўсё – паўстанне 1939 г. у Скідзелі.

Пятая глава прысвечаная падзеям Вялікай Айчыннай вайны, гераізму і мужнасці скідзельцаў у тыя трагічныя гады.

Станоўчым момантам кнігі можна лічыць той факт, што ў ёй не проста сабраныя матэрыялы па гісторыі мястэчка і горада, але падаецца аналіз гістарычных працэсаў, акрэсліваецца іх дынаміка і спецыфіка на Скідзельшчыне. Аўтары імкнуліся пазбегнуць выкладання адных сухіх фактаў і прыводзяць шмат цікавых рэальных гісторый з жыцця скідзельцаў, што робіць кнігу цікавай для чытача. Матэрыялы з кнігі з поспехам могуць быць выкарыстаныя ў выкладанні гісторыі ў школах Гарадзеншчыны, у правядзенні культурных мерапрыемстваў, у стварэнні музеяў. У цэлым, аўтарскаму калектыву ўдалося стварыць грунтоўную працу па гісторыі Скідзеля і наваколля.

*Сяргей Амелька (Горадня).*

